«ПРАВААБАРОНЦЫ ЗА СВАБОДНЫЯ ВЫБАРЫ»

# ВЫБАРЫ ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ 19 СНЕЖНЯ 2010 ГОДА

# ВЫНІКІ

## НЕЗАЛЕЖНАГА НАЗІРАННЯ

Мінск, 2011

ВЫБАРЫ ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ 19 СНЕЖНЯ 2010 ГОДА.
ВЫНІКІ НЕЗАЛЕЖНАГА НАЗІРАННЯ

Рэдактар: Таццяна Рэвяка

Дадзенае выданне адлюстроўвае вынікі незалежнага назіранння за прэзідэнцкімі выбарамі 2010 года, якое ажыццяўлялася Праваабарончым цэнтрам «Вясна» і Беларускім Хельсінкскім камітэтам у межах кампаніі «Праваабаронцы за свабодныя выбары».
У кнізе даецца ацэнка выбарчага працэсу з пункту гледжання беларускага выбарчага заканадаўства і міжнародных стандартаў свабодных і дэмакратычных выбараў.
Кніга падрыхтавана на падставе справаздач доўгатэрміновых і кароткатэрміновых назіральнікаў.

*У выданні выкарыстаны фотаздымкі кампаніі «Праваабаронцы за свабодныя выбары», photo.bymedia.net, Уладзіміра Грыдзіна, Аляксея Мацюшкова, Вадзіма Заміроўскага, Сяргея Балая.*

**«Праваабаронцы за свабодныя выбары», 2011**
**Выдадзена пры садзейнічанні Міжнароднай Федэрацыі Правоў Чалавека (FIDH)**

fidh

# ЗМЕСТ

# Уводзіны

Кампанія «Праваабаронцы за свабодныя выбары» з'яўляецца сумеснай ініцыятывай Праваабарончага цэнтра «Вясна» і Рэспубліканскага праваабарончага грамадскага аб'яднання «Беларускі Хельсінкскі камітэт» (далей — Беларускі Хельсінкскі камітэт ці БХК), якая ажыццяўляецца пры інфармацыйнай падтрымцы «Еўрапейскага абмена» («Europaischer Austausch»). Мэта кампаніі — назіранне за выбарамі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь 2010 года, ацэнка выбарчага працэсу з пункта гледжання беларускага выбарчага заканадаўства і міжнародных стандартаў свабодных і дэмакратычных выбараў, інфармаванне пра высновы назірання беларускай грамадскасці і міжнароднай супольнасці. Кампанія з'яўляецца незалежнай і палітычна незаангажаванай.

80 доўгатэрміновых назіральнікаў кампаніі ажыццяўлялі назіранне за ўсімі аспектамі выбарчага працэсу з першага дня выбарчай кампаніі (14 верасня). Вынікі апрацоўкі іх штотыднёвых справаздач распаўсюджваліся на беларускай, рускай і англійскай мовах у форме тыднёвых аналітычных аглядаў і папярэдніх справаздач па выніках назірання за асобнымі этапамі выбарчай кампаніі.

Падчас датэрміновага галасавання (14-18 снежня) і ў дзень галасавання (19 снежня), доўгатэрміновыя назіральнікі каардынавалі і кантралявалі працу 600 кароткатэрміновых назіральнікаў, якія вялі штодзённае назіранне за ходам датэрміновага галасавання і галасавання ў дзень выбараў на 300 выбарчых участках па ўсёй тэрыторыі Беларусі — у Мінску, абласных і раённых цэнтрах, іншых гарадскіх і сельскіх населеных пунктах. Справаздачы кароткатэрміновых назіральнікаў, якія прайшлі спецыяльнае навучанне, з'яўляюцца рэпрэзентатыўнымі (назіраннем было ахоплена 4,7% ад 6 346 выбарчых участкаў на тэрыторыі краіны), г. зн., дазваляюць ацаніць агульныя тэндэнцыі галасавання і выявіць парушэнні ў перыяд з 14 па 19 снежня ўключна.

# Рэзюмэ

Прэзідэнцкія выбары 2010 года не адпавядалі ключавым міжнародным стандартам дэмакратычных выбараў.

Перадвыбарчы перыяд быў адзначаны шэрагам пазітыўных змен, у тым ліку ў выбарчым заканадаўстве, і зніжэннем узроўню рэпрэсій, аднак сітуацыя рэзка пагоршылася ў дзень выбараў і адразу пасля яго. У прыватнасці, падлік галасоў і падвядзенне вынікаў галасавання характарызаваліся шматлікімі парушэннямі і не былі ні транспарэнтнымі, ні падсправаздачнымі. Дадзеныя назірання выразна сведчаць пра тое, што абвешчаныя вынікі выбараў не з'яўляюцца адлюстраваннем волевыяўлення выбаршчыкаў. Дзень выбараў быў азмрочаны гвалтоўным разгонам мірных дэманстрантаў і затрыманнем сотняў асоб, у тым ліку сямі кандыдатаў у прэзідэнты.

## Прававая база

Нарматыўная аснова выбарчага працэсу была палепшана папраўкамі некаторых палажэнняў Выбарчага кодэкса, якія ўступілі ў сілу 4 студзеня 2010 года, а таксама зменамі, унесенымі ў пастановы ЦВК, прынятымі ў верасні 2010 года (абмежаванне колькасці дзяржаўных служачых у складзе выбарчых камісій; скарачэнне колькасці грамадзян і колькаснага складу працоўных калектываў, неабходных для вылучэння прэтэндэнта ў склад камісіі; магчымасць судовага абскарджання рашэнняў аб утварэнні камісій; гарантыя ўключэння ў склад камісій не менш за траціну прадстаўнікоў палітычных партый і грамадскіх аб'яднанняў; магчымасць стварэння кандыдатамі ўласных выбарчых фондаў для дадатковага фінансавання перадвыбарчай агітацыі ды інш). Аднак неабходнай асновы для дэмакратычных выбараў — увядзенне норм, якія забяспечваюць рэальную незалежнасць і збалансаванасць выбарчых камісій, дакладна рэгламентуюць парадак падліку галасоў і спрыяюць эфектыўнасці працэсу абскарджвання рашэнняў, датычных выбараў — створана не было.

## Выбарчыя камісіі

Службовыя асобы, якія маюць дачыненне да выбараў, правялі тэхнічную падрыхтоўку выбараў у адпаведнасці з выбарчым заканадаўствам. Адначасова склад выбарчых камісій усіх узроўняў не гарантаваў іх бесстароннасці і незалежнасці ад выканаўчай улады. Нягледзячы на тое, што выбарчае заканадаўства гарантуе прадстаўленасць палітычных партый і грамадскіх арганізацый у складзе выбарчых камісій, на практыцы прадстаўнікі апазіцыйных палітычных партый склалі менш за адзін працэнт ад сяброў тэрытарыяльных і ўчастковых выбарчых камісій. Гэтаму спрыяла адсутнасць у заканадаўстве крытэрыяў, якім павінны адпавядаць прэтэндэнты, якія вылучаюцца ў склад камісій, і абмежаваная празрыстасць працэсу вылучэння і адбору прэтэндэнтаў.

У выніку большасць сяброў ТВК і УВК — незалежна ад спосабу іх вылучэння — ужо хаця б раз былі сябрамі выбарчых камісій на папярэдніх мясцовых, парламенцкіх ці прэзідэнцкіх выбарах, якія не былі ні свабоднымі, ні справядлівымі. Як правіла, у склад камісій уваходзілі па 3—4 дзяржаўныя служачыя, у тым ліку супрацоўнікі выканкамаў і Саветаў дэпутатаў, г. зн., тых структур, якія іх фарміравалі, а таксама прадстаўнікі праўрадавых палітычных партый і грамадскіх арганізацый, а таксама кіраўнікі і супрацоўнікі дзяржаўных устаноў і прадпрыемстваў.

## Рэгістрацыя кандыдатаў

Умовы для збору подпісаў і рэгістрацыі кандыдатаў далі магчымасць патэнцыйным кандыдатам у прэзідэнты зарэгістравацца без значных перашкод. Усяго было зарэгістравана 10 кандыдатаў у прэзідэнты. Аднак пры гэтым мела месца празмернае выкарыстанне адміністрацыйнага рэсурсу для збору подпісаў на карысць дзеючага Прэзідэнта, роўна як і факты ціску на працаўнікоў бюджэтнай сферы падчас збору подпісаў. Непразрыстасць працэдуры праверкі подпісаў і дакументаў, прадстаўленых кандыдатамі ў выбарчыя камісіі, дае падставы разглядаць вынік рэгістрацыі хутчэй як палітычна матываваны, а не юрыдычна абгрунтаваны.

## Спісы выбаршчыкаў

Як і падчас папярэдніх выбараў, спісы грамадзян, якія мелі права ўдзельнічаць у выбарах, складаліся на кожным выбарчым участку асобна, а іх агульная колькасць указвалася толькі ў выніковых пратаколах пасля заканчэння галасавання. Назіральнікі былі пазбаўлены магчымасці азнаямлення са спісамі. Усё гэта стварыла магчымасці для маніпуляцый як са спісамі выбаршчыкаў, так і з агульнай колькасцю выбаршчыкаў, зарэгістраваных на асобных участках. Дадзеныя перапісу насельніцтва 2009 года дазваляюць меркаваць, што 300-350 тысяч асоб, што маюць выбарчае права, не былі ўключаны ў спісы выбаршчыкаў, і што рэальная колькасць выбаршчыкаў Беларусі падчас выбараў складала 7,4-7,45 млн. чалавек.

## Агітацыйная кампанія

Агітацыйная кампанія праходзіла значна больш свабодна, чым падчас мінулых выбараў: кандыдаты мелі больш магчымасцяў сустракацца з выбаршчыкамі, друкаваць і распаўсюджваць агітацыйныя матэрыялы, а таксама выступіць у прамым эфіры на тэлебачанні падчас спецыяльных тэлепраграм, прысвечаных выбарам. Аднак празмерна вялікая ўвага, якая надавалася ў электронных і друкаваных СМІ асобе дзеючага Прэзідэнта, асабліва ў апошнія два тыдні перад днём выбараў, паставіла іншых кандыдатаў у няроўныя ўмовы — іх дзейнасць альбо зусім не асвятлялася, альбо асвятлялася ў пераважна адмоўным святле.

## Скаргі і іншыя звароты, звязаныя з выбарамі

З 240 скарг (пра якія стала вядома назіральнікам кампаніі), што былі пададзены кандыдатамі і іх даверанымі асобамі, а таксама іншымі суб'ектамі выбарчага працэсу да пачатку галасавання, толькі тры былі задаволены. Шматлікія скаргі, датычныя парушэнняў выбарчага заканадаўства з боку ініцыятыўнай групы А.Лукашэнкі, былі адхілены без правядзення належнага даследвання. З 85 скарг на неўключэнне 413 прэтэндэнтаў у склад УВК, суды не задаволілі ніводнай.

Падчас галасавання і падліку галасоў толькі на выбарчых участках, ахопленых назіраннем кампаніі, было пададзена больш за 250 заяў і скарг. Большасць з іх разглядалася фармальна, а заяўнікі атрымалі адказы аб адсутнасці якіх-небудзь парушэнняў у дзеяннях УВК. Толькі адзінкавыя скаргі і заявы былі задаволены. Некаторыя скаргі не разглядаліся зусім. Гэтыя факты сведчаць пра практычную немагчымасць вырашэння спрэчак, звязаных з выбарамі, прававымі сродкамі.

## Нацыянальныя і міжнародныя назіральнікі

Па дадзеных ЦВК, на выбарах было акрэдытавана 1 036 міжнародных і 39 619 нацыянальных назіральнікаў. Сярод нацыянальных назіральнікаў выключную большасць складалі прадстаўнікі праўладных грамадскіх аб'яднанняў і лаяльных уладзе палітычных партый, а таксама назіральнікі, вылучаныя грамадзянамі і працоўнымі калектывамі па ініцыятыве ўладаў. Ім ставілася задача перашкаджаць дзейнасці незалежных назіральнікаў і журналістаў. Невядома ніводнага акта аб парушэннях падчас выбараў, складзенага такімі назіральнікамі, альбо якой-небудзь справаздачы, абнародаванай імі па выніках назірання.

Большасць міжнародных назіральнікаў дзейнічала ў складзе місій БДІПЧ/АБСЕ і СНД. Незалежнае ад уладаў нацыянальнае назіранне было прадстаўлена кампаніяй «Праваабаронцы за свабодныя выбары», кампаніяй партыйнага назірання «За справядлівыя выбары», а таксама назіраннем «Руху «За Свабоду» і праектам «Назіранне за выбарамі: тэорыя і практыка». Акрамя таго, Беларуская асацыяцыя журналістаў ажыццяўляла маніторынг асвятлення выбараў у СМІ.

## Датэрміновае галасаванне

Улады шырока выкарыстоўвалі адміністрацыйны рэсурс для забеспячэння масавага датэрміновага галасавання, у першую чаргу такіх катэгорый выбаршчыкаў, як студэнты і працаўнікі дзяржаўных устаноў і прадпрыемстваў. Назіральнікі сутыкаліся з перашкодамі і абмежаваннямі, уключаючы адмовы ў акрэдытацыі і прадстаўленні дадзеных аб колькасці выбаршчыкаў, зарэ-

гістраваных на ўчастках. На выбарчых участках была адзначана прысутнасць сяброў УВК і іншых асоб у памяшканнях, дзе захоўваліся скрыні для галасавання, у гадзіны, калі галасаванне не адбывалася. На ўчастках, ахопленых назіраннем, яўка на датэрміновае галасаванне, па падліках назіральнікаў, у цэлым адпавядала яўцы, абвешчанай выбарчымі камісіямі, за выключэннем шэрагу ўчасткаў, на якіх назіраліся сур'ёзныя разыходжанні.

## Дзень выбараў: галасаванне па месцы знаходжання выбаршчыкаў

Значная колькасць парушэнняў падчас галасавання па месцы знаходжання выбаршчыкаў была звязана са складаннем адпаведных спісаў. Як правіла, выбаршчыкі ўносіліся камісіямі ў спісы, зыходзячы з меркаванняў узросту і аддаленасці ад выбарчых участкаў (асабліва характэрна для сельскай мясцовасці), а не паводле просьб выбаршчыкаў. Старшыні камісій нярэдка адмаўлялі назіральнікам у магчымасці азнаёміцца з гэтымі спісамі. На многіх участках колькасць выбаршчыкаў, якія прагаласавалі па месцы знаходжання, была непрапарцыйна вялікай — да 30% (у сярэднім па краіне — 7,61%).

## Дзень выбараў: галасаванне на выбарчых участках

Галасаванне на выбарчых участках у дзень выбараў праходзіла ў асноўным без значных парушэнняў. На шэрагу ўчасткаў былі выяўлены заходы ў кабінкі для галасавання па некалькі чалавек, галасаванне не асабістае, а за родных па прад'яўленні іх пашпартоў ды інш. Як і падчас датэрміновага галасавання, на шэрагу ўчасткаў назіральнікам не прадастаўлялі звестак пра агульную колькасць выбаршчыкаў у спісе, пра колькасць атрыманых бюлетэняў ды інш.

## Дзень выбараў: падлік галасоў

Як і падчас папярэдніх прэзідэнцкіх выбараў, падлік галасоў быў нетранспарэнтным. Нягледзячы на тое, што назіральнікі былі дапушчаны да назірання за падлікам галасоў, адлегласць, з якой ім было дазволена назіраць, у большасці выпадкаў не дазваляла бачыць зместу бюлетэняў. Пры гэтым сябры камісій у большасці выпадкаў шчыльна стаялі вакол стала і не давалі магчымасці назіральнікам рэальна бачыць працэдуру падліку.

На большасці ўчасткаў падлік галасоў ажыццяўляўся ўсімі сябрамі УВК адначасова. Пры гэтым кожны сябра УВК падлічваў толькі свой стос бюлетэняў, моўчкі перадаючы паперку з вынікамі падліку старшыні камісіі. Агульны вынік галасавання пры такім парадку заставаўся невядомым ні назіральнікам, ні кожнаму з сяброў УВК паасобку. У шэрагу выпадкаў УВК ускрывалі ўсе скрыні адразу і лічылі бюлетэні, якія там знаходзіліся, адначасова. На многіх участках, дзе асобны падлік ажыццяўляўся, яго вынікі не агалошваліся. Назіральнікі адзначылі, што на 49% выбарчых участкаў, ахопленых назіраннем, падлік галасоў праходзіў са значнымі парушэннямі ў цэлым.

## Вынікі выбараў

Па дадзеных ЦВК, у выбарах узялі ўдзел 6 441 031 выбаршчыкаў (90,65% ад 7 105 660 выбаршчыкаў, унесеных у спісы), з якіх 5 130 557 (79,65%) аддалі свае галасы за А.Лукашэнку (67,65% у Мінску і 82,15% у абласцях). Аднак дадзеныя назірання дазваляюць меркаваць, што ўдзел у галасаванні як мінімум 350—400 тысяч выбаршчыкаў мог быць прыпісаны выбарчымі камісіямі. Акрамя таго, некаторая колькасць «дадатковых» бюлетэняў магла быць укінутая ў скрыні для датэрміновага галасавання і галасавання па месцы знаходжання выбаршчыкаў. Такім чынам, вельмі верагодна, што рэальны ўдзел у выбарах узялі не больш за 6,05-6,1 млн. чалавек, што складае 85-86% ад колькасці выбаршчыкаў, унесеных у спісы.

Сказаць, ці з'яўляліся бюлетэні, якія знаходзіліся ў скрынях да пачатку падліку галасоў, тымі самымі бюлетэнямі, што былі ўкінуты выбаршчыкамі, немагчыма, паколькі падчас датэрміновага галасавання і галасавання па месцы знаходжання выбаршчыкаў доступ да адпаведных скрынь у адсутнасць назіральнікаў і іншых сведак мелі як сябры выбарчых камісій (якія не з'яўляліся незалежнымі і плюралістычнымі), так і пабочныя асобы, а канструкцыя большасці скрынь і спосаб іх апячатвання не з'яўляліся істотнай перашкодай для магчымых маніпуляцый з іх змесцівам. Усяго ў «зоне вялікай маніпуляцыйнай рызыкі» знаходзіліся каля 2,2 млн. бюлетэняў (колькасць выбаршчыкаў, прагаласаваўшых датэрмінова, па месцы знаходжання і на закрытых участках).

Аналіз афіцыйных дадзеных УВК, ТВК і ЦВК і іх супастаўленне са справаздачамі кароткатэрміновых назіральнікаў кампаніі ўказваюць на вялікую верагоднасць таго, што толькі падчас падліку галасоў і ўстанаўлення вынікаў галасавання на карысць дзеючага Прэзідэнта былі «пераразмеркаваны» як мінімум 20-25% галасоў у Мінску і 10-15% галасоў у абласцях. Найбольш верагодна, што гэта рабілася на тых выбарчых участках, дзе дадзеныя падліку наяўных бюлетэняў сябрамі камісій не адпавядалі пажаданым для дзеючай улады вынікам і «карэктаваліся» старшынямі УВК. Канчатковае «ўдакладненне» вынікаў галасавання ажыццяўлялася, хутчэй за ўсё, на ўзроўні ТВК — у тых выпадках, калі простае сумаванне лічбаў з пратаколаў УВК не дацягвала да пажаданых вынікаў.

Рэальную колькасць галасоў, аддадзеных выбаршчыкамі за кандыдатаў, вызначыць немагчыма ў сувязі з тым, што падвядзенне вынікаў галасавання было нетранспарэнтным, а маніпуляцыі з бюлетэнямі і лічбамі маглі адбывацца на ўсіх этапах галасавання і падліку галасоў і «наслойвацца» адна на другую. Відавочна, што лічбы, абвешчаныя ЦВК, не адпавядаюць рэальнаму волевыяўленню выбаршчыкаў.

## Паслявыбарчыя падзеі

Спакойная атмасфера правядзення выбараў была азмрочана ўвечары асноўнага дня галасавання, 19 снежня, калі спецпадраздзяленні міліцыі гвалтоўна разагналі ўдзельнікаў мірнай акцыі пратэсту супраць несправядлівага правядзення выбараў, якія сабраліся на Кастрычніцкай плошчы г. Мінска, а далей перамясціліся на плошчу Незалежнасці. Да раніцы 20 снежня былі затрыманы каля 700 чалавек, у тым ліку сем кандыдатаў у прэзідэнты. Многія з арыштаваных былі збітыя, уключаючы трох кандыдатаў у прэзідэнты. Затрыманні і арышты ўдзельнікаў акцыі і прыхільнікаў альтэрнатыўных кандыдатаў працягваліся і ў наступныя дні. Абвінавачанне ў арганізацыі і ўдзеле «масавых беспарадкаў» па чч. 1 і 2 арт. 293 Крымінальнага кодэкса (так былі кваліфікаваны дзеянні дэманстрантаў) было прад'яўлена 43 асобам, сярод якіх — шэсць кандыдатаў у прэзідэнты, 13 асобаў з'яўляліся падазраванымі, сярод якіх — яшчэ адзін кандыдат у прэзідэнты. У сакавіку-красавіку 2011 года абвінавачанне ў адносінах да 10 фігурантаў крымінальнай справы (у тым ліку двух кандыдатаў у прэзідэнты) было перакваліфікавана на ч.1. арт. 342 Крымінальнага кодэкса «Арганізацыя і падрыхтоўка дзеянняў, якія груба парушаюць грамадскі парадак, альбо актыўны ўдзел у іх». Акрамя таго, вобыскам і допытам былі падвергнуты дзясяткі праваабаронцаў, журналістаў і грамадскіх актывістаў, а таксама офісы грамадскіх аб'яднанняў і незалежных СМІ.

## Абскарджанне вынікаў выбараў

Толькі адзін кандыдат у прэзідэнты, Рыгор Кастусёў, абскардзіў вынікі выбараў (ён зрабіў гэта і ад імя арыштаваных кандыдатаў). У сваёй скарзе ён прасіў прызнаць абвешчаныя вынікі несапраўднымі з-за шматлікіх грубых парушэнняў, якія мелі месца падчас выбарчай кампаніі. ЦВК адмовіла ў задавальненні скаргі ў сувязі з тым, што «вынікі праверкі прыкладзеных да скаргі актаў назіральнікаў паказалі, што абсалютная большасць звестак, што ўтрымліваюцца ў гэтых актах, з'яўляюцца неабгрунтаванымі», а Вярхоўны Суд адмовіўся распачаць справу па скарзе з прычыны «адсутнасці падставы» для гэтага. Скарга, пададзеная БХК па выніках назірання кампаніі «Праваабаронцы за свабодныя выбары», была пакінута без разгляду.

## Рэкамендацыі

Пры ўнясенні зменаў у Выбарчы кодэкс у студзені 2010 года была ўлічана толькі частка рэкамендацый АБСЕ і Венецыянскай камісіі, якія былі зроблены па выніках назірання за папярэднімі выбарчымі кампаніямі, у тым ліку выбарамі Прэзідэнта ў 2001 і 2006 гадах. Большасць гэтых рэкамендацый не страціла сваёй актуальнасці і пасля выбараў 2010 года. Акрамя таго, выбары паказалі, што без дэталёвай рэгламентацыі парадку фарміравання выбарчых камісій, галасавання і падліку галасоў немагчыма забяспечыць правядзенне выбараў, якія б адпавядалі міжнародным стандартам у галіне свабодных і справядлівых выбараў. Выбарчая кампанія таксама засведчыла неабходнасць забеспячэння рэальнай роўнасці кандыдатаў у сферы доступу да сродкаў масавай інфармацыі і пашырэння правоў назіральнікаў.

# 1. Прызначэнне выбараў

Згодна з Канстытуцыяй, Прэзідэнт абіраецца на пяць гадоў непасрэдна народам Рэспублікі Беларусь на аснове ўсеагульнага, свабоднага, роўнага і прамога выбарчага права пры таемным галасаванні. Выбары Прэзідэнта прызначаюцца Палатай прадстаўнікоў не пазней чым за пяць месяцаў і праводзяцца не пазней чым за два месяцы да заканчэння тэрміну паўнамоцтваў папярэдняга Прэзідэнта. Апошнім магчымым днём правядзення выбараў было 6 лютага 2011 года, а апошнім магчымым днём іх прызначэння — 6 лістапада 2010 года. Прызначэнне выбараў адбылося 14 верасня 2010 года, на пазачарговай сесіі Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу. Выбары былі прызначаны на 19 снежня 2010 года.

Прапанова аб правядзенні выбараў 19 снежня 2010 года была ўнесена старшынёй Пастаяннай камісіі па дзяржаўным будаўніцтве, мясцовым самакіраванні і рэгламенце Васілём Байковым. Дэбаты па гэтым пытанні цягнуліся каля дзесяці хвілін. Акрамя варыянта, прапанаванага В. Байковым, падчас абмеркавання быў прапанаваны яшчэ толькі адзін варыянт — 6 лютага 2010 года. Астатнія меркаванні тычыліся зручнасці ці нязручнасці правядзення выбараў менавіта 19 снежня 2010 года. У выніку ўсе 108 дэпутатаў, якія прымалі ўдзел у пасяджэнні, прагаласавалі «за» правядзенне выбараў 19 снежня 2010 года. Такім чынам, усебаковага разгляду пытання аб прызначэнні даты выбараў праведзена не было.

Уключэнне пытання «Аб праекце Пастановы Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь «Аб прызначэнні выбараў прэзідэнта Рэспублікі Беларусь» разам з яшчэ некалькімі ў павестку дня сесіі было зроблена Саветам Палаты ў той жа дзень, 14 верасня 2010 года, па рэкамендацыі «пастаянных камісій Палаты прадстаўнікоў».

З таго, што прапанова аб правядзенні выбараў 19 снежня 2010 года была ўнесена старшынёй Пастаяннай камісіі па дзяржаўным будаўніцтве, мясцовым самакіраванні і рэгламенце, вынікае, што менавіта па прапанове гэтай камісіі пытанне аб прызначэнні выбараў было ўключана Саветам Палаты ў павестку дня сесіі. Між тым, афіцыйны сайт Палаты прадстаўнікоў не даваў ніякай інфармацыі аб правядзенні пасяджэнняў Пастаяннай камісіі па дзяржаўным будаўніцтве, мясцовым самакіраванні і рэгламенце паміж 7 і 14 верасня 2010 года (7 верасня Палата прадстаўнікоў першы раз разгледзела і зацвердзіла павестку дня сваёй пятай пазачарговай сесіі). Можна меркаваць, што камісія пытанне аб прызначэнні выбараў прэзідэнта або не абмяркоўвала, або праводзіла яго ў закрытым парадку, што не адпавядае арт. 2 Закона «Аб Нацыянальным сходзе Рэспублікі Беларусь», згодна з якім дзейнасць Нацыянальнага сходу грунтуецца на прынцыпе галоснасці.

Такім чынам, вышэйзгаданыя дзеянні Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу не адпавядаюць арт. 65 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, згодна з якім «падрыхтоўка і правядзенне выбараў праводзяцца адкрыта і галосна».

Разам з непадрыхтаваным, аднабаковым і паспешлівым абмеркаваннем Палатай прадстаўнікоў прапановы правесці выбары менавіта 19 студзеня 2010 года, словы Л.Ярмошынай аб тым, што абраная дата — «прагназаваная нечаканасць», і што «было тры варыянты: 12 снежня, 19 снежня, 6 лютага. Мы адпрацоўвалі ўсе. Але снежань — добры»[1] з'яўляюцца ўскосным сведчаннем таго, што рашэнне аб правядзенні выбараў 19 снежня 2010 года прымалася не Палатай прадстаўнікоў (якая толькі імітавала абмеркаванне), а нейкай іншай арганізацыяй ці асобай, што з'яўляецца парушэннем арт. 81 Канстытуцыі і арт. 56 Выбарчага кодэкса.

Сваім рашэннем аб прызначэнні выбараў на 19 снежня 2010 года Палата прадстаўнікоў скараціла тэрмін знаходжання на пасадзе дзейснага Прэзідэнта да 4 гадоў і 9 месяцаў. Гэта не адпавядае Закону «Аб Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь» (арт. 8), згодна з якім «тэрмін паўнамоцтваў прэзідэнта — пяць гадоў».

1 «Советская Белоруссия», 15 верасня 2010 года.

# 2. Прававая база

Прававую аснову выбарчай сістэмы Беларусі складаюць Канстытуцыя, Выбарчы кодэкс і іншыя акты заканадаўства, а таксама пастановы і рашэнні ЦВК.

Папярэднія прэзідэнцкія выбары (у 2001 і 2006 гадах) праходзілі на падставе рэдакцыі Выбарчага кодэкса ад 4 ліпеня 2000 года (з нязначнымі зменамі). АБСЕ неаднаразова адзначала «шматлікія істотныя недахопы» Кодэкса і прапаноўвала рэкамендацыі па яго ўдасканаленні. Акрамя таго, у 2007 і 2008 гадах Генеральная Асамблея ААН накіроўвала Беларусі «настойлівы заклік прывесці выбарчы працэс і заканадаўчую базу ў адпаведнасць з міжнароднымі стандартамі і пазбавіцца ад недахопаў выбарчага працэсу»[2].

4 студзеня 2010 года ў Выбарчы кодэкс быў унесены шэраг зменаў і дапаўненняў, у тым ліку — некаторыя з ранейшых рэкамендацый АБСЕ. Пры гэтым улады адхілілі большасць прапаноў аб зменах выбарчага заканадаўства, якія былі вылучаны прадстаўнікамі апазіцыйных палітычных партый. Асноўныя змены датычыліся працэдур рэгістрацыі і збору подпісаў за вылучэнне кандыдатаў у прэзідэнты, правядзення агітацыі кандыдатамі ў прэзідэнты, фарміравання выбарчых камісій і абскарджання рашэнняў аб іх фарміраванні ў судовым парадку.

У цэлым дадзеныя змены мелі станоўчы характар, аднак не прывялі да вырашэння сістэмных праблем выбарчага заканадаўства Беларусі: не забяспечылі фарміраванне незалежных і збалансаваных выбарчых камісій; не замацавалі заканадаўча дэталізацыю працэдуры падліку галасоў; не гарантавалі роўнасць усіх кандыдатаў, якія прымаюць удзел у выбарах. Паводле меркавання АБСЕ і Венецыянскай камісіі Савета Еўропы, «гэтыя змены ўяўляюць сабой крок наперад на шляху да ліквідацыі асобных недахопаў у выбарчым заканадаўстве Беларусі, аднак яны наўрад ці вырашаюць фундаментальную праблему, якая заключаецца ў тым, што прававыя рамкі для правядзення выбараў у Беларусі па-ранейшаму не дазваляюць стварыць аснову для сапраўды дэмакратычных выбараў»[3].

15 верасня ЦВК прыняла пакет пастаноў і іншых дакументаў па арганізацыі і падрыхтоўцы выбараў, якія не ўтрымлівалі істотных адрозненняў ад аналагічнага пакета, зацверджанага напярэдадні выбараў 2006 года. У далейшым ЦВК прыняла некаторыя папраўкі да Метадычных рэкамендацый па арганізацыі выбараў, прапанаваныя апазіцыйнымі палітычнымі партыямі і некаторымі кандыдатамі ў прэзідэнты. Гэтыя папраўкі тычыліся дадатковых мер па абароне галасавання ад магчымых фальсіфікацый: «прадастаўленне назіральнікам рэальнай магчымасці ажыццяўляць назіранне ва ўмовах, якія забяспечваюць бачнасць працэдуры падліку галасоў», заклейванне шчылін скрыняў на перыяд, калі не ажыццяўляецца датэрміновае галасаванне, і патрабаванне захавання бюлетэняў у апячатаных сейфах. Акрамя таго, ЦВК дазволіла кіруючым органам палітычных партый і рэспубліканскіх грамадскіх аб'яднанняў накіроўваць назіральнікаў у выбарчыя камісіі ўсіх узроўняў (як гэта было ў 2001 і 2006 гадах, але выключалася пастановай ЦВК ад 15 верасня).

У той жа час ЦВК не прыняла іншых прапаноў, рэалізацыя якіх спрыяла б транспарэнтнасці і справядлівасці выбарчага працэсу, такія як: фарміраванне УВК у першую чаргу з прадстаўнікоў палітычных партый, абарона бюлетэняў для галасавання ад падробак ды інш. Акрамя таго, ЦВК адмовіла ў магчымасці кругласутачнай прысутнасці назіральнікаў на выбарчых участках падчас датэрміновага галасавання і некалькі разоў адхіляла прапанову аб растлумачэнні парадку падліку галасоў, г. зн., ігнаравала ўрэгуляванне тых бакоў выбарчага працэсу, якія найбольш спрыяльныя для фальсіфікацый.

---

2 A/RES/62/169, para 2 (e), і A/RES/61/175, para. 2 (a).

3 http://www.osce.org/documents/odihr/2010/06/44755_ru.pdf

# 3. Выбарчыя камісіі

Згодна з арт. 25 Выбарчага кодэкса, падрыхтоўку і правядзенне выбараў прэзідэнта забяспечваюць Цэнтральная камісія, а таксама адпаведныя выбарчыя камісіі. У адпаведнасці з арт. 27 Выбарчага кодэкса, такімі камісіямі з'яўляюцца тэрытарыяльныя — абласныя, Мінская гарадская, раённыя, гарадскія (у гарадах абласнога падпарадкавання, акрамя гарадоў з раённым дзяленнем), раённыя ў гарадах і ўчастковыя. Такім чынам, згодна з заканадаўствам, арганізацыяй выбараў займаліся Цэнтральная выбарчая камісія (ЦВК), 155 тэрытарыяльных выбарчых камісій (ТВК) і 6 390 участковых выбарчых камісій (УВК), у тым ліку 44 — за мяжой.

У студзені 2010 года ў Выбарчы кодэкс былі ўнесены змены, датычныя фарміравання выбарчых камісій.

Асноўныя з іх:

1) у арт. 34 было ўстаноўлена, што, як правіла, не менш траціны камісій павінны складаць прадстаўнікі палітычных партый і грамадскіх аб'яднанняў;

2) устаноўлена забарона на ўключэнне ў склад выбарчых камісій кіраўнікоў мясцовых выканаўчых і распарадчых органаў, суддзяў і пракурораў, а таксама палажэнне аб тым, што дзяржаўныя служачыя не павінны складаць больш траціны складу камісіі;

3) у новай рэдакцыі арт. 35 зменена колькасць грамадзян, які могуць вылучыць свайго прадстаўніка ў склад тэрытарыяльнай камісіі — 10 чалавек (у параўнанні з 30 у старой рэдакцыі). Тое ж датычыцца працоўных калектываў — яны павінны быць колькасцю не менш за 10 чалавек (у параўнанні з 30 у старой рэдакцыі);

4) істотнымі з'яўляюцца змены ў арт. 34, якія замацавалі права прадстаўнікоў суб'ектаў, якія вылучылі сваіх прадстаўнікоў у склад камісій, прысутнічаць падчас пасяджэнняў органаў, якія ўтвараюць камісіі;

5) новая рэдакцыя арт. 34 дае магчымасць судовага абскарджання рашэння органа аб фарміраванні камісіі. Суб'екты, якія вылучылі свайго прадстаўніка ў склад камісіі, атрымалі права абскардзіць рашэнне адпаведнага органа ў абласным, Мінскім гарадскім, раённым, гарадскім судзе;

Гэтыя пазітыўныя змены, аднак, амаль не змянілі сутнасць фарміравання ТВК і УВК. Паколькі, як і ў папярэдняй рэдакцыі Выбарчага кодэкса, крытэрыі адбору прэтэндэнтаў у склад камісій не былі ўстаноўлены, іх адсутнасць дазволіла органам, якія ўтвараюць камісіі, прымаць адвольныя рашэнні аб уключэнні ці неўключэнні ў склад камісій тых ці іншых вылучаных асоб. Змены, унесеныя ў Выбарчы кодэкс, не забяспечылі гарантый празрыстасці на этапе вылучэння кандыдатур у склад камісій і захавалі абмежаванні ў магчымасці назіраць за працэсам зацвярджэння складу камісій.

## 3.1. Цэнтральная камісія

Цэнтральная камісія па выбарах і правядзенні рэспубліканскіх рэферэндумаў (ЦВК) дзейнічае на сталай аснове. У яе ўваходзяць 12 сяброў, 6 з якіх прызначае Прэзідэнт, 6 — вылучае Савет Рэспублікі Нацыянальнага сходу з кандыдатур, рэкамендаваных прэзідыумамі абласных, Мінскага гарадскога Саветаў дэпутатаў і адпаведнымі выканаўчымі камітэтамі. Старшыня камісіі (Лідзія Ярмошына) і яе сакратар (Мікалай Лазавік) працуюць на прафесійнай аснове, астатнія сябры сумяшчаюць працу ў ЦВК з асноўнай. Пры гэтым у дзеючым складзе камісіі, сфарміраваным 22 студзеня 2007 года, шмат сяброў займаюць высокія пасады ў органах выканаўчай улады. Парадак фарміравання ЦВК і яе склад, а таксама неаднаразовыя праявы лаяльнасці да дзеючага Прэзідэнта з боку яе сяброў, дазваляюць меркаваць, што ЦВК не з'яўляецца незалежным органам. Яскравым пацверджаннем гэтага з'яўляецца прызнанне кіраўніка ЦВК Л. Ярмошынай у інтэрв'ю «Еўрапейскаму радыё для Беларусі» 19 студзеня 2010 года (http://euroradio.fm/node/6980), у якім яна заявіла, што не збіраецца сыходзіць са сваёй пасады ў палітыку па наступных прычынах: «Я не ўмею сябе рэкламаваць, а выбары — гэта заўсёды самарэклама. Да таго ж **я член каманды дзеючага кіраўніка дзяржавы**. А член каманды не прымае самастойнага рашэння адносна таго, колькі яму займаць тую ці іншую пасаду. Таму столькі, колькі палічыць патрэбным кіраўнік дзяржавы, я буду займаць гэту пасаду».

Таксама на стадыі рэгістрацыі ініцыятыўных груп прэтэндэнтаў у кандыдаты на пасаду прэзідэнта падчас онлайн-канферэнцыі на сайце naviny.by 21 верасня Лідзія Ярмошына заявіла, што верыць у перамогу А.Лукашэнкі на будучых выбарах (http://naviny.by/rubrics/

politic/2010/09/21/ic_articles_112_170510/). Гэтая заява старшыні Цэнтрвыбаркама адназначна не адпавядае прынцыпам незаангажаванасці і бесстароннасці, якімі павінны кіравацца выбарчыя адміністрацыі.

## 3.2. Тэрытарыяльныя камісіі

Паводле Каляндарнага плана арганізацыйных мерапрыемстваў па падрыхтоўцы і правядзенні выбараў прэзідэнта, зацверджанага Пастановай ЦВК №43 ад 15 верасня 2010 года, вылучэнне прадстаўнікоў у склад тэрытарыяльяных камісій павінна было завяршыцца не пазней за 26 верасня ўключна, а зацвярджэнне персанальнага складу ТВК — не пазней за 29 верасня ўключна.

### Прававая рэгламентацыя

Згодна з арт. 34 Выбарчага кодэкса, камісіі па выбарах прэзідэнта складаюцца з прадстаўнікоў палітычных партый, іншых грамадскіх аб'яднанняў, працоўных калектываў, а таксама прадстаўнікоў грамадзянаў, якія вылучаны ў склад камісій шляхам збору подпісаў. Вылучаць сваіх прадстаўнікоў у склад выбарчых камісій (па 1 прадстаўніку ў адпаведную камісію) маюць права:

1) кіруючыя органы абласных, Мінскай гарадской, раённых, гарадскіх (у гарадах абласнога падпарадкавання), раённых у гарадах арганізацыйных структур палітычных партый, іншых грамадскіх аб'яднанняў — у адпаведныя абласныя, Мінскую гарадскую, раённыя, гарадскія (у гарадах абласнога падпарадкавання), раённыя ў гарадах тэрытарыяльныя камісіі, а таксама ва ўчастковыя камісіі[4];

2) сходы працоўных калектываў ці калектывы іх структурных падраздзяленняў, якія размешчаныя на тэрыторыі раёна, горада, раёна ў горадзе, і якія налічваюць не менш за 10 працоўных, маюць права вылучаць сваіх прадстаўнікоў у склад адпаведных тэрытарыяльных камісій. Згодна з абзацам 5 ч.2 арт. 35 Выбарчага кодэкса, працоўныя калектывы маюць права накіроўваць сваіх прадстаўнікоў толькі ў склад раённых, гарадскіх і ўчастковых выбарчых камісій;

3) грамадзяне — шляхам падачы заявы. Заява павінна быць падпісана не менш чым 10 грамадзянамі, якія валодаюць выбарчым правам і пражываюць на адпаведнай тэрыторыі.

Тэрытарыяльныя выбарчыя камісіі фарміруюцца наступнымі органамі:

• абласныя, Мінская гарадская камісіі — прэзідыумамі абласных, Мінскага гарадскога Савета дэпутатаў і абласнымі, Мінскім гарадскім выканаўчым камітэтам у складзе 9-13 сяброў камісіі;

• раённыя, гарадскія камісіі — прэзідыумамі раённых, гарадскіх Саветаў дэпутатаў і раённымі, гарадскімі выканаўчымі камітэтамі ў складзе 9-13 сяброў камісіі;

• раённыя ў гарадах камісіі — прэзідыумамі гарадскіх Саветаў дэпутатаў і гарадскімі выканаўчымі камітэтамі ў складзе 9-13 сяброў камісіі.

Як правіла, не менш адной трацiны склада камісіі павінны складаць прадстаўнікі палітычных партый і іншых грамадскіх аб'яднанняў. Дзяржаўныя служачыя не могуць складаць больш адной трацiны складу камісіі. У склад камісій не могуць уваходзіць суддзі, пракуроры, кіраўнікі мясцовых выканаўчых і распарадчых органаў.

На пасяджэннях органаў, якія фарміруюць камісіі, маюць права прысутнічаць прадстаўнікі суб'ектаў, якія вылучылі сваіх прадстаўнікоў у склад камісій (палітычных партый, грамадскіх аб'яднанняў, працоўных калектываў і грамадзянаў). Рашэнне аб фарміраванні камісій ў сямідзённы тэрмін з моманту яго прыняцця змяшчаецца ў друку.

Рашэнне органа, які фарміруе камісіі, можа быць абскарджана у трохдзённы тэрмін з моманту яго прыняцця адпаведна ў абласны, Мінскі гарадскі, раённы, гарадскі суд суб'ектамі, якія вылучылі сваіх прадстаўнікоў у склад камісіі. Суд разглядае скаргу на працягу трох дзён, ягонае рашэнне з'яўляецца канчатковым.

Такім чынам, згодна з Выбарчым кодэксам, фарміраваннем ТВК займаюцца выканкамы, якія з'яўляюцца часткай уладнай «вертыкалі» дзеючага Прэзідэнта, і мясцовыя Саветы дэпутатаў, абраныя ў ходзе мясцовых выбараў 2010 года, якія не з'яўляліся ні свабоднымі, ні справядлівымі.

---

4 Парадак накіравання прадстаўнікоў палітычных партый і іншых грамадскіх аб'яднанняў таксама быў растлумачаны пастановай ЦВК № 48 ад 15 верасня 2010 года "Аб растлумачэнні выкарыстання часткі другой артылкула 35 Выбарчага кодэкса Рэспублікі Беларусь, які прадугледжвае вылучэнне прадстаўнікоў у склад камісій па выбарах Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь у 2010 г.".

## Вылучэнне ў ТВК

Як і падчас папярэдніх прэзідэнцкіх выбараў, працэс вылучэння кандыдатур у склад тэрытарыяльных камісій адбываўся ва ўмовах інфармацыйнага вакууму. Пачынаючы з моманту абвяшчэння выбараў (14 верасня) і да апошняга дня, калі было магчымым вылучэнне кандыдатур у склад камісій (26 верасня), ні органы ўлады, адказныя за фарміраванне камісій, ні дзяржаўныя СМІ не падалі ніякай інфармацыі наконт працэсу вылучэння кандыдатур. Таксама ніякай інфармацыі пра вылучэнне сваіх прадстаўнікоў у склад тэрытарыяльных камісій не агучвалі тыя грамадскія аб'яднанні, прадстаўнікі якіх былі масава ўключаныя ў склад тэрытарыяльных камісій падчас выбараў 2006 года (БРСМ, ФПБ, Беларускі саюз жанчын, Беларускае грамадскае аб'яднанне ветэранаў). Назіральнікам была даступная толькі інфармацыя аб вылучэнні кандыдатаў ад некаторых апазіцыйных партыяў (АГП, ПБНФ і г.д.), незалежных грамадскіх аб'яднанняў і груп выбаршчыкаў.

Па дадзеных ЦВК, у склад 155 тэрытарыяльных выбарчых камісій усяго быў вылучаны 2 681 прэтэндэнт. Па афіцыйных звестках, паводле спосабу вылучэння прэтэндэнты размеркаваліся наступным чынам:




Згодна паведамленняў ЦВК, з 15 зарэгістраваных у краіне палітычных партый сваіх прадстаўнікоў у склад тэрытарыяльных камісій вылучылі 10, у тым ліку 4 апазіцыйных: Беларуская партыя левых «Справядлівы свет» (36), Аб'яднаная грамадзянская партыя (24), Партыя БНФ (7), Беларуская сацыял-дэмакратычная партыя (Грамада) (4). Аднак калі, паводле дадзеных ЦВК, ад чатырох апазіцыйных партый быў разам вылучаны 71 прэтэндэнт, то паводле дадзеных партыйных штабоў — 92. Гэта значыць, што 21 партыйны кандыдат вылучаўся шляхам збору подпісаў грамадзян. Асноўнай праблемай, з якой сутыкнуліся палітычныя партыі пры вылучэнні сваіх прадстаўнікоў у склад тэрытарыяльных камісій, была адсутнасць арганізацыйных структур, зарэгістраваных альбо пастаўленых на ўлік на раённым і гарадскім узроўнях. На працягу папярэдніх гадоў шматлікія арганізацыйныя структуры палітычных партый былі ліквідаваныя паводле іскаў упраўленняў юстыцыі ў сувязі з тым, што яны былі зарэгістраваныя ў памяшканнях жылога фонду. Гэтая акалічнасць мела ўплыў на магчымасці вылучэння прадстаўнікоў палітычных партый у склад адпаведных ТВК.

Больш за траціну прэтэндэнтаў у ТВК склалі вылучэнцы грамадскіх аб'яднанняў і прафсаюзаў. Пры гэтым усяго 5 арганізацый — ГА «Белая Русь», ГА «Беларускі рэспубліканскі саюз моладзі», Федэрацыя прафсаюзаў Беларусі, Беларускі саюз жанчын, і Беларускае грамадскае аб'яднанне ветэранаў выставілі 79% ад усіх прэтэндэнтаў ад грамадскіх аб'яднанняў і прафсаюзаў:




«Конкурс» у тэрытарыяльныя камісіі склаў у сярэднім 17 прэтэндэнтаў на 13 месцаў, пры гэтым у абласныя і Мінскую гарадскую камісіі (7) — у сярэднім 32 прэтэндэнты на 13 месцаў; у гарадскія (у гарадах абласнога падпарадкавання) і раённыя камісіі ў гарадах (30) — у сярэднім 19-20 прэтэндэнтаў на 13 месцаў; у раённыя камісіі (118) — у сярэднім 15 прэтэндэнтаў на 13 месцаў. Такім чынам, колькасць прэтэндэнтаў нязначна перавысіла колькасць месцаў у ТВК, а сярэдні «конкурс» знаходзіўся ў непасрэднай залежнасці ад узроўню камісіі: чым вышэй, тым мацнейшая канкурэнцыя.

Зафіксавана яшчэ адна характэрная асаблівасць пры фарміраванні ТВК: калі ў склад камісіі вылучаўся прадстаўнік апазіцыйнай партыі, то, як правіла, колькасць прэтэндэнтаў у ТВК перавышала максімальную колькасць месцаў у ёй (13), але калі апазіцыйныя партыі не вылучалі сваіх прадстаўнікоў, то колькасць вылучаных прэтэндэнтаў амаль супадала з максімальнай колькасцю месцаў у ТВК. Найбольш паказальнай у гэтым сэнсе сталі выбарчыя камісіі ў 22 раённых тэрытарыяльных камісіях Мінскай вобласці, дзе сярэдні конкурс склаў 13,4 прэтэндэнты на 13 месцаў.

Вылучэнне, якое мелі права ажыццяўляць палітычныя партыі, грамадскія аб'яднанні, працоўныя калектывы і групы грамадзян, можна ахарактэрызаваць як свабоднае. Паводле паведамленняў назіральнікаў, фактычна ўсе суб'екты змаглі падаць неабходныя дакументы і былі праінфармаваны пра час і месцы іх прыёму. Быў зафіксаваны толькі адзін выпадак адмовы ў прыняцці заявы аб вылучэнні ў склад тэрытарыяльнай камісіі — у г. Мазыры Гомельскай вобласці, дзе група грамадзян у колькасці 13 чалавек вылучыла ў склад Мазырскай тэрытарыяльнай выбарчай камісіі Уладзіміра Целяпуна. 25 верасня 2010 года у 9.30—10.00 прадстаўнік групы грамадзян Р.Крывіцкі прынёс у райвыканкам заяву, аднак у кабінеце №101, які працуе па прынцыпе «адно акно», яе не прынялі і не патлумачылі працэдуры рэгістрацыі заявы. Ахоўнік выканкама не прапусціў Р.Крывіцкага ў прыёмную райвыканкама, патлумачыўшы, што «там нікога няма».

## Пасяджэнні па ўтварэнні ТВК

На пасяджэннях органаў, якія ўтвараюць камісіі, неабходны кворум быў забяспечаны паўсюль, але самі пасяджэнні насілі выключна фармальны характар і фактычна зводзіліся да безальтэрнатыўнага зацвярджэння спісаў складаў камісій, кулуарна распрацаваных мясцовымі органамі ўлады да гэтага. Працягласць такіх пасяджэнняў у многіх месцах была мінімальнай. Напрыклад, у Гродзенскай вобласці, Гродзенская раённая ВК, Мастоўская, Скідзельская раённыя ВК былі сфарміраваны за 8 хвілін, Свіслацкая раённая ВК — за 13 хвілін. Кастрычніцкая і Ленінская раённыя ВК г. Гродна былі сфармаваныя ў сярэднім за 15 хвілін, Гродзенская абласная ВК — за 20 хвілін. Чатыры камісіі Цэнтральнага, Савецкага, Чыгуначнага, Навабеліцкага раёнаў г. Гомеля былі сфарміраваны за 38 хвілін, што склала менш за 10 хвілін на кожную. Неаб-

ходна звярнуць увагу, што паводле слоў начальніка аддзела арганізацыйна-кадравай работы Гомельскага гарвыканкама Ірыны Абрамцавай, у склад раённых камісій г. Гомеля было прапанавана ўсяго 119 прадстаўнікоў. Гэта пры неабходнай колькасці 52 прадстаўнікоў складала конкурс больш за 2 чалавекі на месца.

Сумеснае пасяджэнне прэзідыума Баранавіцкага гарадскога Савета дэпутатаў і выканаўчага камітэта па стварэнні гарадской камісіі працягвалася 9 хвілін. У спісе вылучаных было 19 прэтэндэнтаў, двое з якіх прадстаўлялі гарадскую партыйную структуру «Справядлівы свет» і грамадскае аб'яднанне «Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны». Адкрытага абмеркавання і галасавання па кандыдатурах у склад камісіі не было, супрацоўнікі гарвыканкама і гарсавета толькі зацвердзілі загадзя прапанаваны спіс камісіі ў складзе 13 асоб, у які не трапілі актывісты апазіцыйнай палітычнай структуры і ТБМ.

На сумесным пасяджэнні Аршанскага гарвыканкама і прэзідыума гарадскога Савета дэпутатаў, дзе разглядалася пытанне фарміравання гарадской камісіі, кандыдатуры на абмеркаванне не выносіліся. Начальнік аддзела арганізацыйна-кадравай працы Аршанскага гарвыканкама Віктар Калачоў зачытаў удзельнікам пасяджання прапанаваны спіс з 13 чалавек, за які ўсе аднагалосна прагаласавалі. Аб тым, што ў склад камісіі прэтэндуюць і іншыя кандыдатуры, сярод якіх і 5 прадстаўнікоў апазіцыі, нават не агучвалася, ніводны з іх уключаны ў камісію не быў.

Аналагічна адбывалася пасяджэнне па фарміраванні Жлобінскай раённай выбарчай камісіі. Намеснік старшыні райвыканкама Віктар Касцяйкоў паведаміў, што на ўключэнне ў камісію паступіла 26 кандыдатур, з якіх выбрана 13, якія, па меркаванні Прэзідыума раённага Савета дэпутатаў і раённага выканаўчага камітэта, найбольш падыходзяць. Усе 26 кандыдатур не зачытваліся і не абмяркоўваліся (на сяброўства ў камісіі прэтэндаваў і прадстаўнік апазіцыйнай Аб'яднанай грамадзянскай партыі, які ў камісію не быў уключаны) — былі агучаны толькі 13 кандыдатур, і за іх прагаласавалі спісам.

У асобных выпадках зачытваліся спісы прапанаваных у склад камісіі асоб, што не мяняла сутнасці працэсу. Так, начальнік аддзела арганізацыйна-кадравай работы Мастоўскага райвыканкама Гродзенскай вобласці Аляксей Рахунак зачытаў колькасць і прозвішчы вылучаных асоб, спосаб іх вылучэння і падкрэсліў, што спіс рэкамендаваны для прыняцця, уключае ўсіх вылучэнцаў ад партый, прафсаюзаў і іншых грамадскіх арганізацый. Аляксей Шафарэвіч, старшыня Мастоўскага райвыканкама, які вёў пасяджэнне, прапанаваў прысутным прагаласаваць па складу спіса. Прапанова была падтрымана, прагаласавалі адзінагалосна.

Практычна не характарызаваліся асобы, вылучаныя ў камісіі, на пасяджэннях ў Скідзелі, Свіслачы (Гродзенская вобл.), Смалявічах (Мінская вобл.), Мазыры (Гомельская вобл.), Наваполацку (Віцебская вобл.), Бабруйску (Магілёўская вобл.), Пінску (Брэсцкая вобл.) ды інш. Агучвалася толькі, што ўсе, каго прапануецца ўключыць, з'яўляюцца сталымі сябрамі выбарчых камісій, маюць «дастатковы вопыт працы».

Адсутнасць выразна сфармуляваных крытэрыяў дазволіла мясцовым органам улады фарміраваць ТВК выключна сыходзячы са сваіх меркаванняў. Прадстаўнікі органаў улады, якія фарміравалі Светлагорскую раённую ВК, адмовіліся назваць крытэрыі, па якіх было адмоўлена ва ўключэнні прадстаўніку ініцыятыўнай групы У. Някляева: «паводле закона мы не абавязаны вам тлумачыць свайго рашэння».

## Склад тэрытарыяльных выбарчых камісій

У склад ТВК былі ўключаны 2 000 сяброў. 30 верасня сакратар Цэнтральнай выбарчай камісіі М. Лазавік заявіў, што «актыўнасць палітычных партый на гэтым этапе была невысокая, вылучалі яны нямнога. Амаль усе іх прадстаўнікі ўвайшлі ў склад камісій». Аднак гэта заява адпавядае рэчаіснасці толькі ў дачыненні да шасці партый, якія з'яўляюцца лаяльнымі да дзеючай улады (КПБ, Рэспубліканская партыя працы і справядлівасці, Ліберальна-дэмакратычная партыя, Аграрная партыя, Рэспубліканская партыя, Беларуская сацыяльна-спартыўная партыя). Сапраўды, са 121 прэтэндэнта, вылучаных гэтымі партыямі, у склад ТВК увайшлі 106 чалавек (87,6% ад агульнай колькасці вылучаных гэтымі партыямі). А вось з 92 прадстаўнікоў чатырох апазіцыйных партый, вылучаных у склад тэрытарыяльных выбарчых камісій, уключаны ў камісіі былі толькі 14 прэтэндэнтаў (15% ад агульнай колькасці вылучаных прадстаўнікоў апазіцыйных партый).

Такім чынам, колькасць прадстаўнікоў апазіцыйных партый, уключаных у склад ТВК, склала 14 чалавек, ці 0,7% ад іх агульнай колькасці. «Праходнасць» прэтэндэнтаў ад апазіцыйных палітычных партый склала 15% (14 з 70), у той час як сярэднестатыстычная «праходнасць» усіх прэтэндэнтаў склала 74,6% (2 000 з 2 681), а прэтэндэнтаў ад лаяльных дзеючаму прэзідэнту партый — 87,6% (106 з 121).

Перадузятае стаўленне органаў, якія ўтваралі выбарчыя камісіі, да прадстаўнікоў апазіцыйных палітычных партый, з'яўляецца відавочным: калі тры з чатырох сярэднестатыстычных кандыдатаў трапілі ў склад выбарчых камісій, то ў выпадку прадстаўнікоў апазіцыйных палітычных партый — толькі адзін з сямі. А вось кандыдаты ад лаяльных уладзе партый траплялі ў камісіі ў 9 выпадках з 10. У выніку прадстаўнікі апазіцыйных партый прысутнічалі толькі ў 14 камісіях са 155.




У некаторых выпадках назіральнікі зафіксавалі схему «дэмакратычнай адмовы» апазіцыйным прэтэндэнтам у ТВК: у склад ТВК вылучаецца чыноўнік досыць высокага рангу, органы, якія ўтвараюць камісіі, адмаўляюць гэтаму чыноўніку і прадстаўніку апазіцыі на аднолькавых падставах. Напрыклад, у Пінскую гарадскую ТВК былі ўключаны 5 прадстаўнікоў грамадскіх арганізацый (гарадской арганізацыі «Беларускі прафсаюз працаўнікоў дзяржаўных і іншых установ», гарадской арганізацыі ГА «Беларускае таварыства інвалідаў», гарадской арганізацыі ГА БРСМ, гарадской арганізацыі ГА «Беларускі саюз ветэранаў вайны ў Афганістане», гарадской арганізацыі ГА «Белая Русь»). Пры гэтым на пасяджэнні было заяўлена, што вызначаная законам квота вытрымана, таму прадстаўнікам апазіцыйнай БПЛ «Справядлівы свет» і праўрадавай КПБ адмаўляецца. Непрайшоўшым ад КПБ быў першы намеснік старшыні Пінскага гарвыканкама Аляксандр Канеўскі, у камісію не ўвайшоў і прадстаўнік апазіцыі.

Большасць сяброў ТВК (каля 80%) — незалежна ад спосабу іх вылучэння — да гэтага хаця б раз былі сябрамі ТВК на папярэдніх мясцовых, парламенцкіх ці прэзідэнцкіх выбарах. Напрыклад, са 117 сяброў раённых ТВК у г. Мінску як мінімум 88 чалавек (75,2%) уваходзілі ў склад выбарчых камісій на папярэдніх выбарах. Шмат у якіх ТВК гэты паказчык роўны 100%.

Як правіла, у склад камісій увайшлі па 3—4 дзяржаўныя служачыя, у тым ліку супрацоўнікі выканкамаў і Саветаў дэпутатаў, гэта значыць тых структур, якія іх фарміравалі. Астатнія — прадстаўнікі праўрадавых грамадскіх арганізацый, бюджэтных арганізацый (перш за ўсё — устаноў адукацыі і аховы здароўя), а таксама кіраўнікі дзяржаўных (ці кантралюемых дзяржавай) прадпрыемстваў.

Так, з 13 сябраў Бярозаўскай раённай выбарчай камісіі — 9 былі ў складзе раённай камісіі падчас мясцовых выбараў 2010 года, 3 — сябрамі акруговай камісіі па выбарах у абласныя Саветы. У склад раённай выбарчай камісіі былі зацверджаны 4 супрацоўнікі Бярозаўскага райвыканкама, астатнія — кіраўнікі рознага звяна.

Склад Гомельскай абласной выбарчай камісіі, дзе 6 з 13 зацверджаных сябраў ужо працавалі на мінулых выбарах у мясцовыя Саветы дэпутатаў, цікавы яшчэ і тым, што ён яскрава адлюстроўвае тэндэнцыю «маскіроўкі» прадстаўнікоў органаў, якія ўтвараюць камісіі, і дзяржслужачых пад вылучэнцаў ад грамадскіх аб'яднанняў, палітычных партый і грамадзян шляхам збору подпісаў у сувязі з уведзенымі ў Выбарчы кодэкс абмежаваннямі. Пры ўважлівым аналізе персанальнага складу камісіі высветлілася, што, напрыклад, ад ГА «Беларускі рэспубліканскі саюз юрыстаў» трапіла ў камісію Маргарыта Жорава, якая з'яўляецца намеснікам начальніка галоўнага ўпраўлення юстыцыі Гомельскага аблвыканкама, членам Савета Рэспублікі, намеснікам старшыні Пастаяннай камісіі Савета рэспублікі Нацыянальнага сходу па заканадаўству і дзяржаўнаму будаўніцтву. Ад абласной арганізацыі Беларускага прафсаюза працаўнікоў культуры ў камісію ўключаны Міхаіл Жукевіч, месца працы якога не агучвалася, але вядома, што да апошняга часу ён быў намеснікам начальніка галоўнага ўпраўлення ідэалагічнай работы аблвыканкама, а яшчэ раней узначальваў савет па справах рэлігій і нацыянальнасцяў. Рэктар інстытута ўдасканальвання настаўнікаў Надзея Котава трапіла ў камісію як прадстаўнік грамадскага аб'яднання «Белая Русь». Як сябра КПБ трапіў у камісію па «партыйнай квоце» прарэктар Гомельскага тэхнічнага ўніверсітэта імя Сухога Станіслаў Пракапенка. Як прадстаўнікі грамадскага аб'яднання «Беларускі саюз жанчын» вылучыліся ў камісію галоўны пазаштатны валеолаг упраўлення аховы здароўя Гомельскага аблвыканкама, загадчык аддзела грамадскага здароўя Галіна Саланец і намеснік рэдактара абласной газеты «Гомельская праўда» Ніна Злыдзенка. У абласной камісіі прысутнічаў вылучаны шляхам падачы заявы грамадзян намеснік начальніка арганізацыйна-кадравага ўпраўлення аблвыканкама Аляксандр Усаў, як і дырэктар агракамбіната «Паўднёвы» Міхаіл Карнадуд (таксама шляхам падачы заяў грамадзян).

Аналагічная схема была выкарыстана і пры фармаванні Салігорскай раённай камісіі. На першы погляд яе склад выглядаў даволі дэмакратычна: сярод 13 сябраў — прадстаўнікі працоўных калектываў, грамадскіх аб'яднанняў, прафсаюзаў, партый і грамадзяне, вылучаныя шляхам збору подпісаў. Аднак пры аналізе месцаў працы сябраў камісіі стала відавочна, што гэта толькі вонкавы плюралізм: у камісію ўвайшлі двое супрацоўнікаў выканкама — загадчык па арганізацыйнай працы райвыканкама Кохан Віталь быў вылучаны шляхам збору подпісаў, а начальнік аддзела кіравання райвыканкама Святлана Радзюк вылучана мясцовай структурай прафсаюза работнікаў дзяржаўных і іншых устаноў. Яшчэ адным прадстаўніком прэзідэнцкай «вертыкалі» ў складзе камісіі стала старшыня раённага Савета дэпутатаў Лідзія Клішэвіч, вылучаная ад грамадскай арганізацыяі «Беларускі саюз жанчын».

У далейшым большасць супрацоўнікаў выканкамаў занялі ключавыя пасады ў ТВК: іх доля ў кіраўніцтве камісій склала 40-70%, а доля тых, хто раней уваходзіў у склад ТВК (і, часцей за ўсё, займаў у іх кіруючыя пасады) — амаль 100%. Напрыклад, кіраўнічы склад Мазырскай раённай выбарчай камісіі не змяніўся з выбараў у мясцовыя Саветы: старшыня — кіраўнік справамі райвыканкама Міхал Пашынскі, намеснік — дырэктар медыцынскага каледжа Юлія Прыходзька і сакратар камісіі — загадчыца аддзела арганізацыйна-кадравай работы райвыканкама Вераніка Байкова. У Брэсцкай вобласці ўсяго была сфарміравана 21 тэрытарыяльная камісія. Старшынямі сталі: 12 чыноўнікаў выканкамаў; 7 кіраўнікоў прадпрыемстваў і ўстаноў; 1 старшыня абласной арганізацыі прафсаюзаў; 1 пенсіянер. Намеснікамі старшыняў сталі: 6 выканкамаўскіх чыноўнікаў; 10 кіраўнікоў прадпрыемстваў і ўстаноў; 3 прадстаўнікі прафсаюзаў; 1 пенсіянер; 1 індывідуальны прадпрымальнік. Сакратарамі камісіяў былі абраныя: 14 чыноўнікаў выканкамаў; 3 пенсіянеры; 3 прадстаўнікі прадпрыемстваў і ўстановаў; 1 прадстаўнік абласной арганізацы БРСМ.

Такім чынам, залежнасць ТВК ад органаў выканаўчай улады, а таксама пераемнасць традыцый фарміравання ТВК з папярэдніх выбараў на гэтым этапе выбараў з'яўлялася відавочнай.

Згодна з Каляндарным планам, на працягу 7 дзён з моманту ўтварэння ТВК мясцовыя ўлады павінны былі абнародаваць дадзеныя аб іх складзе. Гэта было выканана своечасова, але практычна паўсюль дзяржаўная прэса апублікавала спісы сяброў тэрытарыяльных камісій без указання іх месца працы і службовай пасады. Гэта не дазволіла пацвердзіць афіцыйныя дадзеныя ЦВК аб тым, што ў склад камісій увайшло 408 дзяржаўных служачых (20,4% ад 2 000 сяброў ТВК; Выбарчы кодэкс дазваляе «не больш траціны» дзяржаўных служачых у складзе камісій). Усе спробы высветліць інфармацыю пра месцы працы сябраў ТВК, каб спраўдзіць, наколькі выканана дадзенае патрабаванне закона, аказваліся беспаспяховымі.

Так, баранавіцкія праваабаронцы Сяргей Гоўша і Карней Пятровіч накіравалі зварот намесніку старшыні гарвыканкама Дз. Касцюкевічу, у якім прасілі прадставіць звесткі пра месца працы і займаемую пасаду кожнага сябра Баранавіцкай гарадской камісіі, бо па інфармацыі, апублікаванай у газеце «Наш край», немагчыма было вызначыць, хто з іх з'яўляецца дзяржслужачым. Пры гэтым заяўляльнікі адзначылі, што калі гарвыканкам палічыць нямэтазгодным публікаваць запытваемыя дадзеныя пра сяброў камісіі, то прасілі паведаміць ім асабіста. У сваім адказе Дз. Касцюкевіч адмовіў прадставіць запытваемую інфармацыю, напісаўшы, што такія патрабаванні выходзяць за межы Выбарчага кодэкса і не звязаны з падрыхтоўкай і правядзеннем выбараў. У сувязі з атрыманай адмовай праваабаронцы накіравалі скаргу ў пракуратуру горада, адкуль прыйшоў адказ за подпісам выконваючага абавязкі пракурора Міхаіла Квашніна, які паведаміў, што пракуратура праверыла склад гарадской тэрытарыяльнай выбарчай камісіі. М. Квашнін не прадставіў праваабаронцам запытваемай інфармацыі, але адзначыў, што ў склад камісіі не ўключаны суддзі, пракуроры, старшыні мясцовых выканаўчых органаў, дзяржаўныя служачыя складаюць у камісіі 1/6 частку, а прадстаўнікі палітычных партый і арганізацый — 2/3 ад усяго складу, што значыць, што склад гарадской выбарчай камісіі ў поўнай меры адпавядае патрабаванням Выбарчага кодэкса РБ. Саветнік юстыцыі М.Квашнін дадаў, што Выбарчы кодэкс не прадугледжвае пры размяшчэнні ў друку ўказання інфармацыі пра месцы працы і займаемыя пасады сябраў камісіі. Таму патрабаванне Сяргея Гоўшы і Карнея Пятровіча было кваліфікавана як неабгрунтаванае і адхілена.

## Транспарэнтнасць пры фармаванні ТВК

Пасяджэнні органаў, якія фарміравалі ТВК, адбываліся ва ўмовах абмежаванай інфармацыі аб іх месцы і часе і абмежаванага доступу для назіральнікаў. Назіральнікі кампаніі «Праваабаронцы за свабодныя выбары» былі вымушаныя адмыслова звяртацца ў мясцовыя органы ўлады з запытамі на гэты конт[5], але і пасля гэтага яны часта сутыкаліся з адмовамі ў праве прысутнічаць на іх пасяджэннях па стварэнні выбарчых камісій. Свае адмовы органы ўлады матывавалі тым, што прадстаўнікі грамадскіх аб'яднанняў, якія праводзяць маніторынг выбарчай кампаніі, не прадстаўляюць суб'ектаў, якія вылучылі прадстаўнікоў у склад выбарчай камісіі. З падобнымі адмовамі ў праве прысутнічаць на пасяджэннях сутыкаліся і прадстаўнікі Беларускага Хельсінкскага камітэта, хаця адным з відаў статутнай дзейнасці БХК з'яўляецца ажыццяўленне назірання за выбарамі. Трэба адзначыць, што згодна з арт. 20 закона «Аб грамадскіх аб'яднаннях» грамадскае аб'яднанне мае права бесперашкодна атрымліваць інфармацыю, датычную іх дзейнасці. Фарміраванне выбарчых камісій, безумоўна, непасрэдна датычыцца арганізацыі выбараў і з'яўляецца важным этапам выбарчай кампаніі. Працэс фарміравання камісій павінен адбывацца максімальна празрыста і пасяджэнні дзяржаўных органаў, на якіх фарміруюцца камісіі, павінны адбывацца ў прысутнасці ўсіх зацікаўленых суб'ектаў, у тым ліку прадстаўнікоў грамадскіх аб'яднанняў, якія ажыццяўляюць маніторынг выбараў.

Нягледзячы на тое, што ў параўнанні з папярэднімі прэзідэнцкімі выбарамі, органы, якія ўтвараюць ТВК, больш уважліва ставіліся да асоб, якія выказалі жаданне прысутнічаць у якасці назіральнікаў на пасяджэннях, і большасць з іх былі дапушчаны на пасяджэнні, своечасова праінфармавана пра час і месца правядзення пасяджэнняў, зафіксаваны шэраг выпадкаў, калі назіральнікі не здолелі патрапіць на пасяджэнні па прычыне нежадання чыноўнікаў. Назіральнікамі адзначаны розныя метады, якімі карысталіся чыноўнікі, каб стварыць перашкоды прысутнасці назіральнікаў на пасяджэннях ТВК.

Часцей за ўсё назіральнікам настолькі позна паведамлялі пра час правядзення пасяджэння, што гэта рабіла іх прысутнасць фізічна немагчымай. Напрыклад, у г. Орша прадстаўнікі гарвыканкама паведамілі пра пасяджэнне назіральніку ад БХК Ігару Казмерчаку за гадзіну да яго пачатку, а ў Аршанскім райвыканкаме назіральніку ад БХК Васілю Леўчанкаву — увогуле за 35 хвілін да пачатку пасяджэння. У г. Мазыр афіцыйная інфармацыя пра час пасяджэння з'явілася толькі ў выглядзе абвесткі, вывешанай на стэндзе ў будынку выканкама. Пры гэтым, абвестка з'явілася на стэндзе толькі ў 9.00 27 верасня, тады як пасяджэнне было запланавана на 10.00 таго ж дня.

5 Маюць месца і некаторыя выключэнні з правіла: напрыклад, на сумеснае пасяджэнне прэзідыуму Талачынскага савета дэпутатаў і Талачынскага райвыканкама, якое прызначана на 10 гадзін раніцы 27 верасня 2010 года, назіральнік кампаніі «Праваабаронцы за свабодныя выбары» быў запрошаны спецыяльна (у склад выбарчай камісіі прадстаўнікі апазіцыйных партый не вылучаліся).

У некаторых выпадках назіральнікі зусім не папярэджваліся пра правядзенне пасяджэння, і яны праходзілі амаль таемна. Так, у г. Маладзечна не быў папярэджаны Эдуард Баланчук, накіраваны БХК на пасяджэнне па ўтварэнні Маладзечанскай гарадской выбарчай камісіі.

У некаторых выпадках назіральнікі проста не дапускаліся на пасяджэнні без тлумачэнняў. Так, начальнікам аддзела арганізацыйна-кадравай работы Бабруйскага гарвыканкама Сяргеем Біткіным на сумеснае пасяджэнне прэзідыума гарадскога Савета дэпутатаў і гарадскога выканаўчага камітэта па фарміраванні тэрытарыяльнай камісіі фізічна не быў дапушчаны назіральнік ад БХК Ігар Ходзька. Гэтак жа фізічна з дапамогай міліцыянера спрабавалі не дапусціць на сумеснае пасяджэнне прэзідыума Брэсцкага абласнога Савета дэпутатаў і Брэсцкага абласнога выканаўчага камітэта назіральніка Уладзіміра Вялічкіна. Назіральнік усё ж на пасяджэнне патрапіў. Пры гэтым намеснік начальніка арганізацыйнага аддзела галоўнага ўпраўлення арганізацыйна-кадравай працы Брэсцкага аблвыканкама Наталля Грыгор'ева, якая на пасяджэнні была абрана сябрам Брэсцкай абласной тэрытарыяльнай камісіі, прапанавала У.Вялічкіну напісаць на яго рэгістрацыйнай заяве з просьбай дапусціць на пасяджэнне, што «пасяджэнне праходзіла адкрыта, галосна і бесперашкодна» і паставіць асабісты подпіс.

Шэраг грамадзян звярталіся з заявамі дапусціць іх да назірання за працэсам фарміравання ТВК як грамадзян Рэспублікі Беларусь. Усе яны атрымлівалі адмовы са спасылкамі на арт. 13 Выбарчага кодэкса, які на думку органаў, якія фарміруць камісіі, не дазваляе шараговым грамадзянам быць назіральнікамі. Такая сітуацыя склалася ў Гродзенскім, Бераставіцкім і Ваўкавыскім раёнах Гродзенскай вобласці. Так, Алена Прыгара звярнулася вусна і пісьмова ў Гродзенскі райвыканкам з просьбай прадставіць ёй магчымасць прысутнічаць на пасяджэнні па фарміраванні ТВК у якасці назіральніка, аднак атрымала адказ ад начальніка аддзела арганізацыйна-кадравай работы Валерыя Балашова, што зрабіць гэтага яна не можа, паколькі нікога не прадстаўляе. Пытанне А.Прыгары, ці існуе механізм, які дазваляе ёй патрапіць на пасяджэнне проста як грамадзянцы, засталося без адказу. Аналагічную адмову ў Бераставіцкім раёне атрымаў Іван Курчэўскі. Назіральніку Лявону Карповічу было адмоўлена ў праве прысутнасці на пасяджэнні на падставе таго, што «назіральнікам могуць быць толькі прадстаўнікі ад тых структур, чые прадстаўнікі пададзены кандыдатамі ў склад ТВК» (словы старшыні Ваўкавыскага раённага савета дэпутатаў С. Прадко).

## 3.3. Участковыя выбарчыя камісіі

Участковыя выбарчыя камісіі (УВК), згодна з арт. 27 Выбарчага кодэкса, разам з тэрытарыяльнымі выбарчымі камісіямі (ТВК), забяспечваюць падрыхтоўку і правядзенне выбараў прэзідэнта. Менавіта УВК арганізуюць галасаванне, падлік галасоў і ўстанаўленне вынікаў галасавання на выбарчых участках, што робіць іх адным з ключавых механізмаў выбарчага працэсу.

Згодна з Каляндарным планам арганізацыйных мерапрыемстваў па падрыхтоўцы і правядзенні выбараў, вылучэнне прадстаўнікоў у склад УВК і прадстаўленне адпаведных дакументаў у органы, якія іх ўтвараюць, павінна было адбывацца не пазней за 31 кастрычніка ўключна, а ўтварэнне УВК — не пазней за 3 лістапада ўключна.

Усяго, паводле інфармацыі ЦВК, было ўтворана 6 390 участковых камісій, у тым ліку, 280 — у стацыянарных лячэбных і лячэбна-прафілактычных установах, 52 — у вайсковых частках і 44 — у дыпламатычных прадстаўніцтвах Беларусі за мяжой.

### Прававая рэгламентацыя

Вылучаць сваіх прадстаўнікоў у склад УВК могуць палітычныя партыі, грамадскія аб'яднанні (кіруючыя органы іх структурных арганізацыйных структур), працоўныя калектывы і грамадзяне, якія маюць права накіраваць свайго прадстаўніка ў склад участковай камісіі. Заява аб такім накіраванні павінна быць падпісана не менш чым 10 грамадзянамі, якія валодаюць выбарчым правам і пражываюць на тэрыторыі ўчастка для галасавання[6]. УВК фарміруюцца раённымі,

6 Парадак накіравання прадстаўнікоў у склад выбарчых камісій таксама растлумачаны пастановай ЦВК № 48 ад 15 верасня 2010 года "Аб растлумачэнні выкарыстання часткі другой артыкула 35 Выбарчага кодэкса Рэспублікі Беларусь, які прадугледжвае вылучэнне прадстаўнікоў у склад камісій па выбарах Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь у 2010 годзе".

гарадскімі выканаўчымі камітэтамі, а ў гарадах з раённым дзяленнем — мясцовымі адміністрацыямі ў складзе 5-19 сяброў.

Магчымасць вылучэння ў склад УВК ад палітычных партый і іншых грамадскіх аб'яднанняў, як і раней, абмяжоўвалася патрабаваннем наяўнасці іх арганізацыйных структур. Вылучаць прадстаўнікоў у склад УВК маюць права кіруючыя органы абласных, Мінскіх гарадскіх, раённых, гарадскіх (у гарадах абласнога падпарадквання), раённых у гарадах арганізацыйных структур палітычных партый і іншых грамадскіх аб'яднанняў. Такім чынам, рэспубліканскія грамадскія аб'яднанні, якія не маюць арганізацыйных структур, увогуле пазбаўлены магчымасці вылучаць сваіх прадстаўнікоў у склад участковых выбарчых камісій.

## Вылучэнне ў склад участковых выбарчых камісій

Адмоваў у прыёме дакументаў па вылучэнні прадстаўнікоў у склад УВК зафіксавана не было. Усе зацікаўленыя асобы здолелі падаць неабходныя дакументы і былі праінфармаваныя пра час і месцы іх прыёму. Так, у Гомельскай вобласці шэраг сайтаў райвыканкамаў змясцілі аб'явы, куды неабходна падаваць адпаведныя дакументы. Лепш за ўсіх праінфармаваў па гэтым пытанні сайт Мазырскага райвыканкама: указаны нумар кабінета райвыканкама, час працы. Акрамя таго, тут жа была змешчана інфармацыя аб тым, што паседжанне Мазырскага выканаўчага камітэта па пытанні ўтварэння ўчастковых выбарчых камісій па выбарах прэзідэнта Рэспублікі Беларусь «адбудзецца 2 лістапада 2010 года ў малой зале райвыканкама (3 паверх) у 9.00». Сайт Жыткавіцкага райвыканкама інфармаваў, што «ў сувязі з набліжэннем заканчэння тэрміна, устаноўленага Выбарчым кодэксам для вылучэння прадстаўнікоў у склад участковых камісій па выбарах прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, 30 і 31 кастрычніка 2010 года ўстаноўлена дзяжурства супрацоўнікаў арганізацыйна-кадравай працы райвыканкама» і падаў нумары двух кабінетаў і час іх працы, куды трэба здаваць дакументы. Прыкладна такога ж зместу аб'яву змясціў на сваім сайце Петрыкаўскі райвыканкам, дзе паведаміў нумар кабінета, дзе вядзецца прыём дакументаў, час яго працы. Праўда, ні Жыткавіцкі, ні Петрыкаўскі райвыканкамы не змясцілі інфармацыю, калі адбудзецца паседжанне па пытанні ўтварэння ўчастковых выбарчых камісій.

Адначасова інфармацыя пра ход падачы дакументаў выдавалася мясцовымі адміністрацыямі неахвотна, а ў большасці выпадкаў не выдавалася зусім.

З 84 024 прадстаўнікоў, вылучаных у склад УВК палітычнымі партыямі, грамадскімі аб'яднаннямі, працоўнымі калектывамі і групамі грамадзян, толькі 1 073 былі вылучаны апазіцыйнымі палітычнымі партыямі. Вылучэнне астатніх кандыдатур адбывалася пад кіраўніцтвам мясцовых уладаў, якія вызначалі адпаведныя «квоты» для праўрадавых грамадскіх аб'яднанняў, палітычных партый, дзяржаўных прадпрыемстваў і ўстановаў, і ўзгаднялі прапанаваныя кандыдатуры яшчэ да заканчэння працэсу вылучэння.

Так, 22 кастрычніка на дзвярах у актавую залу адміністрацыі Ленінскага раёна г. Магілёва назіральнікамі быў выяўлены дакумент «Спіс прадпрыемстваў, што вылучаюць прадстаўнікоў у склад участковых камісій» (ДАКУМЕНТ 1). Спіс утрымліваў пералік участкаў, іх месцазнаходжанне, а таксама — назвы прадпрыемстваў і ўстановаў, якія павінны вылучыць прадстаўнікоў ва ўчастковыя камісіі, з указаннем квоты кожнага з гэтых прадпрыемстваў. Напрыклад, у склад УВК участка №9, што размяшчаецца ў 35-й сярэдняй школе Магілёва, 15 прадстаўнікоў павінен вылучыць калектыў гэтай школы. А ў склад УВК 21-га ўчастку, размешчанага ў інтэрнаце ЗАТ «Магілёўскі КСВ», 5 чалавек павінен вылучыць ДУКДБП «УМ-106», 8 — ЗАТ «Магілёўскі КСВ», і 2 — МДУКДВП «Завод ЭМІС». Усе ўчастковыя камісіі, згодна з гэтым дакументам, павінны налічваць па 15 сябраў, акрамя тых участкаў, што ўтвораны ў бальніцах і вайсковых частках. У цытуемым дакуменце не ўказваўся спосаб вылучэння ў склад камісій, што азначае, што гэтае пытанне было пакінута на разгляд саміх прадпрыемстваў і ўстановаў, якія самі павінны вырашаць, якім шляхам ім вылучаць сваіх прадстаўнікоў.

У выніку больш за траціну прэтэндэнтаў у сябры УВК склалі вылучэнцы грамадскіх аб'яднанняў і прафсаюзаў. Пры гэтым усяго 5 арганізацыяў — ГА «Белая Русь», ГА «Беларускі рэспубліканскі саюз моладзі», Федэрацыя прафсаюзаў Беларусі, Беларускі саюз жанчын і Беларускае грамадскае аб'яднанне ветэранаў вылучылі 84,8% ад усіх прэтэндэнтаў ад грамадскіх аб'яднанняў і прафсаюзаў.




Інфармацыя, атрыманая назіральнікамі, дае падставы меркаваць, што ў некаторых населеных пунктах склад УВК быў зацверджаны яшчэ да сканчэння тэрміна вылучэння кандыдатаў у камісіі (31 кастрычніка). Напрыклад, 21 кастрычніка ў Аршанскім гарвыканкаме на нарадзе, прысвечанай фарміраванню ўчастковых камісій, старшыня гарвыканкама Мікалай Лісоўскі паведаміў, што на ўсіх участках камісіі ўжо гатовы. Пры сустрэчы назіральніка Мікалая Петрушэнкі з дырэктарам Коханаўскага прадпрыемства жыллёва-камунальнай гаспадаркі Міхаілам Гаўрычэнкам, якая адбылася 14 кастрычніка, апошні заявіў, што будзе старшынёй камісіі ўчастка для галасавання № 24 у г.п. Коханава (Талачынскі р-н Віцебскай вобласці). У Светлагорску зафіксавана некалькі выпадкаў, калі да фарміравання УВК па кватэрах і дамах хадзілі асобы, называючыся прадстаўнікамі ўчастковых выбарчых камісій, і звяралі спісы выбаршчыкаў.

## Пасяджэнні па ўтварэнні УВК

Пасяджэнні выканкамаў і мясцовых адміністрацый па фарміраванні УВК адбыліся ў адпаведнасці з Каляндарным планам па арганізацыі выбараў — да канца дня 3 лістапада. Інфармацыя пра тое, калі і дзе яны будуць праходзіць, была, як правіла, даступнай. Напрыклад, Баранавіцкі і Пінскі гарвыканкамы (Брэсцкая вобл.), Гродзенскі, Аршанскі (Віцебская вобл.) райвыканкамы, адміністрацыя Ленінскага раёна г. Гродна ды іншыя своечасова размясцілі на сваіх сайтах неабходную інфармацыю.

Пры гэтым самі пасяджэнні ў падаўляючай большасці насілі выключна фармальны характар і зводзіліся да хуткага і безальтэрнатыўнага зацвярджэння спісаў складу камісій, падрыхтаваных напярэдадні ў закрытым рэжыме. Праекты рэзалюцый па складу УВК рыхтавалі спецыяльныя «працоўныя групы». Так, 2 лістапада ў Мазырскім райвыканкаме адбылося пасяджэнне пад старшынствам Уладзіміра Дворніка па фарміраванні ўчастковых выбарчых камісій раёна, на якім прысутнічаў праваабаронца Уладзімір Целяпун. Дакладчыкам выступала начальнік арганізацыйна-кадравай работы райвыканкама і адначасова сакратар ТВК Вераніка Байкова, якая ў сваім выступе спаслалася на тое, што ўсе пададзеныя ў выканкам дакументы па вылучэнні прадстаўнікоў у склад участковых выбарчых камісій былі разгледжаны і абмеркаваны «працоўнай групай». З яе слоў стала вядома, што менавіта гэтай «працоўнай групай» было падрыхтавана рашэнне райвыканкама па складу ўчастковых выбарчых камісій Мазырскага раёна. Уладзімір Целяпун у сувязі з гэтым накіраваў заяву на імя старшыні райвыканкама Уладзіміра Дворніка з просьбай азнаёміць яго з адпаведным дакументам аб стварэнні «працоўнай групы», рашэннем аб яе складзе, кампетэнцыях і паўнамоцтвах. Высветлілася, што «працоўныя групы» былі ўтвораны згодна з рашэннем Мазырскага райвыканкама №1202 ад 28.09.2010 «Аб падрыхтоўцы і правядзенні выбараў прэзідэнта Рэспублікі Беларусь». У п. 5 рашэння сказана, што «працоўная група» створана «для арганізацыйнага і матэрыяльна-тэхнічнага забеспячэння дзейнасці

Мазырскай раённай выбарчай камісіі», аднак там нічога не казалася, што дадзеная група надзяляецца паўнамоцтвамі вызначаць склад выбарчых камісій, абмяркоўваць якасці вылучаных у іх склад прадстаўнікоў. Звароты У. Целепуна ў пракуратуру, да старшыні ЦВК, а таксама ў Гомельскую абласную выбарчую камісію, да старшыні Гомельскага абласнога выканаўчага камітэта і Гомельскага абласнога ўпраўлення юстыцыі адносна перавышэння паўнамоцтваў «працоўнай групай» падчас фарміравання УВК засталіся без належнага законнага рэагавання.

Працягласць пасяджэнняў у многіх месцах была мінімальнай. Так, пасяджэнне адміністрацыі Цэнтральнага раёна г. Гомеля доўжылася 14 хвілін, за якія з 1 124 прадстаўнікоў, вылучаных у склад УВК, было ўключана 626. Пасяджэнне Гродзенскага райвыканкама — 7 хвілін, за якія было «разгледжана» 485 кандыдатур і зацверджаны 471 сябар УВК. Адміністрацыя Ленінскага раёна г. Мінска сфарміравала УВК за 5 хвілін (з 1 101 кандыдатуры — 950 сяброў камісій). Для стварэння 69 участковых камісій Жлобінскаму выканкаму хапіла 11 хвілін. У Барысаўскім раёне на стварэнне 112 участковых выбарчых камісій спатрэбілася ўсяго 12 хвілін. У Ленінскім раёне Брэста 44 камісіі былі сфарміраваны за 10 хвілін — паседжанне праводзілася настолькі ў спешным парадку, што многія з прысутных не адразу зразумелі, каго ўсё ж уключылі ў склад выбаркамаў. У адказ на прэтэнзіі адносна гэтага кіраўніцтва раёна прапанавала дачакацца афіцыйнай публікацыі поўнага спісу сябраў участковых камісій у гарадскіх газетах.

Аналагічна, без агучвання і абмеркавання складу УВК, адбывалася большасць пасяджэнняў выканаўчых камітэтаў ці мясцовых адміністрацый, практычна нідзе не характарызаваліся асобы, вылучаныя ў камісіі. На пасяджэннях агучвалася толькі, што ўсе, каго прапануецца ўключыць, з'ўляюцца сталымі сябрамі выбарчых камісій, маюць «дастаковы вопыт працы», праноўвалася прагаласаваць за загадзя вызначаны спіс.

Напрыклад, працягласць паседжання Аршанскага гарвыканкама склала не больш за 5 хвілін. Вёў яго першы намеснік старшыні гарвыканкама Мікалай Саксонаў, які прапанаваў прысутным членам выканкама прагаласаваць за загадзя раздрукаваны і раздадзены праект рашэння аб зацвярджэнні складу 62 камісій. Гэта аднагалосна і было зроблена. Ні адной кандыдатуры на гэтым паседжанні не было агучана, ні па адной кандыдатуры не было персанальнага галасавання. Не ўдалося нават высветліць, колькі наогул чалавек прэтэндавала ў склад камісій, і якімі структурамі яны былі вылучаны. Таямніцаю засталася інфармацыя пра тое, ці патрапілі ў склад камісій прадстаўнікі апазіцыі. Прысутнаму на паседжанні першаму сакратару Аршанскай гарадской партыі «Справядлівы свет» Мікалаю Дзямідаву параілі атрымаць гэтую інфармацыю з мясцовай газеты, дзе склад участковых камісій павінен быць апублікаваны.

У некаторых выпадках прычыны неўключэння прэтэндэнтаў у склад УВК называліся, і датычылася гэта ў першую чаргу вылучэнцаў ад апазіцыйных палітычных партый і незалежных арганізацый. Так, супрацоўнікі адміністрацый Першамайскага і Ленінскага раёнаў Бабруйска адмовілі ва ўключэнні ў склад УВК 30(!) прадстаўнікам Аб'яднанай грамадзянскай партыі, патлумачыўшы гэта іх нявопытнасцю. Пры фармаванні ўчастковых камісій Рэчыцкім райвыканкамам былі агучаныя крытэрыі, па якіх адбіраліся сябры камісій — вопыт удзелу ў папярэдніх выбарчых кампаніях, колькасць калектыву, які вылучыў свайго прадстаўніка, дзелавыя якасці прэтэндэнтаў. Аднак на пытанне, чаму не ўключылі ў камісію прадстаўніка ад ГА БНФ «Адраджэнне», які мае вопыт працы ў камісіі на апошніх парламенцкіх выбарах, дырэктара прыватнага прадпрыемства Шабетніка А.В., старшыня Рэчыцкага райвыканкама Шостак П.Н. адказаў: «З ім немагчыма дамовіцца». Адмову ўключыць ва ўчастковую камісію прадстаўніцу «Справядлівага свету» Інэсу Тубалец начальнік аддзела арганізацыйна-кадравай работы Жлобінскага райвыканкама Сяргей Маруковіч патлумачыў тым, што на мінулых выбарах яна працавала ў камісіі і «стварала канфліктую сітуацыю — галасавала супраць, патрабавала запісаць у пратакол яе асаблівае меркаванне». Начальнік аддзела арганізацыйна-кадравай працы Маладэчанскага райвыканкама Ігар Гарановіч, які прымаў непасрэдны ўдзел у стварэнні так званага праекта складу камісій, агучыў наступны крытэрый: сябры камісій павінны быць найперш маладымі і здаровымі. Чаму тады ў камісіі было ўключана 47 сяброў аб'яднання ветэранаў, ён растлумачыць не змог. Таксама засталося незразумела, чаму ў склад камісій не ўвайшлі прадстаўнікі Партыі БНФ і ГА БНФ «Адраджэнне», сярод якіх ёсць і маладыя, і кваліфікаваныя.

У выніку адсутнасць выразна сфармуляваных крытэрыяў дазваляла мясцовым органам улады фарміраваць УВК выключна сыходзячы са сваіх меркаванняў.

## Склад участковых выбарчых камісій

У склад 6 346 УВК, размешчаных на тэрыторыі Беларусі, былі ўключаныя 70 815 сяброў ці 84,3% ад агульнай колькасці прэтэндэнтаў (84 024). Сярэднестатыстычная «праходнасць» усіх кандыдатаў у склад УВК склала 84,3% (70 815 з 84 024 прэтэндэнтаў); прадстаўнікоў ад лаяльных уладзе партый — 87,7% (1 586 з 1808), а прадстаўнікоў ад 4 буйнейшых праўрадавых грамадскіх аб'яднанняў і 1 прафсаюза — 93,2% (23 689 з 25 419).

У той жа час з 1 073 прэтэндэнтаў ад апазіцыйных палітычных партый у склад УВК увайшлі толькі 183 чалавекі, ці 17,1%, што склала 0,25% ад агульнай колькасці сяброў УВК і прадстаўніцтва менш чым у 3% УВК. Такім чынам, дыскрымінацыйнае стаўленне органаў, якія ўтваралі УВК, да прадстаўнікоў апазіцыйных палітычных партый з'яўляецца відавочным: у сярэднім, толькі адзін з шасці прэтэндэнтаў ад гэтых партый трапіў у склад УВК, у той час як з кожных дзесяці прэтэндэнтаў ад праўладных партый і грамадскіх аб'яднанняў ва ўчастковыя выбарчыя камісіі трапілі дзевяць.

Найбольш «безальтэрнатыўнай» аказалася Мінская вобласць, у якой з 11 747 прэтэндэнтаў у склад 1 085 УВК увайшлі 11 253 чалавекі (95,8% ад агульнай колькасці прэтэндэнтаў). Пры гэтым «праходнасць» прадстаўнікоў ад «Белай Русі» і Беларускага саюза жанчын склала 100% (808 з 808 і 869 з 869 адпаведна), а з 69 прадстаўнікоў, вылучаных чатырма апазіцыйнымі партыямі, у склад УВК Мінскай вобласці трапілі толькі 7 чалавек (10,1%).

У выніку больш за 99% сяброў участковых выбарчых камісій, незалежна ад спосабу іх вылучэння, з'яўляліся прадстаўнікамі ад дзеючай улады. Гэта, галоўным чынам, супрацоўнікі выканкамаў і іншых дзяржаўных устаноў (перш за ўсё — устаноў адукацыі і аховы здароўя), а таксама прадстаўнікі праўрадавых грамадскіх аб'яднанняў.

Пры аналізе складу УВК была выяўлена тая ж тэндэнцыя, якая зафіксавана і пры фарміраванні ТВК: дзеля выканання патрабавання Выбарчага кодэкса аб абмежаванні колькасці дзяржслужбоўцаў у камісіі адной трэцяй часткай, а таксама з мэтай стварэння імітацыі «шырокага грамадскага прадстаўніцтва», значная частка чыноўнікаў вылучалася ва УВК ад грамадскіх аб'яднанняў і шляхам збору подпісаў выбаршчыкаў. Напрыклад, па афіцыйных звестках дзяржаўныя служачыя атрымалі ў створаных УВК Гомельскай вобласці зусім малы працэнт — 5,2%, што значна менш нават за ўстаноўленае законам абмежаванне трацінай. Але калі паглядзець, хто насамрэч хаваецца за «прадстаўнікамі грамадскіх аб'яднанняў», то вымалёўваецца супрацьлеглая карціна. Праўда, у сувязі з тым, што спісы сябраў УВК традыцыйна публікаваліся без указання іх месцаў працы, знайсці звесткі, дзе працуе той ці іншы чалавек, няпроста. Аднак, у гэтым дапамаглі сайты райвыканкамаў і раённых газет, дзе часта мільгаюць прозвішчы мясцовых начальнікаў. Так, колькі на самой справе ва ўчастковых камісіях Лоева чыноўнікаў, якія замаскіраваліся пад «грамадскасць», аказалася магчымым вызначыць дзякуючы сайту раённай газеты «Лоеўскі край» і мясцовага райвыканкама. Напрыклад, у Савецкую ўчастковую камісію №1 Валянціна Аніськова была вылучана прафсаюзам работнікаў дзяржаўных устаноў, а месца яе працы — начальнік аддзела статыстыкі райвыканкама. Сябра камісіі Кацярына Кадошчанка вылучана ад грамадзянаў, шляхам падачы заявы, а працуе яна дырэктарам музычнай школы. Святлана Карнаушанка вылучана грамадскім аб'яднаннем «Беларускі саюз жанчын», а працуе загадчыкам аддзела ЗАГС. Сябра камісіі Таццяна Лагута вылучана прафсаюзам работнікаў адукацыі і навукі, а працуе вядучым спецыялістам аддзела адукацыі райвыканкама. Генадзь Місачэнка вылучаны грамадзянамі, а з'яўляецца начальнікам аддзела ўпраўлення сельскай гаспадаркі райвыканкама. Грамадзянамі ж вылучана і член камісіі Тамара Науменка, якая з'яўляецца дырэктарам раённай бібліятэкі. Яе падначаленая, бібліятэкар Аксана Сініла, таксама вылучана грамадзянамі. У Ленінскую ўчастковую камісію №2 Лоева Таццяна Валохіна і Генадзь Блізнец былі вылучаны грамадзянамі, а працуюць адпаведна намеснікам старшыні райспажыўтаварыства і дырэктарам сярэдняй школы. Галіна Вайцяшэнка вылучана прафсаюзам, а працуе загадчыцай дзіцячай бібліятэкі. Грамадзянамі вылучаны Сяргей Карнаушанка, які працуе дырэктарам дзіцячай спартыўнай школы. Прафсаюзам вылучаны Віктар Казуля — начальнік упраўлення па працы, занятасці і сацыяльнай абароне насельніцтва райвыканкама. Супрацоўніца раённага савета дэпутатаў Наталля Лысянок вылучана грамадзянамі, галоўны рэдактар раённай газеты Святлана Маторная — ГА «Беларускі саюз жанчын». Завуч сярэдняй школы Ала Маторная вылучана ГА «Белая Русь». Вядучы спецыяліст аддзела эканомікі райвыканкама Андрэй Навуменка вылучаны БРСМ. Прафсаюзам вылучана намеснік загадчыка дзіцячага сада Людміла Чычкан. Як вынік — 10 з 13 сябраў камісіі з'яўляюцца дзяржаўнымі служачымі плюс трое, месцы працы якіх выявіць не ўдалося. Беглы позірк на УВК, створаныя ў Нароўлі, дае такі ж вынік, як і ў Лоеве. Напрык-

лад, сябры розных участковых камісій з'яўляюцца начальнікамі, а прадстаўлены як грамадскасць. Напрыклад, грамадзянамі вылучаны ва УВК у Нароўлі начальнік Нараўлянскага ўчастка «Энергазбыт» Іван Маліноўскі, начальнік Нараўлянскага аддзела абласнога ўпраўлення ФСЗН Алена Гаўрылоўская, начальнік раённага аддзела па надзвычайных сітуацыях Юрый Багданік. А начальнік раённага аддзела адукацыі Алена Кірганава вылучана як прадстаўнік «Беларускага саюза жанчын». Начальнік аддзела ЖКГ Нараўлянскага райвыканкама Марат Дзяцел прысутнічае ў камісіі як прадстаўнік ГА «Беларускі саюз афіцэраў».

Яшчэ адна з трывалых тэндэнцый фарміравання ўчастковых камісій, якая фіксуецца назіральнікамі падчас электаральных кампаній розных узроўняў і якая яскрава адлюстравана пры стварэнні УВК па выбарах прэзідэнта — прынцып вытворчай падпарадкаванасці сябраў камісій. Так, пінскія ўчастковыя камісіі былі сфармаваны ў асноўным з прадстаўнікоў працоўных калектываў, на прадпрыемствах якіх былі размешчаны выбарчыя ўчасткі. Для прыкладу можна прывесці склад участковай камісіі №57. З 13 сябраў камісіі 12 — работнікі розных аддзелаў філіяла РУП «Брэстэнерга» Пінскія электрычныя сеткі, а яшчэ адзін — вылучэнец ад БРСМ, які таксама працуе на гэтым прадпрыемстве. У выніку атрымалася цалкам падкантрольная кіраўніцтву прадпрыемства выбарчая камісія.

| **Участковая камісія № 57 — адміністрацыйны будынак філіяла РУП «Брэстэнерга» Пінскія электрычныя сеткі** | | |
|---|---|---|
| 1. | Балашова<br>Наталля Рыгораўна | — ад працоўнага калектыва службы аўтаматызаваных сістэм упраўлення філіяла рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства **«Брэстэнерга» Пінскія электрычныя сеткі** |
| 2. | Ярмоленка<br>Аляксандр Уладзіміравіч | — ад першаснай арганізацыі Пінскай гарадской арганізацыі рэспубліканскага грамадскага аб'яднання «Белая Русь» філіяла рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства **«Брэстэнерга» Пінскія электрычныя сеткі** |
| 3. | Яфрэмаў<br>Аляксей Вячаслававіч | — ад Пінскай гарадской арганізацыі грамадскага аб'яднання «Беларускі рэспубліканскі саюз моладзі» |
| 4. | Зубко<br>Вадзім Пятровіч | — ад працоўнага калектыва службы сродкаў дыспетчарскага і тэхналагічнага ўпраўлення філіяла рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства **«Брэстэнерга» Пінскія электрычныя сеткі** |
| 5. | Клімовіч<br>Юрый Аляксеевіч | — ад працоўнага калектыва службы ўпраўлення філіяла рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства **«Брэстэнерга» Пінскія электрычныя сеткі** |
| 6. | Кавальчук<br>Руслан Алегавіч | — ад працоўных калектываў аддзела нагляду за эксплуатацыяй, ахове працы і пажарнай бяспекай і вытворча-тэхналагічнага аддзела філіяла рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства **«Брэстэнерга» Пінскія электрычныя сеткі** |
| 7. | Капыркін<br>Барыс Аляксеевіч | — ад першаснай арганізацыі Пінскай гарадской арганізацыі Беларускага грамадскага аб'яднання ветэранаў філіяла рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства **«Брэстэнерга» Пінскія электрычныя сеткі** |
| 8. | Касцеева<br>Ірына Арсеньеўна | — ад працоўнага калектыва сельскага раёна электрычных сетак філіяла рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства **«Брэстэнерга» Пінскія электрычныя сеткі** |
| 9. | Люкавец<br>Валерый Васільевіч | — ад працоўнага калектыва службы рэлейнай абароны і электрааўтаматыкі філіяла рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства **«Брэстэнерга» Пінскія электрычныя сеткі** |
| 10. | Мініч<br>Галіна Мікалаеўна | — ад працоўнага калектыва службы ліній філіяла рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства **«Брэстэнерга» Пінскія электрычныя сеткі** |

| | | |
|---|---|---|
| 11. | Петрушэнка<br>Ганна Якаўлеўна | — ад першаснай арганізацыі Пінскай гарадской арганізацыі рэспубліканскага грамадскага аб'яднання «Беларускі саюз жанчын» філіяла рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства **«Брэстэнерга» Пінскія электрычныя сеткі** |
| 12. | Тураў<br>Рыгор Івольевіч | — ад першаснай арганізацыі прафесійнага саюза работнікаў філіяла рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства **«Брэстэнерга» Пінскія электрычныя сеткі** |
| 13. | Харавец<br>Людміла Васільеўна | — ад працоўных калектываў бухгалтэрыі і канцэлярыі філіяла рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства **«Брэстэнерга» Пінскія электрычныя сеткі** |

Падаўляючая большасць людзей, якія былі ўключаны ў склад УВК, хаця б аднойчы былі ў складзе выбарчых камісій на мінулых мясцовых, парламенцкіх ці прэзідэнцкіх выбарах. Напрыклад, пры параўнанні персанальнага складу ўчастковых камісій у Барысаве і Барысаўскім раёне па выбарах прэзідэнта са складам камісій на мясцовых выбарах, якія прайшлі ў красавіку 2010 года, выяўлена наступнае: у больш чым палове УВК (у 63 з 112) на 80-100% склад сябраў застаўся тым жа, толькі ў адной участковай камісіі — у вёсцы Іканы Барысаўскага раёна — склад змяніўся цалкам; у адзінкавых выпадках адсотак змены складу УВК вагаецца ад 42 да 45; у астатніх камісіях гэты паказчык склаў каля 65-75%. Амаль у нязменным стане застаўся склад участковых выбарчых камісій у Брагінскім раёне з выбараў у мясцовыя саветы: напрыклад, Announcement Новаёлчанская камісія №13 нібыта і не распускалася, бо ўсе тыя ж члены яе ў поўным складзе прысутнічалі і ў камісіі па выбарах прэзідэнта; толькі па аднаму члену камісіі знайшлі замену ў Кіраўскай №3, Асарэвічскай №4, Малейкаўскай №6, Сялецкай №7, Красненскай №12, Дублінскай №15, Шкуратоўскай №17, Хракавічскай №18 і Новаграблянскай №19 участковых выбарчых камісіях.

Аналіз утвораных у Светлагорску ўчастковых камісій паказаў, што стварэнне «працоўных груп», якія «рыхтавалі праекты» складаў УВК, было ў прынцыпе марнаваннем часу, бо такую працу мог выканаць нават школьнік, які ўмее раздрукаваць дакумент, напрыклад, рашэнне Светлагорскага райвыканкама ад 10.03.2010 аб утварэнні ўчастковых камісій па выбарах у мясцовыя Саветы. Гэта звязана з тым, што ва ўчастковых камісіях па выбарах прэзідэнта засталіся тыя ж самыя людзі, і рашэнні выканкама аб утварэнні камісій — на мясцовых выбарах і прэзідэнцкіх — практычна ідэнтычныя. Так, участковая камісія Пралетарскага ўчастка №1 зацверджана ў колькасці з 13 чалавек, з мясцовых выбараў у ёй змяніўся толькі адзін чалавек. Інтэрнацыянальны ўчастак №2: колькасць сябраў камісіі — 15, з якіх 11 былі ў гэтай жа камісіі на мясцовых выбарах. Камсамольскі ўчастак №3: на мінулых выбарах камісія складалася з 15 чалавек — усе яны прысутнічаюць і ў гэтай камісіі, але паколькі зараз камісія складаецца з 19 чалавек, дадаліся 4 новыя сябры. Першамайскі ўчастак №4: на выбарах у мясцовыя саветы камісія складалася з 13 чалавек, з якіх 10 прысутнічаюць і ў гэтай камісіі, але паколькі камісія павялічылася да 15 чалавек, то з'явіліся «новыя» асобы. Будаўнічы ўчастак №5: з 15 сябраў камісіі 11 працавалі ў гэтай жа камісіі на мясцовых выбарах. Пушкінскі ўчастак №6: з 11 сябраў камісіі 10 засталіся з мясцовых выбараў. Кастрычніцкі №7: з 13 сябраў камісіі 12 працавалі тут жа на мясцовых выбарах. Юбілейны №8: з 13 сябраў камісіі 11 працавалі ў гэтай жа камісіі на выбарах у мясцовыя саветы. Кіраўскі ўчастак №9: камісія ў складзе 13 чалавек нібыта і не распускалася з мясцовых выбараў, бо нават ніводнага прозвішча ў камісіі не змянілася. Савецкі №10: з 13 сябраў камісіі 10 — тыя ж самыя людзі, што і на мясцовых выбарах. Палескі №11: з 15 сябраў камісіі 10 працавалі на мінулых выбарах, толькі на мясцовых выбарах камісія складалася з 13 чалавек. Маладзёжны ўчастак №12: на мінулых выбарах камісія складалася з 9 чалавек, і ўсе яны зараз у «новай» камісіі, дадаліся 2 чалавекі, таму зараз камісія складаецца з 11 чалавек. Чырвонаармейскі №13: з 9 сябраў камісіі 8 працавалі тут жа на выбарах у мясцовыя саветы. Сацыялістычны №14: з 13 сябраў камісіі 11 працавалі ў ёй на мінулых выбарах у мясцовыя саветы. Піянерскі №15: з 19 сябраў камісіі 16 працавалі на мінулых выбарах у мясцовыя саветы.

Такім чынам, працэс фарміравання ТВК і УВК амаль нічым не адрозніваўся ад працэсу іх фарміравання падчас папярэдніх прэзідэнцкіх (2006), парламенцкіх (2008) і мясцовых (2010) выбараў. З пункту гледжання адпаведнасці нацыянальнаму заканадаўству гэты працэс адбываўся без значных парушэнняў, але яго вынік не дазваляе лічыць створаныя камісіі бесстароннімі і непрадузятымі.

## Транспарэнтнасць фарміравання УВК

Пасяджэнні выканкамаў і мясцовых адміністрацый па фарміраванні ўчастковых выбарчых камісій адбываліся ва ўмовах адноснай адкрытасці. У цэлым, у параўнанні з выбарамі 2006 года, выканкамы больш уважліва ставіліся да асоб, якія выказалі жаданне прысутнічаць на пасяджэннях па ўтварэнні УВК.

У той жа час вядомы выпадкі, калі па прычыне нежадання чыноўнікаў на пасяджэнні не здолелі патрапіць не толькі назіральнікі, але і прадстаўнікі суб'ектаў, якія вылучалі сваіх прэтэндэнтаў у склад камісій. Так, прадстаўнікі апазіцыйных палітычных партый, якія вылучылі сваіх прадстаўнікоў, не былі запрошаны і не былі папярэджаны пра час і дату пасяджэння выканкама ў г. Крычаве (Магілёўская вобл.), Салігорску (Мінская вобласць), Бярозе (Брэсцкая вобласць) і інш. У Бярозе не быў своечасова апавешчаны і, адпаведна, не змог прысутнічаць на пасяджэнні па фармаванні ўчастковых выбарчых камісій у якасці прадстаўніка Партыі БНФ Сяргей Русецкі. Паведамленне пра пасяджэнне Бярозаўскага райвыканкама, на якім фарміраваліся ўчастковыя камісіі, з'явілася на афіцыйным сайце 1 лістапада ў 8.15, і ў гэты ж час пачалося пасяджэнне; іншай жа магчымасці даведацца пра час і месца пасяджэння не было. У Салігорску прадстаўніку АГП Ларысе Насановіч у райвыканкаме адмаўляліся паведаміць час пасяджэння: спачатку да абеду ў прыёмнай сцвярджалі, што ніякіх паседжанняў не запланавана, а пасля абеду паведамілі, што яно ўжо адбылося зранку.

Трэба адзначыць, што прадстаўнікі праўрадавых структур, вылучыўшых сваіх прадстаўнікоў у камісіі, на пасяджэнні па іх утварэнні трапіць не імкнуліся, што дае дадатковыя падставы меркаваць як пра іх упэўненасць у зацвярджэнні вызначаных кандыдатур, так і пра тое, што спісы сяброў УВК складаліся загадзя паводле разнарадкі.

Прысутныя на пасяджэннях па ўтварэнні УВК прадстаўнікі апазіцыйных палітычных партый, як правіла, не мелі магчымасці задаваць пытанні, ім не прадастаўляліся выніковыя пратаколы для азнаямлення. Умовы правядзення пасяджэння, створаныя адміністрацыяй Кастрычніцкага раёна г. Магілёва, напрыклад, не дазволілі прадстаўнікам пачуць і ўбачыць нешта — іх размясцілі ў апошніх шэрагах вялікай залы, гукаўзмацняльная апаратура не выкарыстоўвалася.

У рэжыме сакрэтнасці ад назіральнікаў былі сфарміраваны УВК Ленінскага раёна г. Магілёва, Савецкага раёна г. Мінска, Першамайскага і Ленінскага раёнаў г. Бабруйска, у Жодзіне. Так, кіраўнік справамі Адміністрацыі Ленінскага раёна Бабруйска Галіна Хархалёва ў адмове прадстаўніку БХК на запыт аб прысутнасці на пасяджэнні па фарміраванні УВК спаслалася на артыкул 34 ВК Беларусі, адзначаючы, што прысутнасць назіральнікаў на паседжанні адміністрацыі раёна неправамоцная. У гэтым жа адказе Г. Хархалёва адначасова ўзгадала арт.13 ВК, які гарантуе адкрытасць і галоснасць выбарчага працэсу. У Жодзіне Аляксей Лапіцкі атрымаў адмову на просьбу аб прысутнасці на пасяджэнні па фарміраванні УВК у якасці грамадзяніна Рэспублікі Беларусь, хаця аналагічны запыт, датычны прысутнасці пры фарміраванні Жодзінскай гарадской камісіі, быў задаволены. Старшыня Жодзінскага выканкама Міхал Амельянчук у сваёй адмове спаслаўся на арт. 13 ВК, які рэгламентуе правы назіральнікаў. У Салігорску назіральніку ад БХК у райвыканкаме проста не паведамілі пра час і месца правядзення пасяджэння, нягледзячы на адмысловы пісьмовы запыт.

# 4. Рэгістрацыя кандыдатаў

Кандыдатам у прэзідэнты можа стаць любы грамадзянін Рэспублікі Беларусь па нараджэнні, не маладзейшы за 35 гадоў, які валодае выбарчым правам і стала пражывае на тэрыторыі Беларусі не менш за дзесяць гадоў непасрэдна перад выбарамі. Асоба, якая прапануецца на вылучэнне кандыдатам у прэзідэнты можа быць вылучана грамадзянамі Беларусі пры наяўнасці не менш за 100 000 подпісаў. Кандыдатамі ў прэзідэнты не могуць быць вылучаны грамадзяне, якія не могуць займаць пасады ў дзяржаўных органах у сувязі з наяўнасцю судзімасці.

## Прававая рэгламентацыя

Рэгістрацыя кандыдатаў у прэзідэнты ажыццяўляецца Цэнтральнай выбарчай камісіяй (ЦВК). Рашэнне аб рэгістрацыі кандыдатаў у прэзідэнты прымаецца пры наяўнасці наступных дакументаў, якія павінны паступіць у ЦВК да пачатку рэгістрацыі: пратаколаў абласных, Мінскай гарадской камісіі, якія пацвярджаюць наяўнасць не менш за 100 000 подпісаў у падтрымку вылучэння прэтэндэнта, заява прэтэндэнта аб згодзе балатавацца, а таксама яго біяграфічныя дадзеныя і дэкларацыя аб прыбытках і маёмасці.

У рэгістрацыі кандыдата можа быць адмоўлена ў наступных выпадках:

1) калі неадпаведнасць звестак, прадстаўленых у дэкларацыі аб прыбытках і маёмасці асобы, вылучанай кандыдатам у прэзідэнты, ці іншых блізкіх яго асобаў, пражываючых разам з ім (блізкіх сваякоў, мужа (жонкі)), мае істотны характар;

2) калі ў цэлым па краіне больш за 15% ад агульнай колькасці правераных подпісаў прызнаныя несапраўднымі;

3) пры парушэнні ініцыятыўнымі групамі па вылучэнні кандыдатаў у прэзідэнты патрабаванняў ч. 8 арт. 61, арт. 73 Выбарчага кодэкса (ВК): у выпадках удзелу адміністрацыі арганізацый у зборы подпісаў, а таксама прымусу пры зборы подпісаў ці ўзнагароджвання выбаршчыкаў пры зборы подпісаў; прыцягнення непасрэдных падначаленых ці асобаў, якія знаходзяцца ў іншай службовай залежнасці, для ажыццяўлення ў працоўны час дзейнасці, якая спрыяе вылучэнню.

Рашэнне ЦВК аб адмове ў рэгістрацыі кандыдата можа быць абскарджана ў Вярхоўны Суд у трохдзённы тэрмін з моманту яго вынясення. Вярхоўны Суд разглядае скаргу ў трохдзённы тэрмін, яго рашэнне з'яўляецца канчатковым.

Асноўныя змены ў ВК у частцы працэдуры рэгістрацыі кандыдатаў у прэзідэнты, у параўнанні з мінулымі выбарамі, датычыліся дэкларацыі аб прыбытках і маёмасці, якія прадстаўляюцца кандыдатамі ў ЦВК. Раней згодна з арт. 68 ВК у рэгістрацыі кандыдата ў прэзідэнты адмаўлялася пры прадстаўленні любых недакладных звестак у дакументах для рэгістрацыі ў ЦВК, у тым ліку біяграфічных. Згодна з новай рэдакцыяй арт. 68 ВК у рэгістрацыі адмаўляецца толькі пры прадастаўленні недакладных звестак у дэкларацыі аб прыбытках і маёмасці і пры ўмове, што гэтыя недакладнасці маюць істотны характар. Растлумачэнне таго, якія недахопы ў дэкларацыі могуць мець істотны характар аднесена да кампетэнцыі ЦВК[7].

Акрамя таго, падчас выбараў прэзідэнта ў 2001 і 2006 гадах пытанне прадстаўлення дэкларацый аб прыбытках і маёмасці прэтэндэнтамі і іншымі асобамі, якія з'яўляліся ягонымі (яе) сваякамі ці жонкай (мужам), рэгулявалася Дэкрэтам Прэзідэнта №20 ад 26 снежня 2001 года. Згодна з Дэкрэтам, такія дэкларацыі мусілі прадставіць не толькі прэтэндэнты, але і іхнія блізкія сваякі прычым незалежна ад месца іх пражывання ці знаходжання. Пасля ўнясення зменаў у арт.68 ВК такія дэкларацыі, акрамя самога кандыдата, прадстаўляюцца ягонымі паўнагадовымі сваякамі, мужам (жонкай), толькі пры ўмове, што яны сумесна пражываюць з кандыдатам і вядуць сумесную гаспадарку.

---

7 Згодна з пастановай ЦВК №83 ад 14 кастрычніка 2010 года, пад істотным характарам неадпаведнасці звестак разумеецца: дэклараванне ў меншым памеры агульнай сумы гадавога прыбытку, калі неадпаведнасць складае больш за 20% ад агульнай сумы гадавога прыбытку; адсутнасць звестак аб нерухомай маёмасці, якая належыць на праве ўласнасці (дом, кватэра, гараж, дача, пакой, зямельны ўчастак); адсутнасць звестак аб транспартных сродках, якія належаць на праве ўласнасці; адсутнасць звестак аб долі ў статутным фондзе юрыдычнай асобы; адсутнасць звестак аб каштоўных паперах

## 4.1. Рэгістрацыя ініцыятыўных груп

Згодна з заканадаўствам, асобы, якія маюць намер вылучыцца кандыдатам у прэзідэнты Рэспублікі Беларусь, павінны былі падаць у ЦВК заяву пра рэгістрацыю сваіх ініцыятыўных груп разам са спісамі сяброў гэтых груп не пазней за 85 дзён да выбараў, г. зн., не пазней за 24 верасня 2010 года. Ініцыятыўныя групы павінны быць колькасцю не менш за 100 чалавек кожная.

Падача адпаведных дакументаў адбывалася нераўнамерна па часе, большасць прэтэндэнтаў падалі свае заявы ў апошнія два дні прыёму дакументаў, пры гэтым у апошні дзень — 12 чалавек. Заявы падалі 19 чалавек (паводле чарговасці падачы дакументаў, у дужках пазначана колькасць сяброў ініцыятыўнай групы на момант падачы заявы):

1. Віктар Цярэшчанка, старшыня рады Асацыяцыі малога і сярэдняга прадпрымальніцтва (1 301);
2. Уладзімір Някляеў, лідар грамадзянскай кампаніі «Гавары праўду!» (2 575);
3. Уладзімір Правальскі, індывідуальны прадпрымальнік (202);
4. Наталля Старыкава, санітарка гразелячэбніцы прыватнага ўнітарнага прадпрыемства «Санаторый «Чонкі» (30);
5. Яраслаў Раманчук, намеснік старшыні Аб'яднанай грамадзянскай партыі (1 423);
6. Юрый Глушакоў, першы намеснік старшыні Беларускай партыі «Зялёныя» (244);
7. Сяргей Рыжоў, начальнік сектара знешнеэканамічнай дзейнасці Адкрытага акцыянернага таварыства «Віцебскі плодаагароднінны камбінат» (112);
8. Андрэй Саннікаў, лідар кампаніі «Еўрапейская Беларусь» (1 831);
9. Алесь Міхалевіч, старшыня аргкамітэта па стварэнні саюза «За мадэрнізацыю» (1 778);
10. Дзмітрый Ус, дырэктар Таварыства з дадатковай адказнасцю «Трывіум» (1 325);
11. Рыгор Кастусёў, намеснік старшыні Партыі БНФ (1 307);
12. Сяргей Гайдукевіч, лідар Ліберальна-дэмакратычнай партыі (10 483);
13. Віталь Рымашэўскі, сустаршыня аргкамітэта па стварэнні партыі «Беларуская хрысціянская дэмакратыя» (1 704);
14. Мікола Статкевіч, лідар аргкамітэту па стварэнні Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Народная Грамада) (1 517);
15. Ільля Дабратвор, беспрацоўны (1);
16. Сяргей Іваноў, часова не працуе (129);
17. Аляксандр Лукашэнка, дзеючы Прэзідэнт (8 403);
18. Іван Кулікоў, загадчык лабараторыі абсталявання ядзерных энергетычных установак Аб'яднанага інстытута энергетычных і ядзерных даследаванняў «Сосны» Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі (108);
19. Пётр Барысаў, пенсіянер (114).

Пры гэтым не ўсе патэнцыйныя кандыдаты выканалі норму, якая рэгламентуе колькасць сяброў ініцыятыўнай групы. Так, у складзе ініцыятыўнай групы Наталлі Старыкавай было ўсяго 30 чалавек, а ініцыятыўная група Ільі Дабратвора складалася толькі з яго самога. Відавочна, што рэгістрацыя такіх ініцыятыўных груп была немагчымая. Па словах І.Дабратвора, дакументы былі пададзены ім у знак пратэсту супраць таго, «што падаюць дакументы нейкія незразумелыя людзі — як, да прыкладу, тая санітарка». І.Дабратвор не разглядаў варыянта, што заява на рэгістрацыю ініцыятыўнай групы будзе задаволена.

Заявы на рэгістрацыю ініцыятыўных груп па вылучэнні асоб, якія выказалі намеры ўдзельнічаць у выбарах у якасці кандыдатаў, былі разгледжаныя ЦВК ва ўстаноўлены Каляндарным планам выбараў тэрмін. Ініцыятыўная група В.Цярэшчанкі была зарэгістравана 20 верасня, заявы пра рэгістрацыю ініцыятыўных груп астатніх прэтэндэнтаў на пасаду прэзідэнта — 27 верасня. ЦВК адмовіў у рэгістрацыі Н.Старыкавай і І.Дабратвору на падставе таго, што іх ініцыятыўныя групы налічваюць менш сяброў, чым таго патрабуе заканадаўства. Да таго ж, І.Дабратвор не меў 35 гадоў, што патрабуе норма Канстытуцыі. Такім чынам, усяго пасведчанні пра рэгістрацыю ініцыятыўных груп атрымалі 17 грамадзян.

Пры разглядзе спісаў асобных кандыдатаў ЦВК прадэманстравала выключную памяркоўнасць да недахопаў у пададзеных дакументах.

Працэс падачы ў ЦВК заяваў аб рэгістрацыі ініцыятыўных груп ад асоб, якія выказалі намер стаць кандыдатамі ў прэзідэнты, а таксама спісаў сяброў ініцыятыўных груп, адбыўся ў адпаведнасці з Выбарчым кодэксам, за адным выключэннем: дзеючы Прэзідэнт прадставіў неабходныя дакументы не асабіста, як таго патрабуе арт. 61 Кодэкса, а праз кіраўніка свайго выбарчага штаба, міністра адукацыі Аляксандра Радзькова, які таксама не быў заўважаны назіральнікамі ў ЦВК.

Інфармацыя пра тое, што дакументы А.Лукашэнкі пададзены, з'явілася на стужцы навін агенцтва БелТА ў 17.05 24 верасня, у апошні дзень падачы дакументаў. Пры гэтым, паводле афіцыйнай інфармацыі ЦВК, распаўсюджанай інфармацыйнымі агенцтвамі, на момант 16.45 А.Лукашэнка яшчэ не падаў дакументаў. Акрамя таго, журналісты і грамадскасць у перыяд з 16 да 18 гадзін, калі нават утварылася чарга з прэтэндэнтаў, паколькі абсалютная большасць з іх падавала дакументы ў апошні момант, не заўважылі А.Радзькова ні ў памяшканні ЦВК, ні каля яго будынку. Абодва моманты — падача дакументаў не асабіста А.Лукашэнкам і незаўважнасць падачы — выклікалі шэраг заканамерных пытанняў пра законнасць дзеянняў А.Лукашэнкі. Неўзабаве агенцтва БелаПАН распаўсюдзіла каментар сакратара ЦВК М.Лазавіка, які тлумачыў, што ў Радзькова «была афіцыйная даверанасць прэзідэнта на выкананне ўсіх натарыяльных дзеянняў... Лукашэнка як фізічная асоба можа выдаваць даверанасць, тут парушэнняў няма»[8]. Старшыня ЦВК Л.Ярмошына запэўніла, што А.Лукашэнка «скарыстаўся той формай, якая ў нас прымяняецца на выбарах. Ён даў даверанасць кіраўніку ініцыятыўнай групы на падачу дакументаў. На падставе гэтай даверанасці кіраўнік ініцыятыўнай групы падаў у ЦВК заяву кіраўніка дзяржавы, падаў таксама копію пашпарта і спіс ініцыятыўнай групы ў папяровым і электронным выглядзе — усё, як патрабуе пастанова», маючы на ўвазе Пастанову ЦВК № 46 ад 15 верасня 2010 года пра тлумачэнне арт. 61 Канстытуцыі. Паводле меркавання Л.Ярмошынай, выказанага ў інтэрв'ю «Еўрарадыё» «акалічнасці бываюць розныя, і практыка ў нас склалася так, што мы прадугледжваем падачу заявы не асабіста. Вось, да прыкладу, па даверанасці падаваліся дакументы на рэгістрацыю юнага Франака Вячоркі, паколькі ён служыў у арміі, праз начальніка турмы ў 2006 годзе перадаваў сваю заяву аб рэгістрацыі ініцыятыўнай групы Скрабец. Таму мы прадугледжваем такую магчымасць: калі асоба, якая збіраецца вылучацца, не можа альбо не хоча па якіх-небудзь абставінах (людзі хварэюць, едуць і гэтак далей), ён мае права даць даверанасць»[9]. Трэба адзначыць, што спасылка на рэгістрацыю ініцыятыўнай групы Ф.Вячоркі падчас мясцовых выбараў 2010 года з боку Л.Ярмошынай выглядае некарэктна, бо паводле арт. 65 Выбарчага кодэкса асоба, якая вылучаецца ў якасці кандыдата ў дэпутаты мясцовага Савета дэпутатаў, пры падачы спіса ініцыятыўнай групы не павінна прадстаўляць у адпаведную акруговую ці тэрытарыяльную камісію свой пашпарт. У той жа час арт. 61 Выбарчага кодэкса наўпрост утрымлівае патрабаванне аб тым, што пры падачы дакументаў у ЦВК асоба, якая мае намер вылучыцца кандыдатам у прэзідэнты, прад'яўляе пашпарт.

## 4.2. Збор подпісаў

Збор подпісаў адбываўся з 30 верасня па 29 кастрычніка ў адпаведнасці з Каляндарным планам выбарчых мерапрыемстваў.

### Прававая рэгламентацыя

Падпісацца ў падтрымку вылучэння прапаноўваемых асоб можа кожны, хто валодае выбарчым правам, г. зн. з'яўляецца грамадзянінам Беларусі, які дасягнуў 18 гадоў[10]. Выбаршчык мае права паставіць подпіс у падтрымку некалькіх кандыдатур, але толькі адзін раз у падтрымку адной і той жа кандыдатуры. Выбарчшык таксама мае права зняць свой подпіс з падпіснога ліста шляхам падачы заявы ў адпаведную выбарчую камісію.

У падпісным лісце ўказваюцца (рукапісным спосабам) прозвішча, імя і імя па бацьку, дата нараджэння, месца жыхарства, серыя і нумар пашпарта кожнага хто падпісаўся. Выбаршчык уласнаручна ставіць у падпісным лісце дату і подпіс.

Удзел адміністрацый арганізацый у зборы подпісаў, гэтак жа як і прымус у працэсе збору подпісаў і ўзнагарода выбаршчыкам за ўнясенне подпісаў, не дапускаецца. Прэтэндэнты на статус кандыдата ў прэзідэнты не маюць права прыцягваць асобаў, якія знаходзяцца ў іх падпарадкаванні ці іншай службовай залежнасці, для ажыццяўлення ў працоўны час дзейнасці, якая спрые вылучэнню. Парушэнне гэтых патрабаванняў можа стаць падставай для адмовы ў рэгістрацыі кандыдата ў прэзідэнты.

---

8 БелаПАН, 24 верасня 2010 года.

9 Еўрарадыё, 24 верасня 2010 года.

10 У выбарах не ўдзельнічаюць грамадзяне, прызнаныя судом недзеяздольнымі, асобы, якія ўтрымліваюцца па прысудзе суда ў месцах пазбаўлення волі, а таксама асобы, у адносінах да якіх мерай стрымання абрана ўтрыманне пад вартай.

Праверцы падлягаюць 20% подпісаў, здадзеных у адпаведную камісію ў падтрымку кожнага з прэтэндэнтаў. У выпадку, калі колькасць знойдзеных несапраўдных подпісаў складзе больш 15% ад колькасці правераных, праводзіцца дадатковая праверка яшчэ 15% подпісаў. У выпадку, калі сумарная колькасць несапраўдных подпісаў, выяўленых пры праверцы, складзе больш 15% ад колькасці правераных подпісаў, праверка спыняецца і ўсе подпісы выбаршчыкаў у здадзеных падпісных лістах не ўлічваюцца пры вызначэнні выніку збору подпісаў у раёне (горадзе, раёне ў горадзе).

Дадзеныя аб праверцы подпісаў і падпісныя лісты перадаюцца раённымі, гарадскімі, раённымі ў горадзе камісіямі ў абласныя, Мінскую гарадскую камісіі, якія таксама маюць права на працягу пяці дзён правесці праверку дакладнасці подпісаў. Абласныя і Мінская гарадская камісіі ўстанаўліваюць колькасць выбаршчыкаў, якія паставілі свае подпісы, і падводзяць вынікі па вобласці і г. Мінску, складаюць аб гэтым пратаколы і перадаюць іх у ЦВК.

У параўнанні з папярэднімі выбарамі Прэзідэнта, у Выбарчы кодэкс былі ўнесены станоўчыя змены, датычныя працэдуры збору і праверкі подпісаў, а менавіта:

1) у падпісным лісце павінны быць подпісы выбаршчыкаў, якія пражываюць на тэрыторыі аднаго горада абласнога падпарадкавання, раёна, а ў гарадах з раённым падзелам — аднаго раёна (а не аднаго населенага пункта, як у папярэдняй рэдакцыі ВК);

2) атрыманне дазволу на правядзенне пікетавання для збору подпісаў выбаршчыка не патрабуецца, калі яно праводзіцца ў месцах, не забароненых мясцовымі органамі ўлады;

3) падпісныя лісты завяраюцца сябрам ініцыятыўнай групы. Завярэнне падпісных лістоў пячаткамі кіраўнікоў мясцовых органаў улады, на тэрыторыі якіх ажыццяўляўся збор подпісаў, больш не патрабуецца;

4) калі ў падпісных лістах, якія паступілі ў раённую, гарадскую, раённую ў горадзе камісіі, утрымліваюцца подпісы выбаршчыкаў, якія пражываць на тэрыторыі розных раёнаў, гарадоў абласнога падпарадкавання, раёнаў у горадзе, праверцы і ўліку падлягаюць толькі подпісы, сабраныя на адпаведнай тэрыторыі. Астатнія подпісы не правяраюцца і не ўлічваюцца. У папярэдняй рэдакцыі ВК подпісы выбаршчыкаў, якія пражывалі не ў адным населеным пункце, прызнаваліся несапраўднымі.

Акрамя ВК, парадак збору подпісаў і праверкі іх сапраўднасці быў растлумачаны ў Метадычных рэкамендацыях «Арганізацыйна-прававыя пытанні падрыхтоўкі і правядзення выбараў», зацверджаных пастановай ЦВК №43 ад 15 верасня, а таксама ў дзвюх іншых яе пастановах (№47 ад 15 верасня і №96 ад 5 лістапада 2010 года). На думку экспертаў кампаніі «Праваабаронцы за свабодныя выбары», асобныя палажэнні гэтых тлумачэнняў не адпавядаюць арт. 61 Выбарчага кодэкса. Напрыклад, п. 6 пастановы ЦВК №47 прадугледжвае магчымасць запаўнення падпісных лістоў не толькі сябрамі ініцыятыўных груп і выбаршчыкамі, якія падпісваюцца, але і іншымі асобамі (па просьбе выбаршчыкаў) — пры тым, што арт. 61 ВК утрымлівае імператыўнае патрабаванне аб зборы подпісаў выключна сябрамі ініцыятыўных груп і не прадугледжвае дэлегаванне паўнамоцтваў сябра ініцыятыўнай групы трэцім асобам. Арт. 61 таксама абавязвае выбарчыя камісіі прызнаваць несапраўднымі ўсе подпісы выбаршчыкаў у падпісным лісце, калі яны былі сабраныя асобай, якая не з'яўляецца сябрам ініцыятыўнай групы. Акрамя таго, насуперак катэгарычнай забароне ўдзелу адміністрацый у зборы подпісаў, якая ўтрымліваецца ў арт. 61, ЦВК дазволіла ўдзел прадстаўнікоў адміністрацый арганізацый у зборы подпісаў у непрацоўны час (Метадычныя рэкамендацыі).

## Вызначэнне месцаў, забароненых для збору подпісаў

Згодна з арт. 61 Выбарчага кодэкса («збор подпісаў выбаршчыкаў можа ажыццяўляцца ў форме пікетавання. Атрыманне дазволу на правядзенне пікетавання для вышэйпамянёных мэтаў не патрабуецца, калі яно праводзіцца ў месцах, не забароненых мясцовымі выканаўчымі і распарадчымі органамі»), гарадскія і раённыя адміністрацыі вызначылі месцы, забароненыя для пікетавання з мэтай збору подпісаў выбаршчыкаў па вылучэнні кандыдатаў у прэзідэнты (у адпаведнасці з Каляндарным планам арганізацыйных мерапрыемстваў па падрыхтоўцы і правядзенні выбараў, гэта было зроблена да 24 верасня).

За выключэннем Мінска, дзе абмежаванні былі мінімальнымі, пад забарону трапілі: аб'екты аўтамабільнага, чыгуначнага і воднага транспарту; тэрыторыі, размешчаныя на адлегласці менш за 50-200 метраў ад падземных пешаходных пераходаў; памяшканні тэле- і радыёцэнтраў, мясцовых прадстаўнічых і выканаўчых органаў, судоў, пракуратуры; тэрыторыі арганізацый, якія забяспечваюць абараназдольнасць, бяспеку дзяржавы, а таксама жыццядзейнасць насельніцтва — грамадскі транспарт, вода-, цепла- і энергазабеспячэнне, бальніцы, паліклінікі, дзіцячыя да-

школьныя ўстановы, школы і гімназіі (Гомельскі, Гродзенскі і Магілёўскі гарвыканкамы); тэрыторыі ў радыусе 50 метраў ад цэнтральных гарадскіх плошчаў, прадпрыемстваў і ўстаноў, вакзалаў, адміністрацыйных будынкаў ды інш. (Пастаўскі і Крычаўскі райвыканкамы), ці ўвогуле ўсе месцы, «дзе функцыянаванне пікетаў будзе чыніць перашкоды дзейнасці прадпрыемстваў, арганізацый, устаноў ці мець небяспеку для жыцця і здароўя ўдзельнікаў пікетаў» (Мазырскі, Гомельскі, Кармянскі, Буда-Кашалёўскі, Чачэрскі, Жыткавіцкі, Петрыкаўскі і Брагінскі райвыканкамы). Апошняя фармулёўка давала амаль неабмежаваныя магчымасці для «законнай» забароны пікетаў па зборы подпісаў дзе заўгодна.

Пастановы выканкамаў па сваім змесце былі фактычна ідэнтычныя пастановам, якія прымаліся падчас правядзення мясцовых выбараў у красавіку 2010 года. Яны значна пагоршылі ўмовы збору подпісаў у параўнанні з выбарамі Прэзідэнта ў 2006 годзе, калі збор подпісаў шляхам пікетавання не быў заканадаўча ўрэгуляваны, і сябры ініцыятыўных груп, у прынцыпе, маглі збіраць подпісы дзе заўгодна.

Аднак у далейшым шмат якія выканкамы прынялі новыя (ці ўнеслі змены ў раней прынятыя) рашэнні па гэтым пытанні, што значна пашырыла магчымасці для збору подпісаў. Такія рашэнні, у прыватнасці, былі прынятыя ў Брэсце, Бярозе, Пінску (Брэсцкая вобл.), Баране (Аршанскі р-н Віцебскай вобл.), Салігорску (Мінская вобл.), Рэчыцы (Гомельская вобл.), а ў адпаведнае рашэнне Магілёўскага гарвыканкама былі ўнесеныя змены. Была пашырана колькасць месцаў, не забароненых для збору подпісаў ініцыятыўнымі групамі, выканкамамі Баранавічаў (Брэсцкая вобласць), Оршы, Паставаў, Расонаў (Віцебская вобласць), Гродна, Слуцка (Мінская вобласць) і інш. Гэтыя тэндэнцыі мелі станоўчы характар і былі скіраваныя на паляпшэнне ўмоваў для збору подпісаў ініцыятыўнымі групамі.

## Умовы збору подпісаў

Збор подпісаў шляхам пікетавання праходзіў без значных перашкодаў з боку ўладаў і ў адносна роўных умовах для ўсіх прэтэндэнтаў у кандыдаты. Па словах міністра ўнутраных спраў Анатоля Куляшова, супрацоўнікам МУС было рэкамендавана не перашкаджаць збору подпісаў, нават пры наяўнасці нязначанага парушэння закону. І ўсё ж зафіксаваны факты стварэння перашкодаў пры правядзенні пікетаў па зборы подпісаў з боку МУС.

2 кастрычніка баранавіцкая міліцыя разагнала пікет па зборы подпісаў у падтрымку прэтэндэнтаў у кандыдаты Рыгора Кастусёва і Яраслава Раманчука. Пікет на цэнтральным кірмашы праводзіў мясцовы прадпрымальнік Мікалай Чарнавус. Ён паспеў сабраць толькі 8 подпісаў, калі да яго падышлі супрацоўнікі міліцыі і сказалі, што ў гэтым месцы збіраць подпісы нельга і ва ўльтыматыўнай форме запатрабавалі пакінуць кірмаш. Мікалай Чарнавус спрабаваў патлумачыць, што згодна з рашэннем Баранавіцкага гарвыканкама збіраць на гэтым месцы подпісы дазваляецца, але супрацоўнікі міліцыі яго не слухалі і ў грубай форме ліквідавалі пікет. Аднак ужо на наступны дзень Мікалай Чарнавус змог аднавіць збор подпісаў на тым жа месцы, да яго таксама далучыўся Віктар Сырыца, які збіраў подпісы за Андрэя Саннікава і Мікалая Статкевіча. Міліцыя на гэты раз не ўмешвалася.

28 кастрычніка ў Салігорску супрацоўнікі патрульна-паставой службы затрымалі і даставілі ў мяцовы РАУС Андрэя Тычыну, сябра ініцыятыўнай групы Уладзіміра Някляева, які ладзіў пікет каля ўнівермагу «Салігорск». Незадаволенасць міліцыянтаў выклікалі сцяг і стэнд з эмблемамі кампаніі Уладзіміра Някляева. У пастарунку перад маладым чалавекам выбачыліся і адвезлі назад на месца пікетавання.

У Гродне 27 кастрычніка сябры ініцыятыўнай групы Уладзіміра Някляева Зміцер Бандарчук і Алег Калінкоў вывесілі расцяжку з партрэтам прэтэндэнта ў кандыдаты на старым мосце, дзе збіралі подпісы. Праз 15 хвілін да пікетоўшчыкаў пад'ехала 5 аўтамашын, у якіх былі супрацоўнікі міліцыі з аўтаматамі. Яны праверылі пасведчанні і доўга па тэлефонах раіліся з начальствам наконт сваіх далейшых дзеянняў. Урэшце да пікетоўшчыкаў прыехаў Уладзімір Хлябіч, старшыня Кастрычніцкай раённай камісіі Гродна. Ён зрабіў заўвагу зборшчыкам, што інфармацыйныя стэнды перашкаджаюць руху пешаходаў. Пікетоўшчыкі прыбралі ножкі стэндаў з тратуараў, пасля чаго працягнулі збор подпісаў.

Таксама мелі месца сітуацыі, калі супрацоўнікі міліцыі знаходзіліся непасрэдна на пікетах па зборы подпісаў за вылучэнне альтэрнатыўных кандыдатаў. 15 кастрычніка ў Лёзна Віцебскай вобласці пікеты па зборы подпісаў за Алеся Міхалевіча і Рыгора Кастусёва з усіх бакоў атачылі супрацоўнікі міліцыі з рацыямі, гучна перамаўляючыся, што тут «пікет за БНФ». 16-17 каст-

рычніка ў г. Ганцавічы (Брэсцкая вобласць) падчас збору подпісаў за вылучэнне У. Някляева міліцыянер і чалавек у цывільным назіралі за размовамі пікетоўшчыкаў з грамадзянамі, што не садзейнічала іх свабоднаму волевыяўленню. Сталічная міліцыя, па ацэнках назіральнікаў, ставілася да ўдзельнікаў пікетаў лаяльна. Што датычыць пікетаў па зборы подпісаў за А.Лукашэнку, то не зафіксавана перашкодаў іх працы з боку міліцыі.

У цэлым ініцыятыўныя групы ўсіх прэтэндэнтаў працавалі ў няроўных умовах у параўнанні з ініцыятыўнай групай дзеючага Прэзідэнта. Яе сябрам была прадастаўлена магчымасць збіраць подпісы ў тых месцах, дзе іншыя ініцыятыўныя групы такой магчымасці не мелі. Напрыклад, у той час, калі група А. Лукашэнкі свабодна збірала подпісы ў будынку Мінскага чыгуначнага вакзала, адміністрацыя апошняга не дазваляла рабіць гэта ніводнай з іншых ініцыятыўных груп. Гэтак жа немагчымы для ініцыятыўных груп быў збор подпісаў на тэрыторыі дзяржаўных прадпрыемстваў і ўстаноў, дзе, у той жа самы час, ішоў масавы збор подпісаў у падтрымку дзеючага Прэзідэнта. Па ўсёй краіне кіраўніцтва студэнцкіх і працоўных інтэрнатаў у абсалютнай большасці выпадкаў адмаўляла сябрам ініцыятыўных груп (акрамя групы А. Лукашэнкі) збіраць подпісы ў інтэрнатах, матывуючы гэта адсутнасцю адпаведнага дазволу з боку кіраўніцтва ўстановаў, у адміністрацыйным падпарадкаванні якіх гэтыя інтэрнаты знаходзяцца. У той жа час, у адпаведнасці з п. 9 пастановы ЦВК №47 ад 15 верасня 2010 года, пры зборы подпісаў выбаршчыкаў, якія пражываюць у інтэрнатах, сябры ініцыятыўных груп павінны выконваць толькі правілы ўнутранага распарадку інтэрната, які прадугледжвае парадак наведвання інтэрната асобамі, якія ў ім не пражываюць. Факты нядопуску сяброў інцыятыўных груп некаторых апазіцыйных кандыдатаў у інтэрнаты былі зафіксаваны ў Салігорску (Мінская вобл.), Полацку (Віцебская вобл.), Мінску (ініцыятыўная група У. Някляева) і Гомелі (ініцыятыўная група В. Рымашэўскага) і інш.

Так, 5-га кастрычніка Адрэй Тычына зайшоў у інтэрнат Салігорскага педагагічнага каледжа з мэтай збору подпісаў за вылучэнне кандыдатам у прэзідэнты Уладзіміра Някляева, аднак яго адмовіліся прапусціць, запатрабаваўшы дазвол кіраўніцтва з адміністрацыі каледжа. 7-га кастрычніка валанцёр звярнуўся па дазвол на пропуск у інтэрнат да намесніцы кіраўніка па выхаваўчай працы (па сумяшчальніцтве ідэалагічны работнік) каледжа Румянцавай Л. П., але ў просьбе яму адмовілі, спаслаўшыся на забарону збору подпісаў ва ўстановах адукацыі. Аналагічныя вусныя адмовы на збор подпісаў у інтэрнатах былі атрыманы 6-га і 7-га кастрычніка ад дырэктара Салігорскага прафесійна-тэхнічнага ліцэю №72 Піскунова Ю. М. і ад намесніцы дырэктара па выхаваўчай і ідэалагічнай працы Салігорскага горна-хімічнага каледжа Выляжанінай С. В.

23 кастрычніка Таццяну Тхарову, сябра ініцыятыўнай групы Віталя Рымашэўскага, вахцёр інтэрната ААТ «Брэсцкі завод бытавой хіміі» не пусціў у будынак для збору подпісаў. Пры гэтым вахцёр растлумачыў, што яму дадзена ўказанне: дазволіць сябрам ініцыятыўных груп наведваць інтэрнат з мэтай збору подпісаў па вылучэнні кандыдатаў толькі ў будния дні з 8.00 да 17.00 (г.з. у працоўны час). Па вечарах і ў выходныя дні гэта рабіць забаронена.

Агульнае кіраванне зборам подпісаў за дзеючага Прэзідэнта ажыццяўлялі выканкамы. Так, напрыклад, намеснік старшыні Слуцкага раённага выканаўчага камітэта па пытаннях сацыяльнай сферы і ідэалагічнай працы Пётр Даўгучыц прапанаваў толькі адну тэму для абмеркавання на нарадзе ідэалагічных працаўнікоў раёна — працэс збору подпісаў на прадпрыемствах за дзеючага Прэзідэнта. У г. Бабруйску на сход, які адбыўся ў адміністрацыі Першамайскага раёна, былі сабраныя настаўнікі школ раёна. Да кожнага быў даведзены «план» у 300 подпісаў за А. Лукашэнку. Падобны план быў даведзены і да настаўнікаў г. Баранавічы. 7 кастрычніка намесніца начальніка ўпраўлення адукацыі Баранавіцкага гарвыканкама Марыя Светлакова правяла тэрміновую нараду з настаўнікамі, якія ўваходзілі ў склад ініцыятыўнай групы А. Лукашэнкі, на якой яна ў катэгарычнай форме запатрабавала ад настаўнікаў сабраць як мінімум па 200 подпісаў за дзеючага Прэзідэнта.

Зафіксаваны факты збору подпісаў у падтрымку вылучэння А. Лукашэнкі ў памяшканнях грамадскіх прыёмных, створаных пры гарадскіх і раённых выканкамах з мэтай «паляпшэння якасці адукацыі, жыллёвай, сацыяльнай, спартыўнай, культурнай сфер жыцця грамадзян»[11]. Напрыклад, збор подпісаў вёўся ў грамадскай прыёмнай Чыгуначнага раёна г. Гомеля, якая знаходзілася ў Гомельскай абласной бібліятэцы. Менавіта ў кастрычніку рэжым працы многіх грамадскіх прыёмных быў пашыраны на выходныя дні з 11.00 да 15.00.

Пры зборы подпісаў у падтрымку Лукашэнкі масава выкарыстоўваўся адміністрацыйны рэсурс. Найбольш распаўсюджанымі яго формамі былі: удзел у зборы подпісаў адміністрацый дзяржаўных

11 http://www.gorod.gomel.by/Main.aspx

арганізацый і прадпрыемстваў, якія прымусова збіралі подпісы ў сваіх падначаленых; збор подпісаў сябрамі ініцыятыўнай групы Лукашэнкі ў іх працоўны час; збор подпісаў асобамі, якія не з'яўляліся сябрамі ініцыятыўнай групы Лукашэнкі (г. зв. «памочнікамі сябра ініцыятыўнай групы»).

Адказныя за ідэалагічную працу ва ўстановах і на прадпрыемствах і кіраўнікі ўпраўленняў адукацыі давалі падначаленым указанні аб тым, колькі подпісаў павінна быць сабрана, а таксама крытыкавалі за невыкананне заданняў. Планавыя лічбы складалі ад 16 да 500 подпісаў на кожнага настаўніка ці іншага работніка бюджэтнай сферы, задзейнічанага ў зборы подпісаў.

Тыповым прыкладам выкарыстання адміністрацыйнага рэсурсу стала арганізацыя збору подпісаў настаўнікамі Ленінскага р-на г. Мінска. З 14 кастрычніка на працягу двух тыдняў Упраўленне адукацыі адміністрацыі Ленінскага раёна г. Мінска забяспечвала ўдзел супрацоўнікаў устаноў адукацыі ў пікеце па зборы подпісаў у падтрымку Лукашэнкі на пляцоўцы каля рынка «Серабранка». Да кіраўнікоў школ і дзіцячых садкоў раёна быў даведзены графік удзелу ў пікеце, складзены, паводле кіраўніка аддзела ідэалагічнай і выхаваўчай працы згаданага Упраўлення Анжэлы Насковай, па рэкамендацыі і з удзелам прадстаўніка штаба Лукашэнкі. Пры гэтым Наскова сцвярджала, што падначаленыя ўпраўленню працоўныя калектывы і асобныя супрацоўнікі маглі адмовіцца ад удзелу ў пікеце.

Як і падчас выбарчай кампаніі 2006 года, ініцыятыўная група Лукашэнкі ладзіла прымусовы збор подпісаў у дзяржаўных установах і прадпрыемствах, асабліва ва ўстановах адукацыі і аховы здароўя, пры шырокім і непасрэдным удзеле адміністрацый, што забаронена заканадаўствам. Напрыклад, у сярэдняй школе № 12 г. Віцебска завуч «прапанавала» прыходзіць з пашпартамі, каб паставіць подпіс за дзеючага Прэзідэнта. У г. Гомелі Ларысай Шчыраковай зафіксаваны факт збору подпісаў сярод студэнтаў прарэктарам па выхаваўчай працы Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта транспарта і адначасова кіраўніком ініцыятыўнай групы А. Лукашэнкі па Чыгуначным р-не г. Гомеля Галінай Чаянковай. У Бабруйскай гарадской паліклініцы №7 збор подпісаў ажыццяўляўся падчас прыёму ў кабінеце флюараграфіі. Прычым, па сведчаннях жыхароў 6-га мікрараёна г. Бабруйска, гатовым падтрымаць А. Лукашэнку прапаноўвалася зрабіць флюараграфію па-за чаргой. Непасрэдна пасля ранішняга медагляду перад працоўнай зменай збірала подпісы кіроўцаў медработнік ВУ «Полацкгаз».

Распаўсюджаным з'яўляўся збор подпісаў сябрамі ініцыятыўнай групы А. Лукашэнкі ў працоўны час. У Гомельскім дзяржаўным універсітэце імя Ф. Скарыны подпісы збірала намеснік начальніка Упраўлення выхаваўчай работы з моладдзю Святлана Мілёхіна ў буднія дні з 8.00 да 18.00, па суботах — у першай палове дня. У г.п. Глуску (Магілёўская вобласць) сябра ініцыятыўнай групы А. Лукашэнкі, намеснік галоўнага ўрача раённай бальніцы А. Дзядзюля збіраў подпісы ў падтрымку дзеючага кіраўніка дзяржавы на працоўным месцы ў працоўны час.

Зафіксаваны выпадкі збору подпісаў без пашпартоў грамадзян, калі неабходныя звесткі заносіліся ў падпісныя лісты паводле інфармацыі аддзелаў кадраў прадпрыемстваў і ўстаноў. Так, кіраўніцтва прадпрыемства «Мастоўская райсельгастэхніка» (Гродзенская вобласць), збіраючы подпісы за вылучэнне А. Лукашэнкі ў працоўны час, папярэдне ўнясло ў падпісныя лісты звесткі супрацоўнікоў.

Подпісы ў падтрымку Лукашэнкі збіралі як сябры яго ініцыятыўнай групы, так і асобы, якія ў яе не ўваходзілі. Пры гэтым збор подпісаў у падтрымку Лукашэнкі асобамі, якія не з'яўляліся сябрамі яго ініцыятыўнай групы, меў месца не толькі ў памяшканнях дзяржаўных устаноў і прадпрыемстваў, а нават на вулічных пікетах.

Старшыня Бокшыцкага сельскага выканкама (Слуцкі раён, Мінская вобласць) Ганна Шахновіч, якая не з'яўлялася сябрам ініцыятыўнай групы А. Лукашэнкі, асабіста збірала подпісы ў яго падтрымку, аб'язджаючы некаторыя вёскі сельсавета. Не з'яўляючыся сябрам ініцыятыўнай групы А. Лукашэнкі, вахцёр інтэрната №3 у г. Слуцку, які належыць УП «Мінскаблсельбуд», патрабавала ад жыльцоў пакінуць подпісы ў падтрымку вылучэння Прэзідэнта.

У г. Мінску Мікіта Красноў зафіксаваў, што многія зборшчыкі подпісаў за А. Лукашэнку не з'яўляліся сябрамі ініцыятыўнай групы. З апытаных ім удзельнікаў шасці пікетаў па зборы подпісаў у чатырох людзі, што ўласнаручна запаўнялі падпісныя лісты, не мелі адпаведных пасведчанняў. Ва ўсіх выпадках пікеты стаялі ў цэнтры Мінска. Такая сітуацыя назіралася каля Дома мэблі побач са станцыяй метро «Якуба Коласа», на Нямізе каля аднайменнага гандлёвага дома, каля ГУМа і ў іншых месцах. Каля Дома мэблі да пікету пасля тэлефанавання зборшчыкаў подпісаў тэрмінова прыбыў Хмыль Аляксандр Аляксандравіч (паводле дадзеных ЦВК гэты чалавек сапраўды ўваходзіў у ініцыятыўную групу Аляксандра Лукашэнкі пад нумарам 8240). Побач з ГУМам на выклік людзей, што збіралі подпісы без пасведчанняў, з'явіўся Атаманаў Рыгор Пят-

ровіч (у спісе ініцыятыўнай групы ён аказаўся пад нумарам 8339). Пабачыўшы, як Красноў здымае мітусню зборшчыкаў подпісаў на мабільны тэлефон, Рыгор Атаманаў выбіў яго з рук маладога чалавека. Ён патлумачыў, што староннія людзі, якія не ўваходзяць у ініцыятыўную групу дзеючага прэзідэнта, проста запаўняюць падпісныя лісты, а ён сам асабіста потым іх падпісвае. Удзельнікі пікета каля Дома мэблі нават не хавалі, што большасць з іх — студэнты, якіх сагналі сюды на збор подпісаў і якія не маюць ніякага дачынення да ініцыятыўнай групы.

Па ўсёй краіне адміністрацыі прадпрыемстваў і ўстановаў у масавым парадку, пад пагрозай звальнення ці адлічэння, забаранялі падпісвацца і ўдзельнічаць у зборы подпісаў за каго-небудзь, акрамя дзеючага Прэзідэнта. Падобныя ўльтыматумы адкрытым тэкстам гучалі з вуснаў многіх кіраўнікоў. У шматлікіх выпадках, калі кіраўнікам станавілася вядома пра тое, што іх падначаленыя паставілі свой подпіс не за Лукашэнку, то гэтак жа ўльтыматыўна яны патрабавалі гэтыя подпісы адклікаць ці адмовіцца ад іх. Так, дырэктар Тэрытарыяльнага цэнтра сацыяльнага аблугоўвання насельніцтва г. Слуцка Ірына Пятровіч, якая да таго ж з'яўлялася сябрам Слуцкай раённай ВК, правяла нараду, на якой запатрабавала ад падначаленых падпісвацца толькі за А. Лукашэнку. Дырэктар Полацкай вячэрняй школы № 1 Васіль Булянкоў забараніў настаўнікам падпісвацца не за А. Лукашэнку пад пагрозай звальнення. У Баранавіцкім дзяржаўным універсітэце студэнцкая рада заявіла, што для ўсіх, хто падпісаўся за «не за таго» кандыдата, будуць знойдзены прычыны для выключэння з універсітэта. Забаранялі падпісвацца за каго-небудзь, акрамя дзеючага Прэзідэнта дырэктар Амговіцкай сярэдняй школы (Слуцкі р-н Мінскай вобл.) Тамара Жэнжэўская, загадчыцай ясляў-сада №76 г. Віцебска Вольга Бірукова і інш.

Назіральнікі адзначылі асобныя выпадкі ціску на сяброў ініцыятыўных груп у сувязі са здачай подпісаў. У Слуцкім р-не (Мінская вобл.) адзін з сяброў ініцыятыўнай групы У. Някляева не здаў у раённую выбарчую камісію ўжо запоўненыя ім падпісныя лісты з прычыны ціску на яго з боку дырэктара сярэдняй школы, у якой ён працуе настаўнікам. У Баранавічах (Брэсцкая вобл.) сябру ініцыятыўных груп Мікалая Статкевіча і Дзмітрыя Уса патэлефанавала невядомая асоба, якая прыгразіла, што ў выпадку, калі подпісы будуць здадзеныя, іх зборшчык не зможа спакойна жыць у краіне.

Мелі месца выпадкі адмовы з боку ТВК прымаць лісты з подпісамі, якія былі сабраныя не тымі асобамі, што здавалі лісты. Напрыклад, Свіслацкая раённая выбарчая камісія (Гродзенская вобл.) адмовілася прымаць подпісы ў падтрымку Рыгора Кастусёва ад сябра яго ініцыятыўнай групы Анатоля Валюка, матывуючы адмову тым, што ён прынёс не толькі свае подпісы. Подпісы былі прынятыя толькі пасля звароту А. Валюка у ЦВК.

Парадак прыёму падпісных лістоў тэрытарыяльнымі камісіямі рэгулююць метадычныя рэкамендацыі Цэнтрвыбаркама[12], згодна з якімі ў журнале ўваходных дакументаў фіксуецца толькі колькасць падпісных лістоў, а не колькасць подпісаў: «пералік колькасці зданых падпісных лістоў робіцца адным з сяброў камісіі да ўнясення запісу ў журнал уваходных дакументаў. Выдача даведак аб прыёме падпісных лістоў Выбарчым кодэксам не прадугледжана». Такім чынам, дзеючая працэдура не выключала магчымасці маніпуляцый з колькасцю здадзеных подпісаў.

## Працэдура праверкі сапраўднасці подпісаў

Праверка сапраўднасці подпісаў выбаршчыкаў у падпісных лістах праводзілася ТВК на працягу дзесяці дзён з моманту заканчэння збору подпісаў, з 5 па 15 лістапада.

На пачатку праверкі старшыня ЦВК Лідзія Ярмошына публічна выказала сумненні ў адпаведнасці многіх падпісных лістоў нормам выбарчага заканадаўства: «Занадта шмат памылак кідаецца ў вочы <...> Ёсць больш тонкія падробкі, калі частка тытульная зроблена рукапісна. А ёсць грубая падробка, дзе ўсё скапіявана. Частка лістоў пойдзе на экспертызу»[13]. Аднак напрыканцы этапу праверкі Л. Ярмошына паведаміла, што 10 з 11 прэтэндэнтаў маюць «рэальныя шанцы быць зарэгістраванымі ў якасці кандыдатаў»[14]. Сакратар Цэнтрвыбаркама Мікалай Лазавік адзначаў: «некаторыя з патэнцыйных кандыдатаў па-свойму зразумелі ліберальны падыход Цэнтрвыбаркама да працэсу збору подпісаў. Ёсць верагоднасць, што некаторыя для пераадолення жаданай мяжы ў 100 тысяч выкарысталі розныя базы дадзеных аб насельніцтве

12 Методические рекомендации. Организационно-правовые вопросы подготовки и проведения выборов Президента Республики Беларусь в 2010 году (постановление Центральной комиссии Республики Беларусь по выборам и проведению республиканских референдумов № 43 от 15 верасня 2010 года).

13 http://kp.by/daily/24584.5/754378/

14 БелТА 15.11.2010

Беларусі для запаўнення падпісных лістоў»[15]. Аднак пазней ён заявіў, што «жорсткі падыход да этапу рэгістрацыі», характэрны для мінулых выбарчых кампаній, у сёлетняй кампаніі прымяняцца не будзе[16].

Сапраўды, толькі ў некалькіх раённых выбарчых камісіях усе подпісы за асобных прэтэндэнтаў былі скасаваны. Напрыклад, на пасяджэнні Салігорскай ТВК 8 лістапада былі агучаны дадзеныя, паводле якіх подпісы толькі за 5 з 9 прэтэндэнтаў былі прызнаны сапраўднымі. Пасля дзвюх праверак 18,9% правераных подпісаў за Алеся Міхалевіча былі прызнаны несапраўднымі; 16% — за Уладзіміра Някляева; больш за 20% — за Андрэя Саннікава; больш за 15% — Дзмітрыя Уса, што азначала скасаванне ўсіх подпісаў, сабраных за пералічаных прэтэндэнтаў на тэрыторыі Салігорскай ТВК.

Зафіксаваны выпадкі, калі подпісы спачатку прызнаваліся несапраўднымі, але праз нейкі час рашэнне мянялася. Так, 9 лістапада прадстаўнікоў ініцыятыўнай групы Андрэя Саннікава выклікалі ў выбарчую камісію Ленінскага раёна г.Брэста, паведаміўшы, што ў падпісных лістах за гэтага вылучэнца колькасць парушэнняў перавышае ўсталяваны ліміт. Аднак праз пэўны час выбарчая камісія адмовілася ад анулявання ўсіх подпісаў, сабраных за гэтага прэтэндэнта ў кандыдаты.

На тое, што невядома як адбывалася праверка і падлік колькасці сабраных подпісаў у ТВК Фрунзенскага і Цэнтральнага раёна сталіцы, звярнулі ўвагу сябры Мінскай гарадской камісіі Галіна Сямдзянава, Юрый Хадыка і Аляксей Сігаеў. Яны ўказалі іншым сябрам Мінскай гарадской камісіі аб тым, што ў гэтых камісіях акты аб колькасці подпісаў, якія не падлягаюць праверцы, былі складзеныя не па форме, зацверджанай ЦВК. Было таксама адзначана, што дакументы аб праверцы подпісаў раённымі камісіямі, перададзеныя ў гарадскую камісію, прымалі толькі намеснік яе старшыні і прадстаўніца Мінгарвыканкама Т.Жданові, якая сябрам камісіі не з'яўлялася. Месца, у якім яны знаходзіліся, Галіне Сямдзянавай не паведамілі, і ёй удалося трапіць на прыём подпісаў толькі пасля тэлефанавання старшыні гарадской камісіі і ў ЦВК. У выніку аказалася, што ў кожнага кандыдата была пазначаная колькасць подпісаў, меншая за здадзеную. Дадзеныя раённыя камісіі былі вымушаныя перарабляць акты і пратаколы, а гарадская камісія пераносіць сваё пасяджэнне. Галіна Сямдзянава выказала ўпэўненасць, што гарадская камісія фармальна падышла да праверкі: не вызначыла, якую колькасць подпісаў павінна праверыць і засведчыць іх сапраўднасць. Па яе словах, праверка подпісаў у раённых камісіях праводзілася без адзінага падыходу да прэтэндэнтаў, без уліку роўнасці прэтэндэнтаў перад законам. Не правяралася выкарыстанне адміністрацыйнага рэсурса і выкарыстанне ксеракопій замест арыгіналаў. Не ўлічваліся выпадкі, калі збор подпісаў праводзіўся не сябрамі ініцыятыўных груп. У сувязі з тым, што сябры Мінскай гарадской камісіі Г. Сямдзянава, Ю. Хадыка і А. Сігаеў не змаглі пацвердзіць сапраўднасць лічбаў, прадстаўленых раённымі выбарчымі камісіямі, яны адмовіліся падпісаць адпаведныя пратаколы Мінскай гарадской выбарчай камісіі. Акрамя таго, Г. Сямдзянава далучыла да дадзеных пратаколаў асаблівае меркаванне сябра выбарчай камісіі.

Падчас прадастаўлення ў ЦВК дакументаў, неабходных для рэгістрацыі кандыдатам у прэзідэнты, адбыўся інцыдэнт з подпісамі ў падтрымку У. Някляева. 1 лістапада старшыня ЦВК Л. Ярмошына паведаміла, што за Някляева здадзены 161 824 подпісы, а ўжо 3 лістапада яна агучыла новую лічбу — 193 829 подпісаў. Гэтая, паводле афіцыйнай версіі, тэхнічная памылка (у графе «Віцебская вобласць» застаўся прабел) выявіла істотны недахоп працэдуры праверкі подпісаў. Адсутнасць афіцыйных дадзеных з тэрытарыяльных выбарчых камісій аб колькасці атрыманых імі подпісаў сур'ёзна знізіла ўзровень даверу да выніковых лічбаў, агучаных ЦВК[17].

Выбарчыя камісіі не дазволілі назіральнікам прысутнічаць пры праверцы сапраўднасці подпісаў, матывуючы гэта тым, што згодна з Выбарчым кодэксам назіральнікі маюць права прысутнічаць толькі на пасяджэннях камісій, тады як праверка адбываецца па-за пасяджэннямі. Напрыклад, назіральнікі не змаглі прысутнічаць пры праверцы сапраўднасці подпісаў ні ў адной з выбарчых камісій Гродзенскай вобласці. Нягледзячы на неаднаразавыя афіцыйныя звароты ў Салігорскую раённую выбарчую камісію (Мінская вобл.), назіральніка Леаніда Мархотку і сяброў ініцыятыўнай групы У. Някляева не дапусцілі назіраць за праверкай подпісаў. Л. Мархотка змог прысутнічаць толькі на выніковым пасяджэнні камісіі. Яму было таксама адмоўлена ў прадстаўленні матэрыялаў праверкі падпісных лістоў.

У якасці тыповай адмовы ў магчымасці назіраць за праверкай сапраўднасці подпісаў можна прывесці словы старшыні Бярозаўскай раённай выбарчай камісіі (Брэсцкая вобл.) Аляксандра Не-

15 www.belta.by.

16 БелаПАН 14.11.2010.

17 Сведения о количестве подписей избирателей в подписных листах, сданных в территориальные комиссии членами инициативных групп по выдвижению кандидатов в Президенты Республики Беларусь. http://www.rec.gov.by/elect/indexprb.html#prb2010mess.

ліповіча, які спаслаўся на арт. 13 ВК: «Вы, як зарэгістраваны назіральнік у раённай выбарчай камісіі, маеце права прысутнічаць на пасяджэннях камісіі. Праверка подпісаў па вылучэнні кандыдатаў у прэзідэнты Рэспублікі Беларусь <...> з'яўляецца рабочым момантам камісіі. Матэрыялы праверкі сапраўднасці подпісаў выбаршчыкаў у падпісных лістах разглядаюцца на пасяджэнні раённай камісіі». Аналагічна матываваў адмову назіральнікам у магчымасці прысутнічаць пры праверцы сапраўднасці подпісаў старшыня Барысаўскай ТВК Васіль Баранннік: «артыкулам 13 Выбарчага кодэкса Рэспублікі Беларусь не прадугледжана права назіральнікаў назіраць за працэдурай праверкі сапраўднасці подпісаў выбаршчыкаў у падпісных лістах, здадзеных сябрамі ініцыятыўных груп». ТВК Ленінскага раёна г. Гродна і ТВК Гродзенскага раёна таксама адмовілі назіральнікам, адзначыўшы, што «ўдзел назіральнікаў у праверцы сябрамі раённай камісіі сапраўднасці подпісаў выбаршчыкаў у падпісных лістах заканадаўствам не прадугледжаны».

Пры гэтым трэба адзначыць, што арт. 13 ВК утрымлівае вычарпальны пералік абмежаванняў правоў назіральніка. Забароны на ажыццяўленне назірання пры працэдуры праверкі подпісаў у тэрытарыяльных камісіях дадзены артыкул не ўтрымлівае. Пры ажыццяўленні назірання ўдзельнікі кампаніі «Праваабаронцы за свабодныя выбары» зыходзілі з прынцыпу транспарэнтнасці ўсіх этапаў выбарчай кампаніі, у тым ліку і працэдуры праверкі подпісаў, якая ўсталявана ВК. У выніку адсутнасць адкрытасці пры праверцы сапраўднасці подпісаў дала сур'ёзныя падставы для сумненняў у аб'ектыўнасці яе вынікаў.

Найбольш закрытым для назірання быў адбор падпісных лістоў для выбарачнай праверкі. Напрыклад, у Мазырскай раённай выбарчай камісіі (Гомельская вобл.) 20% подпісаў былі загадзя адабраныя сакратарам і перададзены сябрам камісіі для праверкі ў асобным кабінеце без удзелу назіральніка.

У той жа самы час, у асобных выпадках, чаго не фіксавалася падчас ранейшых выбарчых кампаній, назіральнікі маглі бачыць некаторыя дзеянні камісій па праверцы сапраўднасці подпісаў. Напрыклад, працэс выбаркі лістоў для праверкі ў Першамайскай раённай выбарчай камісіі г. Мінска назіральнік бачыць не мог, але атрымаў магчымасць назіраць за выбракоўваннем лістоў, выбарачнымі тэлефанаваннямі выбаршчыкам, напісаннем заяў выбаршчыкамі, за якіх паставілі подпісы, складаннем актаў праверкі ды інш.

## 4.3. Сыход з выбарчай гонкі прэтэндэнтаў у кандыдаты

З 17 прэтэндэнтаў у кандыдаты, якія зарэгістравалі ініцыятыўныя групы, 6 прэтэндэнтаў вырашылі добраахвотна спыніць свой удзел у выбарах.

Першым — 7 кастрычніка — зняўся з перадвыбарчай гонкі П. Барысаў, заявіўшы, што, падзяляючы каштоўнасці і ідэі хрысціянскай дэмакратыі, робіць гэта на карысць В. Рымашэўскага.

8 кастрычніка заявіў пра сваё зняцце, падаўшы адпаведную заяву ў ЦВК, С. Гайдукевіч, кандыдат у прэзідэнты на выбарах 2001 і 2006 гадоў. Сваё рашэнне С. Гайдукевіч патлумачыў тым, што «выбары ў Беларусі — гэта спектакль, вынікі якога ўжо даўно ўсім вядомыя».

21 кастрычніка адмовіўся ад далейшага ўдзелу ў выбарчай кампаніі С. Рыжоў, назваўшы адной з прычын ціск уладаў на асобных сяброў яго ініцыятыўнай групы[18].

Напярэдадні заканчэння тэрміну падачы сабраных подпісаў ад удзелу ў выбарчай кампаніі адмовіўся Ю. Глушакоў (з-за немагчымасці збору 100 000 подпісаў), а ўжо пасля заканчэння гэтага тэрміна — С. Іваноў і І. Кулікоў.

У выніку адзінаццаць прэтэндэнтаў заявілі аб здачы неабходных 100 000 подпісаў на праверку ў тэрытарыяльныя выбарчыя камісіі: Р. Кастусёў, А. Лукашэнка, А. Міхалевіч, У. Някляеў, У. Правальскі, Я. Раманчук, В. Рымашэўскі, А. Саннікаў, М. Статкевіч, Дз. Ус, В. Цярэшчанка.

## 4.4. Пасяджэнне ЦВК па рэгістрацыі кандыдатаў у прэзідэнты

18 лістапада 2010 адбылося пасяджэнне ЦВК, прысвечанае рэгістрацыі кандыдатаў у прэзідэнты. У пасяджэнні прынялі ўдзел усе 12 сяброў ЦВК, а таксама асобы, вылучаныя кандыдатамі ў прэзідэнты, іх давераныя асобы, назіральнікі і журналісты.

Дакладчыкам па пытанні ўстанаўлення колькасці выбаршчыкаў, якія падалі подпісы за асобаў, якія вылучаюцца кандыдатамі ў прэзідэнты, выступіў сакратар ЦВК Мікалай Лазавік. Ён заявіў, што падчас дадзенай выбарчай кампаніі былі створаны ўсе неабходныя ўмовы для бес-

18 Варта дадаць, што ў далейшым С. Рыжоў быў звольнены з працы нібыта за прагул.

перашкоднага збору подпісаў. Па яго словах, супрацоўнікі праваахоўных органаў праяўлялі памяркоўнасць пры правядзенні пікетаў, якія ў некаторых выпадках мелі прыкметы агітацыйных мерапрыемстваў. М. Лазавік падкрэсліў, што свабоднае і дэмакратычнае правядзенне этапу збору подпісаў дазволіла асобам, якія вылучаюцца кандыдатамі ў прэзідэнты, сабраць неабходную колькасць подпісаў. Трэба адзначыць, што дадзеныя, абвешчаныя М. Лазавікам, нязначна разышліся з ранейшымі звесткамі ЦВК[19] аб колькасці здадзеных подпісаў:

| Асоба, вылучаная кандыдатам у прэзідэнты | Колькасць здадзеных подпісаў | | Колькасць подпісаў, прызнаных сапраўднымі (агучана на пасяджэнні) |
|---|---|---|---|
| | Па папярэдніх звестках ЦВК | Агучана на пасяджэнні | |
| Рыгор Кастусёў | 107 083 | 107 085 | 100 870 |
| Аляксандр Лукашэнка | 1 113 014 | 1 113 938 | 1 110 000 |
| Алесь Міхалевіч | 120 531 | 120 554 | 111 699 |
| Уладзімір Някляеў | 193 829 | 194 953 | 180 073 |
| Яраслаў Раманчук | 128 699 | 127 229 | 123 206 |
| Віталь Рымашэўскі | 105 318 | 107 493 | 102 817 |
| Андрэй Саннікаў | 150 168 | 151 558 | 142 023 |
| Мікалай Статкевіч | 117 989 | 116 408 | 111 159 |
| Дзмітрый Ус | 110 753 | 109 091 | 104 102 |
| Віктар Цярэшчанка | 122 520 | 123 885 | 109 012 |

М. Лазавік падкрэсліў, што асноўныя парушэнні, дапушчаныя сябрамі ініцыятыўных груп, якія прывялі да прызнання часткі подпісаў несапраўднымі, былі: подпісы ад імя розных асоб, зробленыя адной асобай, подпісы асоб, якія не валодаюць выбарчым правам, прадстаўленне ў падпісных лістах недакладных дадзеных аб выбаршчыках, падпісныя лісты, не завераныя сябрамі ініцыятыўных груп. Толькі адзін прэтэндэнт не меў ніякіх заўвагаў з боку ЦВК — Аляксандр Лукашэнка (1 100 000 подпісаў).

У прэтэндэнта Уладзіміра Правальскага па выніках праверкі сапраўднымі былі прызнаны толькі 118 подпісаў, сабраных у Наваполацкім і Віцебскім р-нах (Віцебская вобл.) і ў г. Віцебску. Пры гэтым ініцыятыўная група У. Правальскага здала 6 798 падпісных лістоў, завераных трыма сябрамі яго ініцыятыўнай групы. Пры праверцы сапраўднасці подпісаў у сяброў тэрытарыяльных выбарчых камісій узніклі сумненні ў сапраўднасці падпісных лістоў. У сувязі з гэтым дадзеныя падпісныя лісты былі перададзеныя ва ўпраўленне ўнутраных спраў г. Віцебска з запытам наконт арыгінальнасці лістоў. Пасля адпаведнай праверкі экспертна-крыміналістычным цэнтрам усе падпісныя лісты, здадзеныя на экспертызу, былі прызнаныя копіямі. Па дадзеным факце Першамайская раённая выбарчая камісія г. Віцебска накіравала матэрыялы ў пракуратуру з просьбай даць прававую ацэнку дадзеным фактам. У выніку ЦВК прыняла аднагалоснае рашэнне аб адмове ў рэгістрацыі кандыдатам у прэзідэнты У. Правальскага.

Заўвагі да астатніх 9 прэтэндэнтаў, якія здалі больш за 100 000 подпісаў — Рыгора Кастусёва, Аляксея Міхалевіча, Уладзіміра Някляева, Яраслава Раманчука, Віталя Рымашэўскага, Андрэя Саннікава, Мікалая Статкевіча, Дзмітрыя Уса і Віктара Цярэшчанкі — тычыліся як парушэнняў пры зборы подпісаў, так і неадпаведнасці звестак аб маёмасці і прыбытках. ЦВК палічыла гэтыя парушэнні не перашкаджаючымі рэгістрацыі і зарэгістравала іх кандыдатамі ў прэзідэнты.

* * *

У цэлым, збор подпісаў і рэгістрацыя кандыдатаў адбываліся без значных абмежаванняў. У той жа час закрытасць працэдуры праверкі сапраўднасці подпісаў, а таксама дакументаў, пададзеных для рэгістрацыі кандыдатаў, не выключае маніпуляцыяў з боку выбарчых камісій і дае падставы разглядаць вынік рэгістрацыі хутчэй як палітычна матываваны, а не юрыдычна абгрунтаваны.

---

19 http://www.rec.gov.by/pdf/prb2010/sved9.pdf

# 5. Спісы выбаршчыкаў

Права абіраць маюць грамадзяне Беларусі, якія дасягнулі 18 гадоў. У выбарах не ўдзельнічаюць грамадзяне, якія былі прызнаны судом недзеяздольнымі, асобы, якія ўтрымліваюцца згодна з прысудам суда ў месцах пазбаўлення волі, а таксама асобы, у дачыненні да якіх, згодна з крымінальна-працэсуальным заканадаўствам, абраная мера стрымання — утрыманне пад вартай.

Улік выбаршчыкаў забяспечваюць выканаўчыя камітэты і мясцовыя адміністрацыі, якія перадаюць спісы грамадзян Рэспублікі Беларусь, якія пражываюць на тэрыторыі адпаведных участкаў для галасавання і маюць права ўдзельнічаць у выбарах, адпаведным участковым камісіям. Такім чынам, цэнтралізаванага спіса выбаршчыкаў у краіне няма — яны складаюцца на кожным выбарчым участку асобна. Удакладненне спісаў выбаршчыкаў па кожным участку для галасавання, а таксама азнаямленне з імі выбаршчыкаў ускладзена на ўчастковыя выбарчыя камісіі (арт. 44 Выбарчага кодэкса).

Спісы выбаршчыкаў знаходзяцца выключна ў сяброў УВК і не вывешваюцца на тэрыторыі ўчастка для галасавання. Згодна з арт. 21 ВК, кожны грамадзянін мае права праверыць, ці ўключаны ён у спіс выбаршчыкаў і ці правільна ўказаныя яго дадзеныя. Змены ў спісы выбаршчыкаў могуць уносіцца УВК фактычна да пачатку падліку галасоў, у сувязі з гэтым канчатковая колькасць выбаршчыкаў, зарэгістраваных на ўчастку для галасавання, становіцца вядомай толькі з выніковага пратакола — пасля заканчэння галасавання.

Дадзеныя прававыя нормы на практыцы фактычна пазбаўлялі назіральнікаў магчымасці азнаямлення са спісамі выбаршчыкаў. Больш за тое, у некаторых выпадках гэта прыводзіла да немагчымасці праверкі адпаведнасці патрабаванням Выбарчага кодэкса фармавання саміх участкаў для галасавання ў частцы выканання рэгламентацыі па колькасці выбаршчыкаў — у частцы 2 артыкула 17 Выбарчага кодэкса замацавана, што ўчасткі для галасавання ўтвараюцца з колькасцю не менш за 20 і не больш за 3000 выбаршчыкаў. Так, калі ў большасці рэгіёнаў пры фармаванні выбарчых участкаў былі апублікаваны іх межы і колькасць выбаршчыкаў, то ў частцы рэгіёнаў інфармацыя пра колькасць выбаршчыкаў на адпаведных участках не была абнародавана, а спробы назіральнікаў высветліць гэтыя дадзеныя аказваліся беспаспяховымі. Напрыклад, 15 кастрычнік 2010 года Салігорскім раённы выканаўчы камітэт прыняў рашэнне № 1933 «Аб стварэнні ўчасткаў для галасавання па правядзенні выбараў прэзідэнта Рэспублікі Беларусь на тэрыторыі Салігорскага раёна», якое было размешчана на афіцыйным сайце райвыканкама, а таксама апублікавана ў газеце «Шахцёр». Дадзеным рашэннем на тэрыторыі Салігорскага раёна было створана 68 участкаў для галасавання, аднак у рашэнні выканкама колькасць выбаршчыкаў на ўчастках не была ўказана. Такім чынам, аказалася немагчымым вызначыць, ці адпавядаюць створаныя ўчасткі патрабаванням артыкула 17 Выбарчага кодэкса. Таму, каб спраўдзіць адпаведнасць рашэння №1933 Салігорскага райвыканкама артыкула 17 Выбарчага кодэкса, назіральнікам Л.Мархоткам была накіравана просьба ў выканаўчы камітэт аб прадастаўленні яму дадзеных аб колькасці выбаршчыкаў на ўчастках для галасавання Салігорскага раёна ў пісьмовай форме. У адказ прыйшла адпіска: «Паведамляем, што рашэнне Салігорскага раённага выканаўчага камітэта №1933... прынятая ў адпаведнасці з нормамі Выбарчага кодэкса Рэспублікі Беларусь». Пры гэтым дадзеныя пра колькасць выбаршчыкаў на ўчастках так і не былі агучаны.

У многіх выпадках праўдзівая інфармацыя пра колькасць выбаршчыкаў у спісах не даводзілася нават да сяброў участковых выбарчых камісій, асабліва калі ў складзе УВК былі вылучэнцы ад апазіцыйных палітычных партый і незалежных няўрадавых арганізацый. На гэта звярнула ўвагу ў сваім «асаблівым меркаванні» сябра Мінскай гарадской выбарчай камісіі Галіна Сямдзянава, адмовіўшыся падпісаць выніковы пратакол па выніках выбараў у Мінску: «Зверыўшы спісы выбаршчыкаў і перадаўшы гэтыя звесткі ў камісіі, гэтыя сябры камісіі, як правіла, больш не мелі доступа да спісаў грамадзян, унесеных для галасавання на ўчастках. Пры гэтым на ўчастках №67 Савецкага раёна і №№33,86 Заводскага раёна сябры камісій ад апазіцыйных партый адзначалі, што ў спісах знаходзяцца людзі, якія памерлі 5-7 гадоў таму, і не ўключаныя ў спісы тыя, якім 18 гадоў споўнілася 5-6 гадоў таму». Паказальны прыклад падыходу камісій да вывярэння спісаў выбаршчыкаў прыводзіць у сваёй «асаблівай думцы» яшчэ адзін сябра Мінскай гарадской камісіі Аляксей Сігаеў: «Прапушчаны 2 дамы на 18 кватэр (46 выбаршчыкаў) па адрасе: вул. Адэская, дамы № 38, 40 участковай камісіяй №36 Заводскага раёна». Ён таксама ўказаў факты, калі грамадзяне ўключаліся ў спісы адразу на некалькіх участках.

Нетранспарэнтнасць і немагчымасць грамадскага кантролю за фармаваннем спісаў выбаршчыкаў стварала магчымасці для маніпуляцый як з самімі спісамі, так і з агульнай колькасцю зарэгістраваных выбаршчыкаў.

Згодна з перапісам насельніцтва кастрычніка 2009 года, насельніцтва Беларусі складала 9 503 807 чалавек, у тым ліку насельніцтва ва ўзросце больш за 18 гадоў — 7 609 438 чалавек. Калі ад гэтай колькасці адняць грамадзянаў Беларусі ва ўзросце больш за 18 гадоў, пазбаўленых выбарчага права і замежнікаў, якія стала пражывалі на тэрыторыі Беларусі ці находзіліся на яе тэрыторыі часова, то атрымліваецца, што ў кастрычніку 2009 года на тэрыторыі Беларусі пражывалі 7,4-7,45 мільёнаў чалавек, што валодаюць выбарчым правам. У перыяд з кастрычніка 2009 па снежань 2010 года колькасць гэтых асобаў нязначна зменшылася ў сувязі з агульным скарачэннем насельніцтва краіны. У той жа час Цэнтральная камісія ў звестках пра вынікі галасавання на выбарах прэзідэнта прыводзіць іншую, больш нізкую лічбу колькасці выбаршчыкаў у краіне — 7 105 660, што можа азначаць, што 300-350 000 тысяч жыхароў Беларусі, якія валодаюць выбарчым правам, не былі ўнесены ў спісы выбаршчыкаў.

# 6. Перадвыбарчая агітацыя

## Прававая рэгламентацыя

Згодна з арт. 45 Выбарчага кодэкса, грамадзянам Рэспублікі Беларусь, палітычным партыям, іншым грамадскім аб'яднанням, працоўным калектывам, давераным асобам кандыдатаў у прэзідэнты, ініцыятыўным групам, якія праводзяць агітацыю за абранне кандыдатаў у прэзідэнты прадстаўляецца права свабоднага і ўсебаковага абмеркавання перадвыбарчых праграм кандыдатаў, іх палітычных, дзелавых і асабістых якасцяў, правядзення агітацыі за ці супраць кандыдата на сходах, мітынгах, у сродках масавай інфармацыі, а таксама падчас сустрэч з выбаршчыкамі.

Замежныя грамадзяне і асобы без грамадзянства не маюць права прымаць удзелу ў агітацыі.

Артыкул 47 ВК утрымлівае палажэнні, звязаныя з недапушчальнасцю злоўжывання правам на правядзенне перадвыбарчай агітацыі. Так, у ім гаворыцца, што агітацыйныя перадвыбарчыя матэрыялы, выступы на сходах, мітынгах, у друку, па тэлебачанні, радыё не павінны ўтрымліваць прапаганды вайны, заклікаў да гвалтоўнага змянення канстытуцыйнага ладу, парушэння тэрытарыяльнай цэласнасці Рэспублікі Беларусь, зняваг і паклёпу ў адносінах да службовых асоб Рэспублікі Беларусь, кандыдатаў у прэзідэнты. Забаронены агітацыя ці прапаганда сацыяльнай, расавай, нацыянальнай, рэлігійнай ці моўнай перавагі, выпуск і распаўсюд паведамленняў і матэрыялаў, якія распальваюць сацыяльную, расавую, нацыянальную ці рэлігійную варажнечу.

Кандыдаты, іх давераныя асобы, арганізацыі і асобы, якія агітуюць за абранне кандыдатаў, не маюць права раздаваць грамадзянам грашовыя сродкі, падарункі і іншыя матэрыяльныя каштоўнасці, праводзіць ільготны распродаж тавараў, бясплатна прадастаўляць любыя паслугі і тавары, акрамя агітацыйных друкаваных матэрыялаў, якія спецыяльна выраблены для выбарчай кампаніі з выкананнем патрабаванняў закона. Пры правядзенні перадвыбарчай агітацыі забараняецца ўздзейнічаць на грамадзян абяцаннямі перадачы ім грашовых сродкаў, матэрыяльных каштоўнасцяў.

Пры парушэнні патрабаванняў артыкула 47 ВК павінны прадпрымацца меры па спыненні злоўжывання правам на правядзенне агітацыі, а адпаведныя камісіі маюць права адмяніць рашэнне аб рэгістрацыі кандыдата.

## Тэрміны правядзення перадвыбарчай агітацыі

На правядзенне перадвыбарчай агітацыі кандыдатамі ў прэзідэнты быў адведзены адзін месяц — з 18 лістапада (дзень рэгістрацыі кандыдатаў) па 18 снежня ўключна. Ва ўмовах абмежаванага доступу да дзяржаўных СМІ для ўсіх кандыдатаў, акрамя дзеючага Прэзідэнта, і абмежаванага фінансавання перадвыбарчай агітацыі (гл. ніжэй), гэты тэрмін з'яўляўся відавочна недастатковым для атрымання выбаршчыкамі поўнай інфармацыі пра кандыдатаў і іх праграмы.

Апошнія 5 дзён агітацыі (14—18 снежня) супадалі з днямі датэрміновага галасавання, што з'яўляецца відавочнай хібай дзеючага выбарчага заканадаўства.

Дзеючы Прэзідэнт меў непараўнальна большыя магчымасці для вядзення прамой ці схаванай агітацыі на сваю карысць, а таксама агітацыі за ўдзел выбаршчыкаў у датэрміновым галасаванні, падчас якога на папярэдніх парламенцкіх выбарах 2008 года і прэзідэнцкіх выбарах 2006 года мелі месца масавыя парушэнні.

## Фінансаванне перадвыбарчай агітацыі

Згодна з ВК, кожнаму кандыдату былі выдаткаваны сродкі з дзяржаўнага бюджэта ў памеры 2 300 базавых велічынь (? $26 000) на выраб друкаваных агітацыйных матэрыялаў. Істотных праблемаў, звязаных з доступам кандыдатаў да гэтых сродкаў, не назіралася, аднак штабы амаль усіх кандыдатаў паведамлялі аб затрымках пры пералічэнні грошай.

Так, у кандыдата ў прэзідэнты Рыгора Кастусёва праблемы ўзніклі падчас падпісання ў Цэнтральнай камісіі дакументаў, дазваляючых атрымаць на рахунак выдзеленыя сродкі. Потым было яшчэ замаруджванне з працэсам пераліку грошай на рахунак друкарні, чым займаўся спецыяліст з ЦВК. У выніку такой «руплівай» працы было страчана сем дзён, а з улікам часу на друк — дзесяць.

Уладзімір Кобец, давераная асоба кандыдата Андрэя Саннікава, паведаміў аб сітуацыі, якая склалася падчас падпісання трохбаковай дамовы паміж ЦВК, кандыдатам і выдавецтвам: «На працягу дня прадстаўнікі выдавецтва вымушаны былі некалькі разоў наведваць ЦВК, штораз

уносячы ў яго новыя патрабаванні ЦВК. Толькі пасля 17 гадзін 19 лістапада мы атрымалі пасведчанні фінансавага прадстаўніка кандыдата ў прэзідэнты. Прычым рашэнне ЦВК аб зацвяджэнні фінансавых прадстаўнікоў было прынята яшчэ 18 лістапада»[20]. У выніку адпаведныя плацяжы змаглі быць праведзены толькі 22 лістапада.

Акрамя выдзялення сродкаў з дзяржаўнага бюджэту, згодна з новай рэдакцыяй ВК, кандыдаты атрымалі права ствараць уласныя выбарчыя фонды для дадатковага фінансавання перадвыбарчай агітацыі. Такім чынам, у адрозненне ад выбараў 2001 і 2006 гадоў, палітычныя партыі, іншыя грамадскія аб'яднанні і грамадзяне атрымалі права пералічваць грашовыя сродкі ў фонды кандыдатаў. Кандыдаты таксама атрымалі магчымасць пералічваць у гэтыя фонды ўласныя грашовыя сродкі. Сродкі з выбарчага фонда не павінны былі перавышаць 3 000 базавых велічынь (? $34 000) і маглі выкарыстоўвацца на аплату эфірнага часу і друкаваных плошчаў у СМІ, арэнду будынкаў і памяшканняў, абсталявання, транспартных выдаткаў, паслугаў сувязі, агітацыйных друкаваных матэрыялаў, кансультацыйных паслуг, канцылярскіх тавараў і іншых выдаткаў.

Згодна з дадзенымі ЦВК, 9 кандыдатаў (усе, акрамя Дзмітрыя Уса) адкрылі рахункі ў банках для ахвяраванняў у кандыдацкія выбарчыя фонды, 5 кандыдатаў змагла імі скарыстацца, але не цалкам.

| **Кандыдат** | **Паступіла, беларускіх рублёў (долараў ЗША)** | **Патрачана, беларускіх рублёў (долараў ЗША)** |
|---|---|---|
| Рыгор Кастусёў | 985 110 (? $326) | 0 |
| Аляксандр Лукашэнка | 125 707 687 (? $41 625) | 97 843 176 (? $32 398) |
| Аляксей Міхалевіч | 2 610 (? $1) | 0 |
| Уладзімір Някляеў | 103 282 910 (? $34 200) | 102 845 890 (? $34 055) |
| Яраслаў Раманчук | 1 744 030 (? $578) | 1 200 000 (? $397) |
| Віталь Рымашэўскі | 2 057 620 (? $681) | 1 607 496 (? $532) |
| Андрэй Саннікаў | 17 254 950 (? $5 713) | 17 254 950 (? $5 713) |
| Мікалай Статкевіч | 370 500 (? $123) | 0 |
| Віктар Цярэшчанка | 28 240 (? $ 9) | 0 |

Такім чынам, магчымасць стварэння выбарчых фондаў для большасці кандыдатаў нязначна паспрыяла павелічэнню аб'ёма фінансавых сродкаў, якія маглі выдаткоўвацца ў мэтах перадвыбарчай агітацыі.

Паказальна, што ў банкаўскіх аддзяленнях у аб'явах аб магчымасці пералічэння грашовых сродкаў на рахункі асабістых выбарчых фондаў кандыдатаў у прэзідэнты РБ на першым месцы, як правіла, змяшчалася прозвішча А. Лукашэнкі, хаця роўнасць кандыдатаў патрабуе падаваць іх у алфавітным парадку або па меры паступлення інфармацыі аб адкрыцці рахункаў для збору ахвяраванняў. Рахунак жа дзеючага прэзідэнта быў адкрыты пазней за ўсіх кандыдатаў — 30 лістапада.

Адзначаны асобныя выпадкі перашкодаў падчас унясення сродкаў у фонды кандыдатаў. Напрыклад, 26 лістапада выбаршчык Дзмітрый Яўланаў ў аддзяленні Беларусбанка №633/11 г. Салігорска (Мінская вобл.) спрабаваў перавесці грошы на рахунак аднаго з кандыдатаў. Супрацоўнікамі аддзялення яму было двойчы адмоўлена.

ВК забараняе прамы ці ўскосны ўдзел у фінансаванні і іншую матэрыяльную дапамогу пры правядзенні і падрыхтоўцы выбараў з боку замежных дзяржаў і арганізацый, міжнародных арганізацый і замежных грамадзянаў. Выкарыстанне кандыдатам вышэйзгаданых сродкаў цягне за сабой адмену рэгістрацыі. Разам з тым, у інтэрв'ю газеце «Фігаро» дзеючы прэзідэнт абвінаваціў кандыдатаў Уладзіміра Някляева і Андрэя Саннікава ў выкрыстанні замежных сродкаў. У. Някляеў, у сваю чаргу, абвясціў аб намеры падаць на Аляксандра Лукашэнку ў суд, калі апошні не прадставіць факты, якія пацвярджаюць абвінавачванне. Дадзеным выказваннем дзеючага прэзідэнта так і не была дадзена адпаведная прававая ацэнка, а рэгістрацыя названых кандыдатаў не была адменена, што дазваляе расцэньваць словы А. Лукашэнкі як дыскрэдытацыю палітычных супернікаў.

20 http://charter97.org

## Агітацыя ў электронных сродках масавай інфармацыі

Кожнаму кандыдату была прадастаўлена адна гадзіна (два выступленні па паўгадзіны) на тэлебачанні ў эфіры Першага канала і адна гадзіна (два выступленні па паўгадзіны) у эфіры Беларускага радыё. Выступы адбываліся ў перыяд з 22 лістапада па 3 снежня ў працоўныя дні: па радыё — з 6.10 па 7.10, па тэлебачанні — з 19.00 па 20.00. Згодна з рашэннем ЦВК, выступы адбываліся ў прамым эфіры, што з'яўляецца пазітыўнай зменай у параўнанні з выбарамі 2006 года, калі выступы трансляваліся ў запісы і былі цэнзураваныя.

Выступленні кандыдатаў па тэлебачанні і на радыё адбываліся без істотных перашкодаў. Адзначаны толькі адзінкавыя выпадкі, калі выбаршчыкі былі пазбаўлены магчымасці пачуць кандыдатаў. Напрыклад, падчас трансляцыі выступу кандыдата Уладзіміра Някляева ў мікрараёне Карані г. Смаргоні (Гродзенская вобл.) адбылося раптоўнае адключэнне электрычнасці.

9 снежня ЦВК разгледзела звароты кандыдатаў Някляева і Саннікава аб прадастаўленні ім дадатковага бясплатнага эфірнага часу і адмовіла ім. Як растлумачыў сакратар ЦВК Мікалай Лазавік, на запыт ЦВК аб магчымасці прадастаўлення дадатковага часу Белтэлерадыёкампанія адказала адмовай, рэкамендаваўшы кандыдатам звярнуцца ў іншыя СМІ і набыць там дадатковы эфірны час за кошт сродкаў выбарчых фондаў[21].

Новай у параўнанні з выбарамі 2006 года з'ўлялася магчымасць удзелу кандыдатаў і іх давераных асоб у тэле- і радыёдэбатах (працягласцю 1 гадзіна кожныя) у прамым эфіры. Тэледэбаты адбыліся 4 снежня (з 17.00 да 18.00). У іх узялі ўдзел усе кандыдаты, за выключэннем Лукашэнкі. Белтэлерадыёкампанія адмовілася ўзяць на ролю вядучага кандыдатуру, прапанаваную ўдзельнікамі дэбатаў. Дэбаты вялі журналісты, вядомыя сваім удзелам у перадачах, скіраваных на дыскрэдытацыю апазіцыі. Змест некаторых рэплік вядучых быў накіраваны на выстаўленне асобных удзельнікаў дэбатаў у негатыўным святле. Радыёдэбаты адбыліся 5 снежня (з 17.00 да 18.00). У адрозненне ад тэледэбатаў, вядучы радыёдэбатаў паводзіў сябе нейтральна.

Доступ усіх кандыдатаў, за выключэннем дзеючага Прэзідэнта, да дзяржаўных электроных СМІ быў абмежаваны выступамі і дэбатамі, узгаданымі вышэй. Яны скончыліся да 5 снежня і на працягу 13 дзён да дня выбараў усе кандыдаты, за выключэннем Лукашэнкі, былі пазбаўлены дзяржаўнага тэле- і радыёэфіру.

Нягледзячы на тое, што дзеючы Прэзідэнт адмовіўся ад магчымасці скарыстацца адведзеным яму часам для выступленняў па радыё і на тэлебачанні ў якасці кандыдата, яго прысутнасць у дзяржаўных СМІ пераўзыходзіла прысутнасць усіх астатніх кандыдатаў разам узятых. Гэта прызнала і старшыня ЦВК Лідзія Ярмошына: «Кандыдат Лукашэнка знаходзіцца ў няроўных умовах з іншымі кандыдатамі. Кандыдат Лукашэнка працуе Прэзідэнтам, наогул знаходзіцца ў няроўных умовах, у сілу яго пасады яго пастаянна паказваюць па тэлебачанні, і ніхто не адмяняў гэтае становішча»[22].

Для эфірнага часу, прысвечанага выбарам на дзяржаўных тэлебачанні і радыё, было характэрна «пазітыўнае пазіцыянаванне дзеючага Прэзідэнта, яго выразна дамінантнае становішча... і маргіналізацыя ўсіх астатніх прэтэндэнтаў»[23]. Напрыклад, падчас сваіх выступленняў на Усебеларускім народным сходзе (6—7 снежня), якія доўжыліся некалькі гадзінаў і шырока трансляваліся нацыянальнымі тэле- і радыёканаламі як у прамым эфіры, так і ў запісе, А. Лукашэнка падрабязна выклаў сваю перадвыбарчую праграму.

Згодна з выніковым дакладам медыя-маніторынга Беларускай асацыяцыі журналістаў «Асвятленне прэзідэнцкіх выбараў 2010 г. у беларускіх СМІ», у асноўных выпусках навін Першага нацыянальнага тэлеканала і АНТ Лукашэнка атрымаў 62-66% эфірнага часу, прысвечанага выбарам, тады як астатнім кандыдатам дасталося каля 1%.

Такая няроўнасць умоваў вядзення перадвыбарчай агітацыі не выклікала заклапочанасці Назіральнага савету па кантролі захавання парадку і правілаў правядзення перадвыбарчай агітацыі ў СМІ.

## Агітацыя ў друкаваных СМІ

Дзяржаўныя СМІ, а таксама СМІ, якія часткова фінансуюцца з дзяржаўнага бюджэту ці заснавальнікамі якіх з'ўляюцца дзяржаўныя органы ўлады, абавязаны забяспечыць роўныя маг-

21 www.belta.by

22 http://www.interfax.by/news/belarus/82511

23 Асвятленне прэзідэнцкіх выбараў 2010 г. у беларускіх СМІ. Бюлетэнь / ГА «Беларуская асацыяцыя журналістаў».

чымасці ўсім кандыдатам. Аднак на практыцы гарантаваная законам роўнасць не была забяспечана: па дадзеных медыя-маніторынга БАЖ «Асвятленне прэзідэнцкіх выбараў 2010 г. у беларускіх СМІ», найбуйнейшыя дзяржаўныя газеты «Советская Белоруссия» і «Рэспубліка» прысвяцілі дзеючаму прэзідэнту 50% плошчы, адведзенай асвятленню выбараў (і яшчэ 10% — «уладзе»), тады як астатнія кандыдаты атрымалі ўсяго некалькі адсоткаў (акрамя таго, 14% былі прысвечаныя «апазіцыі», якая характарызавалася адмоўна ці вельмі адмоўна).

Кандыдаты мелі права бясплатна размясціць свае перадвыбарчыя праграмы аб'ёмам не больш за пяць машынапісных старонак у чатырох агульнадзяржаўных газетах і сямі рэгіянальных: «Звязда», «Советская Белоруссия», «Народная газета», «Рэспубліка», сталічнай газеце «Минский курьер», абласных газетах «Заря» (Брэст), «Гомельская праўда», «Мінская праўда», «Могилевская правда», «Гродзенская праўда» і «Віцебскі рабочы».

Некаторыя кандыдаты сутыкнуліся з нежаданнем рэдакцый газет друкаваць праграмы ў прадастаўленым выглядзе. Напрыклад, у праграме Р. Кастусёва словы «лукашызм» і «лукашэнкаўскі рэжым» былі замененыя на «адзінаасобны» і «аўтарытарны» рэжымы. У праграме Дз. Уса выклікала пытанне параўнанне сённяшняй выбарчай сістэмы Беларусі з выбарчай сістэмай Германіі 1930-х гадоў. Старшыня ЦВК Л. Ярмошына пракаментавала гэтую сітуацыю наступным чынам: «Рэдакцыі так паступаюць толькі тады, калі ў іх [праграмах кандыдатаў — рэд.] утрымліваюцца відавочныя парушэнні закона аб СМІ і выбарчага заканадаўства. Напрыклад, адзін з кандыдатаў пастаянна спрабаваў заклікаць выбаршчыкаў на несанкцыянаваны мітынг. На просьбы рэдакцый СМІ выключыць з сваёй праграмы такія заклікі ён адказаў адмовай. Самі рэдакцыі па законе не могуць уносіць папраўкі ў перадвыбарчыя праграмы кандыдатаў»[24].

Як правіла, праграма Лукашэнкі друкавалася на першай старонцы на цэлую паласу і суправаджалася вялікімі фотапартрэтамі кандыдата. Праграмы іншых кандыдатаў звычайна размяшчаліся на ўнутраных старонках, часта ў канцы нумара.

Напрыклад, у «Віцебскім рабочым» праграма Аляксандара Лукашэнкі была надрукавана не толькі першай, але і на ўсю першую старонку (ад 27.11.2010), з вялікім каляровым фотаздымкам і выкарыстаннем некалькіх розных шрыфтоў для прыцягнення ўвагі выбаршчыкаў. У наступным нумары гэтай абласной газеты (ад 30.11.2010) з'явіліся праграмы яшчэ двух кандыдатаў — Яраслава Раманчука і Дзмітрыя Усс. Надрукавалі іх сцісла, на адной старонцы, не выкарыстоўваючы ніякіх ілюстратыўных прыёмаў макетавання газеты — суцэльным тэкстам. І не на першай старонцы — там размешчаны матэрыялы пра аварыі на дарогах, юбілей ВДУ і нават навіны спорту.

Пра няроўнасць умоў сведчыць таксама і той факт, што ў раённых газетах праграмы кандыдатаў не друкаваліся, заканадаўства не абавязвае рабіць гэта. Аднак амаль у кожнай раённай дзяржаўнай газеце быў надрукаваны артыкул «Беларусь павінна быць па-сапраўднаму моцнай!», які фактычна з'яўляецца пераказам праграмы Лукашэнкі, тады як аналагічныя матэрыялы іншых кандыдатаў раённыя газеты не друкавалі.

Асобнае і вельмі значнае месца на працягу перадвыбарчай кампаніі было аддадзена Усебеларускаму сходу. Пад гэтай рубрыкай друкаваліся шматлікія справаздачы аб дасягненнях ва ўсіх сферах, якія адбыліся, як вынікала з публікацый, выключна дзякуючы палітыцы прэзідэнта Лукашэнкі. У большасці рэгіёнаў газеты працавалі не як сродкі масавай інфармацыі, а выключна як прапагандысты дасягненняў дзеючага кіраўніка дзяржавы.

Рэдакцыйную палітыку дзяржаўных газет у дачыненні да ўсіх кандыдатаў, акрамя А. Лукашэнкі, красамоўна ілюстравалі загалоўкі артыкулаў: «Фальшивые люди», («Маяк», газета Бярозаўскага райвыканкама Брэсцкай вобл.), «Почему в армии не служил, кандидат?» («Віцебскі рабочы»), «Беда, коль пироги начнет печи сапожник...» («Адзінства», газета Барысаўскага райвыканкама Мінскай вобл.), «Тренируйся... на кошках!» («Гомельская праўда»), «Альтэрнатыўныя кандыдаты ў прэзідэнты неапраўдана захапіліся шалёнай крытыкай» («Калінкавіцкія навіны»), «Палітыка робіцца на плошчах?» («Наш край», газета Баранавіцкага гарвыканкама).

Загалоўкі і змест матэрыялаў у падтрымку А. Лукашэнкі мелі супрацьлеглую танальнасць: «Все для людей и во имя людей» («Ашмянскі веснік», газета Ашмянскага райвыканкама Гродзенскай вобл.), «На выборы надо идти с добром и народу предлагать добро» («Адзінства»), «Осознанный выбор» («Гомельские ведомости», газета Гомельскага гарвыканкама), «Выбираем того, кого хорошо знаем» («Гомельская праўда»), «Альтэрнатывы А.Лукашэнку на пасаду прэзідэнта

24 БелТА. 30 ноября 2010 года.

Беларусі сёння няма», «Офицеры выражают доверие и поддержку А. Лукашенко» («Калінкавіцкія навіны»), «За сильную и процветающую Беларусь», «Результаты говорят сами за себя» («Маяк», газета Бярозаўскага райвыканкама Брэсцкай вобл.), «К высокому уровню и качеству жизни народа», «ФПБ падтрымае А.Р.Лукашэнку» («Івацэвіцкі веснік»).

Акрамя шальмавання апанентаў А. Лукашэнкі ў СМІ адзначана і яшчэ адна тэндэнцыя: татальнае замоўчванне любой інфармацыі пра іншых кандыдатаў у прэзідэнты, прадстаўленне іх як безаблічнай аднароднай масы. У многіх выданнях за ўвесь час выбарчай кампаніі так і не былі апублікаваны прозвішчы альтэрнатыўных кандыдатаў у прэзідэнты або былі змешчаны толькі ў сувязі з рэгістрацыяй.

Напрыклад, у газеце Барысаўскага райвыканкама «Адзінства» толькі адзін раз за ўсе тры месяцы перадвыбарчай кампаніі ў друкаванай версіі выдання былі ўзгаданы прозвішчы дзевяці альтэрнатыўных кандыдатаў з пайменным пералікам — у публікацыі рашэння ЦВК аб рэгістрацыі кандыдатаў у прэзідэнты. У гэтым жа выданні рэгулярная змяшчаліся матэрыялы негатыўнага зместу без удакладнення прозвішчаў тых, пра каго яны былі напісаны. У салігорскай газеце «Шахцёр» (№191-194) у артыкуле пад назвай «Толькі канстатацыя фактаў» аўтар актыўна выкрывае альтэрнатыўных кандыдатаў, не прыводзячы ніводнага прозвішча, называючы супернікаў Лукашэнкі «адзін з кандыдатаў», «адзін з іх». У нумары за 14 снежня «Калінкавіцкія навіны» апублікавалі матэрыял «Лёс радзімы залежыць ад нас саміх», у якім уся альтэрнатыва дзеючаму прэзідэнту паўстае варожай без указання канкрэтных прозвішчаў. Хаця аўтар не называе імёнаў кандыдатаў у прэзідэнты, некаторых з іх можна пазнаць, напрыклад: «Увогуле гэты кандыдат цікавы хлопец. Незадоўга да выбараў у яго «светлую» галаву ўначы з'явіўся сам Усявышні ў вобразе анёла і сказаў, што «толькі ён зможа пазбавіць людзей ад дыктатуры». Таму ён і пачаў у тэрміновым парадку ствараць новую партыю на хрысціянскіх прынцыпах, прысвоіўшы асабіста сабе званне сустаршыні. Як-ніяк, прадстаўляючыся перад людзьмі, хоць нейкая пасада будзе, не тое што — чалавек без пэўных заняткаў» — з дадзенай інфармацыі можна зразумець, што размова ў артыкуле ідзе пра кандыдата ў прэзідэнты Віталя Рымашэўскага.

Абсалютнай большасцю дзяржаўных газет у апошні месяц выбарчай кампаніі былі прыведзены апытанні выбаршчыкаў, якія ўтрымлівалі выключна пазітыўную ацэнку А. Лукашэнкі і крытыку ўсіх астатніх кандыдатаў. Пра «замову» на правядзенне гэтых апытанняў сведчыць ліст галоўнага ўпраўлення ідэалагічнай работы Гомельскага аблвыканкама рэдакцыям дзяржаўных газет, які патрапіў у незалежныя СМІ, з прапановай правесці апытанне жыхароў вобласці на тэму прэзідэнцкіх выбараў. З вялікай верагоднасцю можна сцвярджаць, што аналагічныя лісты накіроўваліся дзяржаўным выданням і ў іншых рэгіёнах, паколькі падобныя «апытанні» публікаваліся ва ўсіх абласцях. У згаданым лісце ўпраўлення ідэалогіі былі не толькі прапанаваныя для апытання пытанні, але і падрыхтаваныя «ідэалагічна правільныя» адказы на іх. Напрыклад, на пытанне «Ці адчуваеце вы, што ў краіне пачалася выбарчая кампанія?» у якасці варыянта быў падрыхтаваны «адказ»: «Не, пакуль нічога не бачу, думаў, кандыдаты будуць актыўней. Кандыдаты працуюць слаба — амаль нідзе не відаць ні плакатаў, ні ўлётак». Яшчэ пра альтэрнатыўных кандыдатаў рэспандэнты па загаду аддзела ідэалогіі павінны былі сказаць, што «яны ўсе на адзін твар, і там няма нічога разумнага і цікавага, ніхто з іх не ведае, як кіраваць краінай, усе гаварылі дрэнна і няўпэўнена, былі не падрыхтаваныя, як быццам людзі з вуліцы. Вечар сапсаваны, лепш бы паказалі добры фільм».

У выніку па ўсёй краіне ў дзяржаўных СМІ былі размешчаны аднатыпныя вынікі «апытанняў» грамадзян. Напрыклад, у Брагінскай раённай газеце «Маяк Палесся» галоўны захавальнік фондаў Брагінскага гістарычнага музея з карціннай галерэяй Надзея Мялешка на пастаўленыя пытанні дала стандартны «правільны» адказ: «У цяперашні час сачу за выступленнямі кандыдатаў у прэзідэнты, але пакуль, на жаль, ні адзін з іх жывой цікавасці не выклікаў. Складваецца ўражанне, што гэта цалкам непадрыхтаваныя і нявопытныя людзі, якія не маюць дакладных уяўленняў аб далейшым шляху развіцця краіны. Многае зводзіцца толькі да крытыкі дзеянняў цяперашняга кіраўніка дзяржавы і абяцанням усё змяніць, хоць незразумела, што збіраюцца «будаваць» самі».

## Агітацыя шляхам распаўсюду друкаваных матэрыялаў

Кандыдаты мелі права на выраб перадвыбарчых плакатаў, заклікаў, заяваў, надпісаў, улётак, фотаматэрыялаў (плакатаў), якія павінны былі быць аплочаны са сродкаў, выдаткаваных з бюд-

жэту, або з уласных выбарчых фондаў. Агітацыйныя матэрыялы павінны вырабляцца на тэрыторыі Беларусі і ўтрымліваць выходныя дадзеныя, распаўсюд ананімных матэрыялаў забаронены.

Зафіксаваны выпадкі, калі штабы апазіцыйных кандыдатаў сутыкаліся з перашкодамі і складанасцямі пры вырабе агітацыйных матэрыялаў — такімі, як адмовы друкарняў ці затрымкі з друкам і адгрузкай замоўленых матэрыялаў. Так, кандыдат у прэзідэнты Яраслаў Раманчук сутыкнуўся з неаднаразовымі зрывамі тэрмінаў пастаўкі друкаванай агітпрадукцыі з боку друкарняў без тлумачэння прычын. Пры гэтым у большасці друкарняў наогул адмовіліся прыняць замову кандыдата, хаця грошы на аплату ішлі з афіцыйнага фонду ЦВК. Сяргей Лапуцін, супрацоўнік штаба Уладзіміра Някляева (г. Магілёў), паведаміў, што нават недзяржаўныя друкарні Магілёва адмаўляліся вырабляць агітацыйныя матэрыялы, матывуючы гэта нежаданнем «лезці ў палітыку». У той жа самы час старшыня ЦВК Лідзія Ярмошына заявіла, што кандыдаты «тыднямі не забіраюць выробленую прадукцыю са складоў»[25].

Згодна з Выбарчым кодэксам, мясцовыя выканаўчыя і распарадчыя органы ўлады па ўзгадненні з адпаведнымі камісіямі павінны былі выдзеліць на тэрыторыі ўчасткаў для галасавання месцы, якія найбольш наведваюцца грамадзянамі, для размяшчэння агітацыйных друкаваных матэрыялаў. ВК прадугледжвае таксама, што выканаўчыя і распарадчыя органы могуць забараняць размяшчэнне агітацыйных матэрыялаў у неадведзеных для іх месцах.

У некаторых рэгіёнах мясцовыя органы ўлады прынялі даволі ліберальныя рашэнні, датычныя вызначэння месцаў для размяшчэння агітацыйных друкаваных матэрыялаў (напрыклад, Шклоўскі райвыканкам), але ў большасці рэгіёнаў адпаведныя рашэнні былі лібералізаваны пасля падачы скаргаў праваабаронцамі ці даверанымі асобамі кандыдатаў у прэзідэнты. Так, кіраўнік перадвыбарчага штабу А. Саннікава па Мазырскаму раёну Рыгор Крывіцкі абскардзіў рашэнне Мазырскага райвыканкама аб вызначэнні месцаў для ажыццяўлення агітацыі, адзначыўшы, у тым ліку, што ў мікрараёне «Чыгуначны», у Баравіках, у Целепунах, па вул. Савецкай не былі вызначаны месцы для размяшчэння друкаваных матэрыялаў. Праблематычна было размясціць плакаты кандыдатаў на наяўных у горадзе інфармацыйных стэндах: яны паўсюдна былі залеплены афішамі кінатэатраў і Дамоў культуры. У выніку 30 лістапада Мазырскі райвыканкам значна пашырыў колькасць месцаў для правядзення перадвыбарнай агітацыі, унёсшы змены ў сваё папярэдняе рашэнне №1386 ад 8 лістапада. Аднак на практыцы гэта не нашмат змяніла сітуацыю, паколькі так і не былі даведзены да ладу некаторыя месцы для размяшчэння агітацыйных матэрыялаў: стэнд для размяшчэння агітацыйных матэрыялаў мікрараёна «Маладзёжны», дошка аб'яў у раёне крамы «Родная сторона» ААТ «Універсам «Цэнтральны» і інш.

У некаторых рэгіёнах фіксаваліся факты невыканання ўстановамі і арганізацыямі рашэнняў органаў улады аб месцах для агітацыі. Актывіст перадвыбарчай кампаніі кандыдата ў прэзідэнты Андрэя Саннікава Анатоль Аскерка вымушаны быў накіраваць скаргі ў Барысаўскі райвыканкам, тэрытарыяльную выбарчую камісію і Барысаўскую раённую пракуратуру ў сувязі з тым, што ў Барысаве не ўсюды былі аформлены месцы для размяшчэння нагляднай агітацыі, вызначаныя рашэннем выканкама. У якасці прыкладаў ён пералічыў: універсам «Родная сторона», дзе плакаты спачатку былі размешчаны, а потым знятыя па загаду кіраўніцтва адміністрацыі прадпрыемства, педагагічны каледж, дзе адміністрацыя заявіла, што будзе кансультавацца з ідэалагічным аддзелам райвыканкама і толькі потым размяшчаць агітацыйныя матэрыялы. Сярод «праштрафіўшыхся» прадпрыемстваў і арганізацый фігуравалі ДВЛГУ «Барысаўскі вопытны лясгас», універсам «Паўночны», гарадскі Палац культуры, СШ № 23, гімназія № 1, ААТ «Поліміз», ААТ «Экран», Барысаўскі завод гуматэхнічных вырабаў, ААТ «Барысаўская швейная фабрыка «, Аўтобусны парк № 3. Усе гэтыя ўстановы і прадпрыемствы былі ўключаны ў спіс дазволеных месцаў для размяшчэння агітацыйных матэрыялаў, замацаваных рашэннем № 1359 ад 11.11.2010г. Барысаўскага райвыканкама.

Назіральнікі адзначалі масавыя выпадкі супрацьдзеяння размяшчэнню агітацыйных плакатаў кандыдатаў, а таксама іх незаконнае зняццё.

Да прыкладу прывядзем сітуацыю, якая склалася ў г. Салігорску (Мінская вобл.). Так, у краме «Юбілейная» па вул. Леніна валанцёру штаба У. Някляева не дазволілі размясціць агітацыйны плакат кандыдата, а у сталовай па вул. Заслонава такую ж адмову патлумачылі так: «Мы будзем галасаваць за Лукашэнку, таму ваш плакат не будзем вешаць». Адмовіліся размясціць агітацыйны плакат і інфармацыю пра сустрэчу з Някляевым у краме «Гермес» (пад-

25 БелТА. 30 ноября 2010 года.

раздзяленне ААТ «Будтрэст №3»). У цэнтральным будынку самога ААТ «Будтрэст №3» пасля гадзінных перамоваў праграма Някляева была змешчана, але ўжо ўвечары яе зноў не стала. Яшчэ праз дзень, пасля абяцання валанцёра выклікаць прадстаўнікоў АБСЕ, плакат зноў з'явіўся на сваім месцы. Былі прыбраныя «невядомымі» агітацыйныя матэрыялы У.Някляева таксама ў «Доме быту» па вуліцы Леніна і ў галоўным будынку ААТ «Беларуськалій». У салігорскім аддзяленні «Белаграпрамбанку» па вуліцы Казлова прадстаўнікам Мікалая Статкевіча ў катэгарычнай форме адмовілі ў размяшчэнні агітацыйных матэрыялаў на інфармацыйным стэндзе ў сувязі з адсутнасцю на ім вольнага месца. Прапановы знайсці альтэрнатыўнае месца адхіляліся адказнымі супрацоўнікамі банка. На аўтазаправачнай станцыі «Газпрамнафта» па вуліцы Заслонава размясціць перадвыбарчую праграму кандыдата Статкевіча таксама не дазволілі, сказаўшы «без начальства нам забараняецца», аднак кантактаваць з начальствам супрацоўнікі запраўкі не сталі. У пункце продажу мабільных тэлефонаў «Еўрасетка» на праспекце Міра актывісты штаба Статкевіча дазволу на размяшчэнне агітацыйнай прадукцыі не атрымалі нават пасля адмысловых кансультацый супрацоўнікаў з мінскім кіраўніцтвам усёй гандлёвай сеткі. У галоўным будынку ААТ «Беларуськалій» каб змясціць плакат кандыдата на інфармацыйным стэндзе прадстаўніку М.Статкевіча прыйшлося выдаткаваць больш за 40 хвілін на яго ўзгадненне з ідэалагічнымі службамі прадпрыемства. У буйной краме «Будмаркет» адміністрацыя ўвогуле вывесіла агітацыйны плакат апазіцыйнага кандыдата толькі на другія суткі пасля прыходу валанцёраў. Перадвыбарчы плакат Мікалая Статкевіча ў ААТ «Купалінка» размясцілі на інфармацыйным стэндзе, які знаходзіцца ў нябачным месцы. Агітацыйную прадукцыю, змешчаную на ўваходзе ў прадпрыемства, па словах саміх супрацоўнікаў, зрывае асабіста дырэктар. У краме «Вясёлка» па вуліцы Паркавай пасля доўгіх перамоваў агітацыйнай прадукцыя ў падтрымку альтэрнатыўнага кандыдата была змешчана, але адразу пасля сыходу валанцёра плакат таямнічым чынам знік. У «Доме быта» па праспекце Міра змясціць праграму Статкевіча на бачным месцы побач з афіцыйнай інфармацыяй пра дату правядзення выбараў агітатару не дазволіла загадчыца.

З аналагічнымі праблемамі сутыкаліся каманды альтэрнатыўных кандыдатаў у прэзідэнты па ўсёй краіне.

Так, слонімскія актывісты БХД і Партыі БНФ вымушаны былі звярнуцца з заявамі ў Слонімскі РАУС і Слонімскую раённую выбарчую камісію з патрабаваннем кантролю за выкананнем рашэння Слонімскага райвыканкама ад 22 лістапада 2010 года № 967, датычнага месцаў для размяшчэння агітацыйных матэрыялаў. Яны пералічылі наступныя факты: 7 снежня дырэктар гандлёвага дома «Прэстыж» Галіна Казялецкая сарвала ў краме плакаты Рыгора Кастусёва; загадчыца аптэкі № 5 на Чырвонаармейскай вуліцы таксама сарвала і выкінула плакаты Рыгора Кастусёва; адмовілася вывесіць агітацыйныя матэрыялы Віталя Рымашэўскага загадчыца дзіцячай раённай паліклінікі Людміла Дзягель, сказаўшы, што ёй забараніў гэта намеснік галоўнага ўрача бальніцы Ігар Калінічаў, а яна яму падпарадкоўваецца; загадчыца Слонімскай цэнтральнай бібліятэчнай сістэмы Ларыса Рэпінская так і не размясціла плакаты Віталя Рымашэўскага ў бібліятэках горада, пакінуўшы іх у сваім кабінеце.

Адначасова агітацыйныя плакаты і газетныя раздрукоўкі перадвыбарчай праграмы кандыдата Аляксандра Лукашэнкі бесперашкодна размяшчаліся на інфармацыйных стэндах арганізацый і прадпрыемстваў і нікуды не знікалі. Таксама назіральнікі не атрымалі ніводнай скаргі ад каманды Лукашэнкі аб цяжкасцях і адміністрацыйных перашкодах пры размяшчэнні агітацыйных матэрыялаў у падтрымку кандыдата.

Нягледзячы на наўпроставую заканадаўчую забарону пашкоджання агітацыйных плакатаў, такія выпадкі фіксаваліся ў розных рэгіёнах без належнага рэагавання адпаведных выбарчых камісій і органаў улады. Напрыклад, у Магілёве, Слуцку, Гомелі, Баранавічах неаднаразова зрываліся агітацыйныя матэрыялы А. Саннікава, Р. Кастусёва — у Бярозе (Брэсцкая вобл.) і Краснаполлі (Магілёўская вобл.), В. Рымашэўскага ў Мастах і Слоніме (Гродзенская вобл.) і інш. У Слуцку (Мінская вобл.) давераная асоба А. Саннікава Уладзімір Лемеш 9 снежня каля ўніверсама №32 па вул. Багдановіча сутыкнуўся з маладымі людзьмі, якія заклейвалі плакаты А. Саннікава вялікімі рэкламнымі плакатамі «па загаду начальства». У Навабеліцкім раёне Гомеля агітацыйныя плакаты альтэрнатыўных кандыдатаў невядомыя асобы рэгулярна абмалёўвалі нацысцкай сімволікай, ганебнымі словамі. Напрыклад, на прыпынку «вуліца Жаркоўскага» фотаздымак Віталя Рымашэўскага «ўпрыгожылі» надпісы «Далоў паляка!», хаця вядома, што кандыдат — беларус.

Адмоўны фон агітацыйнай кампаніі і беспадстаўнае напружанне стваралі нярэдкія ў рэгіёнах затрыманні прыхільнікаў альтэрнатыўных кандыдатаў, якія размяшчалі матэрыялы, выробленыя ў адпаведнасці з патрабаваннямі закона, у дазволеных месцах.

2 снежня валанцёра перадвыбарчага штаба Андрэя Саннікава Алесю Ясюк на вакзале чыгуначнай станцыі «Барысаў» затрымаў нарад транспартнай міліцыі, калі яна прыклейвала плакат з партрэтам кандыдата ў дазволеным для агітацыі месцы. У апорным пункце, які знаходзіцца ў будынку вакзала, каля паўгадзіны доўжылася разбіральніцтва. Была выклікана дзяжурная па вакзале, якая ў сваю чаргу звязалася з прадстаўніком адміністрацыі. Прадстаўнік адміністрацыі растлумачыў супрацоўнікам праваахоўных органаў, што А. Ясюк не рабіла нічога забароненага, пасля чаго гэтага валанцёра адпусцілі.

9 снежня ў Салігорску Андрэй Тычына, член каманды Уладзіміра Някляева, быў затрыманы супрацоўнікамі міліцыі і дастаўлены ў пастарунак. Нагодай для гэтага стала скарга работніка адной з гандлёвых кропак горада, які палічыў незаконнымі дзеянні агітатара пры размяшчэнні агітацыйнай прадукцыі на адным з аўтобусных прыпынкаў. Малады чалавек правёў у аддзяленні міліцыі каля 40 хвілін. Пасля пісьмовай дачы тлумачэнняў А.Тычына быў вызвалены.

У Браславе 2 снежня супрацоўнікі мясцовага РАУС затрымалі актывіста БХД Кастуся Шыталя, які распаўсюджваў агітацыйныя ўлёткі кандыдата Віталя Рымашэўскага. Спачатку ў аддзяленні міліцыі склалі пратакол за незаконны распаўсюд і нават канфіскавалі друкаваную прадукцыю, але потым на ўсялякі выпадак браслаўскія міліцыянеры па факсе даслалі ўзор улёткі ў абласны УУС, адкуль патэлефанавалі і загадалі адпусціць хлопца. Пасля гэтага агітацыйныя матэрыялы былі вернуты іх уладальніку.

У Маладэчне 16 снежня ў памяшканні міні-рынка «1000 дробязяў» Уладзь Шульжыцкі размясціў плакат Рыгора Кастусёва, пасля чаго быў затрыманы супрацоўнікамі міліцыі з аўтаматамі. У аддзяленні міліцыі ахоўнікі правапарадку сталі спраўджаць, ці на законных падставах У. Шульжыцкі размяшчаў агітацыйныя матэрыялы. Пасля таго, як высветлілася, што міні-рынак вызначаны для размяшчэння агітацыі райвыканкамам, затрыманага адпусцілі. Усяго за час агітацыйнай кампаніі падобным чынам тройчы затрымліваліся прыхільнікі кандыдата ў прэзідэнты ад Партыі БНФ.

Міхаіл Кузьмянкоў, сябра выбарчага штаба кандыдата ў прэзідэнты Беларусі Андрэя Саннікава, на пачатку снежня быў затрыманы аршанскімі міліцыянтамі. У момант затрымання Міхаіл расклейваў агітацыйныя матэрыялы за свайго кандыдата ў месцах, якія афіцыйна вызначаны Аршанскім гарвыканкамам. Нягледзячы на тое, што агітатар прад'явіў міліцыянтам свае дакументы, а таксама тэкст рашэння гарвыканкама, ён быў затрыманы і дастаўлены ў Аршанскі ГАУС. Паколькі нічога супрацьзаконнага прад'явіць яму міліцэйскае начальства не змагло, праз паўгадзіны пасля затрымання актывіста адпусцілі.

5 снежня ў Мастах (Гродзенская вобл.) падчас расклейкі агітацыйных плакатаў Віталя Рымашэўскага ў краме будматэрыялаў да актывісткі штаба гэтага кандыдата Алены Давідовіч пачала чапляцца адна з работніц, папракаючы, што яна супраць цяперашняй улады, была выклікана міліцыя. У аддзяленні ў Алены Давідовіч узялі пісьмовыя тлумачэнні і, пераканаўшыся, што тая вывешвае агітацыйныя матэрыялы ў месцах, вызначаных райвыканкамам, адпусцілі яе. Назаўтра, 6 снежня, з самай раніцы, на кватэру да Алены Давідовіч прыйшоў участковы міліцыянер, які запатрабаваў даць тлумачэнні — хто і адкуль дастаўляе агітацыйныя матэрыялы кандыдата ў прэзідэнты Віталя Рымашэўскага ў Масты.

Непараўнальны рэжым спрыяння распаўсюду агітацыйнай прадукцыі быў забяспечаны толькі аднаму кандыдату ў прэзідэнты — Аляксандру Лукашэнку. Акрамя адзначанай ужо магчымасці бесперашкоднага размяшчэння матэрыялаў і вольнага іх распаўсюду, зафіксаваны факты выкарыстання магутнага адміністрацыйнага рэсурсу.

Так, экспертам кампаніі «Праваабаронцы за свабодныя выбары» быў перададзены дакумент, які сведчыць, што да 15 снежня работнікі РУП «Белпошта» павінны былі раскідаць па паштовых скрынях жыхароў Беларусі 1 млн агітацыйных паштовак кандыдата Аляксандра Лукашэнкі. Дакумент, які патрапіў праваабаронцам, — гэта распараджэнне ад 10 снежня 2010 года, дасланае ў Мазырскую філію РУП «Белпошта» за подпісам намесніка начальніка Таццянай Віктараўнай Маскалёвай (ДАКУМЕНТ 2). У шапцы да дакумента стаіць надпіс: «Всем ОН». «В ваш адрес во вторник [14 снежня — удакладненне рэд.] поступят листовки по выборам, согласно разнорядки Гомельского филиала РУП «Белпочта». За 14-15 января (не позже) разнести листовки по абонентским ящикам [тут яўная ці наўмысная памылка ў месяцы — маецца на ўва-

зе снежань]», — паведамляецца ў распараджэнні. Далей вельмі строга: «Всем отнестись очень ответственно, чтобы ни в коем случае не остались в сумках почтальонов или в каком-нибудь другом месте». У распараджэнні гаворыцца, каб начальнікі паштовых аддзяленняў Мазырскага раёна РУП «Белпошта» ўзялі гэта пад уласны кантроль і 15 снежня паведамілі па тэлефоне асабіста Таццяне Віктараўне Маскалёвай: «отчитаться о проделанной работе». У распараджэнні не згадваецца імя кандытата (кандыдатаў) у прэзідэнты, чые ўлёткі павінны разнесці паштальёны, аднак менавіта паштоўкі за А. Лукашэнку 14-15 снежня знайшлі ў сваіх скрынях не толькі жыхары Мазырскара раёна, але і ўсёй краіны. На паштоўцы ёсць надпіс «Будущее в наших руках» і аўтограф Лукашэнкі, а на адваротным баку напісана «Вместе мы добъёмся большего».

Зафіксаваны таксама выпадкі распаўсюду агітацыйнай прадукцыі і друкаваных матэрыялаў з перадвыбарчай праграмай Аляксандра Лукашэнкі, выраблены з парушэннем устаноўленага законам парадку, а менавіта — без выходных дадзеных. Пры гэтым адпаведныя выбарчыя камісіі, куды накіроўваліся скаргі на падобныя парушэнні, адмаўляліся даваць прававую ацэнку падобным фактам.

Так, у Чыгуначным раёне Гомеля, пачынаючы з 1 снежня, актывістамі БРСМ распаўсюджвалася перадвыбарчая праграма кандыдата ў прэзідэнты Аляксандра Лукашэнкі без неабходных выходных дадзеных. Нягледзячы на відавочна друкарскі спосаб вырабу матэрыялаў, актывісты БРСМ сцвярджалі, што яны самі рыхтуюць, раздрукоўваюць на ксераксе гэтую праграму, а затым распаўсюджваюць.

У Брэсце 18 снежня мясцовыя актывісты рэспубліканскага грамадскага аб'яднання «Белая Русь» распаўсюджвалі каля Цэнтральнага рынку на вуліцы Пушкінскай улёткі з праграмай кандыдата ў прэзідэнты Аляксандра Лукашэнкі без выходных дадзеных. Такія жа ўлёткі 17 снежня каля гэтага рынку распаўсюджвалі прадстаўнікі БРСМ.

У адукацыйнай установе Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі — Міжнародным інстытуце працоўных і сацыяльных адносін быў змешчаны зварот Сябраў Рады да выкладчыкаў, супрацоўнікаў і студэнтаў інстытута з заклікам «у дзень выбараў 19 снежня 2010 года прыйсці на выбарчыя ўчасткі і аддаць свае галасы за прадстаўніка народных мас, дзеючага Прэзідэнта краіны Аляксандра Рыгоравіча Лукашэнку» і ўхваленнем абранага ім курсу развіцця краіны. На звароце была змешчана пазнака пра тое, што зварот «адзінагалосна адобраны Радай інстытута 10 снежня 2010», але ніякіх выходных дадзеных не было ўказана.

Адзначым, што паводле артыкула 45 ВК, перадвыбарчыя плакаты кандыдатаў, выробленыя на бюджэтныя сродкі, павінны ўтрымліваць такія выходныя звесткі, як назва і адрас арганізацыі (індывідуальнага прадпрымальніка), што вырабляла друкаваныя матэрыялы, нумар ліцэнзіі на паліграфічную дзейнасць і дату яе выдачы, тыраж і нумар заказу. Артыкул забараняе распаўсюд ананімных агітацыйных друкаваных матэрыялаў. Артыкул 48 ВК дазваляе карыстацца сродкамі арганізацый, грамадскіх аб'яднанняў і грамадзян Рэспублікі Беларусь, аднак у такім выпадку пералічаныя суб'екты не самі вырабляюць агітацыйныя матэрыялы, а «могуць уносіць свае грашовыя сродкі ў пазабюджэтны фонд, утвораны Цэнтральнай камісіяй для дадатковага фінансавання выдаткаў па падрыхтоўцы і правядзенні выбараў». Палітычныя партыі і іншыя грамадскія аб'яднанні, іншыя арганізацыі, грамадзяне Рэспублікі Беларусь не маюць права аказваць іншую матэрыяльную дапамогу, акрамя ўнясення грашовых сродкаў у пазабюджэтны фонд і ў выбарчыя фонды кандыдатаў, прадугледжаныя часткай 1 артыкула 48. Парушэнне патрабаванняў дадзенага артыкула цягне за сабой адказ у рэгістрацыі кандыдата альбо адмену рашэння пра яго рэгістрацыю, аднак датычна кандыдата А. Лукашэнкі дадзеная норма заканадаўства не працавала.

## Сустрэчы з выбаршчыкамі і іншыя масавыя мерапрыемствы

Згодна з Каляндарным планам, да 12 лістапада выканаўчымі і распарадчымі органамі па ўзгадненні з адпаведнымі выбарчымі камісіямі былі вызначаны памяшканні для правядзення сустрэч кандыдатаў у прэзідэнты і іх даверaных асоб з выбаршчыкамі і перадвыбарчых сходаў, арганізаваных выбаршчыкамі — такія памяшканні прадстаўляюцца бясплатна. Таксама кандыдаты ў прэзідэнты мелі права за кошт сродкаў уласнага выбарчага фонда арэндаваць будынкі і памяшканні для правядзення сустрэч з выбаршчыкамі.

У гэты ж тэрмін былі вызначаны месцы для правядзення масавых мерапрыемстваў (сходаў па-за памяшканнямі, мітынгаў, пікетаванняў) у мэтах перадвыбарчай агітацыі. Згодна з арт. 45.1

ВК, правядзенне масавых мерапрыемстваў у месцах, вызначаных рашэннямі мясцовых уладаў, маюць паведамляльны характар. Масавыя мерапрыемствы, якія праводзяцца па-за вызначанымі месцамі, павінны арганізоўвацца і праводзіцца ў адпаведнасці з Законам «Аб масавых мерапрыемствах».

Месцы для сустрэч з выбаршчыкамі былі вызначаны выканкамамі ў тэрміны, устаноўленыя выбарчым заканадаўствам і ЦВК. Аднак у абсалютнай большасці рэгіёнаў, за выключэннем Мінска, былі вызначаны нязручныя (аддаленыя, нядобраўпрарадкаваныя) ці невялікія памяшканні і месцы для масавых мерапрыемстваў. Разам з тым, назіральнікі адзначылі, што колькасць такіх месцаў большая, чым падчас выбараў 2006 года. Пры гэтым мелі месца парушэнні арт. 45 ВК, гэта значыць вызначэнне месцаў выканкамамі без узгаднення з адпаведнымі выбарчымі камісіямі. Напрыклад, Мінгарвыканкам прыняў рашэнне аб вызначэнні месцаў без узгаднення з Мінскай гарадской выбарчай камісіяй. Аналагічным чынам прымалі рашэнні і Аршанскія гар- і райвыканкамы (Віцебская вобл.).

Як і ў выпадку з вызначэннем месцаў для правядзення пікетаў па зборы подпісаў, многія выканкамы пазней унеслі змены ў свае рашэнні, павялічыўшы колькасць месцаў для сустрэч кандыдатаў і іх давераных асоб з выбаршчыкамі. Практычна заўсёды гэта адбывалася пад ціскам або па скаргах праваабаронцаў ці актывістаў штабоў кандыдатаў.

Так, актывісты кампаніі «Праваабаронцы за свабодныя выбары» дамагліся перагляду рашэнняў Гродзенскага гарвыканкама, Смаргонскага райвыканкама (Гродзенская вобл.) і інш. У выніку абскарджання рашэння аб вызначэнні месцаў для правядзення агітацыі Гомельскі гарвыканкам унёс змены ў сваё рашэнне ад 5 лістапада: замест ранейшых 9 пляцовак у нешматлюдных раёнах агітацыя была дазволена на тэрыторыі горада амаль паўсюдна. Да трох існуючых месцаў для правядзення масавых мерапрыемстваў у Ленінскім раёне Магілёва дадалося яшчэ дзевяць месцаў. Адпаведнае рашэнне аб гэтым было прынята адміністрацыяй Ленінскага раёна абласнова цэнтра пасля таго, як у суд трынаццацю дэмакратычнымі актывістамі былі пададзены заявы аб тым, што колькасць месцаў для вядзення агітацыі на тэрыторыі раёна недастатковая.

Пасля ўнясення Салігорскім райвыканкам зменаў у сваё рашэнне «Аб вызначэнні месцаў для правядзення кандыдатамі ў прэзідэнты массавых мерапрыемстваў з мэтай здзяйснення перадвыбарчай агітацыі» былі значна пашыраны магчымасці кандыдатаў па агітацыі на адкрытых пляцоўках горада. Калі першапачаткова прадугледжвалася правядзенне вулічных пікетаў толькі на тэрыторыі стадыёна «Будаўнік» на ўскрайку горада, а таксама на школьных спартыўных пляцоўках, што знаходзяцца на нязручных дваравых тэрыторыях, то потым стала дазволена агітацыя на пляцоўках каля гандлёвых аб'ектаў раёна. Таксама былі ўнесены змены ў рашэнне аб месцах правядзення сустрэч кандыдатаў: у дазволены спіс былі ўнесены актавыя залы адукацыйных устаноў Салігорска і жыллёва-эксплуатацыйных служб ЖКГ.

У Брэсце павелічэння колькасці месцаў для агітацыі не адбылося, хаця на сустрэчы чыноўнікаў Брэсцкага гарвыканкама з назіральнікамі місіі АБСЕ намеснік старшыні Брэсцкага гарвыканкама Вячаслаў Хафізаў на пытанне адносна павелічэння колькасці месцаў для сустрэч выбаршчыкаў з кандыдатамі ў Ленінскім і Маскоўскім раёнах Брэста даў станоўчы адказ. Адпаведны запыт у гарвыканкам накіравалі брэсцкія праваабаронцы. У пісьмовым адказе, які заяўнікі атрымалі за подпісам таго ж В. Хафізава, паведамлялася, што для правядзення агітацыі застаюцца раней вызначаныя месцы.

Варта адзначыць адносна ліберальны падыход уладаў да сустрэч апазіцыйных кандыдатаў з выбаршчыкамі і іншых звязаных з выбарамі масавых мерапрыемстваў у параўнанні з папярэднімі прэзідэнцкімі выбарамі.

Сустрэчы ў памяшканнях адбываліся без істотных перашкодаў, аднак некаторыя ўстановы адмаўлялі ў іх прадастаўленні. Напрыклад, Яраславу Раманчуку было адмоўлена ў правядзенні сустрэчы з выбаршчыкамі ў Гомельскім дзяржаўным тэхнічным універсітэце, Беларускім гандлёва-эканамічным універсітэце спажывецкай кааперацыі (Гомель) і Міжнародным інстытуце працоўных і сацыяльных адносінаў; У. Някляеву — у Брэсцкім дзяржаўным універсітэце. Юрый Клімовіч, давераная асоба кандыдата ў прэзідэнты Віталя Рымашэўскага, атрымаў рэзкую адмову ад кіраўніцтва Гомельскага абласнога дома тэхнічнай і мастацкай творчасці. Па словах Клімовіча, дырэктар Дома творчасці ўпершыню пачуў ад даверанай асобы, што ўстанова з'яўляецца дазволеным для правядзення агітацыі месцам, і дадаў, што «Нагі тут ніякіх кандыдатаў не будзе!».

З перашкодамі сутыкнуўся А. Саннікаў пры арганізацыі сустрэчы з выбаршчыкамі 29 лістапада ў Мінскім дзяржаўным лінгвістычным універсітэце, які палітык у свой час скончыў. За не-

калькі дзён ва ўніверсітэце былі сарваныя ўсе аб'явы, якія запрашалі на сустрэчу з кандыдатам у прэзідэнты. У дзень сустрэчы адміністрацыя ВНУ таксама забараніла размясціць запрашэнне на дошцы аб'яваў. Выкладчыцкі склад ВНУ папярэдзілі, што на сустрэчу з апазіцыйным палітыкам «лепш не хадзіць». Намеснік рэктара па выхаваўчай працы Ігар Пучэня да апошняга не дазваляў павесіць на сцэне банэр з партрэтам Саннікава і словамі «Гісторыя робіцца сёння». Удалося павесіць транспарант толькі пасля званка ў ЦВК. Нягледзячы на ўсе перашкоды, на сустрэчу з кандыдатам сабралася каля 500 чалавек.

Сустрэчы кандыдатаў і іх давераных асобаў з выбаршчыкамі ў большасці рэгіёнаў адбываліся ва ўмовах абмежаванай інфармацыі аб іх правядзенні. Напрыклад, інфармацыя аб сустрэчы кандыдата Мікалая Статкевіча з жыхарамі г. Баранавічы (Брэсцкая вобл.) з'явілася ў мясцовай газеце «Наш край» (на апошняй старонцы дробным шрыфтам) і на сайце гарвыканкама толькі 2 снежня, у дзень сустрэчы. Абвестка пра сустрэчу з кандыдатам у прэзідэнты Яраславам Раманчуком «Маладзечанская газета» надрукавана на пятнаццатай старонцы, пад аб'явамі аб наяўнасці вакансій на прадпрыемствах.

У Брэсце Дзмітрый Шурхай, давераная асоба кандыдата ў прэзідэнты Віталя Рымашэўскага, 8 снежня падпісаў дамову з тэлеканалам «Буг-ТБ» аб рэкламе маючай адбыцца сустрэчы гэтага кандыдата з выбаршчыкамі. Меркавалася, што рэклама будзе размешчана ў інфармацыйным блоку тэлеканала, аднак раніцай 9 снежня Дзмітрыю Шурхаю патэлефанавалі з «Буг-ТВ» і паведамілі, што дамова анулюецца, паколькі для падобнай рэкламы «няма эфірнага часу».

У Брэсце мясцовыя ўлады ўсяляк перашкаджалі распаўсюду інфармацыі і пра прыезд кандыдата ў прэзідэнты Яраслава Раманчука. Беспаспяховымі аказаліся спробы прааналсаваць дадзены візіт у некаторых СМІ (там спасылаліся на тэхнічныя прычыны і немагчымасць распаўсюджваць такога роду інфармацыю), а таксама з дапамогай абвестак па радыё на рынках горада і ў цэнтральным універмагу. Актывісты штаба вымушаны выйсці на вуліцы з плакатамі і стаяць уздоўж трас, каб праязджаючыя людзі змаглі даведацца, што такая сустрэча адбудзецца, таксама раздаваліся ўлёткі і рабіліся вусныя запрашэнні.

Аршанская тэлекампанія «Скіф», уладальнікам якой з'яўляецца ТАА «Телеком — Гарант», адмовілася прыняць аб'яву пра сустрэчу з кандыдатам у прэзідэнты Уладзімірам Някляевым, якая была запланавана 27 лістапада ў Доме культуры Таварыства інвалідаў па зроку. Нягледзячы на тое, што дадзеная сустрэча была ўзгоднена з гарадской камісіяй і гарвыканкамам, тэлекампанія запатрабавала выдаць пісьмовы дазвол гарвыканкама, які ў сваю чаргу адмовіўся выдаць такі дакумент.

Аднак у некаторых рэгіёнах адзначаліся і станоўчыя тэндэнцыі: дзяржвыданні і іншыя СМІ не адмаўляліся інфармаваць жыхароў пра сустрэчы з альтэрнатыўнымі кандыдатамі. У Бярозаўскай раённай газеце «Маяк» на першай старонцы на каляровым фоне была надрукавана абвестка пра сустрэчу кандыдата ў прэзідэнты Рыгора Кастусёва з выбаршчыкамі. Пра сустрэчу гэтага ж кандыдата з выбаршчыкамі Наваполацку размясцілі абвесткі мясцовыя тэлеканалы «Вектар» і «Лайнер». 25 лістапада баранавіцкая дзяржаўная газета «Наш край» надрукавала інфармацыю пра сустрэчы выбаршчыкаў з апазіцыйнымі кандыдатамі ў прэзідэнты Яраславам Раманчуком і Андрэем Саннікавым, якія былі запланаваны адпаведна 26 і 28 лістапада. Гэтая ж інфармацыя была размешчана і на сайце Баранавіцкага гарвыканкама.

Назіральнікі адзначылі даволі вялікую зацікаўленасць выбаршчыкаў да сустрэч з альтэрнатыўнымі кандыдатамі ў розных рэгіёнах. Прыезд кандыдата ў прэзідэнты Андрэя Саннікава ў Гродна выклікаў сапраўдны ажыятаж. На сустрэчу, якая праходзіла ў памяшканні Гродзенскай абласной філармоніі, прыйшло каля тысячы чалавек, так што зала гэтай установы не змагла змясціць усіх ахвотных паслухаць кандыдата: людзі стаялі ў праходах і нават фае. Андрэй Саннікаў сабраў у Магілёўскім палацы культуры чыгуначнікаў аншлаг: паслухаць і паглядзець на апазіцыйнага кандыдата прыйшло каля 500 чалавек — у зале не было свабодных месцаў, людзі стаялі ў праходах. У Віцебску на сустрэчу з гэтым кандыдатам, якая праходзіла ў актавай зале Цэнтра творчасці дзяцей і моладзі Першамайскага раёна, сабралася больш за 250 чалавек — гэта найбольшая колькасць выбаршчыкаў, якія прысутнічалі на падобных сустрэчах у гэтым абласным цэнтры. 9 снежня ў Баранавічах у гарадскія палацы афіцэраў адбылася сустрэча выбаршчыкаў з кандыдатам у прэзідэнты Уладзімірам Някляевым, на якую сабралася поўная зала людзей, некаторыя былі вымушаны стаяць у калідорах, а для іншых дастаўлялі дадатковыя крэслы. 11 снежня ў Гродне ў залу ААТ «Радыёхваля» на сустрэчу з гэтым кандыдатам прыйшло каля 600 чалавек. Зала Цэнтра гігіены і эпідэміялогіі ў Бабруйску, у якой 12 снежня прайшла сустрэча з

кандыдатам у прэзідэнты Яраславам Раманчуком, была перапоўненая, арганізатарам давялося прыносіць нават дадатковыя крэслы, каб размясціць усіх жадаючых. На сустрэчу з гэтым жа кандыдатам у Пінску прыйшло каля 300 выбаршчыкаў. У Гомелі 14 снежня ў вучэбна-метадычным цэнтры на Галавацкага адбылася сустрэча кандыдатаў у прэзідэнты Мікалая Статкевіча і Дзмітрыя Уса з выбаршчыкамі, на якую прыйшлі больш за 350 чалавек, у той час калі зала была разлічана толькі на 250 месцаў. 10 снежня ў зале гарадскога Палаца культуры Салігорска сустрэча кандыдатаў у прэзідэнты Мікалая Статкевіча і Дзмітрыя Уса з жыхарамі горада сабрала больш за 300 чалавек.

У той жа самы час зафіксаваны выпадкі запалохвання з боку адміністрацый прадпрыемстваў і ўстаноў падначаленых з мэтай, каб тыя не ўдзельнічалі ў сустрэчах з альтэрнатыўнымі кандыдатамі і іх даверанымі асобамі. Напрыклад, паводле даверанай асобы У. Някляева Пятра Мігурскага, у Шклове напярэдадні сустрэчы У. Някляева з выбаршчыкамі, якая адбылася 1 снежня, кіраўніцтва некаторых прадпрыемстваў горада пад пагрозай звальнення забараніла сваім работнікам удзельнічаць у сустрэчы з кандыдатам. У выніку ў Дом культуры г.Шклова на сустрэчу з Уладзімірам Някляевым прыйшло 60 чалавек.

У пераважнай большасці выпадкаў матэрыялы пра ход сустрэч альтэрнатыўных кандыдатаў у прэзідэнты і іх davераных асобаў у рэгіёнах не траплялі ў мясцовыя сродкі масавай інфармацыі. Напрыклад, пра тое, што ў Слоніме 25 лістапада выступаў Павел Севярынец, давераная асоба кандыдата ў прэзідэнты Віталя Рымашэўскага, паведаміў толькі незалежны тыднёвік «Газета Слонімская». Мясцовая раёнка «Слонімскі веснік» інфармацыю пра гэтую падзею не размясціла, хаця на сустрэчы прысутнічаў галоўны рэдактар выдання Кірыл Ляшчанка і ўсю сустрэчу здымаў на кінакамеру. Журналісты з мясцовага тэлеканала «Слонім-ТВС» таксама здымалі рэпартаж з сустрэчы, і ён быў падрыхтаваны да выпуску ў эфір. Аднак рэдакцыю наведаў ідэолаг са Слонімскага райвыканкама Ігар Лапікаў, які скінуў рэпартаж сабе на флэшку, а праз гадзіну паступіў загад з райвыканкама рэпартаж у эфір не ставіць.

Агітацыя ў падтрымку дзеючага Прэзідэнта ажыццяўлялася прадстаўнікамі выканкамаў, кіраўнікамі ўстаноў, арганізацый і прадпрыемстваў. Яны праводзілі сходы ў працоўных калектывах і арганізоўвалі сустрэчы з даверанымі асобамі А. Лукашэнкі. Звычайна такія сустрэчы адбываліся ў працоўны час. Выбаршчыкаў збіралі прымусова. Напрыклад, у г. Шклове (Магілёўская вобл.) напярэдадні 1 снежня, калі была запланавана сустрэча даверанай асобы А. Лукашэнкі, рэктара Магілёўскага дзяржаўнага ўніверсітэта харчавання Вячаслава Шаршунова, з выбаршчыкамі, арганізацыі і прадпрыемствы Шклова атрымалі разнарадку, колькі людзей яны павінны накіраваць на гэтую сустрэчу.

16 снежня ў Слоніме ў кінатэатры «Мір» выступаў рэктар Гродзенскага дзяржаўнага аграрнага ўніверсітэта Вітольд Песціс, давераная асоба Аляксандра Лукашэнкі. Найбольш у зале было супрацоўніц раённага вузла сувязі, што знаходзіцца недалёка ад кінатэатра, якіх накіравалі на гэтую сустрэчу падчас іх абедзеннага перапынку.

9 снежня ў памяшканні Свіслацкай жыллёва-камунальнай гаспадаркі быў сабраны калектыў гэтай установы. У працоўны час старшыня Свіслацкага райвыканкама Алег Таргонскі, які вярнуўся з Усебеларускага сходу, разам з галоўным лекарам Свіслацкай цэнтральнай раённай бальніцы Іллём Турком агітавалі галасаваць за Аляксандра Лукашэнку. За тыдзень да гэтага ў Свіслач прыязджаў Васіль Равяка, старшыня СВК «Прагрэс-Верцялішкі», давераная асоба Аляксандра Лукашэнкі, і вёў агітацыю ў будынку раённага Дома культуры, дзе па загадзе мясцовага начальства ў працоўны час былі сабраны выбаршчыкі.

У якасці даверанай асобы кандыдата ў прэзідэнты Аляксандра Лукашэнкі ў працоўны час праводзіў сустрэчы з выбаршчыкамі Рагачова генеральны дырэктар «Гомсельмашу» Валерый Жмайлік: ён наведаў працоўныя калектывы ААТ «Рагачоўскі МКК», хлебзавода, міжрайгазу, аблаўтратрансу. На сустрэчы з супрацоўнікамі ААТ «Рагачоўскі МКК», якую праводзіў Валерый Жмайлік, прысутнічалі таксама генеральны дырэктар гэтага прадпрыемства, старшыня Рагачоўскага райвыканкама, яго намеснік, намеснік раённай выбарчай камісіі і мясцовы ідэолаг.

2 снежня на пашыраным пасяджэнні калегіі Мінстэрства лясной гаспадаркі была прынята рэзалюцыя, якая заклікала «аддаць свой голас за дастойнага кандыдата Аляксандра Рыгоравіча Лукашэнку, які будзе гарантам рэалізацыі Праграмы сацыяльна-эканамічнага развіцця Рэспублікі Беларусь на 2011-2015 гады».

2 снежня ў ДК «БелАЗ» праходзіла неанансаваная ў мясцовых СМІ агітацыйная сустрэча старшыні Мінаблвыканкама Барыса Батуры з жодзінцамі. Апошні выступаў у ролі даверанай

асобы кандыдата А.Лукашэнкі. У дадзеным мерапрыемстве ўдзельнічаў практычна ўвесь адміністрацыйны актыў горада, а адабраныя людзі з розных прадпрыемстваў і ўстаноў спецыяльна прывозіліся арганізаванымі для гэтага аўтобусамі: зала на 419 месцаў была поўнай. Усё гэта адбывалася ў працоўны час. Ужо 3 снежня на сайце афіцыйнага друкаванага выдання выканкама «Жодзінскія Навіны» з'явіўся вялікі матэрыял па выніках сустрэчы Барыса Батуры з жодзінцамі, пры гэтым на сайце не было размешчана ніводнага паведамлення пра сустрэчы альтэрнатыўных кандыдатаў, якія адбываліся ў Жодзіне. У гэты ж дзень Жодзінскі тэлеканал «Сфера» таксама аператыўна прадставіў жодзінцам інфармацыю пра сустрэчу з даверанай асобай А.Лукашэнкі.

Ніводнага разу выкарыстанне адміністрацыйнага рэсурсу і парушэнні пры правядзенні сустрэч з выбаршчыкамі не сталі прадметам для законнага рэагавання і прававой ацэнкі адпаведнымі выбарчымі камісіямі. Паказальным з'яўляецца адказ ЦВК на скаргу барысаўскага праваабаронцы Алега Мацкевіча ў сувязі з правядзеннем 1 снежня даверанай асобай кандыдата ў прэзідэнты Аляксандра Лукашэнкі, гендырэктарам ААТ «БАТЭ» Анатолем Капскім сустрэчы з выбаршчыкамі на тэрыторыі ААТ «Экран» у працоўны час. Як вынікае з адказу ЦВК, падчас праверкі было ўстаноўлена, што Анатоль Капскі падаваў заяву генеральнаму дырэктару ААТ «Экран» Валерыю Касперскаму аб правядзенні сустрэчы з выбаршчыкамі ў зале паседжанняў гэтага прадпрыемства 1 снежня ў 15.00. «З інфармацыі, прадстаўленай у Цэнтральную камісію, вынікае, што рэжым працы названага прадпрыемства — двухзменны. Як растлумачыў старшыня Барысаўскай раённай камісіі па выбарах прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Бараннік В.М., улічваючы рэжым працы прадпрыемства, з ліку яго супрацоўнікаў на сустрэчы прысутнічалі тыя, хто скончыў працу ў першую змену, і тыя, хто не пачынаў працу ў другую змену. Акрамя таго, уваход у памяшканне залы паседжанняў ААТ «Экран» ажыццяўляецца як з тэрыторыі прадпрыемства, так і з вуліцы. І на ўказанай сустрэчы прысутнічалі не толькі члены калектыва прадпрыемства, але выбаршчыкі, якія не з'яўляюцца супрацоўнікамі ААТ «Экран». Што да самога гендырэктара «БАТЭ» Анатоля Капскага, то з 1 снежня, як вынікае з адказу ЦВК, ён афіцыйна знаходзіўся ў працоўным адпачынку. Пасля атрымання такога адказу Алег Мацкевіч накіраваў скаргу ў Барысаўскую раённую пракуратуру, спадзеючыся, што пракуроры апытаюць супрацоўнікаў ААТ «Экран», якія ім паведамяць, што першая змена на прадпрыемстве сканчаецца не раней за 15.30. Аднак пракурор не стаў праводзіць праверку законнасці сустрэчы, а проста перанакіраваў скаргу праваабаронцы ў Барысаўскую ТВК, старшыня якой ужо даваў тлумачэнні ЦВК па гэтай справе.

Масавыя мерапрыемствы (найперш пікеты) з'яўляліся вельмі распаўсюджанай формай вядзення агітацыі кандыдатамі ў прэзідэнты і іх прыхільнікамі і, па ацэнках назіральнікаў, для іх было характэрна даволі ліберальнае стаўленне. Агітацыйныя пікеты былі найбольш распаўсюджаны ў сталіцы, абласных цэнтрах і буйных гарадах: у некаторых з іх былі створаны стала дзейнічаючыя пікеты, а ў Мінску камандамі кандыдатаў А. Саннікава і У. Някляева былі арганізаваны нават кругласуткавыя пікеты. У многіх рэгіёнах пікеты арганізоўваліся штабамі напярэдадні або падчас візітаў кандыдатаў у гэтыя рэгіёны.

Напрыклад, з 23 лістапада ў Баранавічах каманда Андрэя Саннікава арганізавала пастаянна дзеючы інфармацыйна-агітацыйны пікет у цэнтры горада — ля цэнтральнага кінатэатра «Кастрычнік». У Брэсце рэгулярна з канца лістапада праводзіліся пікеты ў падтрымку кандыдатаў У. Някляева і В. Рымашэўскага. У гэтым жа абласным цэнтры інфармацыйна-агітацыйныя пікеты былі наладжаны напярэдадні візіту ў Брэст кандыдата М. Статкевіча 3 снежня. У Віцебску стала працавалі два пікеты ў падтрымку Уладзіміра Някляева, прычым адзін з іх быў усталяваны на плошчы Леніна — гэтае месца адміністрацыя Кастрычніцкага раёна ўпершыню вызначыла для агітацыйных мэтаў, іншыя прапанаваныя месцы знаходзіліся далёка ад цэнтра — пераважна ва ўскраінных і малалюдных парках. У буйных гарадах Віцебскай вобласці — Воршы, Полацку, Наваполацку і ў райцэнтры Глыбокае — працавалі агітацыйныя пікеты ў падтрымку А.Саннікава, У.Някляева, Р.Кастусёва, В.Рымашэўскага. Вялікую актыўнасць каманда кандыдата У. Някляева праявіла і ў працы з сельскім насельніцтвам: напрыклад, з 25 лістапада прыхільнікі гэтага кандыдата пачалі праводзіць пікеты ў аграгарадках і вёсках Бялыніцкага раёна Магілёўскай вобласці (Вішоў, Вялікая Машчаніца і інш.).

На пікетах выбаршчыкі маглі даволі свабодна атрымаць інфармацыйныя матэрыялы пра кандыдатаў у прэзідэнты, азнаёміцца з іх праграмамі, задаць пытанні. У некаторых выпадках агітарары выкарыстоўвалі і дадатковыя магчымасці прыцягнуць увагу да сваіх кандыдатаў. На-

прыклад, у Полацку 27 лістапада актывісты з каманды А. Саннікава знайшлі магчымасць усталяваць на пікеце тэлевізар і бесперабойна круцілі запіс выступу свайго кандыдата па дзяржаўным тэлебачанні. У Брэсце агітацыя за У. Някляева суправаджалася аўдыёзапісам ягонага выступу, які прагучаў па радыё, а таксама песнямі на вершы гэтага кандыдата ў прэзідэнты. У Бярозе 10 снежня пасля правядзення сустрэчы з выбаршчыкамі давераныя асобы кандыдата У. Някляева ўстанавілі елку на гарадскім рынку і ўпрыгожылі яе не толькі цацкамі, але і агітацыйнымі буклетамі кандыдата. На агітацыйным пікеце ў падтрымку У. Някляева ў Мінску, усталяваным у выглядзе намёту на чыгуначным вакзале, была размешчана празрыстая скрыня для галасавання з надпісам на дзвюх дзяржаўных мовах: «Празрыстыя выбары». 29 лістапада ў Віцебску падчас пікету з удзелам кандыдата ў прэзідэнты Рыгора Кастусёва каля Летняга амфітэатра мясцовыя актывісты ўсталявалі стэнд з партрэтам кандыдата і вывесілі нацыянальны бел-чырвона-белы сцяг.

Камандамі некаторых кандыдатаў у прэзідэнты практыкаваліся таксама так званыя «лятучыя пікеты»: на працягу дня агітатары паспявалі выставіць пікеты ў розных частках горада. У Гродне такую форму пікетаў найчасцей выкарыстоўвалі прадстаўнікі выбарчага штаба Яраслава Раманчука. У Гомелі сябры перадвыбарчага штаба Някляева арганізавалі «аўта-пікет» — па горадзе рухаўся аўтамабіль з выявай палітыка і сцягамі — бел-чырвона-белым і кампаніі «Гавары праўду!». Такая ж практыка вядзення агітацыі была распаўсюджана камандай У. Някляева і ў іншым абласным цэнтры — Брэсце.

У большасці выпадкаў пікеты ва ўсіх рэгіёнах адбываліся без перашкодаў і інцыдэнтаў, але зафіксаваны і факты ціску і іншых форм уздзеяння на арганізатараў і ўдзельнікаў агітацыйных мерапрыемстваў. Так, у Віцебску ахова гандлёвага цэнтра «Эвіком» неаднаразова выдаляла агітатараў за А.Міхалевіча, У.Някляева і В.Рымашэўскага з прылеглай тэрыторыі. У Іванава (Брэсцкая вобласць) 6 снежня да ўдзельнікаў пікету ў падтрымку А. Саннікава пад'ехала група супрацоўнікаў міліцыі, узброеных аўтаматамі; ахоўнікі парадку запрасілі ўчастковага для праверкі дакументаў пікетоўшчыкаў, але высветліўшы, што ўсё законна, з'ехалі. 7 снежня ў Бабруйску супрацоўнікі міліцыі загадалі прадставіць пашпарты і перапісалі дадзеныя ўдзельнікаў пікета ў падтрымку А. Саннікава, арганізаванага на рынкавай плошчы горада. 28 лістапада ў Бялынічах (Магілёўская вобл.) міліцыяй і прадстаўнікамі мясцовага райвыканкама падчас правядзення пікета з удзелам кандыдата Рыгора Кастусёва быў заблакаваны ягоны аўтамабіль. Таксама быў складзены пратакол аб парушэнні парадку правядзення масавых мерапрыемстваў, які нікому не дэманстраваўся і, адпаведна, не падпісваўся Р. Кастусёвым. Кандыдат сцвярджаў, што пікет адбываўся ў дазволеным месцы, тады як мясцовая адміністрацыя сцвярджала, што на яго правядзенне неабходна было падаваць заяўку за два дні. У Бабруйску сябрамі ТВК быў складзены акт аб парушэнні парадку арганізацыі агітацыйнага масавага мерапрыемства на даверанаую асобу кандыдата В. Рымашэўскага — нібыта за правядзенне пікета ў нявызначаным месцы без уведамлення адміністрацыі горада; аналагічны акт быў складзены на кандыдата ў прэзідэнты Р. Кастусёва пасля ягонай сустрэчы з выбаршчыкамі ў Дрыбіне (Магілёўская вобласць).

У той жа час тэрытарыяльныя выбарчыя камісіі «заплюшчвалі вочы» на правядзенне агітацыйных мерапрыемстваў у недазволеных месцах прыхільнікамі толькі аднаго з кандыдатаў у прэзідэнты — Аляксандра Лукашэнкі, як гэта было, напрыклад, у Маладэчне, дзе каля Цэнтральнага ўнівермага 11 і 12 снежня былі праведзены пікеты з раздачай улётак (у спісе дазволеных для пікетавання месцаў пляцоўкі каля «Універмага» не было). Таксама не была дадзеная адпаведная прававая ацэнка дзеянням намесніка старшыні Гомельскага аблвыканкама Пятра Кірычэнкі, які 4 снежня падчас канцэрта «За моцную і квітнеючую «Беларусь» на плошчы Леніна ў Мазыры (месца не было ў шэрагу дазволеных для агітацыі) заклікаў жыхароў горада падтрымаць курс улады і галасаваць за цяперашняга прэзідэнта. Адзначым, што па факту дадзенай незаконнай агітацыі мазырскі праваабаронца Уладзімір Целяпун накіроўваў скаргі ў раённую выбарчую камісію, райвыканкам і пракуратуру.

30 лістапада ЦВК вынесла папярэджанні кандыдатам В.Рымашэўскаму і М.Статкевічу за парушэнне выбарчага заканадаўства пры правядзенні несанкцыяванай перадвыбарчай акцыі 24 лістапада на Кастрычніцкай плошчы г. Мінска (мітынг не быў разагнаны міліцыяй, ніхто не быў затрыманы). Напярэдадні гэтай акцыі, 23 і 24 лістапада, Генеральная пракуратура вынесла В. Рымашэўскаму і М. Статкевічу афіцыйныя папярэджанні аб недапушчальнасці парушэння заканадаўства, якое, па меркаванні пракуратуры, выявілася ў закліках гэтых кандыдатаў падчас іх тэлевізійных выступленняў узяць удзел у несанкцыянаваным масавым мерапрыемстве. Эксперты

кампаніі «Праваабаронцы за свабодныя выбары» адзначаюць, што заклік да ўдзелу ў сустрэчы з выбаршчыкамі ў месцы, забароненым уладамі, сапраўды з'ўляецца фармальным парушэннем закону, але лічаць, што сам факт забароны любых масавых мерапрыемстваў на Кастрычніцкай плошчы з'яўляцца празмерным абмежаваннем свабоды сходаў, паколькі яе размяшчэнне і памеры дазваляюць праводзіць на ёй мірныя акцыі без парушэння грамадскага парадку і правоў іншых грамадзян.

Найбольш масавай была акцыя, арганізаваная 6 снежня кандыдатамі ў прэзідэнты У. Някляевым і А. Саннікавым у Мінску на Прывакзальнай плошчы (сабрала, паводле розных падлікаў, ад адной да двух з паловай тысяч чалавек). Кандыдаты заклікалі ўсіх беларусаў адмовіцца ад датэрміновага галасавання і запрасілі на Плошчу 19 снежня, у дзень выбараў прэзідэнта Беларусі.

Каментуючы гэтую сустрэчу з выбаршчыкамі, а таксама заклікі кандыдатаў прыйсці ў дзень выбараў на Кастрычніцкую плошчу, сакратар Цэнтральнай выбарчай камісіі Мікалай Лазавік у інтэрвью БелаПАН (http://naviny.by/rubrics/elections/2010/12/07/ic_news_623_356725/ — вынесці як спасылку) адзначыў: «Вельмі сумна, што кандыдаты ў прэзідэнты замест таго, каб паказаць сябе законапаслухмянымі, заклікаюць закон парушаць. Уладзімір Някляеў і Андрэй Саннікаў 6 снежня правялі сустрэчу з выбаршчыкамі на Прывакзальнай плошчы. Там дастаткова месца, што хацелі — яны сказалі. А яшчэ можна было б праводзіць такія сустрэчы каля Палаца чыгуначнікаў, Палаца спорту — там вялікія пляцоўкі». Замест гэтага, зазначыў Лазавік, кандыдаты ў прэзідэнты заклікаюць выбаршчыкаў сабрацца на Кастрычніцкай плошчы, якая забаронена для правядзення агітацыйных мерапрыемстваў. «Напэўна, гэта «падзяка» за лібералізацыю выбарчага заканадаўства і талерантнасць арганізатараў выбараў да свавольстваў кандыдатаў у прэзідэнты». Паводле слоў сакратара ЦВК, «непрыгожа, што патэнцыйныя гаранты Канстытуцыі парушаюць закон». Мікалай Лазавік не змог адказаць, якой можа быць рэакцыя Цэнтрвыбаркама на заклікі кандыдатаў у прэзідэнты да выбаршчыкаў сабрацца 19 снежня на Кастрычніцкай плошчы: «Для пачатку павінны даць прававую ацэнку праваахоўныя органы, напрыклад, папярэдзіць кандыдатаў аб адказнасці за парушэнне заканадаўства».

Рэакцыя органаў улады не прымусіла сябе доўга чакаць: 10 снежня Генеральная пракуратура вынесла пяці кандыдатам у прэзідэнты Беларусі афіцыйныя папярэджанні аб недапушчальнасці парушэння заканадаўства. Папярэджанні атрымалі Уладзімір Някляеў, Віталь Рымашэўскі, Мікалай Статкевіч, Яраслаў Раманчук і Андрэй Саннікаў. У гэты ж дзень начальнік упраўлення па наглядзе за выкананнем заканадаўства і законнасці прававых актаў Генпракуратуры Павел Радзівонаў заявіў у эфіры беларускіх тэлеканалаў, што падчас выступленняў па ТБ і радыё «асобныя кандыдаты ў прэзідэнты, у прыватнасці Саннікаў, Някляеў, Раманчук, Рымашэўскі і Статкевіч» заклікалі сваіх выбаршчыкаў «прыбыць 19-га чысла ў 20.00 для ўдзелу ў масавым мерапрыемстве ў горадзе Мінску». Паводле слоў Радзівонава, правядзенне масавага мерапрыемства 19 снежня рэгламентуецца заканадаўствам аб масавых мерапрыемствах, паколькі «ўжо няма агітацыйнай кампаніі». Паводле закона аб масавых мерапрыемствах, «арганізатары масавага мерапрыемства абавязаныя не менш чым за 15 дзён да яго правядзення падаць адпаведную заяву ў Мінгарвыканкам». «Аднак да гэтага часу яна ў Мінгарвыканкам так і не паступіла, — адзначыў Радзівонаў. — Улічваючы такую акалічнасць, Генеральнай пракуратурай аб'яўлены афіцыйныя папярэджанні пра недапушчальнасць парушэння заканадаўства аб масавых мерапрыемствах». «Удзел у несанкцыянаваных масавых мерапрыемствах можа цягнуць адказнасць у адпаведнасці з Кодэксам аб адміністрацыйных правапарушэннях, — падкрэсліў прадстаўнік Генпракуратуры. — Мэта нашага афіцыйнага папярэджання — якраз не дапусціць парушэння заканадаўства, і мы заклікаем грамадзян строга выконваць дзеючае заканадаўства».

# 7. Скаргі і іншыя звароты да пачатку галасавання

Згодна з выбарчым заканадаўствам, рашэнні выбарчых камісій і іншыя дзеянні, звязаныя з выбарамі, могуць абскарджвацца ў вышэйстаячыя выбарчыя камісіі і пракуратуру. Новая рэдакцыя Выбарчага кодэкса (снежань 2010 года) таксама надала магчымасць судовага абскарджання рашэнняў органаў, якія фарміравалі ТВК і УВК. Так, у адпаведнасці з ч. 6 арт. 34 Выбарчага кодэкса рашэнне органаў, якія ўтварылі камісію, можа быць абскарджана ў трохдзённы тэрмін з дня яго прыняцця адпаведна ў абласны, Мінскі гарадскі, раённы, гарадскі суд суб'ектамі, якія вылучылі сваіх прадстаўнікоў у склад камісіі. Скарга павінна быць падпісана адпаведна кіраўніком палітычнай партыі (арганізацыйнай структуры), іншага грамадскага аб'яднання (арганізацыйнай структуры), кіраўніком іншай арганізацыі (структурнага падраздзялення), грамадзянамі, якія вылучылі прадстаўніка ў склад камісіі шляхам падачы заявы. Суд разглядае скаргу ў трохдзённы тэрмін, яго рашэнне з'яўляецца канчатковым.

Паводле падлікаў назіральнікаў кампаніі «Праваабаронцы за свабодныя выбары», за перыяд да пачатку галасавання было пададзена 240 скаргаў і заяваў, 27 з іх — на этапе фарміравання ТВК. Большасць з іх датычыла неўключэння прадстаўнікоў апазіцыйных партый і грамадскіх актывістаў у склад камісій: 12 з гэтых скаргаў былі пакінутыя без разгляду, ніводная з астатніх задаволена не была. Так, Магілёўскім абласным судом не была задаволена скарга на рашэнне Магілёўскага аблвыканкама аб неўключэнні прадстаўніка Беларускай партыі левых «Справядлівы свет» Анатоля Заўялава ў склад абласной выбарчай камісіі. Гэты ж суд не задаволіў аналагічную скаргу абласной арганізацыі грамадскага аб'яднання БНФ «Адраджэнне» аб неўключэнні ў склад камісіі прадстаўніка гэтага аб'яднання Сяргея Фаміна. Гродзенскі абласны суд не задаволіў скаргу на Гродзенскі аблвыканкам аб неўключэнні ў склад абласной камісіі прадстаўніка партыі «Справядлівы свет» Віктара Міхальчыка. Такія ж рашэнні былі прынятыя судом г. Баранавічы і Баранавіцкага р-на (Брэсцкая вобл.), Віцебскім абласным судом, судом Аршанскага р-на (Віцебская вобл.), Смаргонскага р-на (Гродзенская вобл.), судамі Барысаўсага і Светлагорскага р-наў (адпаведна Мінская і Гомельская вобл.).

Асноўная прычына адмоваў судоў у задавальненні скаргаў на неўключэнні ў склад выбарчых камісій — гэта адсутнасць вызначаных Выбарчым кодэксам крытэрыяў адбору прэтэндэнтаў у склад выбаркамаў. Адсутнасць такіх крытэрыяў сведчыць аб бессэнсоўнасці нормы Выбарчага кодэкса, якая надзяляе суб'екты, якія вылучалі сваіх прадстаўнікоў у склад выбарчых камісій правам судовага абскарджання адпаведных рашэнняў.

Напрыклад, адмова Вінцуку Вячорку на скаргу аб неўключэнні ў склад выбарчай камісіі была абгрунтавана наступным чынам: «Камісія Цэнтральнага раёна г. Мінска сфармаваная ў максімальным складзе з 13 сяброў у адпаведнасці з патрабаваннямі Выбарчага кодэкса. Усяго ў склад камісіі было вылучана 14 грамадзянаў. Паколькі колькасць прапановаў аб уключэнні ў склад камісіі перавышала максімальны колькасны склад камісіі, то неўключэнне Вас у склад названай камісіі не можа разглядацца як парушэнне нормаў Выбарчага кодэкса». Такім чынам, суд адмовіўся разглядаць дыскрымінацыйны характар неўключэння прадстаўніка апазіцыйнай партыі ў склад выбарчай камісіі.

З 85 скаргаў на неўключэнне 413 кандыдатаў у склад УВК суды не задаволілі ніводнай (2 скаргі засталіся неразгледжанымі). Суды зноў, як і ў выпадку з ТВК, праігнаравалі довады аб дыскрымінацыйным падыходзе выканкамаў да прадстаўнікоў апазіцыйных палітычных партый, грамадскіх аб'яднанняў і абгрунтавалі свае адмовы тым, што фармальныя працэдуры стварэння УВК былі выкананы.

У большасці рашэнняў судоў указвалася, што УВК сфарміраваны ў строгай адпаведнасці з арт. 34 ВК, паколькі сфарміраваныя камісіі на адну трэціну складаюцца з прадстаўнікоў партый і грамадскіх аб'яднанняў і ў іх не ўваходзяць суддзі, пракуроры, кіраўнікі мясцовых выканаўчых і распарадчых органаў. Пры гэтым у большасці выпадкаў скаргі датычыліся не парушэнняў працэдуры стварэння УВК, а дыскрымінацыйнага падыходу ў адносінах да прадстаўнікоў апазіцыйных партый і грамадскіх аб'яднанняў. Апошнія ў большасці выпадкаў мелі досвед працы ў выбарчых камісіях рознага ўзроўню, аднак у склад УВК уключаны не былі. У той жа час, напрыклад, ва УВК уключаліся многія прадстаўнікі «Беларускага рэспубліканскага саюза моладзі», якія

такога досведу не мелі. Довады заяўнікаў аб дыскрымінацыйным характары рашэнняў аб утварэнні УВК судамі пакінутыя без увагі. Больш таго, у некаторых выпадках судамі яны наогул не вывучаліся. Ні ў адным з судовых рашэнняў няма ніякай згадкі пра тое, што скаргі датычыліся дыскрымінацыі прадстаўнікоў асобных партый і грамадскіх аб'яднанняў.

Паказальным з'яўляецца рашэнне суда Цэнтральнага раёна г. Мінска ад 6 лістапада, прынятае па скарзе Мінскай гарадской арганізацыі БСДП (Грамада) на дзеянні адміністрацыі Цэнтральнага раёна г. Мінска па фарміраванні УВК. У рашэнні суда ўказана, што «ацэнка матыву ўключэння ці неўключэння ў склад камісій тых ці іншых прадстаўнікоў партый і грамадскіх аб'яднанняў не адносіцца да кампетэнцыі суда». Суд Баранавіцкага раёна і г. Баранавічы (Брэсцкая вобл.) у сваім рашэнні ад 9 лістапада па скарзе Баранавіцкай гарадской арганізацыі Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны аб дыскрымінацыйным падыходзе да яе прадстаўнікоў пры утварэнні УВК, заявіў, што «суд у адпаведнасці з Выбарчым кодэксам не абмяркоўвае пытанні аб перавазе аднаго кандыдата перад іншым».

Між тым, назіральнікі кампаніі «Праваабаронцы за свабодныя выбары» зафіксавалі выпадкі, калі мясцовыя выканкамы аддавалі перавагу пэўным вылучаным у склад выбарчых камісій асобам, менавіта па матывах іх палітычнай прыналежнасці і лаяльнасці да існуючай улады.

Напрыклад, сябра Партыі БНФ Віктар Івашкевіч падаваў скаргу на дзеянні адміністрацыі Першамайскага раёна г. Мінска, якая адмовіла прадстаўніку Мінскай гарадской арганізацыі Партыі БНФ Сяргею Шынкевічу ва ўключэнні ў склад УВК. Адміністрацыя не ўзяла пад увагу на тое, што С. Шынкевіч мае вопыт працы ў выбарчых камісіях, і што ў склад УВК Першамайскага раёна не ўключаны ніводзін з прэтэндэнтаў ад Партыі БНФ. В. Івашкевіч адназначна расцаніў адмову як дыскрымінацыйную ў дачыненні да Партыі БНФ, якая прынцыпова і востра крытыкуе дзеючую ўладу.

Была разгледжана судом скарга грамадзян на неўключэнне ў склад УВК №35 Першамайскага раёна г. Віцебска вылучанага імі Паўла Левінава[26]. Падчас разгляду скаргі былі ўстаноўлены шматлікія парушэнні пры вылучэнні прэтэндэнтаў, якія былі ўключаны ў склад камісіі[27]. Акрамя таго, падчас судовага пасяджэння заяўнікі звярнулі ўвагу суда і пракурора на неадпаведнасць (падробку) подпісаў у заявах грамадзян аб вылучэнні намесніка Генеральнага дырэктара РУП «Віцебскхлебпрам» Андрэя Маркоўскага ў склад УВК. Аднак суддзя Вольга Іллюшонак адмовіла ў задавальненні скаргі, а надзорная інстанцыя пакінула гэтае рашэнне без зменаў. І толькі пасля звароту грамадзянаў у ЦВК і правядзення апошняй праверкі з выездам на месца здарэння, ЦВК прапанавала адміністрацыі Першамайскага раёна г. Віцебска вывесці Маркоўскага, які на той момант ужо быў абраны старшынёй камісіі, з яе складу. Аднак Левінаў у склад УВК уключаны так і не быў.

Юрысты кампаніі «Праваабаронцы за свабодныя выбары» адзначылі выпадкі, калі рашэнні па розных скаргах з'яўляліся практычна ідэнтычнымі, нягледзячы на тое, што разглядаліся рознымі судамі. Так, відавочным з'яўляецца падабенства фармулёвак і структуры рашэння суда Кастрычніцкага раёна г. Віцебска па скарзе Віцебскай абласной арганізацыі БПЛ «Справядлівы свет» і рашэння суда Першамайскага раёна г. Віцебска па іншай скарзе гэтай жа партыі, нягледзячы на тое, што абодва рашэнні прымаліся ў адзін дзень, 9 лістапада. Можна з вялікай доляй упэўненасці меркаваць, што ўзоры судовых рашэнняў па скаргах аб неўключэнні ў склад УВК былі падрыхтаваныя загадзя.

20 верасня вядомы юрыст Гары Паганяйла звярнуўся ў Цэнтральную выбарчую камісію з просьбай аб адмове ў рэгістрацыі ініцыятыўнай групы па вылучэнні кандыдатам у прэзідэнты

---

26 Левінаў быў вылучаны 153 грамадзянамі. На пасяджэнні раённай адміністрацыі па фарміраванні УВК начальнік аддзела арганізацыйна-кадравай работы адміністрацыі Першамайскага р-на Віцебска Павел Сільчонак растлумачыў кіраўніку адміністрацыі Мікалаю Арлову, што ў аснову складу новастворaных камісій увайшлі прадстаўнікі камісій, якія паспяхова выканалі задачу пры правядзенні выбараў у мясцовыя Саветы ўвесну бягучага года. Арлоў на пасяджэнні пытанне аб фарміраванні УВК на галасаванне не ставіў, а толькі выказаў прапанову ўхваліць прапанаваныя спісы, што пацвярджаецца і выпіскай з пратакола пасяджэння адміністрацыі, у якой адсутнічаюць вынікі галасавання.

27 Напрыклад, у выпісцы з пратакола пасяджэння першаснай арганізацыі ГА «Белая Русь» не ўказана месца працы Т. Чэпікавай; у выпісцы з пратакола пасяджэння першаснай арганізацыі ГА «БРСМ» не ўказана колькасць сяброў аб'яднання і ўдзельнікаў сходу, адсутнічаюць і дадзеныя аб выніках галасавання за А. Міхайлава; ГА «Беларускі саюз жанчын» не ўказаў займаную пасаду і месца працы ўключанай у склад участковай камісіі І. Шыёнак; спецыялісты і рабочыя дапаможнай вытворчасці цэха № 2 РУП «Віцебскхлебпрам» вылучылі ў склад камісіі медсястру Л. Агееву, якая не з'яўлялася сябрам гэтага працоўнага калектыву, аналагічна дзейнічаў і калектыў бухгалтэрыі гэтага прадпрыемства, вылучыўшы ў склад камісіі В. Грахоўскую, што з'яўляецца парушэннем арт. 35 Выбарчага кодэкса. Адміністрацыяй у суд быў прадстаўлены пратакол працоўнага калектыву аб вылучэнні ў склад камісіі Валянціны Уладзіміраўны Фок, тады як у склад камісіі была ўключаная Алена Іванаўна Фок.

А.Лукашэнкі. На думку Г.Паганяйлы, «маюцца акалічнасці і прававыя падставы, якія сведчаць аб немагчымасці балатавацца кандыдатам у прэзідэнты Лукашэнку А.Р., а таму ініцыятыўная група выбаршчыкаў па яго вылучэнні не можа быць зарэгістраваная». Паводле меркавання Г.Паганяйлы, ініцыяцыя рэферэндума 2004 года (які дазволіў А.Лукашэнку балатавацца на прэзідэнцкую пасаду больш двух разоў) была неканстытуцыйнай, а сам рэферэндум прайшоў са шматлікімі парушэннямі, што робіць яго вынікі юрыдычна нікчэмнымі. Аналагічныя звароты былі накіраваны і іншымі грамадзянамі ў ЦВК, і ўсе заяўляльнікі атрымалі фармальныя адпіскі ад ЦВК. Адмову Цэнтральнай камісіі Гары Паганяйла спрабаваў абскардзіць у Маскоўскім судзе Мінска, адзначыўшы, што скарга ў ЦВК, «у адпаведнасці з прадпісаннямі ч.2 арт. 33 Выбарчага кодэкса, падлягала разгляду Цэнтральнай камісіяй калегіяльна». «Аднак, у парушэнне ўсталяванага парадку пытанне не было вынесена на паседжанне Цэнтральнай камісіі, а я атрымаў фармальную адпіску за подпісам старшыні Цэнтральнай камісіі Ярмошынай Л.М., — гаварылася ў зыскавой заяве ў Маскоўскі суд. — Як бачна з паштовых адзнак, мой пісьмовы зварот пастапіў у Цэнтральную камісію 20.09.2010 г., а адказ датаваны 21.09.2010 г., г. зн. задоўга да разгляду пытання аб рэгістрацыі ініцыятыўнай групы выбаршчыкаў па вылучэнні кандыдатам у прэзідэнты А.Р.Лукашэнкі. Яно адбылося толькі 27.09.2010 г.». 13 кастрычніка Гары Паганяйла атрымаў адмову з Маскоўскага суда ва ўзбуджэнні справы па яго скарзе на дзеянні старшыні Цэнтрвыбаркама. Па такім жа ўзоры развіваліся падзеі і па скаргах іншых заяўляльнікаў па гэтым пытанні.

На этапе збору подпісаў, паводле дадзеных назіральнікаў кампаніі, была пададзена 51 скарга (з іх 3 — задаволены). Частка гэтых скаргаў датычылася месцаў для правядзення пікетавання з мэтай збору подпісаў, але асноўная колькасць датычылася фактаў парушэнняў выбарчага заканадаўства сябрамі ініцыятыўнай групы А. Лукашэнкі, удзелу адміністрацый арганізацый у зборы подпісаў у яго падтрымку і ўдзелу ў зборы подпісаў за А. Лукашэнку асобамі, якія не з'яўляліся сябрамі яго ініцыятыўнай групы. ЦВК і тэрытарыяльныя выбарчыя камісіі, як правіла, не выяўлялі парушэнняў у дзеяннях ініцыятыўнай групы А. Лукашэнкі або не давалі адпаведнай прававой ацэнкі такім дзеянням.

Так, 27 кастрычніка ЦВК разгледзела скаргу Валянціна Стэфановіча па факце публікацыі на сайце «Еўрапейскага радыё для Беларусі» графіка ўдзелу ў пікеце па зборы подпісаў у падтрымку А. Лукашэнкі, які быў складзены і распаўсюджаны па адукацыйных установах Ленінскага р-на г. Мінска. Пад дадзеным графікам было пазначана прозвішча кіраўніка аддзела ідэалагічнай і выхаваўчай працы Упраўлення адукацыі адміністрацыі Ленінскага р-на Анжэлы Насковай. На сайце «Еўрарадыё» таксама было змешчана інтэрв'ю з А. Насковай, у якім апошняя пацвердзіла, што давяла названы дакумент да адукацыйных устаноў, падначаленых Упраўленню. Па словах Насковай, яна распрацавала яго па ўказанні выбарчага штаба А. Лукашэнкі. Паводле ЦВК (ДАКУМЕНТ 3), дадзеныя факты сведчаць толькі пра перавышэнне службовых паўнамоцтваў з боку А. Насковай, у сувязі з чым ЦВК звярнулася да старшыні адміністрацыі Ленінскага р-на г. Мінска з просьбай разгледзіць пытанне аб прыцягненні А. Насковай да дысцыплінарнай адказнасці. У той жа час ЦВК не ўгледзела ў дадзенай сітуацыі парушэння арт. 61 Выбарчага кодэкса, паколькі «А. Наскова не кіруе ўказанымі ў графіку ўстановамі адукацыі і ў гэты перыяд у працоўным адпачынку, а ў графіку ў ліку прадстаўнікоў ініцыятыўнай групы, якія праводзілі пікет па зборы подпісаў, указаныя толькі сябры ініцыятыўнай групы». У выніку ЦВК не знайшла падстаў для вынясення папярэджання ініцыятыўнай групе А. Лукашэнкі.

Ленінская раённая камісія ў г. Магілёве не знайшла пацвярджэння факту збору подпісаў за вылучэнне А. Лукашэнкі асобай, якая не з'яўлялася сябрам яго ініцыятыўнай групы. Згодна з адказам, атрыманым праваабаронцам А. Колчыным, указаная ў скарзе асоба прысутнічала ў месцы правядзення пікета ў мэтах аказання «тэхнічнай дапамогі», што не з'яўляецца парушэннем выбарчага заканадаўства.

Красамоўным прыкладам падыходу выбарчых камісій да разгляду скаргаў стала скарга Вячаслава Дзіянава і Мікіты Краснова наконт удзелу студэнтаў БДУІР у пікеце па зборы подпісаў у падтрымку Лукашэнкі каля крамы «Дом мэблі» па вул. Веры Харужай (г. Мінск) у навучальны час. Дадзеныя студэнты не з'яўляліся сябрамі ініцыятыўнай групы і «дапамагалі» збіраць подпісы выбаршчыкаў сябру ініцыятыўнай групы, прарэктару па вучэбнай працы А. Хмылю. Пры разглядзе скаргі ў Мінскай гарадской выбарчай камісіі А. Хмыль пацвердзіў, што ўдзел у пікеце па зборы подпісаў прымалі студэнты БДУІР, а таксама тое, што ў той момант ён не знаходзіўся ў працоўным адпачынку (ДАКУМЕНТ 4). Аднак, ЦВК не ўгледзеў у дадзеным выпадку якіх-небудзь парушэнняў выбарчага заканадаўства. На думку ЦВК, А. Хмыль не знаходзіцца ў

непасрэдным падначаленні ў асобы, у падтрымку якога ажыццяўляўся збор подпісаў выбаршчыкаў, і, адпаведна, мог «запрашаць» студэнтаў для ўдзелу ў пікеце. Таксама ЦВК адзначыў, што расклад заняткаў у студэнтаў можа мець свае асаблівасці, і ў іх могуць быць свабодныя ад заняткаў дні. Пры гэтым у адказе на скаргі нічога не было сказана пра тое, ці былі канкрэтныя студэнты, якія прымалі ўдзел у пікеце, вольныя ад заняткаў ва ўніверсітэце ў гэты дзень, а таксама пра факт удзелу А. Хмыля ў пікеце ў працоўны час. Факт правамоцнасці збору подпісаў асобамі, якія не з'яўляліся сябрамі ініцыятыўнай групы А.Лукашэнкі, ЦВК патлумачыў тым, што запісы ў падпісны ліст маюць права рабіць яшчэ і «памочнікі сяброў ініцыятыўнай групы». Пра гэта адкрыта заявіў сакратар Цэнтральнай камісіі Мікалай Лазавік: «Запаўняць падпісны ліст, пісаць прозвішча, імя і імя па бацьку, пашпартныя дадзеныя мае права і памочнік сябра ініцыятыўнай групы». Такім чынам, сакратар ЦВК прыўнёс у выбарчыя працэдуры непрадугледжанае заканадаўствам паняцце «памочнік сябра ініцыятыўнай групы» і надзяліў яго насуперак заканадаўству пэўнымі паўнамоцтвамі. Такая трактоўка супярэчыць Выбарчаму кодэксу, які ўстанаўлівае імператыўнае патрабаванне аб зборы подпісаў за вылучэнне кандыдатаў у прэзідэнты (дэпутаты) выключна сябрамі ініцыятыўных груп. ВК не толькі не прадугледжвае дэлегаванне трэцім асобам паўнамоцтваў сябра ініцыятыўнай групы па зборы подпісаў, але і абавязвае выбарчыя камісіі прызнаваць несапраўднымі ўсе подпісы выбаршчыкаў у падпісным лісце, калі яны былі сабраныя асобай, якая не з'яўляецца сябрам ініцыятыўнай групы (п. 8 арт. 16 ВК).

Пры разглядзе скаргаў ЦВК дэманстравала відавочна няроўны падыход да розных кандыдатаў. 14 кастрычніка Цэнтральная камісія разгледзела пытанне пра парушэнні выбарчага заканадаўства ініцыятыўнай групай У. Някляева. Паводле інфармацыі, агучанай сябрам ЦВК Надзеяй Кісялёвай, у ЦВК паступіла інфармацыя ад інспекцыі па справах непаўнагадовых Заводскага РУУС г. Мінска пра затрыманні чацвярых непаўнагадовых, якія збіралі подпісы за вылучэнне гэтага прэтэндэнта ў кандыдаты. Затрыманыя мелі пры сабе ўзоры запаўнення падпісных лістоў, інструкцыю для зборшчыкаў подпісаў, а таксама запоўненыя і чыстыя падпісныя лісты. Акрамя таго, у непаўнагадовых былі пасведчанні сяброў ініцыятыўнай групы У. Някляева, выдадзеныя на імя іншых асобаў, і ўлёткі ў колькасці 50 асобнікаў, якія паводле пазначаных выходных звестак былі надрукаваныя ў г. Самары (Расійская Федэрацыя). Збіраць подпісы за грашовую ўзнагароду ім нібыта прапанавала невядомая асоба. Кіраўнік ініцыятыўнай групы У. Някляева Андрэй Дзмітрыеў патлумачыў, што ініцыятыўная група не мае ніякага дачынення да затрыманых непаўнагадовых і распараджэння аб зборы подпісаў у штабе У. Някляева ім ніхто не даваў. Па словах Дзмітрыева, некаторыя пасведчанні сяброў ініцыятыўнай групы выдадзеныя ЦВК былі згубленыя, і ніякіх замоваў на друк улётак у Расіі не было. А. Дзмітрыеў назваў усе абвінавачванні ў парушэнні выбарчага заканадаўства правакацыяй. Старшыня ЦВК Лідзія Ярмошына ў сваю чаргу заявіла, што дадзеныя факты з'яўляюцца відавочным парушэннем выбарчага заканадаўства: прыцягненне да збору подпісаў непаўнагадовых, перадача пасведчанняў сяброў ініцыятыўнай групы трэцім асобам і збор подпісаў асобамі, якія не з'яўляюцца сябрамі ініцыятыўнай групы, выраб агітацыйнай прадукцыі за межамі Беларусі і яе распаўсюд да пачатку перыяда агітацыі. ЦВК аднадушна прагаласавала за вынясенне папярэджання ініцыятыўнай групе У. Някляева. Пры гэтым Л. Ярмошына назвала гэтую меру «занадта мяккай» і патлумачыла, што пры вынясенні менавіта такога рашэння ЦВК кіравалася жаданнем зрабіць выбары «максімальна плюралістычнымі і канкурэнтнымі».

Кампанія «Праваабаронцы за свабодныя выбары» лічыць, што калі прыведзеныя ЦВК факты адпавядаюць рэчаіснасці, то яны сапраўды сведчаць пра парушэнні ініцыятыўнай групай У. Някляева выбарчага заканадаўства, тым больш, што тлумачэнні яе кіраўніка не выглядаюць пераканаўчымі. Пры гэтым, аднак, назіральнікі кампаніі адзначаюць, што значную колькасць скаргаў на парушэнні заканадаўства ініцыятыўнай групай А. Лукашэнкі ЦВК не разглядала, а накіроўвала іх у ніжэйстаячыя ТВК для «правядзення праверкі і прыняцця рашэння па сутнасці» (напрыклад, скарга Мікіты Краснова ў ЦВК была накіравана ў Мінскую гарадскую выбарчую камісію), што сведчыць пра няроўны падыход да ініцыятыўных груп з боку ЦВК, адсутнасці бесстаронасці і аб'ектыўнасці, бо парушэнні з боку ініцыятыўнай групы А. Лукашэнкі, таксама патрабуюць прававой ацэнкі не меншай, чым у дачыненні да ініцыятыўнай групы У. Някляева і іншых прэтэндэнтаў.

Найбольш паказальным у плане стаўлення выбарчых камісій да скаргаў на дзеянні ініцыятыўнай групы А. Лукашэнкі з'яўляецца адказ ЦВК на скаргу У. Някляева ад 25 кастрычніка. У скарзе прыводзіліся шматлікія факты збору подпісаў людзьмі, якія не ўваходзяць у ініцыятыў-

ную групу А. Лукашэнкі, збору подпісаў ў месцах, дзе гэта забаронена заканадаўствам. ЦВК пры гэтым выказала меркаванне, што інфармацыя, выкладзеная ў скарзе, «альбо носіць агульны характар і праверыць яе немагчыма, альбо не знайшла свайго пацверджання ў ходзе праведзеных праверак».

На этапе рэгістрацыі кандыдатаў была пададзена толькі адна скарга — Уладзімірам Правальскім, якому ЦВК адмовіла ў рэгістрацыі ў якасці кандыдата ў прэзідэнты. Скарга на пастанову ЦВК была пададзена У.Правальскім у Вярхоўны суд 19 лістапада. У ёй ён указваў, што Цэнтральная выбарчая камісія не правярала адпаведнасць парадку вылучэння яго кандыдатам у прэзідэнты, што, на яго думку, з'яўляецца парушэннем Выбарчага кодэкса. Правальскі таксама інфармаваў Вярхоўны суд пра тое, што яму не выдалі пастанову ЦВК аб адмове ў рэгістрацыі, нягледзячы на вусны зварот у прыёмную камісію. На падставе артыкула 68 Выбарчага кодэкса ён патрабаваў адмяніць пастанову Цэнтрвыбаркама ад 18 лістапада. 22 лістапада Вярхоўны Суд пакінуў скаргу без задавальнення.

Агітацыйная кампанія адзначылася дастаткова вялікай колькасцю пададзеных скаргаў, значная частка якіх датычылася абскарджання рашэнняў мясцовых адміністрацый аб вызначэнні месцаў для правядзення агітацыі, і скаргі гэтага плана ў многіх выпадках былі задаволены. Скаргі ж, датычныя парушэння заканадаўства пры ажыццяўленні агітацыі (выкарыстанне адміністрацыйнага рэсурсу, правядзенне сустрэч з выбаршчыкамі ў працоўны час, распаўсюд агітацыйнай прадукцыі без выходных дадзеных і выраблены з парушэннем устаноўленага законам парадку і інш.), як правіла, не атрымлівалі адпаведнай прававой ацэнкі з боку ЦВК, ТВК і пракуратуры, паколькі большасць такіх скаргаў датычылася агітацыі за кандыдата ў прэзідэнты А. Лукашэнку. Гэта ў чарговы раз падкрэслівала дыскрымінацыйны падыход да розных кандыдатаў у прэзідэнты і дэманстравала няроўнасць дзеючага прэзідэнта і ягоных прыхільнікаў у пытаннях выканання заканадаўства.

Яскравым прыкладам нежадання ЦВК законным чынам рэагаваць на парушэнні патрабаванняў Выбарчага кодэкса стала рэакцыя на правядзенне шырокамаштабнай агітацыйнай кампаніі за А. Лукашэнку замежнымі грамадзянамі. 24 лістапада праваабаронца Валянцін Стэфановіч накіраваў у ЦВК скаргу, у якой указаў: «З публікацыі журналіста Уладзіміра Стрэльскага пад назвай «Мы за бацьку!», якая была размешчана 19 лістапада бягучага года на інтэрнэт-сайце газеты «Беларуская ніва», стала вядома, што ў г. Санкт-Пецярбургу стартаваў аўтапрабег пад лозунгам «Мы за бацьку!». Дадзены аўтапрабег арганізаваны расійскімі грамадскімі аб'яднаннямі «Браты славяне» і «Аўтарадыёклуб». Згодна са змешчанай інфармацыяй, грамадзяне Расійскай Федэрацыі збіраюцца праехаць з аўтапрабегам па шэрагу гарадоў Рэспублікі Беларусь — усяго па 24 населеных пунктах. Таксама ў дадзенай публікацыі ўказана, што ўдзельнікі аўтапрабегу рухаюцца арганізаванай калонай, упрыгожанай сцягамі і лозунгамі ў падтрымку дзеючага кіраўніка дзяржавы на будучых выбарах Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь. Як мне стала вядома, дадзены аўтапрабег ужо пабываў у некалькіх гарадах Рэспублікі Беларусь. Так, 20 лістапада 2010 г. удзельнікі аўтапрабегу наведалі г. Дуброўна, дзе правялі мітынг на тэму выбараў. Затым яны спыніліся ў г. Слоніме. Як вынікае з фотаздымкаў, зробленых у г. Слоніме, на некаторых аўтатранспартных сродках удзельнікаў дадзеннага мерапрыемства былі змешчаны плакаты ў падтрымку дзеючага кіраўніка дзяржавы А.Г. Лукашэнкі. Фотаздымкі і інтэрв'ю з адным з арганізатараў аўтапрабегу, грамадзянінам Расійскай Федэрацыі, кіраўніком расійскага грамадскага аб'яднання «Браты славяне» і дэпутатам Дзяржаўнай Думы Расійскай Федэрацыі Сяргеем Харланцьевым былі змешчаны на сайце «Мой Слонім». Як вынікае з інтэрв'ю, мэта аўтапрабегу — падтрымка палітыкі А.Г. Лукашэнкі. Менавіта таму, па словах С. Харланцьева, аўтапрабегу і было вырашана даць назву «Мы за бацьку!». Лічу, што прадстаўленая інфармацыя сведчыць аб тым, што мэтай аўтапрабегу з'яўляецца правядзенне агітацыі ў падтрымку аднаго з кандыдатаў у прэзідэнты Рэспублікі Беларусь — дзеючага кіраўніка дзяржавы А.Г. Лукашэнкі. У той жа час, ч. 4 арт. 45 Выбарчага кодэкса наўпрост забараняе замежным грамадзянам прымаць удзел у правядзенні агітацыі. Падрыхтоўка і правядзенне такога маштабнага мерапрыемства цягне за сабой таксама пэўныя фінансавыя выдаткі: кошт паліва, іншыя магчымыя выдаткі па тэхнічным забеспячэнні працы аўтатраспарта, выдаткі на харчаванне і пражыванне ўдзельнікаў аўтапрабегу і г.д. Між тым, ч.10 арт. 48 ВК забараняе прамы ці ўскосны ўдзел замежных дзяржаў і арганізацый, замежных грамадзянаў у фінансаванні і іншай матэрыяльнай дапамозе пры падрыхтоўцы і правядзенні выбараў. Згодна з ч.11 арт. 48 Выбарчага кодэкса, выкарыстанне кандыдатам у прэзідэнты грашовых сродкаў і іншай матэрыяльнай дапамогі ў парушэнні патрабаванняў ч.10

арт. 48 цягне адмену рашэння аб рэгістрацыі. Згодна з арт. 49 Выбарчага кодэкса Рэспублікі Беларусь, асобы, якія дапусцілі незаконнае выкарыстанне грашовых сродкаў і іншых матэрыяльных рэсурсаў падчас падрыхтоўкі і правядзення выбараў, нясуць адказнасць, устаноўленую заканадаўствам Рэспублікі Беларусь. Пры гэтым адміністрацыйнай адказнасці за парушэнне заканадаўства аб выбарах, у тым ліку за незаконнае прыцягненне і выкарыстанне грашовых сродкаў ці іншых матэрыяльных рэсурсаў пры падрыхтоўцы і правядзенні выбараў, падлягаюць і замежныя грамадзяне, калі яны здзейснілі правапарушэнне на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь». У сувязі з гэтым праваабаронца прасіў «Прыняць меры па спыненні незаконнай агітацыі на карысць кандыдата ў прэзідэнты Рэспублікі Беларусь А.Г. Лукашэнкі ўдзельнікамі аўтапрабегу «Мы за бацьку!»; паставіць перад кіраўніцтвам Слонімскага гарадскога выканаўчага камітэта пытанне аб прыцягненні арганізатараў аўтапрабегу да адміністрацыйнай адказнасці ў сувязі з дапушчанымі імі парушэннямі заканадаўства аб выбарах; праінфармаваць кіраўнікоў гарадскіх і абласных выканаўчых камітэтаў, на тэрыторыі якіх будзе праходзіць аўтапрабег, аб неабходнасці выканання патрабаванняў дзеючага выбарчага заканадаўства з боку ўдзельнікаў аўтапрабегу падчас іх знаходжання на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь». 6 снежня В.Стэфановіч атрымаў адказ ЦВК за подпісам старшыні Лідзіі Ярмошынай (ДАКУМЕНТ 5). «Ваш зварот, у якім паведамляецца аб правядзенні грамадзянамі Расійскай Федэрацыі аўтапрабегу «Мы за бацьку», разгледжаны ў межах кампетэнцыі Цэнтральнай камісіі, — гаворыцца ў адказе. — Паколькі Ваш зварот паступіў у Цэнтральную камісію пасля сканчэння названага мерапрыемства, прыняць захады па спыненні агітацыйнай дзейнасці замежных грамадзян не ўяўляецца магчымым». У той жа час ЦВК адзначыла, што «звярнула ўвагу ніжэйстаячых камісій» на тое, што ўдзел замежных грамадзян і асобаў без грамадзянства ў перадвыбарчай агітацыі забаронены, і гэтага трэба прытрымлівацца. Пры гэтым ЦВК падкрэсліла, што ні кандыдат у прэзідэнты А.Лукашэнка, ні яго штаб у парушэнні ч.4 артыкула 45 Выбарчага кодэкса не вінаватыя: «Лічым неабходным таксама праінфармаваць, што ў ходзе разгляду Вашага звароту ўстаноўлена, што ніхто з давераных асобаў кандыдата ў прэзідэнты Рэспублікі Беларусь А.Р.Лукашэнкі не прымаў ніякага ўдзелу ў арганізацыі згаданага Вамі аўтапрабегу». Пры гэтым ЦВК ухілілася ад ацэнкі дзеянняў адпаведных тэрытарыяльных камісій і мясцовых органаў улады, пры патуральніцтве якіх на тэрыторыі краіны на працягу даволі працяглага часу (пры шырокім асвятленні ў СМІ) дапускалася парушэнне патрабаванняў выбарчага закона.

Пракуратура ў большасці выпадкаў ухілялася ад ажыццяўлення праверак па скаргах суб'ектаў выбарчага працэсу і перапраўляла іх ў выбарчыя камісіі. Напрыклад, менавіта так паступіла Брэсцкая абласная пракуратура са скаргай праваабаронцы Уладзіміра Малея, перанакіраваўшы яе ў Брэсцкую абласную выбарчую камісію. Скарга датычылася падзеяў 21 лістапада, калі ў г. Брэсце перад пачаткам матча 33-га тура чэмпіяната Беларусі па футболу на поле выйшлі футбалісты ў суправаджэнні каля 30 непаўнагадовых падлеткаў, апранутых у футболкі з выявай Лукашэнкі і надпісам: «Наш прэзідэнт». У сваёй скарзе Уладзімір Малей прасіў устанавіць, хто з'яўляўся арганізатарам масавага агітацыйнага мерапрыемства ў падтрымку кандыдата ў прэзідэнты А. Лукашэнкі, з якіх сродкаў, у якой колькасці, кім і дзе былі выраблены футболкі з выявай гэтага кандыдата ў прэзідэнты, а таксама прыняць меры пракурорскага рэагавання да асобаў, што дапусцілі выкарыстанне сродкаў, якія не былі ўнесены ў пазабюджэтны фонд кандыдата. Праваабаронца прасіў таксама высветліць, ці мелі арганізатары акцыі адпаведныя дазволы ад бацькоў падлеткаў на ўдзел у агітацыйным мерыпрыемстве. Адказ быў падпісаны начальнікам аддзела па нагляду за выкананнем заканадаўства і законнасці прававых актаў Аляксандрам Кулічом. У выніку ні пракуратура, ні адпаведная ТВК так і не далі адпаведную прававую ацэнку дзеянням арганізатараў агітацыйнага мерапрыемства, хаця дакладна было ўстаноўлена, што ініцыятарам гэтай акцыі быў дэпутат Брэсцкага гарсавета Георгій Дарбуашвілі.

У той жа самы час пракуратура строга адслежвала выкананне нормаў заканадаўства альтэрнатыўнымі кандыдатамі ў прэзідэнты і вынесла папярэджанні пяці з іх у сувязі з заклікамі да выбаршчыкаў узяць удзел у акцыях на Кастрычніцкай плошчы г. Мінска, забароненай уладамі для любых масавых мерапрыемстваў.

# 8. Міжнародныя і нацыянальныя назіральнікі

Па дадзеных ЦВК, на выбарах было акрэдытавана 1 036 міжнародных і 39 619 нацыянальных назіральнікаў. Большасць міжнародных назіральнікаў дзейнічала ў складзе місій БДІПЧ/АБСЕ і СНД.

Сярод нацыянальных назіральнікаў большасць складалі прадстаўнікі пяці найбуйнешых праўладных грамадскіх аб'яднанняў («Белая Русь», Беларускі рэспубліканскі саюз моладзі (БРСМ), Беларускі саюза жанчын, Беларускае грамадскае аб'яднанне ветэранаў і Федэрацыя прафсаюзаў Беларусі) — 20 715 чалавек, а таксама 4 343 назіральнікі ад лаяльных уладзе палітычных партый. Сярод 10 516 назіральнікаў, вылучаных грамадзянамі і працоўнымі калектывамі, і 3 051 назіральнікаў, вылучаных астатнімі грамадскімі аб'яднаннямі краіны (за выключэннем БХК), выключную большасць складалі назіральнікі, вылучаныя па разнарадцы ўладаў. Апошнім ставілася задача перашкаджаць дзейнасці незалежных назіральнікаў і журналістаў[28].

Пацверджаннем сур'ёзнага падыходу ўладаў да падрыхтоўкі «сваіх» назіральнікаў стаў таксама «План арганізацыйна-ідэалагічнага забеспячэння выбараў прэзідэнта Рэспублікі Беларусь 19 снежня 2010 года на тэрыторыі Салігорскага раёна», зацверджаны 23 верасня старшынёй райвыканкама Аляксандрам Рымашэўскім. З гэтага дакумента вынікае, што выканкам узяў на сябе абавязкі забяспечыць «арганізацыю працы назіральнікаў у выбарчых камісіях ад працоўных калектываў, палітычных партыяў, грамадскіх аб'яднанняў», фактычна прысвойваючы сабе функцыі, не прадугледжаныя выбарчым заканадаўствам.

Прадстаўнікі прадзяржаўных грамадскіх аб'яднанняў падчас ходу ўсёй выбарчай кампаніі рэальна не ажыццяўлялі назірання. Так, назіральнік ад Беларускага Хельсінкскага камітэта Віталь Амяльковіч прысутнічаў 7 кастрычніка на пасяджэнні Слуцкай раённай ВК, на якім высветліў, што ў дадзенай камісіі на момант правядзення пасяджэння акрамя яго самога было зарэгістравана яшчэ 5 назіральнікаў: ад Рэспубліканскага грамадскага аб'яднання «Белая Русь», Грамадскага аб'яднання «Беларускі рэспубліканскі саюз моладзі», Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі, Грамадскага аб'яднання «Беларускі саюз жанчын» і Грамадскага аб'яднання «Беларускі саюз афіцэраў», пры гэтым на паседжанні прысутнічаў толькі В. Амяльковіч. Пазней праваабаронца на пасяджэннях камісіі толькі двойчы сустракаў назіральнікаў — ад Беларускага саюза афіцэраў і Беларускага саюза жанчын, у той час як у спісе назіральнікаў, акрэдытаваных пры Слуцкай раённай выбарчай камісіі на пачатак снежня было зарэгістравана 11 чалавек.

Кампаніі «Праваабаронцы за свабодныя выбары» невядома ніводнага акта аб парушэннях падчас выбараў, які быў бы складзены назіральнікамі «ад улады», альбо якой-небудзь справаздачы, абнародаванай імі па выніках назірання.

Незалежнае ад уладаў нацыянальнае назіранне было прадстаўленае кампаніяй «Праваабаронцы за свабодныя выбары», кампаніяй партыйнага назірання «За справядлівыя выбары», а таксама назіраннем «Руха «За Свабоду» і праекта «Назіранне за выбарамі: тэорыя і практыка». Акрамя таго, Беларуская асацыяцыя журналістаў ажыццяўляла маніторынг асвятлення выбараў у СМІ.

28 Аб тым, да якога назірання рыхтаваліся праўладныя назіральнікі, стала вядома 30 лістапада 2010 года падчас семінара-трэнінга для сяброў УВК Маскоўскага раёна г. Мінска. Намеснік старшыні раённай ТВК Аляксандр Кудзермаеў запатрабаваў ад старшыняў камісій забяспечыць прысутнасць «брыгадаў нашых назіральнікаў» колькасцю не менш за 10 чалавек на кожным выбарчым участку, якія павінны быць вылучаныя ад «Белай Русі», БРСМ і Беларускага саюза жанчын, а таксама ад працоўных калектываў і грамадзян. Кудзермаеў таксама абвясціў, што 2 снежня будзе праведзены трэнінг для старшых гэтых груп («брыгадзіраў») на тэму «як і што трэба рабіць у выніку ўзнікнення патавай сітуацыі на ўчастку», г. зн. як супрацьдзейнічаць незалежным назіральнікам і журналістам, у якіх могуць узнікнуць пытанні наконт працэсу падліку галасоў, і як хутка складаць акты аб тым, што падлік галасоў быў праведзены правільна (у выпадку, калі ў сяброў выбарчых камісій ад апазіцыйных партый узнікнуць сумневы наконт правільнасці падліку галасоў, ці яны адмовяцца падпісваць выніковыя пратаколы, ці захочуць аформіць асаблівае меркаванне).

| | Колькасць доўга-тэрміновых назіраль-нікаў | Колькасць каротка-тэрміновых назіраль-нікаў | Колькасць выбарчых участкаў, ахопленых назіраннем* | | |
|---|---|---|---|---|---|
| | | | Датэрмі-новае галасаванне | Дзень выбараў | |
| | | | | Галаса ванне | Падлік галасоў |
| ***Міжнароднае назіранне**** | | | | | |
| Місія БДІПЧ/АБСЕ па назіранні за выбарамі | 40 | 452*** | 860 | 960 | 162 |
| Місія назіральнікаў ад СНД **** | 42 | 294 | 678 | 2 906 | |
| ***Нацыянальнае назіранне, незалежнае ад уладаў*** | | | | | |
| Кампанія «Праваабаронцы за свабодныя выбары» | 80 | 600 | 300 | 300 | |
| Кампанія партыйнага назірання «За справядлівыя выбары» | - | 1 000 | 250 | 250 | |
| Назіранне «Руху «За Свабоду» | - | 650 | - | 634 | |
| Праект «Назіранне за выбарамі: тэорыя і практыка» | - | 94 | - | 55 | |

* Агульная колькасць участкаў, ахопленых міжнародным і незалежным нацыянальным назіраннем значна меншая, чым арыфметычная сума лічбаў у кожнай калонцы, паколькі на вялікай колькасці ўчасткаў стала прысутнічалі (ці часова іх наведвалі) розныя міжнародныя і незалежныя нацыянальныя назіральнікі.

** Іншыя замежныя назіральнікі — гэта прадстаўнікі Міжпарламенцкай асамблеі СНД, парламентаў і выбарчых органаў замежных дзяржаваў, дыпламатычных місій у Беларусі, а таксама індывідуальныя замежныя назіральнікі.

*** Уключна з 63 назіральнікамі ад Парламенцкай асамблеі АБСЕ.

**** Уключна з 31 грамадзянінам Беларусі — супрацоўнікам Сакратарыяту СНД.

Адной з першых сур'ёзных пагрозаў для ажыццяўлення нацыянальнага назірання стала Пастанова Цэнтральнай камісіі №49 «Аб парадку прымянення часткі трэцяй артыкула 13 Выбарчага кодэкса Рэспублікі Беларусь пры падрыхтоўцы і правядзенні выбараў прэзідэнта Рэспублікі Беларусь у 2010 г.», прынятая 15 верасня, якая датычыла парадаку накіравання назіральнікаў на пасяджэнні выбарчых камісій і ўчасткі для галасавання. Сутнасць праблемы заключалася ў тым, што калі ў 2001 і 2006 гадах кіруючыя органы рэспубліканскіх грамадскіх аб'яднаняў і палітычных партый мелі права накіроўваць назіральнікаў на пасяджэнні камісій усіх узроўняў і на ўчасткі для галасавання, то, згодна з Пастановай ЦВК, яны атрымалі права накіроваўваць сваіх прадстаўнікоў у якасці назіральнікаў толькі на пасяджэнні Цэнтральнай камісіі. Накіраваць назіральнікаў на пасяджэнні тэрытарыяльных камісій (абласных, гарадскіх, раённых, раённых у гарадах) і ўчасткі для галасавання атрымалі права толькі структуры грамадскіх аб'яднанняў і палітычных партый адпаведнага ўзроўню.

Трэба адзначыць, што гэтую пастанову прадстаўляў на паседжанні ЦВК яе сакратар Мікалай Лазавік, які падкрэсліваў, што працэдура вылучэння назіральнікаў максімальна спрошчана, і ўжо не патрабуецца наяўнасць ніжэйстаячых структураў, паколькі вылучэнне адбываецца ад кіруючых органаў палітычных партый і грамадскіх аб'яднанняў. Гэтыя словы былі растырыжаваны нацыянальным тэлебачаннем і іншымі СМІ, якія прысутнічалі на паседжанні, аднак апублікаваная на афіцыйным сайце ЦВК Пастанова №49 утрымлівала супрацьлеглае тлумачэнне парадку накіравання назіральнікаў. У такім выглядзе Пастанова ЦВК моцна абмежавала правы назіральнікаў, значна пагоршыла парадак іх вылучэння нават у параўнанні з нормамі, якія дзейнічалі на папярэдніх прэзідэнцкіх выбарах. Напрыклад, Беларускі Хельсінкскі камітэт, сябры якой ажыццяўлялі назіранне ў межах кампаніі «Праваабаронцы за свабодныя выбары», не меў права вылучыць назіральнікаў у сувязі з адсутнасцю ніжэйстаячых арганізацыйных структур.

Беларускі Хельсінкскі камітэт абскардзіў дадзеную Пастанову Цэнтральнай камісіі, і 5 лістапада ЦВК прыняла новую Пастанову (№ 94), згодна з якой кіруючыя органы палітычных партый і рэспубліканскіх грамадскіх аб'яднанняў атрымалі права накіроўваць назіральнікаў на выбарчыя камісіі ўсіх узроўняў. Такім чынам, толькі пасля скаргі праваабаронцаў ЦВК зняла

нічым не абгрунтаваныя абмежаванні і вярнулася да практыкі накіравання назіральнікаў, якая існавала пры правядзенні выбараў прэзідэнта ў 2001 і 2006 гадах.

У якасці станоўчага моманту Пастановы Цэнтральнай камісіі №49 варта адзначыць магчымасць прадстаўляць дакумент аб накіраванні назіральніка ў дзень пасяджэння, дзень назірання. Раней на пасяджэнне выбарчай камісіі, на ўчастак для галасавання гэты дакумент неабходна было прадставіць не пазней за дзень, які папярэднічаў дню пасяджэння, дню галасавання.

5 лістапада Цэнтральная выбарчая камісія разгледзела шэсць праектаў пастановаў, прапанаваных кампаніяй партыйнага назірання «За справядлівыя выбары» і пяццю прэтэндэнтамі ў кандыдаты ў прэзідэнты (Рыгорам Кастусёвым, Алесем Міхалевічам, Уладзімірам Някляевым, Віталём Рымашэўскім і Яраславам Раманчуком). ЦВК пагадзілася толькі з адной з вылучаных дадзенымі суб'ектамі прапановай — «прадастаўленне назіральнікам рэальнай магчымасці ажыццяўляць назіранне ва ўмовах, якія забяспечваюць бачнасць працэдуры падліку галасоў». Згодна з Пастановай ЦВК № 95, менавіта такой фармулёўкай быў дапоўнены адпаведны абзац Метадычных рэкамендацыяў. Пры гэтым трэба адзначыць, што гэтае палажэнне ў сувязі з адсутнасцю дакладна прапісанай працэдуры (спосабу) падліку бюлэтэняў участковымі камісіямі не змагло гарантаваць паўнавартаснага ажыццяўлення назірання за падлікам.

30 лістапада Цэнтральная выбарчая камісія (ЦВК) разгледзела зварот старшыні Беларускай партыі левых «Справядлівы свет» Сяргея Калякіна, намесніка старшыні Праваабаронча-асветніцкага аб'яднання «Рух «За свабоду» Віктара Карняенкі і кандыдатаў у прэзідэнты Рыгора Кастусёва, Аляксея Міхалевіча, Уладзіміра Някляева, Яраслава Раманчука, Віталя Рымашэўскага, Андрэя Саннікава і Мікалая Статкевіча з прапановамі па забеспячэнні большай празрыстасці выбарчага працэсу і мінімізацыі маніпуляцыяў падчас галасавання, асабліва датэрміновага. Адна з прапаноў датычылася магчымасці ажыццяўлення назірання на выбарчых участках, у тым ліку і ў начны час, на працягу ўсяго перыяду датэрміновага галасавання (14—18 снежня). Гэтая прапанова не была падтрымана ЦВК. Па словах старшыні ЦВК Лідзіі Ярмошынай, ахову грамадскага парадку і выбарчых бюлетэняў у памяшканнях выбарчых участкаў у начны час павінны ажыццяўляць «бесстаронні́я» супрацоўнікі міліцыі.

Назіральнікі кампаніі «Праваабаронцы за свабодныя выбары» ва ўсіх рэгіёнах з самога пачатку выбарчай кампаніі адзначалі больш лаяльнае стаўленне да іх дзейнасці з боку уладаў у параўнанні з папярэднімі выбарамі, аднак на кожным з этапаў яны сутыкаліся з пэўнымі праблемамі, найперш датычнымі магчымасцяў атрымання інфармацыі, доступу да дакументаў, датычных выбараў, доступу на паседжанні камісій і інш. Адной з істотных перашкодаў з'явілася канфіскацыя дапаможных матэрыялаў для кароткатэрміновых назіральнікаў. Так, ноччу 26 лістапада на беларуска-літоўскай мяжы супрацоўнікі беларускай мытні на 5 гадзін затрымалі прадстаўнікоў кампаніі «Праваабаронцы за свабодныя выбары» Уладзіміра Лабковіча і Дзмітрыя Салаўёва. З удзелам супрацоўнікаў КДБ у праваабаронцаў было канфіскавана 115 асобнікаў інструкцый для кароткатэрміновых назіральнікаў кампаніі. Дапаможнікі не ўтрымлівалі інфармацыі, якая б наносіла шкоду дзяржаўнаму або канстытуцыйнаму ладу краіны, а змест іх быў скіраваны выключна на забяспячэнне аб'ектыўнага і незаангажаванага назірання за выбарамі. Аналагічная сітуацыя адбылася 30 лістапада, калі пры перасячэнні беларуска-літоўскай мяжы супрацоўнікі Ашмянскай мытні здзейснілі дагляд асабістых рэчаў гомельскага праваабаронцы Леаніда Судаленкі і канфіскавалі ў яго 10 «Інструкцый для кароткатэрміновых назіральнікаў на выбарах Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь».

Улады інспіравалі падзел назіральнікаў: вылучаных «ад канструктыўных сіл» (г.зн. — па іх разнарадцы) і «апаніруючых», да ліку якіх былі аднесены незалежныя і міжнародныя назіральнікі, а таксама журналісты. 14 снежня на афіцыйным сайце Нясвіжскага райвыканкама была размешчана «Памятка назіральніка», якая складалася з пятнаццаці пунктаў, кожны з якіх уяўляе сабой пытанне, як «канструктыўныя сілы» мусяць дзейнічаць у канкрэтнай сітуацыі. У прыватнасці, у Памятцы ўказвалася: «Важна: — складаць акты аб парушэннях з боку назіральнікаў ад апаніруючых сіл; — рыхтаваць і пакідаць водгукі аб працы выбарчай камісіі ў пісьмовым выглядзе; — у выпадку з'яўлення міжнароднага назіральніка давесці да яго вашу пазіцыю не толькі вусна, але і перадаць пісьмовую заяву з ацэнкай ходу выбараў (па магчымасці падрыхтаваць яе загадзя); — калі заўважылі з боку назіральніка ад апаніруючых сіл парушэнне, якое не патрабуе яго выдалення з участку, зафіксаваць яго, не прыцягваючы залішняй увагі; — без асаблівай неабходнасці не адлучацца з выбарчага ўчастку; фіксаваць (з указаннем часу) знаходжанне на ўчастку назіральнікаў ад апаніруючых сіл, міжнародных назіральнікаў, указваючы дакладна, калі

яны прыбылі і адбылі». Паказальным з'яўляецца сітуацыя, датычная паводзінаў «канструктыўных» назіральнікаў пры з'яўленні на ўчастку міжнародных назіральнікаў. У Памятцы сказана: «Пытанне 2. На выбарчы ўчастак прыбыў міжнародны назіральнік, прадставіўся, прад'явіў дакументы, якія сведчаць пра ягоныя паўнамоцтвы і статус. Вашы дзеянні? Адказ: Неабходна заняць актыўную пазіцыю, даць аб'ектыўную ацэнку ходу галасавання. Трэба актыўна, спакойна і аргументавана весці гутарку. Негатыўныя ацэнкі неабходна адводзіць. Рэкамендуецца завязаць з замежным назіральнікам добразычлівы дыялог: даведацца, з якой ён краіны, сказаць некалькі добрых слоў пра гэтую дзяржаву, падкрэсліць неабходнасць развіцця адносін паміж нашымі краінамі або ўхваліць сувязі, якія ўжо склаліся. Адзначце, што ўвага да нашай краіны, палітычных працэсаў, якія адбываюцца ў рэспубліцы, вельмі важныя для яе грамадзян. Мы заўсёды з вялікай увагай ставімся да ўсіх канструктыўных заўваг і прапановаў, якія спрыяюць развіццю дэмакратыі і грамадзянскай супольнасці ў нашай краіне». Пасля таго, як у СМІ была апублікавана інфармацыя пра дадзеную Памятку, яна была прыбрана з сайта выканкама (была захавана экспертамі кампаніі «Праваабаронцы за свабодныя выбары» і змяшчаецца ў ДАДАДКУ 4).

З мэтай забеспячэння лаяльнасці міжнародных назіральнікаў улады прадпрынялі шэраг крокаў дзеля стварэння «спрыяльных» умоваў іх дзейнасці. Так, для прыёму міжнародных назіральнікаў Мазырскі райвыканкам 8 кастрычніка выдаў распараджэнне № 267-Р «Аб стварэнні раённай міжведамаснай працоўнай групы для забеспячэння знаходжання ў Мазырскім раёне замежных (міжнародных) назіральнікаў у перыяд падрыхтоўкі і правядзення выбараў прэзідэнта Рэспублікі Беларусь», якое спачатку было размешчана на сайце райвыканкама. У міжведамасную групу ўвайшлі два намеснікі старшыні райвыканкама, старшыня Савета дэпутатаў, кіраўнік справамі, сем начальнікаў аддзелаў: арганізацыйна-кадравай работы, ідэалагічнага, культуры, фінансавага, эканомікі, па надзвычайных сітуацыях, унутраных спраў; галоўны лекар Мазырскай цэнтральнай гарадской паліклінікі, галоўны рэдактар дзяржаўнай газеты «Жыццё Палесся», начальнік тэлеканала «Мазыр», начальнік гарадскога аддзела КДБ і пракурор. Працоўная група павінна была прыняць неабходныя меры «да стварэння спрыяльных умоваў для дзейнасці» назіральнікаў: размяшчэнне, прадастаўленне транспартных сродкаў і сродкаў сувязі, медыцынскае абслугоўванне, культурная праграма, асабістая бяспека, інфармацыйнае забеспячэнне і г. д. Упраўленню справамі равыканкама было загадана «забяспечыць назіральнікаў транспартам», а фінансавы аддзел павінен быў «пакрыць ва ўстаноўленым парадку ўпраўленні справамі Мазырскага раённага выканаўчага камітэта выдаткі на забеспячэнне назіральнікаў транспартам, згодна з прадстаўленай сметай выдаткаў». Пасля публікацыі аналізу распараджэння Мазырскага выканкама экспертамі кампаніі «Праваабаронцы за свабодныя выбары» дакумент з афіцыйнага сайта бясследна знік, на запыт па ссылцы http://www.mozyrisp.gov.by/rus/vibori_2010/267/, дзе ён быў размешчаны, пачаў з'яўляцца надпіс: «Выбачайце, запытваемая старонка не знойдзена на серверы».

# 9. Датэрміновае галасаванне

Згодна з арт. 53 Выбарчага кодэкса, датэрміновае галасаванне пачынаецца не раней за пяць дзён да дня выбараў. Яно адбываецца ў памяшканні УВК у прысутнасці не менш за двух яе сяброў з 10 да 14 і з 16 да 19 гадзін. Афіцыйнага пацвярджэння немагчымасці прысутнічаць у дзень выбараў ад выбаршчыкаў не патрабуецца. У першы дзень датэрміновага галасавання пламбіруюцца і апячатваюцца скрыні. УВК штодзённа складае і вывешвае пратакол, у якім указана агульная колькасць атрыманых бюлетэняў, колькасць выбаршчыкаў, якія іх атрымалі (у апошні дзень — агульная колькасць за ўсе дні), колькасць сапсаваных і асобна — нявыкарыстаных бюлетэняў. Прымус да ўдзелу ў датэрміновым галасаванні забаронены.

Згодна з Каляндарным планам арганізацыйных мерапрыемстваў па падрыхтоўцы і правядзенні выбараў, датэрміновае галасаванне ажыццяўлялася з 14 па 18 снежня ўключна.

## Прымус да удзелу ў датэрміновым галасаванні

Пачынаючы з апошняй дэкады лістапада, мела месца інтэнсіўнае выкарыстанне адміністрацыйнага рэсурсу для забеспячэння датэрміновага галасавання. Выканкамы інструктавалі ідэалагічных работнікаў установаў і прадпрыемстваў, тыя ў сваю чаргу ўздзейнічалі на падначаленых. На многіх прадпрыемствах адміністрацыя вызначала, хто менавіта павінен прагаласаваць датэрмінова, патрабавала прадастаўлення пацвярджэнняў датэрміновага галасавання. Нярэдка на сходах калектываў прадстаўнікі адміністрацый адкрыта заяўлялі пра тое, што датэрміновае галасаванне з'яўляецца абавязковым для ўсіх.

Да «Праваабаронцаў за свабодныя выбары» трапілі дакументы, якія сведчаць пра тое, што кіраўніцтва не толькі прымушае сваіх работнікаў галасаваць датэрмінова, але і праўджвае, на якім участку і калі прагаласаваў падначалены. Так, яшчэ ў першы дзень датэрміновага галасавання прагаласавалі 78% супрацоўнікаў разліковага цэнтра ЖРЭТ Першамайскага раёна Віцебска. Паводле дакумента, які відавочна рыхтаваўся для справаздачы нейкаму вышэйшаму начальству (ДАКУМЕНТ 6), 14 снежня паспелі прагаласаваць 14 з 18 супрацоўнікаў. Прычым пазначана, што з тых чацвярых, якія не прагаласавалі, адна спадарыня хварэе — значыцца, мае важкую прычыну не пайсці на ўчастак. Нумары ўчасткаў пазначаны ў наступным дакуменце, дзе зафіксаваны імёны, прозвішчы, пасады работнікаў, а таксама ўчасткі, да якіх яны «прыпісаны». Такім чынам, за работнікамі гэтай установы быў наладжаны татальны кантроль, ад якога немагчыма было ўхіліцца.

На СП «Мінскі мэблевы цэнтр», якое знаходзіцца ў Маладэчна па вул. Вялікі Гасцінец, 31а, усім кіраўнікам падраздзяленняў прадпрыемства (начальнікам аддзелаў, цахоў, майстрам зменаў) раздалі паперы для ўліку прагаласаваўшых — памятку «Парадак прадастаўлення інфармацыі пра ход галасавання па выбарах прэзідэнта Рэспублікі Беларусь» (ДАКУМЕНТ 7) і «Узор запаўнення вынікаў выбараў». Усе прагаласаваўшыя працаўнікі прадпрыемства абавязаны былі патэлефанаваць і паведаміць пра гэта сваім непасрэдным начальнікам. Арганізацыяй гэтага працэсу займаўся намеснік гендырэктара па ідэалагічнай працы, ён жа начальнік аддзела кадраў і рэжыму, Цюракін Мікалай Андрэевіч. Варта адзначыць, што сп.Цюракін уваходзіў у ініцыятыўную групу па вылучэнні кандыдатам у прэзідэнты Аляксандра Лукашэнкі і на прадпрыемстве збіраў подпісы ў падтрымку дзеючага прэзідэнта ў працоўны час.

З Віцебска праваабаронцам быў дасланы аўдыёзапіс інструктажу, праведзенага напярэдадні датэрміновага галасавання ў 103-яй асобнай мабільнай брыгадзе намеснікам камандзіра па ідэалагічнай працы. З мэтай вырашэння «найважнейшай задачы на снежань-месяц» ідэолаг, у прыватнасці, загадаў адпачынкі ваеннаслужачым тэрміновай службы не прадастаўляць, каб «я прымаў меры для арганізацыі датэрміновага галасавання тых ваеннаслужачых, у якіх насамрэч узнікае неабходнасць пайсці ў адпачынак па сямейных абставінах». Таксама ад камандзіраў мабільнага батальёна было запатрабавана прадаставіць спісы ўсіх, хто праходзіць вайсковую службу па кантракце (афіцэраў, прапаршчыкаў, сяржантаў і асоб грамадзянскага складу), з указаннем месцаў іх рэгістрацыі і участкаў, дзе яны павінны галасаваць. Ваеннаслужачым, якія маюць рэгістрацыю па-за межамі Віцебска, павінны былі прадаставіць выходны дзень, каб яны паехалі і прагаласавалі. Ці другі, «больш надзейны» варыянт (бо ідэолаг упэўнены, што вайсковец «прыедзе, а ў спісах яго не будзе, і вырашаць пытанне

пра ўключэнне ў спісы ён таксама не будзе») — гэтых ваеннаслужачых «прадставіць падпалкоўніку Кавалёву, ён уключыць іх у дадатковы спіс і арганізуе іх датэрміновае галасаванне». Паводле інструктажу, «графік датэрміновага галасавання будзе даведзены да ўсіх камандзіраў падраздзяленняў».

14 снежня на ўчастак для галасавання № 122, размешчаны ў сярэдняй школе №37 г.Магілёва, для датэрміновага галасавання ў суправаджэнні канвою былі дастаўлены зняволеныя, якія адбываюць пакаранне ў выпраўленчай калоніі адкрытага тыпу. Да абеду 14 снежня галасаваць прыканваіравалі 50 чалавек, пасля абеду — 45. У самім памяшканні выбарчай камісіі ім выдавалі пашпарты, каб яны здолелі атрымаць бюлетэні, пасля галасавання пашпарты зноўку забіралі.

У Бярозе 13 снежня дырэктар ААТ «Бярозабудматэрыялы», дэпутат Брэсцкага абласнога Савета Мікалай Жук на ранішняй нарадзе загадаў сваім падначаленым даставіць рабочых на выбарчыя ўчасткі. У выкананне гэтага загаду 14 снежня да выбарчага ўчастка № 10, размешчанага ў спартыўнай зале ААТ «Бярозабудматэрыялы», у 11.15 пад'ехаў аўтобус з 10 работнікамі прадпрыемства. У гэты ж дзень на ўчастак была дастаўлена яшчэ адна «партыя» супрацоўнікаў «Бярозабудматэрыялаў» для галасавання.

15 снежня назіральнікі на ўчастку №7, размешчаным у СШ№16 горада Барысава, сталі сведкамі таго, што прыйшоўшыя галасаваць датэрмінова супрацоўнікі завода БАТЭ прасілі сяброў выбарчай камісіі выдаць ім даведкі, якія пацвярджаюць факт датэрміновага галасавання. На пытанне, для чаго патрэбныя падобныя дакументы, супрацоўнікі БАТЭ казалі, што гэта патрабаванне дырэктара прадпрыемства Анатоля Капскага.

Для забеспячэння татальнага датэрміновага галасавання кіраўніцтва прадпрыемстваў і ўстановаў часта выкарыстоўвала ціск і пагрозу скасавання працоўных кантрактаў, пагрозу дэпрэміравання, а таксама не грэбавала адкрытымі запалохваннямі. Так, 15 снежня на ААТ «Магілёўхімвалакно» ў адным з цахоў прадпрыемства адбылася інфармацыйная пяціхвілінка, на якой перад рабочымі выступіла начальства цэха з заклікам да рабочых прагаласаваць датэрмінова. Асноўная прычына навошта гэта трэба рабіць — чакаемыя тэракты і правакацыі апазіцыі непасрэдна ў дзень выбараў, што можа дэстабілізаваць сітуацыю ў краіне і сарваць працэс выбараў. Такі ж аргумент на карысць датэрміновага галасавання быў выкарыстаны ў дзяржаўнай установе «Аблспажыўсаюз», размешчанай па вуліцы Валковіча ў Гародні. 13 снежня Дзмітрый Крыжаноўскі, намеснік начальніка, а таксама начальнік аддзела кадраў Людміла Дзьячэнка гэтай установы ў працоўны час сабралі калектыў і палохалі тым, што асноўны дзень галасавання — вельмі небяспечны, паколькі дзяржаўныя структуры інфармуюць пра магчымыя тэракты, якія рыхтуе апазіцыя.

Адначасова дзяржаўныя СМІ разгарнулі адкрытую прапаганду датэрміновага галасавання. У эфіры і на сваім сайце Салігорскі тэлеканал называў галасуючых датэрмінова салігорцаў не інакш як «разважлівымі беларусамі». 16 снежня газета «Заря», заснавальнікамі якой з'яўляюцца Брэсцкі аблвыканкам і абласны Савет дэпутатаў, апублікавала артыкул «Датэрмінова — значыць зручна», які фактычна заклікаў выбаршчыкаў не чакаць 19 снежня, каб прагаласаваць. Аўтар публікацыі Яўген Літвіновіч пачаў свой артыкул наступнай фразай: «Як выкарыстоўваць выходную нядзелю ў асабістых мэтах і пры гэтым выканаць свой грамадзянскі абавязак? Зручнае рашэнне дылемы, якая часта ўзніка ў сілу жыццёвых акалічнасцяў, свядомаму выбаршчыку «падказвае» дзеючае не толькі ў Беларусі, але і ў многіх краінах свету права галасаваць датэрмінова».

Найбольшая колькасць выпадкаў прымусу да ўдзелу ў датэрміновым галасаванні датычылася навучэнцаў і студэнтаў ССНУ і ВНУ з боку выкладчыкаў і адміністрацый адпаведных установаў. Адносна гэтай катэгорыі выбаршчыкаў ужываліся метады як «перніка», так і «пугі»: у некаторых навучальных установах за ўдзел у датэрміновым галасаванні былі абяцаны выходныя дні, частка студэнцтва падвяргалася адкрытаму ціску.

10 снежня ў Гомельскім дзяржаўным універсітэце ім.Ф.Скарыны адбылася сустрэча рэктара Аляксандра Рагачова са студэнтамі і выкладчыкамі ВНУ, падчас якой кіраўнік ВНУ заклікаў да ўдзелу ў датэрміновым галасаванні і прапанаваў адмяніць заняткі 18 снежня. Таксама на сходзе выступіў старшыня прафсаюза студэнтаў Сяргей Азяўчыкаў, які паведаміў, што раіўся са студэнтамі, і яны не супраць датэрміновага галасавання і адмены заняткаў.

У сталічным БНТУ 13 дэканат эканамічнага факультэта паабяцаў адпусціць дахаты студэнтаў, якія аддадуць свой голас на выбарах з 14 па 18 снежня, да панядзелка 20 снежня. Такім

чынам, найвыгоднейшае становішча прапанавана студэнтам, якія прагаласуюць 14 снежня: ім можна быць вольнымі ад заняткаў цэлы тыдзень, адпаведна, на дзень пазнейшае галасаванне скарачае незапланаваныя «канікулы» на адзін дзень. Найбольш гэтая схема заахвочвання была разлічана на іншагародніх студэнтаў, тым больш, што іх папярэдзілі, што на выходныя інтэрнаты будуць зачыненыя «ў сувязі з выбарамі» і падзецца нязгодным студэнтам, якія прыехалі з рэгіёнаў, будзе няма дзе.

Кантроль за ажыццяўленнем датэрміновага галасавання ў многіх выпадках быў ускладзены на куратараў груп і камендантаў інэрнатаў, дзе прыжываюць іншагароднія студэнты і навучэнцы. Так, 16 снежня ў Магілёве на ўчастак для галасавання №61 па адрасе Цыалкоўскага, 3, размешчаным у інтэрнаце каледжа мастацтваў, прыйшла выхавацельніца гэтага інтэрната Наталля Магноўская і цікавілася звесткамі аб колькі жыхароў інтэрната, якія яшчэ не прагаласавалі. У гэты ж дзень на ўчастак прыйшла жанчына і прывяла на галасаванне двух дзяўчын, каб тыя прагаласавалі датэрмінова. Сама яна назвалася куратарам групы.

15 снежня адміністрацыя Слонімскага дзяржаўнага прафесійна-тэхнічнага ліцэя тэкстыльшчыкаў арганізавала цэнтралізаваную дастаўку сваіх навучэнцаў на выбарчыя ўчасткі. Для тых, каму споўнілася 18 гадоў, быў выдзелены спецыяльны аўтобус, куды пасадзілі дзяўчат і юнакоў і развезлі па ўчастках. Для прагаласаваўшых датэрмінова панядзелак зрабілі выходным днём.

Шырокую вядомасць атрымала відэа, дасланае «Праваабаронцам за свабодныя выбары» і распаўсюджанае ў сетцы Інтэрнэт, якое фіксуе факт відавочнага прымусу навучэнцаў куратарам Мінскага дзяржаўнага тэхналагічнага каледжа да ўдзелу ў датэрміновым галасаванні. У сваім звароце да праваабаронцаў студэнты адзначылі: «Добры дзень! Прымусовае датэрміновае галасаванне закранула і Мінскі дзяржаўны тэхналагічны каледж. За тыдзень да датэрміновага галасавання куратары груп апавясцілі студэнтаў, якія пражываюць у інтэрнаце, што яны абавязаныя прагаласаваць датэрмінова 18 снежня, але пазней высветлілася, што гэта неабходна зрабіць яшчэ раней. 14 снежня ўдалося зрабіць відэазапіс таго, як куратар прымушае ісці на датэрміновае галасаванне ў гэты ж дзень пасля заняткаў. На наступны дзень таксама ўдалося зрабіць відэазапіс таго, як куратар ўжо адзначае ў спісах тых, хто прагаласаваў. У спісе апынуліся 18 чалавек, якія пражываюць у інтэрнаце. Мінскіх студэнтаў запалохаць было няма чым, таму ў спісе іх прозвішчаў не было».

Аўтар паведамлення даслоўна прывёў тэкст усёй размовы.

**Відэа ад 14.12.2010:**

«***Куратар***: Я яшчэ раз нагадваю. Вы сёння пашпарты ўзялі з сабой?
***Студэнты***: Так.
***Куратар***: Вы сёння зойдзеце пасля пар. У вас пары заканчваюцца ...
***Студэнты***: У 5:20.
***Куратар***: Вось мне ўжо спіс далі, 18 чалавек. Заўтра я прыйду да вас зноў на парах, пастаўлю крыжыкі насупраць прозвішча таго чалавека, які прагаласаваў.
***Студэнты***: У нас яшчэ шмат часу да суботы, можна ў любы час прыйсці.
***Куратар***: Чым раней, тым лепш.
***Студэнты***: А не паказваюць, за каго галасаваць будзеш?
***Куратар***: Не. Вы можаце галасаваць за каго хочаце, і не трэба такім тонам са мной размаўляць.
***Студэнты***: Не, ну проста ...
***Куратар***: У мяне таксама патрабуюць гэтыя спісы. Я кожны раз прыходжу і вы кожны раз абураецеся! Што гэта такое?!
***Студэнты***: Не, ну ў самай справе, у нас жа ёсць час да суботы.
***Куратар***: Вы павінны раней прагаласаваць.
***Студэнты***: Чаму павінны?! Чаго павінны? 19-га выбары.
***Іншыя студэнты***: Не ты, гэта інтэрнату толькі.
***Куратар***: Я з вамі займацца гэтым больш не буду. Я прыйду сёння і заўтра. Вось сёння прыйшла і заўтра ... Усё! Далей будзеце хадзіць самастойна і тлумачыцца самастойна, што вы там можаце і не можаце, ясна?! Усё! Я ўсё сказала! Усё зразумела? Добра! Што гэта такое я не разумею?! Я вас што, за ручку вяду? Ці ў кабінкі разам з вамі заходжу, і пальцам тычу куды ставіць? Прыйшлі вучыцца? Так вучыцеся!

**Відэа ад 15.12.2010:**

«Куратар пытаецца ці прагаласавалі мы, і пачынае перапытваць па прозвішчах. Толькі адзін чалавек не прагаласаваў, які забірае дакументы з каледжа. У канцы размовы куратар кажа: «Ну, усё прагаласавалі, малайцы! Я занясу спіс, Шапавалава (інтэрнэт-карыстальнікі ўдакладнілі: Шапавалава Наталля Міхайлаўна — намеснік дырэктара па ідэалагічнай і выхаваўчай працы) зацвердзіць, малайцы вы ці не».

19 снежня ў прамым эфіры ток-шоу «Выбар» на тэлеканале ОНТ пра гэты факт нагадаў вядучы праграмы Сяргей Дарафееў, запытаўшы ў прысутнай у тэлестудыі старшыні ЦВК Ярмошынай: «Дык, значыць, выбары прайшлі з парушэннямі?» Старшыня ЦВК на пытанне адказала сыходам з прамога эфіру і нежаданнем «ліберальнічаць» (яе словы). Сам Дарафееў неўзабаве быў адхілены ад эфіру і затым звольнены, а перадача «Выбар» была зачынена.

## Умовы для назірання падчас датэрміновага галасавання

30 лістапада ЦВК адмовіла ў магчымасці кругласуткавай прысутнасці назіральнікаў на выбарчых участках падчас датэрміновага галасавання. Такім чынам, назіральнікі не мелі эфектыўнай магчымасці бесперапынна назіраць за скрынямі і быць упэўненымі ў тым, што з імі не адбываецца ніякіх маніпуляцый. Акрамя таго, мелі месца наступныя складанасці:

| | 14 снежня | 15 снежня | 16 снежня | 17 снежня | 18 снежня | У сярэднім |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Колькасць выбарчых участкаў, з якіх ёсць дадзеныя | 282 | 281 | 294 | 306 | 335 | 300 |
| 1. Адсотак выбарчых участкаў, на якіх мелі месца адмовы ў акрэдытацыі незалежным назіральнікам | 5,3% | 1,8% | 2,7% | 0,3% | 2,1% | 2,4% |
| 2. Адсотак выбарчых участкаў, на якіх ствараліся перашкоды незалежным назіральнікам | 8,9% | 10,3% | 8,2% | 8,5% | 5,7% | 8,3% |

1. Адмовы ў акрэдытацыі незалежным назіральнікам. Зафіксаваны ў сярэднім на 2,4% участкаў, ахопленых назіраннем. Прэтэнзіі старшынь камісій да назіральнікаў часцей за ўсё датычылі фармальнасцяў — адсутнасць пячаткі на пратаколе, які пацвярджае вылучэнне ад грамадскага аб'яднання, адсутнасць датаў нараджэння грамадзян у заяве аб вылучэнні ад групы выбаршчыкаў і г.д[29]. Гэтыя адмовы, як правіла, пераадольваліся пры дэманстрацыі назіральнікамі намераў іх абскардзіць або пасля кансультацый старшынь УВК з вышэйстаячымі камісіямі і супрацоўнікамі выканкамаў.

2. Перашкоды незалежным назіральнікам зафіксаваныя ў сярэднім на 8,3% выбарчых участкаў. У цэлым, назіральнікі мелі магчымасць увесь час знаходзіцца на выбарчых участках падчас афіцыйных гадзін працы і назіраць за працэсам галасавання. Пры гэтым, сябры УВК патрабавалі ад іх назіраць толькі з вызначанага месца[30]. Мелі месца выпадкі забароны карыстання мабільнымі тэлефонамі і фотаапаратурай[31]. Адзначаны таксама выпадкі забароны весці падлік колькасці

29 У г.п. Глуск (Магілёўская вобл.) на выбарчым участку №2 было адмоўлена ў акрэдытацыі Ігару Кірыну на падставе таго, што ў пададзенай ім заяве адсутнічалі даты нараджэння выбаршчыкаў. У в. Абухава Гродзенскага р-на (Гродзенская вобл.) на участку №24 назіральніцы Алене Рапекце было адмоўлена ў акрэдытацыі са спасылкай на тое, што ў пратаколе яе вылучэння няма пячаткі. У Магілёве на ўчастку № 66 у акрэдытацыі адмовілі прадстаўнікам БХК і "Магілёўскага праваабарончага цэнтра" Аляксею Кажэку і Наталлі Самахвалавай, паведаміўшы ім, што паколькі памяшканне для галасавання маленькае і ўжо акрэдытавана 7 назіральнікаў, зарэгістраваць яшчэ двух не ўяўляецца магчымым.

30 На выбарчым участку № 12 г. Жодзіна (Мінская вобл.) назіральнікаў размясцілі ў калідоры па-за межамі бачнасці працэсу галасавання. У Гомелі на участку № 44 Чыгуначнага р-на размяшчэнне як скрыні, так і назіральнікаў было такім, што не дазваляла бачыць галасаванне.

31 У выбарчым участку № 122 Кастрычніцкага р-на г. Магілёва старшыня камісіі адмовіў назіральнікам у азнаямленні са спісамі выбаршчыкаў і акрэдытаваных назіральнікаў. У Брэсце на участку № 15 Ленінскага р-на старшыня камісіі не дазваляла назіральніцы Вользе Маслоўскай фатаграфаваць і нават прымяняла да яе сілу, каб перашкодзіць гэта рабіць, сцвярджаючы, што фатаграфаваць можна толькі з яе дазволу. Аналагічная забарона была зафіксавана ў Мінску на участку 27 Савецкага р-на – назіральніку Андрэю Крэчку старшыня УВК забараніў фатаграфаваць пратакол і скрыню.

прыняўшых удзел у галасаванні ці размаўляць з выбаршчыкамі па-за ўчасткам[32]. Нярэдка адзначаліся выпадкі псіхалагічнага ціску і пагрозаў[33].

У назіральнікаў не было магчымасці назіраць апячатванне скрыняў у першы дзень галасавання на 2,6% выбарчых участкаў. Адзначаны выпадкі апячатвання скрыняў да пачатку галасавання, яшчэ да з'яўлення назіральнікаў[34]. Адной з асноўных праблем было кепскае апячатванне скрыняў і заклейванне іх шчылін у наступныя дні галасавання, што назіралася на вялікай колькасці ўчасткаў. Напрыклад, у Баранавічах на выбарчым участку № 54 (Баранавіцкі малочны камбінат, вул. 50 год БССР, 51) адна са скрыняў для галасавання была вельмі старая і абшарпаная, але найбольш уразіла назіральнікаў вялікая шчыліна паміж крышкай і пярэдняй сценкай: яна такая вялікая, што можна было ўкідваць не толькі бюлетэні, але і прасунуць руку, нягледзячы на тое, што скрыня апячатана. Іншыя скрыні на ўчастку былі хоць і новыя, але змацаваны шурупамі, якія пры неабходнасці вельмі лёгка адкруціць.

## Выяўленыя парушэнні падчас датэрміновага галасавання

На працягу датэрміновага галасавання назіральнікі зафіксавалі шматлікія парушэнні выбарчага заканадаўства. Агульная статыстыка найбольш тыповых з іх прыводзіцца ніжэй. Назіральнікі кампаніі падалі 125 скаргаў і заяваў па фактах парушэнняў выбарчага заканадаўства ў ТВК і пракуратуру.

| | 14 снежня | 15 снежня | 16 снежня | 17 снежня | 18 снежня | У сярэднім |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Колькасць выбарчых участкаў, з якіх ёсць дадзеныя | 282 | 281 | 294 | 306 | 335 | 300 |
| 1. Адсотак выбарчых участкаў, на якіх былі выпадкі працы УВК не па раскладзе (10.00-14.00; 16.00-19.00) | 8,5% | 6,8% | 5,8% | 3,6% | 7,5% | 6,4% |
| 2. Адсотак выбарчых участкаў, на якіх было ўмяшальніцтва пабочных асобаў у працу УВК | 7,1% | 8,9% | 3,7% | 5,6% | 3,6% | 5,8% |
| 3. Адсотак выбарчых участкаў, на якіх зафіксаваны прымус да ўдзелу ў датэрміновым галасаванні | 8,9% | 14,2% | 10,2% | 12,4% | 6,9% | 10,5% |
| 4. Адсотак выбарчых участкаў, на якіх фіксаваліся выпадкі выдачы некалькіх бюлетэняў адной асобе | 3,2% | 2,1% | 1,4% | 1,6% | 1,5% | 2,0% |
| 5. Адсотак выбарчых участкаў, на якіх не вывешваўся пратакол з дадзенымі пасля кожнага дня галасавання | 2,5% | 1,4% | 0,3% | 1,3% | 0,9% | 1,3% |

32 На выбарчым участку № 4 Ленінскага р-на г. Гродна старшыня камісіі Леанід Валенцюкевіч зрабіў заўвагу, са складаннем акта, назіральнікам Людміле Сцярніцкай і Раману Бараноўскаму, што тыя падлічваюць колькасць людзей, якія прыйшлі галасаваць. Валенцюкевіч заявіў, што назіральнікі не маюць права рабіць гэта. На ўчастку № 57 Першамайскага р-на г. Мінска старшыня камісіі Анатоль Шабельнік забараняў назіральнікам размаўляць з выбаршчыкамі па-за памяшканнем для галасавання пад пагрозай выдалення з участка.

33 У в. Абухава Гродзенскага р-на (Гродзенская вобл.) на участку № 24 на назіральнікаў Галіну Дзербыш і Алену Рапекту аказвала псіхалагічны ціск, замінаючы працаваць, супрацоўніца райвыканкама Святлана Дабрыян, распытваючы хто яны такія, як і па якім праве патрапілі ў назіранне. На ўчастку № 67 Фрунзенскага р-на г. Мінска старшыня камісіі Роберт Хмара рэагаваў на заўвагі назіральнікаў пагрозамі выдалення з участка. Назіральніцу на ўчастку № 11 г. Жодзіна (Мінская вобл.) Святлану Лапіцкую спрабавалі адхіліць ад назірання тэрміновымі тэлефоннымі выклікамі на працу, спасылаючыся на ціск з боку высокага начальства.

34 У Брэсце на выбарчым участку № 4 Ленінскага р-на старшыня камісіі не дапусціў назіральніка Аляксандра Меляшчэню на апячатванне скрыні. На ўчастку № 11 Навабеліцкага р-на г. Гомеля скрыня была апячатана да прыходу назіральнікаў, і старшыня камісіі Святлана Шаўцова не змагла патлумачыць, калі гэта было зроблена. На ўчастку № 26 г. Маладзечна (Мінская вобл.) сябры камісіі вынеслі ўжо апячатаную скрыню з кабінета старшыні (дырэктара школы) Зоі Кокаш.

1. Праца УВК не па афіцыйным раскладзе. Адзначана ў сярэднім на 6,4% выбарчых участкаў. Назіральнікам дазвалялі прысутнічаць у пакоі для галасавання толькі ў афіцыйныя гадзіны працы УВК. Пры гэтым імі адзначаюцца шматлікія факты знаходжання сяброў камісіі ў зачыненым пакоі для галасавання да 10.00, з 14 да 16.00 і пасля 19.00, што тлумачылася як «працоўны момант» УВК, «падрыхтоўка пакоя да галасавання» ды інш.

2. Умяшальніцтва пабочных асобаў у працу УВК. Адзначана ў сярэднім на 5,8% выбарчых участкаў. У асноўным гэтымі пабочнымі асобамі з'яўляліся прадстаўнікі мясцовых выканаўчых органаў улады ці прадстаўнікі адміністрацый арганізацый і ўстаноў. Масава зарэгістраваны выпадкі непасрэднага кантролю, у тым ліку, праз зверку спісаў выбаршчыкаў, з боку прадстаўнікоў адміністрацый навучальных установ, інтэрнатаў ды інш., удзелу студэнтаў і навучэнцаў у датэрміновым галасаванні. УВК рэгулярна прадастаўлялі кіраўніцтву адпаведных установ ці адміністрацый інфармацыю аб колькасці тых, хто ўзяў удзел у датэрміновым галасаванні.

3. Прымус да ўдзелу ў галасаванні на ўчастку. Выпадкі прымусу былі ў сярэднім зафіксаваны на 10,5% выбарчых участкаў. Як і падчас папярэдніх выбараў, асноўнымі катэгорыямі такіх выбаршчыкаў з'яўляліся: іншагароднія студэнты, жыхары інтэрнатаў, ваеннаслужачыя, супрацоўнікі дзяржаўных прадпрыемстваў, грамадзяне, асуджаныя да абмежавання волі, ды інш. Прыкметамі адміністрацыйнага прымусу да ўдзелу ў датэрміновым галасаванні былі: просьба выбаршыкаў да сяброў УВК выдаць даведку аб удзеле ў галасаванні, арганізаваны прывод ці прывоз выбаршчыкаў на ўчастак для галасавання, інфармаванне сябрамі УВК прадстаўнікоў адміністрацыі аб удзеле ў датэрміновым галасаванні ды інш.

4. Выдача некалькіх бюлетэняў адной асобе. У сярэднім назіралася на 2,0% выбарчых участкаў. Сярод выяўленых фактаў пераважаюць выпадкі выдачы бюлетэняў родным выбаршчыкаў.

5. Невывешванне пратаколаў аб выніках штодзённага галасавання. У сярэднім мела месца на 1,3% выбарчых участкаў. Назіральнікам нярэдка даводзілася ўказваць сябрам УВК на неабходнасць паведамлення штодзённых вынікаў датэрміновага галасавання.

## Удзел у датэрміновым галасаванні

Істотную праблему для назіральнікаў складаў доступ да дадзеных аб колькасці выбаршчыкаў, зарэгістраваных на ўчастку. У сярэднім яго не было на 1/3 участкаў. Нярэдкімі былі выпадкі прамой адмовы УВК прадставіць гэтыя дадзеныя.

| Дзень | Колькасць участкаў, на якіх былі даступныя дадзеныя аб колькасці выбаршчыкаў | Колькасць выбаршчыкаў на гэтых участках | Колькасць выбаршчыкаў, прагаласаваўшых на гэтых участках | Адсотак прагаласаваўшых ад агульнай колькасці выбаршчыкаў |
|---|---|---|---|---|
| 14 снежня | 186 | 335 014 | 9 569 | 2,82% |
| 15 снежня | 204 | 368 302 | 14 431 | 3,92% |
| 16 снежня | 210 | 379 677 | 16 583 | 4,37% |
| 17 снежня | 224 | 403 780 | 20 964 | 5,19% |
| 18 снежня | 238 | 435 822 | 27 092 | 6,22% |
| Усяго: | | | | 22,52% |

У большасці выпадкаў дадзеныя падліку колькасці прагаласаваўшых, які ажыццяўляўся назіральнікамі бесперапынна, супадалі (ці адрозніваліся неістотна ў межах дапушчальнай пагрэшнасці) з дадзенымі УВК аб выніках кожнага дня датэрміновага галасавання. У сярэднім колькасць прагаласаваўшых выбаршчыкаў, па падліках назіральнікаў, склала 97,2% ад колькасці прагаласаваўшых, аб'яўленых УВК на участках, ахопленых назіраннем.

У той жа час на некаторых участках былі адзначаны выпадкі сур'ёзнага разыходжання дадзеных аб колькасці прагаласаваўшых за 5 дзён датэрміновага галасавання, аб'яўленых УВК (у большы бок), з падлікамі назіральнікаў за гэтыя дні. Так, напрыклад, у Салігорску 16 снежня на ўчастку №9 (сярэдняя школа №3) па падліках назіральніка ўдзел у галасаванні прыняў 131 ча-

лавек, а ў выніковым пратаколе выбарчай камісіii была абвешчана лічба 179: такім чынам, была выяўлена розніца ў 48 чалавек у бок павелічэння лічбы ўчастковай камісіяй (старшыня камісіі — дырэктар школы Анатоль Самуйлаў). 17 снежня, па падліках назіральнікаў, удзел у галасаванні на гэтым участку прынялі 146 чалавек, што прыкладна супадала з сярэдняй сутачнай лічбай галасуючых на іншых гарадскіх участках, ахопленых назіраннем. Камісія ж у сваім пратаколе ад 17-га снежня зафіксавала лічбу ў 223 выбаршчыкі. Розніца паміж дадзеным назіральнікаў і лічбай камісіі на гэтым участку склала ўжо 77 чалавек або 53% ад рэальнай колькасці прагаласаваўшых у гэты дзень. Такім чынам, толькі на адным участку ўсяго за два дні завышэнне рэальнай колькасці выбаршчыкаў склала 125 чалавек.

Разыходжанні па колькасці выбаршчыкаў, што прагаласавалі датэрмінова, выявіліся паміж дадзенымі назіральнікаў і афіцыйнымі лічбамі ўчастковых камісій у Оршы. Так, на выбарчым участку № 42, размешчаным у школе № 13, за 17 снежня па дадзеных назіральнікаў прагаласаваў 101 чалавек, а па дадзеных участковай камісіі — 119. Яшчэ большая розніца ў лічбах па ўчастку № 12, які знаходзіўся ў 16-й школе. Назіральнікі налічылі за 4 дні 304 прагаласаваўшых, камісія — 320. І ўжо зусім значнае разыходжанне — па ўчастку № 16 (школа № 5). Па дадзеных назіральнікаў там прагаласавалі 283 чалавекі, па дадзеных камісіі — 329.

На ўчастку №92 Ленінскага раёна г. Гродна, які быў размешчаны ў памяшканні сярэдняй школы №31 па Індурскай шашы, увечары 18 снежня ў прысутнасці назіральнікаў Генадзя Грыгальца і Рамана Юргеля была афіцыйна абвешчана колькасць прагаласаваўшых датэрмінова — 387 чалавек. Раніцай 19 снежня старшыня камісіі спрабавала тлумачыць назіральнікам, што адбылася памылка і сапраўдная колькасць прагаласаваўшых датэрмінова на гэтым участку — 487 выбаршчыкаў, гэта значыць — на 100 больш, чым было названа раней.

Указаныя факты, па меркаванні назіральнікаў, сведчылі пра імкненне некаторых камісій завысіць колькасць датэрмінова прагаласаваўшых выбаршчыкаў.

# 10. Дзень выбараў

Згодна з Пастановай Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь ад 14 верасня 2010 года «Аб прызначэнні выбараў прэзідэнта Рэспублікі Беларусь», выбары былі прызначаны і адбыліся 19 снежня 2010 года. У гэты дзень выбаршчыкі мелі магчымасць галасаваць як на ўчастках для галасавання, так і па месцы свайго знаходжання.

## Галасаванне па месцы знаходжання выбаршчыкаў

У адпаведнасці з Выбарчым кодэксам, забеспячэнне галасавання па месцы знаходжання ў дзень выбараў адбываецца выключна па пісьмовай ці вуснай просьбе выбаршчыка, які не можа з'явіцца на ўчастак. Нягледзячы на тое, што ў арт. 54 Выбарчага кодэкса гаворыцца, што «ўчастковая камісія абавязана забяспечыць магчымасць удзельнічаць у галасаванні выбаршчыкам, якія па стане здароўя ці па іншых уважлівых прычынах не змогуць прыйсці ў дзень выбараў у памяшканне для галасавання», на практыцы тлумачэння прычын немагчымасці з'явіцца на ўчастак для галасавання не патрабуецца. УВК павінна стварыць спецыяльны спіс выбаршчыкаў, якія выказалі жаданне галасаваць па месцы свайго знаходжання, выпісваючы ў яго звесткі з агульнага. Для арганізацыі такога галасавання ўчастковыя камісіі павінны мець не больш за тры пераносныя скрыні, якія павінны суправаджацца не менш як двума сябрамі УВК, што загадзя атрымоўваюць такую колькасць бюлетэняў, якая адпавядае колькасці выбаршчыкаў, унесеных у спецыяльны спіс.

Назіранне за галасаваннем па месцы знаходжання часам было праблематычным, паколькі сябры УВК мелі ў сваім распараджэнні транспартныя сродкі, а назіральнікаў часта не бралі з сабой праз «недахоп месцаў». Часам упаўнаважаныя сябры УВК сыходзілі для правядзення такога галасавання таемна, не афішуючы. Таму назіральнікі ў асноўным фіксавалі парушэнні, якія датычаць фармальных бакоў арганізацыі дадзенага віда галасавання.

Значная колькасць парушэнняў падчас галасавання па месцы знаходжання выбаршчыкаў была звязаная са складаннем адпаведных спісаў. Як правіла, выбаршчыкі ўносіліся камісіямі ў такія спісы зыходзячы з меркаванняў узросту, геаграфічнай аддаленасці (асабліва характэрна для сельскіх участкаў), а не паводле просьбаў выбаршчыкаў[35]. На многіх участках колькасць асоб, якія прагаласавала па месцы знаходжання, была непрапарцыйна вялікай — да 30% (у сярэднім па краіне — 7,61%). Старшыні камісій нярэдка адмаўлялі назіральнікам у магчымасці азнаёміцца са спісамі выбаршчыкаў[36].

Распаўсюджанай практыкай было ўнясенне ў спіс асобаў, якія пра гэта не прасілі. Назіральнікам, якім удалося папрысутнічаць падчас абходу выбаршчыкаў са скрыняй, зафіксавана вялікая колькасць сітуацый, калі выбаршчыкі адмаўляліся галасаваць або выказвалі здзіўленне нечаканаму з'яўленню сяброў камісіі. Адзначаліся таксама і парушэнні прынцыпу свабоды галасавання, выпадкі прымусу, а таксама галасавання адной асобы за іншых асоб. Таксама былі зафіксаваны выпадкі, калі выбаршчыкі ўжо прагаласавалі датэрмінова, але ў дзень выбараў да іх прыходзілі дамоў і прапаноўвалі прагаласаваць[37].

Назіраць за працэсам выдачы сябрам УВК бюлетэняў часам не было магчымасці, паколькі бюлетэні выдаваліся або загадзя, або таемна, у іншым памяшканні. Вельмі часта назіральнікам не прадастаўлялася ніякай інфармацыі па гэтым аспекце. Разам з тым, зафіскавана вялікая колькасць выдачы «круглай» колькасці бюлетэняў — напрыклад, 100 — і выдачы бюлетэняў стосамі, без падліку[38].

35 На ўчастку № 53 г. п. Барань Аршанскага р-на (Віцебская вобл.) у спіс былі аўтаматычна ўнесены асобы, старэйшыя за 70 год. На ўчастку № 45 г. Віцебска ў спіс аўтаматычна патрапілі ўсе інваліды і пенсіянеры.

36 Напрыклад, катэгарычныя адмовы мелі месца на выбарчых участках № 3 (старшыня Мішчук) і № 48 (старшыня Фурманава) г. Пінска (Брэсцкая вобл.), участку № 20 Кастрычніцкага р-на г. Віцебска (старшыня Наследнікава), участку № 5 г. Ганцавічы (Брэсцкая вобл.) і шмат якіх іншых.

37 Напрыклад, на выбарчым участку № 9 г. Жодзіна (Мінская вобл.) выбаршчык Зубра не звярталася з просьбай аб галасаванні на даму. На ўчастку № 7 г. Салігорска (Мінская вобл.) выбаршчыца Шараварава нават не збіралася ўдзельнічаць у выбарах, але ў спісах галасавання на даму прысутнічала. На ўчастку № 16 Першамайскага р-на г. Віцебска маці выбаршчыка Муратава прагаласавала датэрмінова, аднак да яе прыйшлі ў дзень выбараў і прапанавалі прагаласаваць яшчэ раз.

38 Так, на выбарчым участку № 66 Ленінскага р-на Магілёва, як стала вядома назіральнікам, падчас датэрміновага галасавання ў спіс для галасавання па месцы знаходжання запісалася 16 чалавек, аднак у дзень выбараў з участка выйшла тры групы сяброў камісіі са скрынямі для галасавання па месцы знаходжання са спісамі па 50 чалавек у кожным. Тлумачыць гэта назіральнікам у камісіі адмовіліся.

Мелі месца і парушэнні ўмоваў захавання скрыняў на ўчастку — не ў полі зроку назіральнікаў, аднак, у параўнанні з вышэйназванымі парушэннямі, нешматлікія.

**Парушэнні на 282 выбарчых участках, ахопленых назіраннем**

| Пытанне | Колькасць «ТАК» | Колькасць «НЕ» | Адсотак «ТАК» | Адсотак «НЕ» |
|---|---|---|---|---|
| 1. Ці вёўся на ўчастку спіс выбаршчыкаў, якія пажадалі галасаваць па месцы свайго знаходжання? | 274 | 8 | 97,16 | 2,84 |
| 2. Ці ўносіліся ў гэты спіс асобы, якія не звярталіся ў УВК з адпаведнай просьбай? | 52 | 230 | 18,44 | 81,56 |
| 3. Ці прадастаўляў старшыня УВК назіральнікам інфармацыю аб колькасці выбаршчыкаў, якія пажадалі прагаласаваць па месцы свайго знаходжання? | 237 | 45 | 84,04 | 15,96 |
| 4. Ці адпавядала колькасць бюлетэняў, выдадзеных членам УВК для галасавання па месцы знаходжання, колькасці выбаршчыкаў у адпаведным спісе? | 220 | 62 | 78,01 | 21,99 |
| 5. Ці дазволілі назіральнікам прысутнічаць пры галасаванні па месцы знаходжання выбаршчыкаў? | 231 | 51 | 81,91 | 18,09 |
| 6. Ці былі выпадкі, калі выбаршчыкі заяўлялі, што не выказвалі жадання галасаваць па месцы свайго знаходжання, калі да іх прыходзілі члены УВК? | 34 | 248 | 12,06 | 87,94 |
| 7. Ці мелі месца выпадкі прамой ці прыхаванай агітацыі з боку членаў УВК падчас арганізацыі галасавання па месцы знаходжання выбаршчыкаў? | 8 | 274 | 2,84 | 97,16 |
| 8. Ці ўносіліся выбаршчыкі ў спіс для галасавання па месцы знаходжання пасля 18.00? | 8 | 274 | 2,84 | 97,16 |
| 9. Ці захоўваліся скрыні для галасавання па месцы знаходжання выбаршчыкаў у бачным для назіральнікаў месцы? | 262 | 20 | 92,91 | 7,09 |
| 10. Ці праходзіла галасаванне па месцы знаходжання выбаршчыкаў са значнымі парушэннямі ў цэлым? | 49 | 233 | 17,38 | 82,62 |

## Галасаванне на выбарчых участках

Згодна з Выбарчым кодэксам, галасаванне ў дзень выбараў адбываецца на выбарчых участках з 8 да 20 гадзін. На выбарчых участках у закрытых установах яно можа быць скончана раней, калі свой голас аддалі ўсе выбаршчыкі са спіса. Галасаванне адбываецца ў спецыяльна адведзеных памяшканнях з кабінамі ці пакоямі для таемнага галасавання. Скрыні для галасавання правяраюцца, пламбуюцца ці апячатваюцца да пачатку галасавання ў прысутнасці не менш як 2/3 складу камісіі. Бюлетэнь выдаецца выбаршчыку пад подпіс пасля прад'яўлення адпаведнага дакумента. Выбаршчык галасуе асабіста.

У шэрагу выбарчых участкаў назіральнікамі выяўлены: заход у кабінкі для галасавання па некалькі чалавек, галасаванне не асабістае, а за родзічаў па прад'яўленні іх пашпартоў ды інш. Паводле назіральнікаў, на гэтыя парушэнні УВК не звярталі значнай увагі. Як і падчас датэрмі-

новага галасавання, на шэрагу ўчасткаў назіральнікам не прадастаўлялі звестак аб агульнай колькасці выбаршчыкаў у спісе, аб колькасці тых, хто галасуе па месцы знаходжання, аб колькасці атрыманых бюлетэняў ды інш.

**Парушэнні на 300 выбарчых участках, ахопленых назіраннем**

| Пытанне | Колькасць «ТАК» | Колькасць «НЕ» | Адсотак «ТАК» | Адсотак «НЕ» |
|---|---|---|---|---|
| 1. Ці былі адмовы ў рэгістрацыі назіральнікаў, якія выказалі жаданне прысутнічаць на ўчастку? | 10 | 290 | 3,33 | 96,67 |
| 2. Ці прадставілі назіральнікам звесткі аб колькасці выбаршчыкаў на ўчастку? | 278 | 22 | 92,67 | 7,33 |
| 3. Ці прадставілі назіральнікам звесткі пра колькасць атрыманых бюлетэняў? | 278 | 22 | 92,67 | 7,33 |
| 4. Ці маглі назіральнікі непасрэдна бачыць працэдуру выдачы бюлетэняў выбаршчыкам? | 257 | 43 | 85,67 | 14,33 |
| 5. Ці фіксаваліся факты выдачы некалькіх бюлетэняў адной асобе? | 29 | 271 | 9,67 | 90,33 |
| 6. Ці была забяспечана таемнасць галасавання? | 281 | 19 | 93,67 | 6,33 |
| 7. Ці ўмешваліся пабочныя асобы ў працу УВК? | 28 | 272 | 9,33 | 90,67 |
| 8. Ці мелі месца выпадкі прамой ці прыхаванай агітацыі на выбарчым участку? | 22 | 278 | 7,33 | 92,67 |
| 9. Ці паступалі скаргі падчас галасавання? | 64 | 236 | 21,33 | 78,67 |
| 10. Ці праходзіла галасаванне на выбарчым участку ў дзень выбараў са значнымі парушэннямі ў цэлым? | 60 | 240 | 20,00 | 80,00 |

## Падлік галасоў

Асноўным прынцыпам з'яўляецца асобны падлік галасоў. Гэта азначае, што пасля падліку, агалошвання колькасці і гашэння сябрамі УВК нявыкарыстаных бюлетэняў адбываецца паслядоўнае ўскрыццё скрыняў для галасавання і падлік бюлетэняў у іх. Спачатку падлічваюцца бюлетэні, якія знаходзяцца ў скрыні для датэрміновага галасавання, затым — бюлетэні ў скрынях для галасавання па месцы знаходжання выбаршчыкаў, а пасля — бюлетэні, якія знаходзяцца ў скрыні для галасавання ў памяшканні ўчастка ў дзень выбараў. Пры гэтым вынікі падліку бюлетэняў з кожнай скрыні павінны агалошвацца старшынёй камісіі. Падлік галасоў вядзецца непасрэдна сябрамі УВК без перапынку да падвядзення канчатковых вынікаў галасавання.

Па спісу выбаршчыкаў УВК устанаўлівае агульную колькасць выбаршчыкаў на ўчастку, а таксама колькасць выбаршчыкаў, якія атрымалі бюлетэні. На падставе бюлетэняў, якія знаходзяцца ў скрынях для галасавання, УВК спачатку асобна, а затым, складаючыя дадзеныя, устанаўлівае агульную колькасць выбаршчыкаў. Яе складаюць: колькасць выбаршчыкаў, якія прынялі ўдзел у галасаванні, у тым ліку, у датэрміновым, па месцы знаходжання выбаршчыкаў і на ўчастку для галасавання ў дзень выбараў. УВК падлічвае колькасць галасоў за кожнага з кандыдатаў у прэзідэнты, колькасць галасоў «супраць усіх» і колькасць бюлетэняў, прызнаных несапраўднымі.

Пасля падліку галасоў УВК праводзіць пасяджэнне, на якім зацвярджаюцца вынікі галасавання, складаецца пратакол аб выніках галасавання, разглядаюцца паступіўшыя скаргі і асаблівыя меркаванні сяброў УВК. Пратакол падпісваецца ўсімі сябрамі камісіі і адразу перадаецца ў ТВК, а яго копія вывешваецца для агульнага азнаямлення.

Адсутнасць дэталізацыі спосабу падліку галасоў у Выбарчым кодэксе засталася адной з асноўных праблем заканадаўства. Нягледзячы на шматлікія звароты розных суб'ектаў палітычнага працэсу, ЦВК адмовілася ўрэгуляваць працэдуру падліку праз свае пастановы ці Метадычныя рэкамендацыі.

Згодна з арт. 13 ВК, назіральнік мае права прысутнічаць падчас падліку галасоў, аднак адлегласць, з якой ён можа гэта рабіць, заканадаўствам не вызначана. Пастановай ЦВК № 95 былі ўнесены змены ў Метадычныя рэкамендацыі, згодна з якімі пры падліку галасоў назіральнікам павінна была быць забяспечаная рэальная магчымасць назіраць ва ўмовах бачнасці працэдуры падліку галасоў. На практыцы на большасці выбарчых участкаў, дзе ажыццяўлялася назіранне, такой магчымасці назіральнікам прадастаўлена не было.

У большасці выпадкаў назіральнікі кампаніі «Праваабаронцы за свабодныя выбары» былі дапушчаныя да назірання за падлікам галасоў. Аднак пры гэтым большасць назіральнікаў адзначыла, што не мела магчымасці эфектыўна назіраць за падлікам галасоў па дзвюх асноўных прычынах. Па-першае, у большасці выпадкаў адлегласць, з якой назіральнікам было дазволена назіраць за падлікам галасоў, не дазваляла бачыць зместу бюлетэняў. Па-другое, працэдура падліку галасоў, якую ў большасці выпадкаў выкарыстоўвалі УВК (супольны і адначасовы падлік бюлетэняў усімі сябрамі УВК), не дазваляла бачыць змест усіх бюлетэняў і весці паралельны падлік нават у выпадках, калі дыстанцыя да стала, на якім ажыццяўляўся падлік галасоў, была мінімальнай, і сябры УВК не перашкаджалі назіранню. У многіх выпадках назіральнікам не была вядома колькасць выбаршчыкаў, якія пажадалі прагаласаваць па месцы знаходжання.

Як правіла, кожны сябра УВК падлічваў толькі свой стос бюлетэняў, перадаючы вынікі на паперцы старшыні камісіі. Пры такой сістэме падліку галасоў кожны сябра УВК паасобку і назіральнікі не маглі ведаць агульны вынік падліку. Пры гэтым сябры камісіяў у большасці выпадкаў шчыльна стаялі вакол стала і не давалі магчымасці назіральнікам у поўнай меры бачыць працэдуру падліку. У шэрагу выпадкаў УВК ускрывалі ўсе скрыні адразу і лічылі бюлетэні з гэтых скрыняў адначасова. Акрамя таго, шмат на якіх участках, дзе асобны падлік ажыццяўляўся, яго вынікі не агалошваліся.

Сярэдняя працягласць падліку галасоў на выбарчых участках складала паўтары гадзіны. Мінімальны час падліку — 18 хвілін, максімальны — 4 гадзіны. У большасці выпадкаў УВК вывешвалі выніковыя пратаколы для азнаямлення, аднак рэдка згаджаліся заверыць (падпісаць) копіі пратаколаў, выробленыя назіральнікамі[39].

Вынікі апрацоўкі справаздачаў з 300 выбарчых участкаў, ахопленых назіраннем кампаніі, прыводзяцца ніжэй (адказы назіральнікаў на пытанні адмысловай анкеты, прысвечанай падліку галасоў):

| Пытанне | Колькасць «ТАК» | Колькасць «НЕ» | Адсотак «ТАК» | Адсотак «НЕ» |
|---|---|---|---|---|
| 1. Ці ўсе зарэгістраваныя назіральнікі былі дапушчаныя да назірання за падлікам галасоў? | 294 | 15 | 95,15 | 4,85 |
| 2. Ці маглі Вы бачыць змест бюлетэняў? | 79 | 230 | 25,57 | 74,43 |
| 3. Ці выдаляліся назіральнікі падчас падліку галасоў? | 5 | 304 | 1,62 | 98,38 |
| 4. Ці быў забяспечаны такі парадак падліку галасоў, пры якім усе сябры УВК маглі бачыць, за каго быў аддадзены голас у кожным бюлетэні?* | 108 | 201 | 34,95 | 65,05 |
| 5. Ці ажыццяўляўся асобны падлік бюлетэняў з розных скрыняў (для датэрміновага галасавання, для галасавання на ўчастку і па месцы знаходжання выбаршчыкаў)? | 260 | 49 | 84,14 | 15,86 |
| 6. Ці агалошваліся вынікі асобнага падліку бюлетэняў з розных скрыняў? | 162 | 147 | 52,43 | 47,57 |
| 7. Ці падаваліся скаргі, звязаныя з працэсам падліку галасоў? | 70 | 239 | 22,65 | 77,35 |

39 Адмовы ці ніяк не тлумачыліся, ці назіральнікам паведамлялася, што сябры УВК не абавязаныя рабіць гэта, або што гэта не прадугледжана Выбарчым кодэксам.

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| 8. Ці разглядаліся паступіўшыя скаргі на пасяджэнні УВК? | 29 | 280 | 9,39 | 90,61 |
| 9. Ці пісалі сябры УВК асаблівыя меркаванні? | 4 | 305 | 1,29 | 98,71 |
| 10. Ці быў вывешаны выніковы пратакол з вынікамі галасавання для ўсеагульнага азнаямлення? | 288 | 21 | 93,20 | 6,80 |
| 11. Ці задавальнялася просьба назіральнікаў аб завярэнні копіі выніковага пратаколу сябрамі УВК? | 78 | 229 | 25,41 | 74,59 |
| 12. Ці праходзіў падлік галасоў са значнымі парушэннямі ў цэлым? | 151 | 158 | 48,87 | 51,13 |

* Пры адказе на гэтае пытанне большасць назіральнікаў мела на ўвазе фізічную магчымасць для кожнага сябра УВК бачыць, за каго быў аддадзены голас у кожным бюлетэні, а не факт дэманстрацыі зместа кожнага бюлетэня ўсім сябрам УВК.

# 11. Скаргі і заявы падчас галасавання і падліку галасоў

Падчас галасавання і падліку галасоў толькі на выбарчых участках, ахопленых назіраннем кампаніі «Праваабаронцы за свабодныя выбары», было пададзена больш за 250 заяваў і скаргаў. Большасць з іх тычыліся парушэнняў падчас датэрміновага галасавання. Найбольш тыповымі парушэннямі, па якіх падаваліся скаргі, былі:

1) нядопуск да назірання па розных падставах;
2) забарона ажыццяўляць фотафіксацыю пячатак на скрынях і парушэнняў на ўчастках для галасавання;
3) прадастаўленне назіральнікам месцаў, нязручных для назірання;
4) вываз скрыняў для датэрміновага галасавання з памяшкання ўчастка ў іншыя месцы;
5) арганізацыя прымусовага галасавання датэрмінова;
6) адсутнасць асобнага падліку галасоў, а таксама неабвяшчэнне вынікаў падліку галасоў;
7) немагчымасць назіральнікам аглядаць працэдуру падліку галасоў;
8) забарону праводзіць назіранне за працэдурай галасавання па месцы знаходжання выбаршчыкаў.

Пры гэтым у некаторых выпадках назіральнікам пагражалі выдаленнем з участку і пазбаўленнем акрэдытацыі за падачу неабгрунтаваных, на думку УВК, скаргаў і заяваў[40].

Большасць скаргаў была разгледжана фармальна, і па выніках іх разгляду назіральнікі атрымалі фармальныя адпіскі, у якіх аспрэчваецца наяўнасць якіх-небудзь парушэнняў з боку УВК. Толькі ў адзінкавых выпадках скаргі і заявы задавальняліся. У некаторых выпадках, у парушэнне патрабаванняў ВК, скаргі не разглядаліся зусім.

Падчас датэрміновага галасавання некалькі назіральнікаў кампаніі, вылучаныя Беларускім Хельсінкскім камітэтам, звярнуліся да старшыняў шэрагу УВК з пісьмовымі прапановамі, у якіх прасілі забяспечыць такі парадак падліку галасоў, які дазволіў бы кожнаму сябру камісіі непасрэдна аглядаць кожны бюлетэнь і наяўную ў ім адзнаку выбаршчыка. Такая працэдура, на думку назіральнікаў, дазволіла б забяспечыць належны ўзровень празрыстасці падліку галасоў як для саміх сяброў участковых камісій, так і для назіральнікаў. Усе прапановы былі пакінутыя без задавальнення. Найбольш распаўсюджанай прычынай адмовы была празмерная працягласць падліку галасоў у выпадку прымянення парадку падліку, прапанаванага назіральнікамі. Напрыклад, «камісія вырашыла, што Ваша прапанова па падліку бюлетэняў з'яўляецца немэтазгоднай. Калі прытрымлівацца Вашай прапановы, то падлік бюлетэняў можа працягвацца да раніцы, а паколькі камісія ўтворана ў складзе 13 чалавек, кожны будзе задзейнічаны пры падліку бюлетэняў. Сябрам камісіі 20 снежня 2010 года трэба быць на працоўных месцах у 7.40»[41]. Практычна ва ўсіх адказах гаварылася, што працэдура падліку галасоў выразна рэгламентавана Выбарчым кодэксам.

Аналагічны адказ атрыманы і з ЦВК, якая на скаргу назіральніка БХК Васіля Чыкіна паведаміла, што «працэдура падліку галасоў, прадугледжаная ў артыкуле 55 ВК, досыць падрабязна растлумачана Цэнтральнай камісіяй у Метадычных рэкамендацыях для ўчастковых камісій», і што «ўчастковыя камісіі дзейнічаюць у рамках кампетэнцыі, якая дазваляе сваімі рашэннямі вызначаць парадак падліку галасоў».

40 Напрыклад, у сувязі з неаднаразовымі абскарджваннямі парушэнняў, дапушчаных УВК № 48 г. Пінска (Брэсцкая вобл.), на назіральніка Целяхана С.В. быў складзены акт аб пісьмовай заўвазе за неабгрунтаваныя прэтэнзіі да камісіі. У акце ўказвалася, што «ніжэйпадпісаныя сябры ўчастковай камісіі робяць заўвагу назіральніку Целяхану С.В. за неаднаразовае прад'яўленне неабгрунтаваных прэтэнзій і ўмяшальніцтва ў працу ўчастковай камісіі і папярэджваюць аб тым, што пры далейшым ўмяшальніцтве ў працу камісіі Целяхан С.В. будзе выдалены з тэрыторыі выбарчага ўчастка № 48».

41 З адказу старшыні УВК № 3 Пінска (Брэсцкая вобл.).

# 12. Вынікі галасавання

Першыя звесткі аб выніках галасавання былі абвешчаны старшынёй ЦВК Л. Ярмошынай у эфіры Беларускага тэлебачання ў 4.30 раніцы 20 снежня. Гэтыя ж звесткі — з некаторымі адрозненнямі — былі паўтораны на прэс-канферэнцыі ў 10.00 раніцы 20 снежня і размешчаны на сайце ЦВК («Папярэднія звесткі аб выніках галасавання па выбарах прэзідэнта Рэспублікі Беларусь»). Паведамленне ЦВК аб выніках выбараў было прынятае 24 снежня і размешчанае на сайце ЦВК, разам са «Звесткамі аб ходзе галасавання па выбарах прэзідэнта Рэспублікі Беларусь 19 снежня 2010 года», у якіх утрымліваліся больш дэталёвыя дадзеныя аб галасаванні.

| | **Папярэднія вынікі галасавання, абвешчаныя па тэлебачанні ў 4.30 раніцы 20 снежня 2010 года** | | **«Папярэднія звесткі аб выніках галасавання па выбарах прэзідэнта Рэспублікі Беларусь» (20 снежня 2010 года)** | | **«Звесткі аб ходзе галасавання па выбарах прэзідэнта Рэспублікі Беларусь 19 снежня 2010 года» (24 снежня 2010 года)** | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | *Колькасць* | *%* | *Колькасць* | *%* | *Колькасць* | *%* |
| Кастусёў | 126 645 | 1,97 | 126 645 | 1,97 | 126 999 | 1,97 |
| Лукашэнка | 5 122 866 | 79,67 | 5 122 866 | 79,67 | 5 130 557 | 79,65 |
| Міхалевіч | 65 598 | 1,02 | 65 598 | 1,02 | 65 748 | 1,02 |
| Някляеў | 113 747 | 1,77 | 113 747 | 1,77 | 114 581 | 1,78 |
| Раманчук | 126 986 | 1,97 | 126 986 | 1,97 | 127 281 | 1,98 |
| Рымашэўскі | 70 433 | 1,1 | 70 433 | 1,10 | 70 515 | 1,09 |
| Саннікаў | «164 тысячы» | 2,56 | 155 386 | 2,42 | 156 419 | 2,43 |
| Статкевіч | «67 тысяч» | 1,04 | 67 036 | 1,04 | 67 583 | 1,05 |
| Ус | «31 тысяча» | 0,48 | 31 009 | 0,48 | 25 117 | 0,39 |
| Цярэшчанка | 69 653 | 1,08 | 69 653 | 1,08 | 76 764 | 1,19 |
| Супраць усіх | Не была названая | 6,47 | 416 333 | 6,47 | 416 925 | 6,47 |
| Несапраўдныя | 55 940* | 0,87** | 64 244*** | 1,00%**** | 62 542 | 0,97 |
| Прагаласавала | Не была названая | 100,00 | 6 429 936 | 100,00 | 6 441 031 | 100,00 |
| Колькасць выбаршчыкаў | Не была названая | | 7 092 168 | | 7 105 660 | |
| Яўка | | 90,66% | | 90,66% | | 90,65% |

* Не была названа, але вынікае з адсоткаў.

** Не быў названы. Вылічаны як розніца паміж 100% і адсоткамі за кандыдатаў і «супраць усіх».

*** Не была прыведзена, але вылічваецца як розніца паміж агульнай колькасцю прагаласаваўшых і галасоў за усіх кандыдатаў і «супраць усіх».

**** Не быў прыведзены. Вылічаны як розніца паміж 100% і адсоткамі за кандыдатаў і «супраць усіх».

Розніца ў некаторых лічбах, абвешчаных ЦВК, сведчыць аб магчымых маніпуляцыях з вынікамі галасавання на ўзроўні ЦВК: 1) змяншэнне колькасці галасоў, пададзеных за А. Саннікава, больш чым на 8 000 і павелічэнне колькасці несапраўдных бюлетэняў больш чым на 8 000 у двух варыянтах папярэдніх вынікаў выбараў, абвешчаных 20 снежня, і 2) істотныя разыходжанні ў колькасці галасоў, аддадзеных за Дз. Уса (змяншэнне з 31 009 да 25 177) і В. Цярэшчанку (паве-

лічэнне з 69 653 да 76 764) у звестках аб выніках выбараў, абвешчаных 24 снежня ў параўнанні з папярэднімі звесткамі, абвешчанымі 20 снежня. Гэтая розніца не можа быць растлумачана простым удакладненнем дадзеных.

## Дадзеныя пра ўдзел выбаршчыкаў у датэрміновым галасаванні

19 снежня ў 10.00 раніцы Л. Ярмошына абвясціла, што за 5 дзён датэрміновага галасавання ўдзел у ім прынялі 1 629 191 чалавек (23,1% ад колькасці выбаршчыкаў, унесеных у спісы). Тыя ж самыя звесткі — з разбіўкай па абласцях і г. Мінску — былі размешчаныя на сайце ЦВК («Звесткі аб ходзе датэрміновага галасавання на 18.12.2010 г.»). Акрамя таго, сябра ЦВК Аляксандр Каляда агучыў на прэс-канферэнцыі 20 снежня адсотак прагаласаваўшых датэрмінова ў Брэсцкай вобласці — 18,8% ад агульнай колькасці выбаршчыкаў. Старшыня абласной выбарчай камісіі Гродненскай вобласці Валерый Саўко на прэсавай канферэнцыі 22 снежня паведаміў, што датэрмінова ў выбарах узялі удзел больш за 23% выбаршчыкаў вобласці. У той жа дзень, 22 снежня, старшыня Магілёўскай абласной выбарчай камісіі Валерый Берастаў абвясціў, што датэрмінова ў рэгіёне прагаласавалі 26,4% выбаршчыкаў. Гэтыя адсоткі супадаюць з адсоткамі, прыведзенымі ў вышэйзгаданых звестках ЦВК ад 19 снежня.

Аднак, згодна з вынікамі выбараў, абвешчанымі ЦВК 24 снежня, у датэрміновым галасаванні ўзялі ўдзел 1 798 075 чалавек (на 168 884 чалавекі больш). Гэтая ж лічба прыводзіцца ў «Звестках аб ходзе галасавання па выбарах прэзідэнта Рэспублікі Беларусь 19 снежня 2010 года», вывешаных на сайце ЦВК. Лічбы і, адпаведна, адсоткі выбаршчыкаў, датэрмінова прагаласаваўшых у абласцях, якія ўтрымліваюцца ў звестках, таксама істотна адрозніваюцца ад лічбаў і адсоткаў, абвешчаных ЦВК і старшынямі абласных выбарчых камісій 19-22 снежня:

| | **«Звесткі аб ходзе датэрміновага галасавання на 18.12.2010 г.» (19 снежня 2010 года)*** | | **«Звесткі аб ходзе галасавання па выбарах Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь 19 снежня 2010 года» (24 снежня 2010 года)** | |
|---|---|---|---|---|
| | *Колькасць* | *% ад колькасці выбаршчыкаў, унесеных у спісы* | *Колькасць* | *% ад колькасці выбаршчыкаў, унесеных у спісы* |
| Брэсцкая вобласць | 190 629 | 18,8 | 275 216 | 26,66 |
| Віцебская вобласць | 309 022 | 34,6 | 308 762 | 34,41 |
| Гарадзенская вобласць | 188 931 | 23,4 | 231 676 | 28,67 |
| Гомельская вобласць | 266 649 | 23,4 | 272 806 | 24,60 |
| Магілёўская вобласць | 218 409 | 26,4 | 218 235 | 26,16 |
| Мінская вобласць | 224 472 | 20,4 | 247 027 | 22,37 |
| Мінск | 231 079 | 17,7 | 244 353 | 18,51 |
| За межамі Беларусі | 2 478 | 28,2 | - | - |
| Усяго | 1 629 191 | 23,1 | 1 798 075 | 25,30 |

* Дадзеныя за ўсе 5 дзён датэрміновага галасавання.

Гэтае разыходжанне лічбаў сведчыць пра тое, што дадзеныя аб удзеле ў датэрміновым галасаванні маглі быць сфальсіфікаваныя. БХК звярнуўся ў ЦВК з просьбай растлумачыць гэтае разыходжанне. У адказе ад 23 лютага 2011 года (ДАКУМЕНТ 8) Цэнтральная камісія адказала, што дадзеныя, абвешчаныя раніцай 19 снежня, насілі характар аператыўна складзеных і, як правіла, перадаваліся старшынямі ўчастковых камісій вышэйстаячым камісіям па тэлефоне і таму не выключаюць некаторых недакладнасцяў у канчатковым выніку. А вось новыя дадзеныя, якія сталі афіцыйным вынікам выбараў, «з'яўляюцца вынікам сумавання адпаведных звестак з пратаколаў ніжэйстаячых камісій. «Аднак нават калі пагадзіцца з ЦВК і

лічыць розніцу ў 168.884 прагаласаваўшых «некаторай недакладнасцю» і не ставіць пытанне аб тым, чаму ніжэйстаячыя камісіі паведамлялі ЦВК настолькі недакладныя дадзеныя, а ЦВК паведамляў гэтыя дадзеныя без якіх-небудзь спасылак на іх «аператыўнасць»і «неафіцыйнасць», застаецца яшчэ адно істотнае пытанне: чаму падпісаўшы пратаколы, у якіх, паводле ЦВК, знаходзіліся афіцыйныя дадзеныя аб галасаванні ў абласцях, старшыні аблвыбаркамаў і сябры ЦВК агучвалі на прэс-канферэнцыях 20-22 снежня недакладныя дадзеныя аб колькасці прагаласаваўшых датэрмінова? Так, напрыклад, 21 снежня старшыня Гродзенскай абласной выбарчай камісіі В. Саўка паведаміў, што ў датэрміновым галасаванні ў вобласці прынялі ўдзел больш за 23% выбаршчыкаў («Гродзенская праўда» ад 22 снежня 2010 года). Пры гэтым у дэзавуяваных ЦВК звестках аб датэрміновым галасаванні, агучаных 19 снежня, гаварылася аб 23,4% прагаласаваўшых (г.зн. «больш за 23%»), а ў звестках ЦВК ад 20 снежня фігуруе іншая лічба: 26,1% (розніца ў абсалютных лічбах — 42 745 чалавек). Адкуль жа яна ўзялася? І каму верыць: В. Саўка або ЦВК? Мяркуючы, што вышэйпададзеныя факты могуць сведчыць аб фальсіфікацыі вынікаў датэрміновага галасавання, у сакавіку 2011 года БХК звярнуўся ў Генпракуратуру з просьбай правесці праверку па выкладзеных фактах. У канцы красавіка БХК атрымаў цалкам прадказальны адказ аб тым, што «інфармацыяй, якая сведчыць аб наўмысным скажэнні звестак аб колькасці грамадзян, якія датэрмінова прагаласавалі на выбарах Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, Генеральная пракуратура не валодае», а высновы, якія змяшчаюцца ў звароце БХК, «носяць меркаваны характар».

## Аналіз дадзеных пра ўдзел у датэрміновым галасаванні, галасаванні па месцы знаходжання і ўчастках для галасавання

Згодна з дадзенымі ЦВК ад 20 снежня, датэрмінова прагаласавалі 1 629 191 чалавек; акрамя таго, 490 314 чалавек прагаласавалі па месцы знаходжання. Як правіла, на ўчастках, ахопленых назіраннем, адсотак прагаласаваўшых па месцы знаходжання быў значна ніжэйшы, чым на астатніх участках адпаведных адміністрацыйна-тэрытарыяльных адзінак.

**Полацк, Віцебская вобласць (выбарчыя ўчасткі №№ 7, 12, 23, 28 і 32)***

| **Від галасавання** | **5 участкаў у Полацку, ахопленых назіраннем**** | **Увесь Полацк (ТВК)** | **Віцебская вобласць (ЦВК)** |
|---|---|---|---|
| Адсотак выбаршчыкаў, што прагаласавалі датэрмінова | 28,33 | 28,41 | 36,94 |
| Адсотак выбаршчыкаў, што прагаласавалі ў дзень выбараў на выбарчым участку | 67,32 | 62,56 | 51,66 |
| Адсотак выбаршчыкаў, што прагаласавалі ў дзень выбараў па месцы знаходжання | 4,35 | 9,03 | 11,41 |

* Афіцыйныя дадзеныя выбарчых камісій.

** Падлік галасоў на гэтых участках быў нетранспарэнтным.

На тых участках, дзе падлік галасоў вёўся па асобных скрынях (і яго вынікі абвяшчаліся), адсотак галасоў за Лукашэнку пры датэрміновым галасаванні і пры галасаванні па месцы знаходжання выбаршчыкаў быў значны вышэйшы, чым пры галасаванні на ўчастку. На шэрагу участкаў ён дасягаў 100%. Адпаведна, падтрымка іншых кандыдатаў была значна ніжэйшай.

**Полацк, Віцебская вобласць (выбарчыя ўчасткі №№ 7, 12, 23, 28 і 32)***

| | Датэрміновае галасаванне | | Галасаванне на ўчастку | | Галасаванне па месцы знаходжання | | Усяго на 5 участках (УВК)** | | Увесь Полацк (ТВК) | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | *Кольк.* | *%* | *Кольк.* | *%* | *Кольк.* | *%* | *Кольк.* | *%* | *Кольк.* | *%* |
| Кастусёў | 8 | 0,39 | 24 | 0,49 | 0 | 0,00 | 32 | 0,44 | 250 | 0,5 |
| Лукашэнка | 1 741 | 84,31 | 2 992 | 60,97 | 292 | 92,11 | 5 025 | 68,94 | 40 674 | 78,2 |
| Міхалевіч | 20 | 0,97 | 95 | 1,94 | 0 | 0,00 | 115 | 1,58 | 703 | 1,4 |
| Някляеў | 38 | 1,84 | 218 | 4,44 | 6 | 1,89 | 262 | 3,59 | 1 485 | 2,9 |
| Раманчук | 11 | 0,53 | 206 | 4,20 | 0 | 0,00 | 217 | 2,98 | 986 | 1,9 |
| Рымашэўскі | 12 | 0,58 | 92 | 1,87 | 2 | 0,63 | 106 | 1,45 | 567 | 1,1 |
| Саннікаў | 89 | 4,31 | 700 | 14,24 | 1 | 0,34 | 790 | 10,84 | 3 748 | 7,2 |
| Статкевіч | 20 | 0,97 | 123 | 2,51 | 2 | 0,63 | 145 | 1,99 | 610 | 1,2 |
| Ус | 4 | 0,19 | 13 | 0,26 | 0 | 0,00 | 17 | 0,23 | 125 | 0,2 |
| Цярэшчанка | 18 | 0,87 | 131 | 2,67 | 1 | 0,32 | 150 | 2,06 | 702 | 1,3 |
| Супраць усіх | 95 | 4,60 | 274 | 5,58 | 7 | 2,21 | 376 | 5,16 | 1 830 | 3,5 |
| Несапраўдныя | 9 | 0,44 | 39 | 0,79 | 6 | 1,89 | 54 | 0,74 | 362 | 0,7 |
| Усяго | 2 065 | 100,00 | 4 907 | 100,00 | 317 | 100,00 | 7 289 | 100,00 | 52 042 | 100,00 |

* Афіцыйныя дадзеныя выбарчых камісій.
** Падлік галасоў на гэтых участках быў нетранспарэнтным.

Такая розніца магла была б патлумачана тым, што менавіта прыхільнікі Лукашэнкі, асабліва людзі старэйшага ўзросту, найбольш актыўна галасавалі датэрмінова і па месцы знаходжання. Аднак такое тлумачэнне не падыходзіць да вынікаў галасавання на закрытых участках, дзе галасавалі выбаршчыкі ўсіх узростаў — пацыенты медыцынскіх установаў, наведвальнікі санаторыяў і ваеннаслужачыя (67 937 чалавек, ці 1,05% ад агульнай колькасці выбаршчыкаў). На такіх участках Лукашэнка таксама атрымаў значна больш галасоў (89,10% у параўнанні з 79,65% у сярэднім па краіне), а яго канкурэнты — у паўтары-два разы менш, чым у сярэднім па краіне.

Тры гэтыя віды галасавання аб'ядноўвае нетранспарэнтнасць працэсу галасавання і захоўвання скрыняў. Сказаць, ці з'яўляліся бюлетэні, якія знаходзіліся ў скрынях да моманту пачатку падліку галасоў, тымі самымі бюлетэнямі, што былі ўкінутымі выбаршчыкамі, немагчыма, паколькі падчас датэрміновага галасавання і галасавання па месцы знаходжання выбаршчыкаў доступ да адпаведных скрыняў у адсутнасць назіральнікаў і іншых сведак мелі як сябры выбарчых камісій, так і пабочныя асобы, а канструкцыя большасці скрыняў і спосаб іх апячатвання не з'яўляліся істотнай перашкодай для магчымых маніпуляцый з іх змесцівам. Што тычыцца галасавання на закрытых участках, то яно было поўнасцю адкрытае для магчымых маніпуляцыяй як з бюлетэнямі, так і падчас падліку галасоў. Усяго ў «зоне вялікай маніпуляцыйнай рызыкі» знаходзіліся каля 2,2 млн. бюлетэняў (колькасць выбаршчыкаў, прагаласаваўшых датэрмінова, па месцы знаходжання і на закрытых участках).

Напрыклад, на выбарчым участку №57 Першамайскага раёна г. Мінска, які ўключаў у сябе інтэрнаты №№15-17 Беларускага дзяржаўнага тэхнічнага ўніверсітэта, і на якім назіральнікі былі сведкамі масавага дэтэрміновага галасавання (за 14-18 снежня на ўчастку прагаласавалі

1 952 чалавекі)[42], Лукашэнка атрымаў 79,95%. Пры гэтым выніکі падліку галасоў па асобных скрынях не абвяшчаліся, а з таго, што маглі бачыць назіральнікі, з вялікай верагоднасцю вынікае, што большасць бюлетэняў за Лукашэнку знаходзіліся менавіта ў скрыні для датэрміновага галасавання. На выбарчым участку №14 у Салігорску (Мінская вобл.) раніцай 18 снежня (апошні дзень датэрміновага галасавання) назіральнікі заўважылі, што скрыня для датэрміновага галасавання апячатана інакш, чым гэта было 17 снежня. На гэтым участку датэрмінова прагаласавала 776 чалавек. З іх, згодна з УВК, свае галасы Лукашэнку аддалі 761 чалавек (98,97%).

## Прыкметы магчымых фальсіфікацый ва ўчастковых і тэрытарыяльных выбарчых камісіях

Супастаўленне афіцыйных дадзеных УВК, ТВК і справаздач назіральнікаў дазваляе меркаваць, што да выбарчых камісій былі даведзены: а) пажаданы ўзровень яўкі на выбары і б) адсоткі, якія павінны «атрымаць» кандыдаты. У выпадку, калі фактычны ўдзел у датэрміновым галасаванні і ў галасаванні ў дзень выбараў не дацягваў да зададзенага, УВК маглі выкарыстоўваць наступныя сродкі: падчас датэрміновага галасавання — укідваць бюлетэні ў скрыні для датэрміновага галасавання ці прыпісваць колькасць прагаласаваўшых у штодзённых пратаколах; у дзень галасавання — абзваньваць (абыходзіць) выбаршчыкаў з просьбай прыйсці на выбары[43], змяншаць колькасць выбаршчыкаў на ўчастку[44] і проста прыпісваць колькасць выбаршчыкаў, што ўзялі ўдзел у выбарах. Згодна з падлікамі назіральнікаў кампаніі на 260 выбарчых участках, апошняе склала каля 5% ад колькасці выбаршчыкаў, што прагаласавалі ў дзень выбараў на выбарчых участках. Такім чынам, толькі прыпісванне колькасці прагаласаваўшых на ўчастках у дзень галасавання магло дасягнуць 200 000 выбаршчыкаў у маштабах краіны. Калі ўлічыць магчымую прыпіску як мінімум 168 884 прагаласаваўшых датэрмінова (гл. вышэй), то гэта азначае, што рэальны ўдзел у выбарах узялі не больш за 6,05-6,1 млн чалавек, ці 85-86% ад колькасці выбаршчыкаў, унесеных у спісы.

**Бярозаўка, Лідскі раён Гродзенская вобласць**

| Выбарчы ўчастак | Датэрміновае галасаванне | | Галасаванне ў дзень выбараў на ўчастку | | Галасаванне ў дзень выбараў па месцы знаходжання | Колькасць выбаршчыкаў, што ўзялі ўдзел у выбарах | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | *Назіральнікі* | *УВК** | *Назіральнікі* | *УВК** | *УВК** | *Назіральнікі* | *УВК** |
| № 69 | 323 | 385 | 932 | 1288 | 36 | 1 291 | 1 709 |
| № 71 | 230 | 284 | 584 | 909 | 65 | 879 | 1 258 |
| Усяго | 553 | 669 | 1 516 | 2 197 | 101 | 2 170 | 2 967 |
| Яўка, % ** | 17,66 | 21,36 | 48,40 | 70,15 | 3,22 | 69,28 | 94,73 |

* Афіцыйныя дадзеныя.

** Агульная колькасць выбаршчыкаў на двух участках — 3 132 чалавекі.

42 Пры спробах назіральнікаў фатаграфаваць натоўпы датэрмінова галасуючых студэнтаў, старшыня УВК пагражаў ім выдаленнем з участка.

43 Напрыклад, падчас датэрміновага галасавання сябры УВК №4 г. Глыбокага (Віцебская вобл.) тэлефанавалі выбаршчыкам і запрашалі іх прыходзіць галасаваць.

44 Напрыклад, на выбарчым участку №37 у Мазыры (Гомельская вобл.) падчас датэрміновага галасавання УВК паведамляла пра 2 163 выбаршчыкі, зарэгістраваных на ўчастку, а ў пратаколы па выніках выбараў – 2 113.

**Магілёў**

| Выбарчы ўчастак* | Колькасць выбаршчыкаў на ўчастку (УВК)*** | Колькасць выбаршыкаў, прыняўшых удзел у галасаванні** | |
|---|---|---|---|
| | | *Па падліках назіральнікаў* | *УВК**** |
| № 60 | 1 725 | 1 144 | 1 583 |
| № 61 | 1 721 | 1 334 | 1 597 |
| № 66 | 657 | 410 | 555 |
| № 114 | 2 206 | 1 722 | 1 988 |
| № 122 | 2 471 | 2 194 | 2 249 |
| № 123 | 2 692 | 2 112 | 2 414 |
| Усяго | 11 472 | 8 916 | 10 386 |
| Яўка, % | 100,00 | 77,72 | 90,53**** |

* Падлік галасоў на гэтых участках быў нетранспарэнтным.
** Дадзеныя аб колькасці выбаршчыкаў, што прагаласавалі датэрмінова, якія абвяшчаліся УВК на штодзённай аснове 14-18 снежня, адпавядалі колькасці выбаршчыкаў, прагаласаваўшых датэрмінова па падліках назіральнікаў у гэтыя дні. У сувязі з тым, што вынікі галасавання па асобных скрынях на гэтых участках не абвяшчаліся, немагчыма вызначыць, ці мела месца ўкідванне дадатковых бюлетэняў, ці колькасць прагаласаваўшых проста прыпісвалася (магчыма і тое, і другое).
***Афіцыйныя дадзеныя.
**** Для параўнання: па афіцыйных дадзеных, удзел у датэрміновым галасаванні ў Магілёве ўзялі 91% выбаршчыкаў, унесеных у спісы.

На большасці ўчасткаў, ахопленых назіраннем, УВК упісвалі ў пратаколы вынікі, якія назіральнікі не маглі праверыць, і якія часта супярэчылі таму, што назіральнікі маглі бачыць (напрыклад, вышыні стосаў бюлетэняў, пададзеных за розных кандыдатаў). У некаторых выпадках лічбы, агучаныя УВК падчас падліку, адрозніваліся ад тых, якія былі зафіксаваныя ў выніковым пратаколе[45]. Выключэнне склалі ўчасткі, на якіх працэдура падліку галасоў была празрыстай (ці часткова празрыстай), і дзе сябры УВК упісвалі ў пратаколы лічбы, якія відавочна не разыходзілся з тым, што бачылі назіральнікі. Істотная розніца ў выніках галасавання на ўчастках у межах адной тэрытарыяльна-адміністрацыйнай адзінкі ці нават аднаго квартала, выяўленая назіральнікамі, дазваляе прыблізна ацаніць маштаб магчымага «пераразмеркавання» галасоў выбаршчыкаў на карысць Лукашэнкі:

**Мінск***

| | 10 участкаў у розных раёнах Мінска** | | Участак №23 Першамайскага раёна*** | | Участак №110 Фрунзенскага раёна**** | | Увесь Мінск (ЦВК) |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | *Кольк.* | *%* | *Кольк.* | *%* | *Кольк.* | *%* | *%* |
| Кастусёў | 98 | 0,82 | 52 | 3,31 | 51 | 3,25 | 3,47 |
| Лукашэнка | 5 313 | 44,49 | 1 069 | 68,13 | 1 087 | 68,71 | 67,65 |
| Міхалевіч | 129 | 1,08 | 27 | 1,72 | 20 | 1,27 | 1,43 |
| Някляеў | 1 068 | 8,94 | 40 | 2,55 | 40 | 2,55 | 3,14 |
| Раманчук | 1 346 | 11,27 | 37 | 2,36 | 38 | 2,42 | 3,35 |
| Рымашэўскі | 267 | 2,24 | 10 | 0,64 | 11 | 0,70 | 1,35 |
| Саннікаў | 2 163 | 18,11 | 39 | 2,49 | 37 | 2,36 | 3,42 |

45 Напрыклад, на выбарчым участку №41 Маскоўскага раёна г. Мінска.

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Статкевіч | 252 | 2,11 | 27 | 1,72 | 23 | 1,46 | 1,70 |
| Ус | 64 | 0,54 | 10 | 0,64 | 4 | 0,25 | 0,61 |
| Цярэшчанка | 186 | 1,56 | 37 | 2,36 | 32 | 2,04 | 1,84 |
| Супраць усіх | 907 | 7,60 | 202 | 12,87 | 215 | 13,69 | 11,08 |
| Несапраўдныя | 149 | 1,25 | 19 | 1,21 | 12 | 0,76 | 0,96 |
| Усяго | 11 942 | 100,00 | 1 569 | 100,00 | 1 570 | 100,00 | 100,00 |

* Афіцыйныя дадзеныя выбарчых камісій.
** Выбарчыя ўчасткі №№1 і 27 Савецкага раёна, №№6, 8 і 34 Партызанскага раёна, №9 Першамайскага раёна, №57 Кастрычніцкага раёна, №№18 і 49 Ленінскага раёна і №11 Цэнтральнага раёна. Падлік галасоў на 5 з гэтых участках быў транспарэнтным і на 5 — часткова транспарэнтным.
*** Назіральнікі знаходзіліся на адлегласці 4-5 метраў ад месца падліку галасоў з-за таго, што, «старшыня і сябры камісіі не дазвалялі падыходзіць да стала, прасілі адысці за калоны». Змест бюлетэняў назіральнікі бачыць не маглі. Падлік галасоў ажыццяўляўся наступным чынам: «сартыроўка бюлетэняў па стосах, асобны сябра камісіі лічыць асобны стос, дадзеныя запісваюцца на паперу і перадаюцца старшыні камісіі». Падлік галасоў працягваўся каля 2,5 гадзін. «На пасяджэнні камісіі пасля падліку галасоў усе пытанні разбіраліся шэптам. Пасля падліку галасоў і пасяджэння камісіі старшыя Рупасаў 25 хвілін нешта вылічваў на калькулятары. Толькі пасля гэтага быў вывешаны пратакол».
**** Назіральнікі знаходзіліся на адлегласці ў 4 метры ад месца падліку галасоў. Змест бюлетэняў яны бачыць не маглі. «Сябры камісіі бралі свой стос, раскладалі і перадавалі дадзеныя старшыні». Па падліках назіральніка, у дзень галасавання на выбарчым участку прагаласавала 905 чалавек, а камісія абвясціла, што прагаласаваў 1 231 чалавек. Акрамя таго, «змянілі лічбу прагаласаваўшых у асноўны дзень за Лукашэнку: агучылі 315, потым 815».

Розніца ў выніках галасавання, у залежнасці ад таго, ці быў падлік галасоў транспарэнтным, добра ілюструецца вынікамі галасавання на двух выбарчых участках г. Гродна, якія былі размешчаны ў адным будынку — сярэдняй школе №34, і на якіх галасавалі жыхары з адных і тых жа вуліц — вуліцы Кабяка і праспекта Кляцкова:

**Гродна***

| | Участак №101 Кастрычніцкага раёна** (УВК) | | Участак №100 Кастрычніцкага раёна*** (УВК) | | 66 участкаў Кастрычніцкага раёна (ТВК) | Гродзенская вобласць (ЦВК) |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | *Кольк.* | *%* | *Кольк.* | *%* | *%* | *%* |
| Кастусёў | 14 | 0,73 | 24 | 1,07 | 0,7 | 1,03 |
| Лукашэнка | 1 008 | 52,42 | 1 632 | 72,63 | 75,2 | 81,37 |
| Міхалевіч | 30 | 1,56 | 19 | 0,85 | 1,1 | 0,85 |
| Някляеў | 53 | 2,76 | 68 | 3,03 | 2,5 | 1,89 |
| Раманчук | 215 | 11,18 | 121 | 5,38 | 5,3 | 2,91 |
| Рымашэўскі | 38 | 1,98 | 77 | 3,43 | 1,4 | 1,26 |
| Саннікаў | 342 | 17,78 | 143 | 6,36 | 2,6 | 2,80 |
| Статкевіч | 29 | 1,51 | 43 | 1,91 | 1,3 | 0,94 |
| Ус | 4 | 0,21 | 34 | 1,51 | 0,4 | 0,35 |
| Цярэшчанка | 25 | 1,30 | 42 | 1,87 | 1,1 | 1,14 |
| Супраць усіх | 156 | 8,11 | 27 | 1,20 | 3,3 | 3,18 |
| Несапраўдныя | 9 | 0,47 | 17 | 0,76 | 5,1 | 1,77 |
| Усяго | 1 923 | 100,00 | 2 247 | 100,00 | 100,0 | 100,00 |
| Яўка, % | 85,43 | | 91,16 | | 88,6 | 90,90 |

* Афіцыйныя дадзеныя выбарчых камісій.

** Назіральнікі маглі бачыць змест бюлетэняў. Пры падліку галасоў быў забяспечаны такі парадак, пры якім усе сябры УВК маглі бачыць, за каго быў аддадзены голас у кожным бюлетэні. На ўчастку ажыццяўляўся асобны падлік галасоў з розных скрыняў, а вынікі падліку абвяшчаліся сябрамі УВК.

*** «Падлік вёўся па незразумелых прынцыпах. Раскладкі па кандыдатах не было. Пасля «падліку» бюлетэні адразу былі загарнутыя ў паперу і апячатаныя. На патрабаванне паказаць, якая колькасць галасоў за якога кандыдата была пададзеная, была дадзена катэгарычная адмова. На любыя іншыя патрабаванні таксама даваліся адмовы, а міліцыя была гатовая накінуцца на любога, хто бліжэй за 5 метраў падыдзе да стала. Пасля апячатвання бюлетэняў стаў весціся працяглы «падлік» галасоў».

**Бабруйск, Магілёўская вобласць***

| | Участак №35 Ленінскага раёна** | | Участак №14 Ленінскага раёна*** | | Увесь Ленінскі раён Бабруйска (ТВК) | Магілёўская вобласць (ЦВК) |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | *Кольк.* | *%* | *Кольк.* | *%* | *%* | *%* |
| Кастусёў | 6 | 0,38 | 2 | 0,20 | 0,4 | 0,93 |
| Лукашэнка | 1 091 | 69,45 | 821 | 80,97 | 87,2 | 84,98 |
| Міхалевіч | 20 | 1,27 | 4 | 0,39 | 0,6 | 0,79 |
| Някляеў | 70 | 4,46 | 17 | 1,68 | 1,5 | 1,89 |
| Раманчук | 88 | 5,60 | 31 | 3,06 | 1,9 | 1,49 |
| Рымашэўскі | 24 | 1,53 | 6 | 0,59 | 1,1 | 0,93 |
| Саннікаў | 116 | 7,38 | 22 | 2,17 | 2,4 | 2,69 |
| Статкевіч | 21 | 1,34 | 6 | 0,59 | 0,8 | 0,95 |
| Ус | 5 | 0,32 | 4 | 0,39 | 0,2 | 0,24 |
| Цярэшчанка | 24 | 1,53 | 16 | 1,58 | 0,8 | 1,13 |
| Супраць усіх | 86 | 5,47 | 82 | 8,09 | 2,2 | 3,22 |
| Несапраўдныя | 20 | 1,27 | 3 | 0,30 | 0,9 | 0,78 |
| Усяго | 1 571 | 100,00 | 1 014 | 100,00 | 100,0 | 100,00 |
| Яўка, % | | 68,42 | | 91,85 | 93,4**** | 93,71 |

* Афіцыйныя дадзеныя выбарчых камісій.

** Назіральнікі маглі бачыць змест бюлетэняў. Пры падліку галасоў быў забяспечаны такі парадак, пры якім усе сябры УВК маглі бачыць, за каго быў аддадзены голас у кожным бюлетэні. На ўчастку ажыццяўляўся асобны падлік галасоў з розных скрыняў, а вынікі падліку абвяшчаліся сябрамі УВК.

*** Назіральнікі знаходзіліся на адлегласці ў 10 метраў ад месца падліку галасоў. Асобны падлік з розных скрыняў не ажыццяўляўся. «Кожны, хто лічыў, лічыў толькі для сябе бюлетэні, прозвішчы кандыдатаў не называлі — толькі парадкавыя нумары — пасля нейкія лічбы перадаваліся сакратару, якая абходзіла сталы для падліку. Сакратар нейкія лічбы перадавала старшыні». «Сябры камісіі, старшыня камісіі і ўсе назіральнікі, акрамя мяне — супрацоўнікі школы № 26. На працягу 30 хвілін бюлетэні былі пералічаны без гуку, усе дадзеныя індывідуальна заносіліся на паперку... Больш за ўсіх па часе працавала (лічыла) старшыня. Асобна яна ўсе лічбы ўносіла ў пратакол».

**** Увесь Бабруйск.

Вельмі падобна на тое, што нават у тых выпадках, калі УВК выдавалі збольшага «пажаданыя» лічбы, апошнія часта «карэктаваліся» ў ТВК. Лічбы, якія былі агучаны на тых участках, дзе прысутнічалі назіральнікі кампаніі «Праваабаронцы за свабодныя выбары», істотна адрозніваюцца ад сярэдніх па раёнах — і гэта пры тым, што падлік галасоў нават на гэтых участках не быў траспарэнтным. У выпадку Маладзечанскай ТВК карэктаванне была настолькі радыкальным, што А. Саннікаў атрымаў менш галасоў ва ўсім раёне (1 606), чым на 12 участках г. Маладзечна і г.п. Радашковічы (1 937):

**Маладзечанскі раён, Мінская вобласць***

| | 11 участкаў у Маладзечне** і ўчастак №76 у Радашковічах (УВК)*** | | Увесь Маладзечанскі раён (ТВК) | | Мінская вобласць (ЦВК) |
|---|---|---|---|---|---|
| | *Кольк.* | % | *Кольк.* | % | % |
| Кастусёў | 204 | 0,99 | 784 | 0,83 | 1,58 |
| Лукашэнка | 13 529 | 65,85 | 73 736 | 78,06 | 80,71 |
| Міхалевіч | 318 | 1,55 | 1 247 | 1,32 | 1,03 |
| Някляеў | 901 | 4,39 | 1 228 | 1,30 | 1,22 |
| Раманчук | 730 | 3,55 | 1 417 | 1,50 | 1,68 |
| Рымашэўскі | 452 | 2,20 | 1 606 | 1,70 | 0,90 |
| Саннікаў | 1 937 | 9,43 | 1 606 | 1,70 | 1,51 |
| Статкевіч | 406 | 1,98 | 1 464 | 1,55 | 0,93 |
| Ус | 73 | 0,36 | 274 | 0,29 | 0,34 |
| Цярэшчанка | 340 | 1,65 | 1 256 | 1,33 | 1,16 |
| Супраць усіх | 1 446**** | 7,04 | 9 276 | 9,82 | 7,23 |
| Несапраўдныя | 208**** | 1,01 | 567 | 0,60 | 0,90 |
| Усяго | 20 544 | 100,00 | 94 461 | 100,00 | 100,00 |

* Афіцыйныя дадзеныя выбарчых камісій.
** Выбарчыя ўчасткі №№ 4, 8, 10, 21, 23, 25, 26, 27, 29, 32, 36.
*** Толькі на 4 з гэтых участкаў падлік галасоў быў альбо транспарэнтным, альбо часткова транспарэнтным.
**** Без участка №25.

**Мінск***

| | 50 участкаў, на якіх прысутнічалі назіральнікі (УВК) | | Увесь Мінск (ЦВК) |
|---|---|---|---|
| | *Кольк.* | % | % |
| Кастусёў | 1 132 | 1,50 | 3,47 |
| Лукашэнка | 47 619 | 63,05 | 67,65 |
| Міхалевіч | 948 | 1,26 | 1,43 |
| Някляеў | 3 806 | 5,04 | 3,14 |
| Раманчук | 4 001 | 5,30 | 3,35 |
| Рымашэўскі | 1 088 | 1,44 | 1,35 |
| Саннікаў | 7 097 | 9,40 | 3,42 |
| Статкевіч | 1 200 | 1,59 | 1,70 |
| Ус | 473 | 0,63 | 0,61 |
| Цярэшчанка | 1205 | 1,60 | 1,84 |
| Супраць усіх | 6 343 | 8,40 | 11,08 |
| Несапраўдныя | 609 | 0,81 | 0,96 |
| Усяго | 75 521 | 100,00 | 100,00 |

* Афіцыйныя дадзеныя выбарчых камісій.

**Слуцк і Смалявічы, Мінская вобласць***

| | Участкі №№ 4, 5, 9, 12 и 16 Слуцка** (УВК) | | Увесь Слуцкі раён (ТВК) | | Участкі №№ 2, 3, 5 і 6 Смалявічаў** (УВК) | | Увесь Смалявіцкі раён (ТВК) | | Мінская вобласць (ЦВК) |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | *Кольк.* | % | *Кольк.* | % | *Кольк.* | % | *Кольк.* | % | % |
| Кастусёў | 25 | 0,33 | 451 | 0,7 | 33 | 0,76 | 445 | 1,4 | 1,58 |
| Лукашэнка | 5 678 | 75,22 | 53 708 | 81,0 | 3 144 | 72,58 | 24 983 | 79,6 | 80,71 |
| Міхалевіч | 80 | 1,06 | 597 | 0,9 | 38 | 0,88 | 327 | 1,0 | 1,03 |
| Някляеў | 246 | 3,26 | 1 131 | 1,7 | 114 | 2,63 | 329 | 1,0 | 1,22 |
| Раманчук | 215 | 2,85 | 1 242 | 1,9 | 130 | 3,00 | 596 | 1,9 | 1,68 |
| Рымашэўскі | 97 | 1,28 | 768 | 1,2 | 58 | 1,34 | 345 | 1,1 | 0,90 |
| Саннікаў | 591 | 7,83 | 1 122 | 1,7 | 409 | 9,44 | 804 | 2,6 | 1,51 |
| Статкевіч | 108 | 1,43 | 945 | 1,4 | 60 | 1,39 | 390 | 1,2 | 0,93 |
| Ус | 16 | 0,21 | 260 | 0,4 | 14 | 0,32 | 79 | 0,3 | 0,34 |
| Цярэшчанка | 84 | 1,11 | 733 | 1,1 | 48 | 1,11 | 426 | 1,4 | 1,16 |
| Супраць усіх | 338 | 4,48 | 4 674 | 7,05 | 255 | 5,89 | 1 435 | 4,6 | 7,23 |
| Несапраўдныя | 71 | 0,94 | 230 | 0,35 | 29 | 0,67 | 1 237 | 3,9 | 0,90 |
| Усяго | 7 549 | 100,00 | 66 334 | 100,00 | 4 332 | 100,00 | 31 396 | 100,0 | 100,00 |
| Яўка, % | 82,58*** | | 90,7 | | 77,91**** | | 91,6 | | 90,96 |

* Афіцыйныя дадзеныя выбарчых камісій.
** Ні на адным з гэтых участкаў падлік галасоў не быў цалкам транспарэнтным.
*** Агульная колькасць выбаршчыкаў на 5 участках — 9 141 чалавек.
**** Агульная колькасць выбаршчыкаў на 4 участках — 5 560 чалавек.

Такім чынам, аналіз афіцыйных дадзеных УВК, ТВК і ЦВК і іх супастаўленне са справаздачамі кароткатэрміновых назіральнікаў кампаніі ўказваюць на вялікую верагоднасць таго, што толькі падчас падліку галасоў і ўстанаўлення вынікаў галасавання на карысць А.Лукашэнкі былі «пераразмеркаваны» як мінімум 20-25% галасоў у Мінску і 10-15% галасоў у абласцях. Найбольш верагодна, што гэта рабілася на тых выбарчых участках, дзе дадзеныя падліку наяўных бюлетэняў сябрамі камісій не адпавядалі пажаданым для дзеючай улады вынікам[46] і «карэкталіся» старшынямі УВК. Канчатковае «ўдакладненне» вынікаў галасавання ажыццяўлялася, хутчэй за ўсё, на ўзроўні ТВК — у тых выпадках, калі простае сумаванне лічбаў з пратаколаў УВК не дацягвала да пажаданых вынікаў.

**Рэальную колькасць галасоў, аддадзеных выбаршчыкамі за кандыдатаў, вызначыць немагчыма ў сувязі з тым, што падвядзенне вынікаў галасавання было нетранспарэнтным, а маніпуляцыі з бюлетэнямі і лічбамі маглі адбывацца на ўсіх этапах галасавання і падліку галасоў і «наслойвацца» адна на другую. Відавочна, што лічбы, абвешчаныя ЦВК, не адпавядаюць рэальнаму волевыяўленню выбаршчыкаў.**

46 Падчас прэс-канферэнцыі для расійскіх журналістаў, якая адбылася 1 кастрычніка 2010 года, Лукашэнка заявіў наступнае: «Мне б хацелася, каб дзве траціны прагаласавалі за мяне – гэта канстытуцыйная большасць і выказванне найвышэйшага даверу, недзе 70-75 адсоткаў». «Не трэба, як мінулым разам, больш 90 адсоткаў», -- сказаў ён.

# 13. Паслявыбарчыя падзеі

Акцыя пратэсту супраць несправядлівых выбараў, якая адбылася вечарам 19 снежня, анансавалася альтэрнатыўнымі кандыдатамі ў прэзідэнты як выключна мірны масавы сход. У сваіх перадвыбарчых выступах па дзяржаўным тэлебачанні большасць кандыдатаў заклікала грамадзянаў далучыцца да меркаванай акцыі.

За тыдзень да акцыі дзяржаўныя СМІ, а таксама кіраўнікі МУС і КДБ папярэджвалі аб правакацыях і тэрарыстычных акцыях, якія нібыта рыхтуе апазіцыя. 17 і 18 снежня пачаліся прэвентыўныя затрыманні апазіцыйных актывістаў і даверaных асоб кандыдатаў у прэзідэнты: у Гродне быў затрыманы Кірыл Семянчук, у Гомелі — Юрый Клімовіч, Валеры Сляпухін, Юрый Захаранка і інш. Напярэдадні дня выбараў былі затрыманыя актывісты зарэгістраванага ў Чэхіі «Маладога фронту» Зміцер Дашкевіч, Дзяніс Лазар і Эдуард Лобаў. Пазней супраць Дашкевіча і Лобава была распачата крымінальная справа па ч.3 арт. 339 Крымінальнага кодэкса (злоснае хуліганства).

У дзень выбараў свой намер правядзення акцыі ў выключна мірным рэчышчы пацвердзілі кандыдаты ў прэзідэнты Уладзімір Някляеў, Рыгор Кастусёў, Віталь Рымашэўскі, Аляксей Міхалевіч і Яраслаў Раманчук. Іх зварот да Генеральнага пракурора, перададзены апошняму ў 16 гадзін, утрымліваў патрабаванне спыніць прэвентыўныя затрыманні і прапанову Генеральнаму пракурору самому прыйсці на Кастрычніцкую плошчу, каб даць ацэнку дзеянням праваахоўных органаў і дэманстрантаў.

У 19.10 быў здзейснены напад супрацоўнікамі спецслужбаў у цывільным на калону прыхільнікаў У.Някляева, якая рухалася ў бок Кастрычніцкай плошчы. Падчас нападу былі выкарыстаны выбуховыя пакеты. Усе прысутныя журналісты былі пакладзены тварам у снег, відэаапаратура была наўмысна пашкоджаная. Сам кандыдат быў збіты і з траўмамі дастаўлены ў Гарадскую клінічную бальніцу хуткай дапамогі, адкуль пазней быў вывезены асобамі ў цывільным. Была адабраная гукаўзмацняльная апаратура, якая меркавалася быць выкарыстанай на акцыі. Гэта стала сур'ёзным сігналам, што спецслужбы дзейнічаюць па загадзя выпрацаваным сцэнары і гатовы да выкарыстання любых незаконных сілавых і правакацыйных дзеянняў. Галоўны пасыл такога развіцця падзеяў быў сфармуляваны ў выказванні Лукашэнкі ўдзень 19 снежня: «Я з бандытамі і дыверсантамі ніякай справы мець не хачу».

Акцыя пратэсту на Кастрычніцкай плошчы, якая сабрала па розных ацэнках ад 20 да 40 тысяч удзельнікаў, пачалася ў запланаваны час (20.00) і праходзіла выключна ў мірным рэчышчы. Супрацоўнікі міліцыі не перашкаджалі яе правядзенню. Не ўмешвалася міліцыя ў дзеянні дэманстрантаў нават тады, калі калона перакрыла праспект Незалежнасці. Падчас руху ў накірунку плошчы Незалежнасці дэманстранты скандавалі лозунгі, трымалі ў руках сцягі і транспаранты, ніякіх прадметаў, якія б сведчылі пра намеры гвалтоўных дзеянняў, у іх руках не было зафіксавана. На плошчы Незалежнасці каля Дома ўрада ніводзін з прысутных кандыдатаў і іншых выступоўцаў не заклікаў да захопу будынка органа дзяржаўнага кіравання, вялася размова пра перамовы і працяг акцыі пратэсту 20 снежня на гэтай жа плошчы. Разам з тым, у 22 гадзіны, нягледзячы на вялікую канцэнтрацыю сілавых структур, невядомыя асобы на працягу больш чым паўгадзіны білі дзверы і вокны ў Доме ўрада, пры гэтым праваахоўныя органы ніяк не рэагавалі на паводзіны людзей, якія здзяйснялі супрацьпраўныя дзеянні, не спрабавалі іх спыніць і ізаляваць ад іншых дэманстрантаў. Падобныя дзеянні сіл правапарадку могуць сведчыць пра спланаваны і кіруемы характар здзейсненай правакацыі з мэтай апраўдання далейшых сілавых захадаў супраць удзельнікаў акцыі пратэсту.

Па меркаванні супрацоўнікаў Праваабарончага цэнтра «Вясна» і БХК, якія ажыццяўлялі назіранне за правядзеннем акцыі на плошчы Незалежнасці, дзеянні міліцыі па сілавому разгону мітынгу мелі відавочна непрапарцыйны характар. У дачыненні да мірных дэманстрантаў, у тым ліку жанчын, непаўнагадовых і асоб сталага ўзросту, ужывалася фізічная сіла і спецыяльныя сродкі (гумовыя дубінкі). Гэта прывяло да вялікай колькасці траўмаваных і параненых сярод удзельнікаў дэманстрацыі. Дзясяткі людзей былі вымушаны звярнуцца па медыцынскую дапамогу. Усяго было затрымана больш за 700 чалавек, прычым большая частка дэманстрантаў затрымлівалася ўжо пасля разгону мітынгу на істотнай адлегласці ад месца яго правядзення. Таксама вядомыя некалькі выпадкаў затрымання зусім выпадковых людзей.

Падчас сілавога разгону мітынгу былі збітыя і затрыманыя кандыдаты ў прэзідэнты Віталь Рымашэўскі, Андрэй Саннікаў, Рыгор Кастусёў, яшчэ чатыры кандыдаты ў прэзідэнты — Ула-

дзімір Някляеў, Мікалай Статкевіч, Аляксей Міхалевіч і Дзмітрый Ус — былі затрыманы ў ноч з 19 на 20 снежня. Пасля завяршэння акцыі міліцыяй быў затрыманы старшыня БХК Алег Гулак, які вёў назіранне за правядзеннем мітынгу і меўся ўзяць удзел у анансаванай выніковай прэс-канферэнцыі кампаніі «Праваабаронцы за свабодныя выбары» зранку 20 снежня 2010 года (ён быў вызвалены толькі ў 19.00 20 снежня). У 3 гадзіны ночы з 19 на 20 снежня офіс праваабарончага цэнтра «Вясна», арганізацыі-удзельніка маніторынгавай кампаніі «Праваабаронцы за свабодныя выбары», падвергся нападу з боку міліцыі і КДБ, у выніку чаго былі часова затрыманыя 10 супрацоўнікаў, у тым ліку каардынатары маніторынгавай кампаніі Уладзімір Лабковіч і Валянцін Стэфановіч.

Усе затрыманыя ўдзельнікі дэманстрацыі пратэсту былі прыцягнутыя да адміністрацыйнай адказнасці па арт. 23.34 Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях. У выніку, больш за 600 чалавек былі падвергнутыя адміністрацыйным арыштам тэрмінам ад 5 да 15 сутак, астатнія — адміністрацыйным штрафам. Назіральнікі адзначылі фармальны характар судовых працэсаў: суды не імкнуліся да ўсебаковага і аб'ектыўнага разгляду справаў, не выклікалі ў судовыя паседжанні сведкаў, не растлумачвалі затрыманым іх правы, не прымалі мераў для забяспячэння права на абарону. У якасці доказаў віны выкарыстоўваліся выключна пісьмовыя сведчанні міліцыянераў, якія насамрэч не бачылі ўдзелу канкрэтных асобаў у акцыі пратэсту, а рапарты складаліся «пад капірку». Працэсы праходзілі за 5-10 хвілінаў, усе вынесеныя судамі пастановы выглядаюць аднатыпна.

Праваабаронцы адзначылі факты неабгрунтаванага прымянення гвалту і іншых відаў жорсткага і бесчалавечанага абыходжання з затрыманымі.

Па падзеях 19 снежня была ўзбуджаная крымінальная справа па ч. 1, 2 арт. 293 Крымінальнага кодэкса (масавыя беспарадкі). Абвінавачанні па дадзенай крымінальнай справе былі прад'яўлены 43 чалавекам, у тым ліку шасці кандыдатам у прэзідэнты (Андрэю Саннікаву, Алесю Міхалевічу, Уладзіміру Някляеву, Мікалаю Статкевічу, Дзмітрыю Усу, Віталю Рымашэўскаму), яшчэ адзін кандыдат у прэзідэнты — Рыгор Кастусёў — праходзіў па справе ў якасці падазраванага. У статусе падазраваных па крымінальнай справе аб масавых беспарадках знаходзіліся яшчэ 12 удзельнікаў паслявыбарчай акцыі. У сакавіку-красавіку 2011 года абвінавачанне ў адносінах да 10 фігурантаў крымінальнай справы (у тым ліку кандыдатаў у прэзідэнты Уладзіміра Някляева і Віталя Рымашэўскага) было перкваліфікавана на ч.1. арт. 342 Крымінальнага кодэкса «Арганізацыя і падрыхтоўка дзеянняў, якія груба парушаюць грамадскі парадак, альбо актыўны ўдзел у іх».

Крымінальная справа была выкарыстана ўладамі Беларусі як фармальная падстава для пачатку кампаніі запалохвання і ціску на структуры апазіцыйнага руху, грамадзянскай супольнасці і незалежных СМІ. Сотні актывістаў падверглісяператрусам і допытам. У прыватнасці, КДБ правяло ператрусы ў офісах БХК і Праваабарончага цэнтра «Вясна» (у апошнім — тройчы, а таксама ў офісах рэгіянальных аддзяленняў арганізацыі). Таксама ператрусы былі праведзеныя ў прыватных кватэрах кіраўнікоў гэтых арганізацый Алега Гулака і Алеся Бяляцкага.

На наступны дзень пасля брутальнага падаўлення паслявыбарчых пратэстаў Лукашэнка заявіў, што падзеі на пл. Незалежнасці былі нічым іншым, як спробай змены канстытуцыйнага ладу, і што «ўсе мы заўтра маглі прачнуцца ў іншай краіне». Версію змовы замежных дзяржаваў Лукашэнка агучваў некалькі разоў. Так, 27 студзеня 2011 года падчас выступу на адкрыцці сесіі Палаты прадстаўнікоў Лукашэнка абвінаваціў краіны Захаду ў стварэнні «пятай калоны» ў Беларусі. «Гэтая калона стваралася пад Варшавай, Берлінам і Брусэлем», — заявіў Лукашэнка.

Афіцыйную версію падзеяў таксама выклала газета «Советская Белоруссия». Паводле газеты, падзеі 19 снежня былі нічым іншым, як змовай з удзелам Германіі, Польшчы і спецслужбаў Захаду з мэтай захопу ўлады. Такую ж версію падзей прапанавала і беларускае тэлебачанне ў сваім фільме «Плошча. Железом по стеклу». 26 студзеня 2011 года міністр унутраных справаў Куляшоў заявіў на прэс-канферэнцыі: «Я зрабіў са сваімі падначаленымі максімальна ўсё, што ад нас залежала, каб не адбыўся захоп дзяржаўнай установы, каб не адбыўся ўзброены пераварот».

# 14. Заявы і скаргі, зробленыя пасля выбараў

У адпаведнасці з Выбарчым кодэксам, выбары Прэзідэнта ў цэлым па краіне або па асобных участках для галасавання, раёнах, гарадах, раёнах у гарадах, абласцях, горадзе Мінску могуць быць прызнаны несапраўднымі з-за дапушчаных падчас выбараў або пры падліку галасоў парушэнняў патрабаванняў ВК, калі яны паўплывалі на выніке выбараў у цэлым па краіне. Рашэнне аб прызнанні выбараў несапраўднымі прымаецца ЦВК. Скарга аб такіх парушэннях можа падавацца ў ЦВК толькі кандыдатамі ў прэзідэнты і не пазней чым на трэці дзень пасля выбараў. Рашэнне ЦВК можа быць абскарджана ў Вярхоўны Суд на працягу 10 дзён.

Толькі адзін кандыдат у прэзідэнты, Рыгор Кастусёў, абскардзіў вынікі выбараў (ён зрабіў гэта і ад імя арыштаваных кандыдатаў). У сваёй скарзе ён прасіў прызнаць выбары несапраўднымі з-за шматлікіх грубых парушэнняў, дапушчаных падчас выбарчай кампаніі.

Дадзеная скарга была разгледжана на пасяджэнні ЦВК 24 снежня 2010 года. У выніку разгляду скаргі была прынята пастанова аб адмове ў яе задавальненні. Як вынікае з пастановы ЦК, «вынікі праверкі прыкладзеных да скаргі актаў назіральнікаў паказалі, што абсалютная большасць змешчаных у іх звестак аб парушэнні выбарчага заканадаўства з'яўляюцца неабгрунтаванымі, што пацвярджаецца тлумачэннямі старшыняў участковых камісій і актамі іншых назіральнікаў. У значнай частцы актаў прыводзіцца інфармацыя, якая не сведчыць аб парушэнні выбарчага заканадаўства: ахова памяшканняў для галасавання супрацоўнікамі органаў унутраных спраў, адмовы ў прадастаўленні назіральніку права ставіць свой подпіс пры заклейванні шчыліны для апускання бюлетэняў у скрыні для галасавання ў перыяд датэрміновага галасавання, размяшчэнне на ўчастках для галасавання ўзору запаўнення бюлетэня, адсутнасць на скрынях для галасавання стужкі з подпісамі сяброў участковых камісій і інш. У некаторых актах звесткі аб парушэнні выбарчага заканадаўства маюць верагодны альбо неканкрэтны характар, што не дазваляе даць ім належную прававую ацэнку».

У той жа час, ЦВК прызнала наяўнасць фармальных парушэнняў пры правядзенні падліку галасоў. У прыватнасці, у пастанове ЦВК гаворыцца, што «на асобных участках для галасавання не выконваліся прадпісанні часткі другой артыкула 55 Выбарчага кодэкса аб абвяшчэнні старшынёй участковай камісіі вынікаў падліку галасоў. Часам старшыні ўчастковых камісій абмяжоўваліся аб'явай агульнага выніку падліку галасоў і вывешваннем копіі пратакола ўчастковай камісіі. У шэрагу выпадкаў мелі месца і іншыя парушэнні выбарчага заканадаўства: адначасовае знаходжанне двух выбаршчыкаў у кабіне для галасавання пры запаўненні бюлетэня, несвоечасовае інфармаванне выбаршчыкаў пра час і месца галасавання, неналежнае ўдакладненне спісаў выбаршчыкаў. Пацвердзіўся ў ходзе праверкі факт выдачы бюлетэня грамадзяніну, які ўваходзіць у спіс выбаршчыкаў, пры прад'яўленні пашпарта, які належыць іншаму грамадзяніну. Разам з тым, пералічаныя парушэнні выбарчага заканадаўства маюць працэдурны характар, не скажаюць волевыяўлення выбаршчыкаў і не ўплываюць на вынікі выбараў у цэлым па рэспубліцы».

Гэтую пастанову ЦВК Р. Кастусёў абскардзіў у Вярхоўны Суд, аднак 11 студзеня 2011 г. суддзёй Вярхоўнага Суда Жукоўскай ва ўзбуджэнні справы па ягонай скарзе было адмоўлена ў сувязі з «адсутнасцю падставаў» для гэтага.

Скаргу аб прызнанні выбараў несапраўднымі падаў у ЦВК і Беларускі Хельсінкскі камітэт (ДАКУМЕНТ 9), абгрунтоўваючы сваё права на падачу скаргі арт. 40 Канстытуцыі, якая гарантуе права грамадскіх аб'яднанняў накіроўваць звароты і скаргі ў любыя дзяржаўныя органы. У скарзе БХК указаў, што ў ходзе падрыхтоўкі і правядзення выбараў дапускаліся грубыя адступленні ад дэмакратычных прынцыпаў і стандартаў, і што падлік галасоў і ўстанаўленне вынікаў галасавання суправаджаліся паўсюднымі парушэннямі ўсталяванага законам парадку. У скарзе былі прыведзеныя шматлікія факты парушэнняў Выбарчага кодэкса, якія мелі месца падчас выбарчай кампаніі.

На пасяджэнні ЦВК, якое адбылося 24 снежня 2010 года, Лідзія Ярмошына заявіла, што разгляд скаргаў грамадскіх аб'яднанняў аб прызнанні выбараў несапраўднымі не прадугледжаны Выбарчым кодэксам. 30 снежня 2010 БХК атрымаў пісьмовы адказ аналагічнага зместу і абскардзіў яго ў Вярхоўны Суд, аднак скарга была пакінута без разгляду.

# 15. Рэкамендацыі

Пры ўнясенні зменаў у Выбарчы кодэкс у студзені 2010 года не была ўлічаная большасць рэкамендацый АБСЕ і Венецыянскай камісіі, якія былі зроблены па выніках назірання за папярэднімі выбарчымі кампаніямі, у тым ліку выбараў прэзідэнта ў 2001 і 2006 гадах. Большасць дадзеных рэкамендацый не страціла сваю актуальнасць і пасля выбараў 2010 года.

Акрамя таго, выбары паказалі, што без дэталёвай рэгламентацыі парадку фармавання выбарчых камісій, галасавання і падліку галасоў немагчыма забяспечыць правядзенне выбараў, якія б адпавядалі міжнародным стандартам у галіне свабодных і справядлівых выбараў, у прыватнасці, Капенгагенскаму дакументу АБСЕ 1990 года. Выбарчая кампанія таксама засведчыла неабходнасць забеспячэння рэальнай роўнасці кандыдатаў у сферы доступу да сродкаў масавай інфармацыі і пашырэння правоў назіральнікаў.

Змены ў выбарчым заканадаўстве, прапанаваныя ніжэй, дазволяць наблізіць выбары да міжнародных стандартаў, а таксама павялічаць давер да вынікаў такіх выбараў як у грамадзянаў Беларусі, так і ў міжнароднай супольнасці.

## Выбарчыя камісіі

У Выбарчым кодэксе трэба закласці норму, якая б лепш гарантавала прысутнасць у выбарчых камісіях прадстаўнікоў палітычных партый. Неабходна забяспечыць, каб палітычныя партыі, якія прымаюць удзел у выбарчай кампаніі, у тым ліку і ў прэзідэнцкай кампаніі, мелі права дэлегаваць аднаго прадстаўніка ў кожную з тэрытарыяльных, акруговых і ўчастковых выбарчых камісій, і толькі ў выпадку, калі палітычная партыя не скарысталася такім правам, мясцовыя распарадчыя і выканаўчыя органы могуць самастойна запаўняць вакантныя месцы ў выбарчых камісіях. Аналагічным чынам, першачарговае права вылучаць сваіх прадстаўнікоў у выбарчыя камісіі павіны мець кандыдаты ў прэзідэнты. Акрамя таго, трэба заканадаўча вызначыць крытэры для кандыдатаў у склад выбарчых камісій (дэлегаванне палітычнай партыяй, адукацыя, іншыя прафесійныя веды), якія б зменшылі магчымасці адвольнага іх прызначэння і маглі б ацэньвацца судом пры разглядзе адпаведных скаргаў.

## Рэгістрацыя кандыдатаў

Неабходна выключыць магчымасць выкарыстання адміністрацыйнага рэсурсу пры зборы подпісаў, у прыватнасці, забараніць збор подпісаў не сябрамі ініцыятыўных груп. Акрамя таго, трэба прадугледзець права назіральнікаў прысутнічаць пры праверцы подпісаў за вылучэнне кандыдатаў.

## Спісы выбаршчыкаў

Для павелічэння празрыстасці падсправаздачнасці працэсу рэгістрацыі выбаршчыкаў, неабходна стварыць агульнанацыянальны спіс выбаршчыкаў. Грамадзянам і назіральнікам (у тым ліку давераным асобам, прадстаўнікам СМІ і міжнародным назіральнікам) павінен быць прадстаўлены поўны доступ да спісаў. Кожны грамадзянін павінен мець права знаёміцца са спісамі выбаршчыкаў да пачатку галасавання. Акрамя таго, назіральнікі павінны мець магчымасць знаёміцца са спісамі выбаршчыкаў падчас галасавання. Колькасць выбаршчыкаў, зарэгістраваных на ўчастку для галасавання, павінна абвяшчацца выбарчымі камісіямі як напярэдадні галасавання, так і пасля яго заканчэння.

## Фінансаванне выбараў

Практыка фарміравання і выкарыстання выбарчых фондаў кандыдатаў паказала неабходнасць павелічэння тэрміну фарміравання такіх фондаў. Неабходна дазволіць асобам, якія маюць намер вылучыцца кандыдатамі ў прэзідэнты і палітычным партыям, якія прынялі рашэнне аб вылучэнні кандыдатаў у дэпутаты, фармаваць выбарчы фонд з моманту прызначэння даты выбараў. У выпадку нерэгістрацыі такіх кандыдатаў, грошы вярталіся б ахвярадаўцам. Мэтазгодна прадугледзець павелічэнне максімальнага памеру такіх фондаў.

## Перадвыбарчая агітацыя

Заканадаўства прадугледжвае працягласць перыяду перадвыбарчай агітацыі не больш, як адзін месяц. Такі тэрмін агітацыі абмяжоўвае як кандыдатаў у магчымасці агітацыі, так і грамадзянаў у атрыманні поўнай інфармацыі аб кандыдатах і іх праграмах. Такім чынам, прапаноўваецца павялічыць тэрмін агітацыйнай кампаніі як мінімум да двух месяцаў. Акрамя таго, неабходна гарантаваць суб'ектам, якія размешчаюць палітычную рэкламу, немагчымасць нясення адказнасці за змест рэкламы, якую ёй прадставілі кандыдаты ці палітычныя партыі.

## Судовае абскарджванне рашэнняў, звязаных з выбарамі

Выбарчы кодэкс прадугледжвае абмежаваны пералік падставаў для звароту ў судовыя органы. Неабходна прадугледзець магчымасць судовага абскарджання любых рашэнняў выбарчых камісій і іншых дзяржаўных органаў у пытаннях, датычных выбараў. У першую чаргу, неабходна забяспечыць магчымасць судовага абскарджання пастановы ЦВК, якая зацвярджае вынікі выбараў.

## Датэрміновае галасаванне

Працэдура датэрміновага галасаваня ў яго сённяшнім выглядзе дазваляе ўладам ажыццяўляць рознага роду маніпуляцыі. У сувязі з гэтым прапаноўваецца разгледзець магчымасць поўнай адмены датэрміновага галасавання. У выпадку, калі датэрміновае галасаванне не будзе адменена, прапануюцца наступныя змены:

— увесці крытэрыі, адпаведнасць якім дае выбаршчыку права на датэрміновае галасаванне. Такімі крытэрыямі павінны быць падставы, якія адназначна сведчаць аб немагчымасці для выбаршчыка ўзяць удзел у галасаванні ў дзень выбараў, напрыклад, ад'езд за мяжу ці за межы выбарчай акругі, ад'езд на лячэнне і іншыя дакументальна падцверджаныя доказы немагчымасці прыняць удзел у галасаванні на ўчастку для галасавання ў дзень выбараў;

— заканадаўча дэталізаваць працэдуры захавання выбарчых скрыняў падчас датэрміновага галасавання, апячатвання памяшканняў, дзе знаходзіцца выбарчая скрыня. Забараніць знаходжанне пабочных асобаў, у тым ліку супрацоўнікаў міліцыі, у памяшканнях для галасавання і пакоях, у якіх захоўваюцца выбарчыя скрыні, бюлетэні і іншыя матэрыялы па выбарах. Прадугледзець права назіральнікаў знаходзіцца ў памяшканнях для галасавання па-за часам працы выбарчых камісій (абедзены перапынак, у перыяд часу пасля заканчэння галасавання) у выпадках, калі там застаюцца сябры выбарчых камісій;

— забяспечыць усе УВК празрыстымі цэльнымі выбарчымі скрынямі з пластыкавымі стужкамі для апячатвання (з індывідуальным нумарам выбарчага ўчастка).

## Галасаванне па месцы знаходжання выбаршчыка

Вызначыць, што права на такое галасаванне ўзнікае ў выбаршчыка толькі пасля перадачы пісьмовай заявы аб немагчымасці галасавання на выбарчым участку ва ўчастковую выбарчую камісію (не пазней дня галасавання).

## Падлік галасоў

Сённяшняя працэдура падліку галасоў не з'яўляецца празрыстай. Адной з асноўных прычын гэтага з'яўляецца адсутнасць дэталізацыі працэдуры падліку галасоў у Выбарчым кодэксе. У гэтай сувязі трэба заканадаўча замацаваць наступныя прынцыпы працэдуры падліку галасоў:

— падлік галасоў праводзіцца галосна ў прысутнасці назіральнікаў, якія могуць назіраць правільнасць падліку волевыяўлення выбаршчыкаў у кожным бюлетэні (г.зн., бачыць змест кожнага бюлетэня);

— падлік галасоў праводзіцца адным з сяброў камісіі, які агучвае і дэманструе ўсім сябрам камісіі і назіральнікам кожны бюлетэнь;

— падлік галасоў ажыццяўляецца асобна па кожнай скрыні для галасавання, вынікі такога асобнага падліку галасоў асобна па кожнай скрыні адлюстроўваюцца ў выніковым пратаколе. Копія выніковага пратакола, завераная старшынёй і сакратаром камісіі і замацаваная пячаткай, выдаецца назіральніку па яго просьбе.

Таксама прапануецца замацаваць права назіральнікаў, зарэгістраваных у тэрыятарыяльных выбарчых камісіях, і давераных асобаў кандытатаў непасрэдна прысутнічаць і назіраць за працэдурамі перадачы выбарчых бюлетэняў і пратаколаў з вынікамі галасавання з участкаў для галасавання ў вышэйстаячыя тэрытарыяльныя камісіі.

## Назіранне за выбарамі

Для даверу да выбараў у Беларусі неабходна заканадаўча пашырыць правы назіральнікаў. Назіральнікі павінны мець магчымасць бесперашкодна знаёміцца з матэрыяламі камісій, датычных іх складу, вылучэння ў склад камісій, спісамі выбаршчыкаў, умовамі захавання выбарчых бюлетэняў і скрыняў падчас датэрміновага галасавання.

**Пасяджэнне ЦВК, на якім былі афіцыйна зарэгістраваныя кандыдаты ў прэзідэнты Рэспублікі Беларусь, г. Мінск, 18 лістапада 2010 года.**



**Старшыня ЦВК Лідзія Ярмошына і намеснік старшыні Мікалай Лазавік,**
*18 лістапада 2010 года.*

**Пасяджэнне ЦВК, на якім былі афіцыйна зарэгістраваны кандыдаты ў прэзідэнты Рэспублікі Беларусь,**
*г. Мінск, 18 лістапада 2010 года.*






**Мінскі намёт за Уладзіміра Някляева каля ГУМа. Збор подпісаў.**



**Старшыня ЦВК Лідзія Ярмошына,**
*Мінск, 14 кастрычніка 2010 года.*




**Подпісы за вылучэнне Аляксандра Лукашэнкі кандыдатам у прэзідэнты збіраюць каля Цэнтральнага ўнівермага ў Брэсце актывісты грамадскага аб'яднання «Белая Русь».**




**Збор подпісаў за Р.Кастусёва ў Бабруйску.**



**На тэрыторыі прадпрыемства «Віпра» таварыства глухіх (Гомель) подпісы за Аляксандра Лукашэнку збіраюць у працоўны час.**



**Збор подпісаў за А. Лукашэнку ў Слоніме.**



Андрэй Саннікаў падчас збору подпісаў у Гродне.




Да слонімскага пікету па зборы подпісаў за Яраслава Раманчука 20 кастрычніка 2010 года далучыўся сам прэтэндэнт у кандыдаты.




**Збор подпісаў за У. Някляева і В. Рымашэўскага ў Брэсце, адзін з першых пікетаў.**

**23 кастрычніка 2010 года пікет каля гандлёвага цэнтру "Кантынент" у Віцебску наведаў Алесь Міхалевіч.**






**26 кастрычніка 2010 года ў Брэст прыехаў Віталь Рымашэўскі. Збор подпісаў.**



**26 кастрычніка 2010 года Магілёў наведаў прэтэндэнт на пасаду прэзідэнта Уладзімір Някляеў.**






Збор подпісаў «ад дзвярэй да дзвярэй» у Слуцку.

Супрацоўнік міліцыі правярае дакументы зборшчыка подпісаў за Кастусёва і Раманчука. Баранавічы.

24 кастрычніка 2010 года каля ўнівермага «Слуцк» ініцыятыўная група Андрэя Саннікава праводзіць пікет па зборы подпісаў.





Аб'яднаны пікет патэнцыйных кандыдатаў у прэзідэнты ў цэнтры Мінска 29 кастрычніка 2010 года. На фота: Уладзімір Някляеў (справа) і Віталь Рымашэўскі (злева).

Уладзімір Някляеў і Андрэй Саннікаў на прэс-канферэнцыі ў Мінску 12 лістапада 2010 года абвесцілі аб супрацоўніцтве і каардынацыі дзейнняў.



Аб'яднаны пікет патэнцыйных кандыдатаў у прэзідэнты ў цэнтры Мінска 29 кастрычніка 2010 года. На фота: Уладзімір Някляеў (злева) і Рыгор Кастусёў (справа).





**Лідзія Ярмошына і кіраўнік штаба Аляксандра Лукашэнкі Мікалай Радзькоў на пасяджэнні ЦВК па рэгістрацыі кандыдатаў у прэзідэнты,**
*18 лістапада 2010 года.*



**«Самы незаўважны кандыдат у прэзідэнты». Віктар Цярэшчанка атрымлівае кандыдацкае пасведчанне.**
*18 лістапада 2010 года, пасяджэнне ЦВК*.



**Пасяджэнне Цэнтральнай выбарчай камісіі 18 лістапада 2010 года.**
**На фота: Уладзімір Правальскі, якому адмоўлена ў рэгістрацыі кандыдатам у прэзідэнты.**



**16 снежня 2010 года Гродна наведалі кандыдаты ў прэзідэнты Мікалай Статкевіч і Дзмітрый Ус. Фармат сустрэчы з выбаршчыкамі: мітынг, шэсце, сустрэча ў зале.**



**Сустрэча кандыдата ў прэзідэнты Ярослава Раманчука з выбаршчыкамі,** *Мінск, 13 снежня 2010 года***.**



*29 лістапада 2010 года.* **Рыгор Кастусёў праводзіць агітацыйную сустрэчу з выбаршчыкамі ў Віцебску.**




**Алесь Міхалевіч праводзіць сустрэчу выбаршчыкамі ў віцебскім краязнаўчым музеі.**
*17 снежня 2010 года.*



*5 лістапада 2010 года, Магілёў.*
**Падчас сустрэчы з выбаршчыкамі кандыдата ў прэзідэнты Уладзіміра Някляева.**

**Слонім: На сустрэчы з Андрэем Саннікавым 12 снежня 2010 года быў аншлаг.**






**Перадвыбарчая агітацыя на гарадской вуліцы,**
*Мінск, 16 снежня 2010 года.*

**Гомель: партрэты дэмакратычных кандыдатаў абмаляваныя нацысцкімі сімваламі.**







**Баранавічы: Разарваны каляровы аітацыйны плакат кандыдата ў прэзідэнты А. Саннікава.**




*Гомель, 25 лістапада 2010 года.* **«Аўта-пікет» з выявай Уладзіміра Някляева і сцягамі: бел-чырвона-белым і кампаніі «Гавары праўду».**




*21 лістапада 2010 года, Брэст.* **На матчы паміж брэсцкім “Дынама” і бабруйскай “Белшынай” знаходзілася каля 30 дзяцей і падлеткаў, апранутых у рознакаляровыя майкі з партрэтам Лукашэнкі і надпісам “Наш президент”. Ініцыятар акцыі – дэпутат Брэсцкаа гарсавету Георгій Дарубашвілі.**



**Аўтапрабег “Мы за Бацьку!”, арганізаваны грамадзянамі Расіі ў агітацыйных мэтах па рэгіёнах Беларусі.**






**Датэрміновае галасаванне,**
*г. Мінск, 15 снежня 2010 года.*




**Датэрміновае галасаванне на тэрыторыі вайсковай часткі,**
*14 снежня 2010 года.*



**У такіх умовах вымушаны былі працаваць назіральнікі на выбарчым участку № 31 Баранавічаў.**



**Брэст: назіральнікам даводзіцца карыстацца біноклямі.**

**Падчас датэрміновага галасавання на адным з выбарчых участкаў Жодзіна назіральнік быў змешчаны на калідоры.**





**Галасаванне на адным са сталічных выбарчых участкаў у дзень выбараў,** *19 снежня 2010 года.*

**Скрыня для галасавання на выбарчым участку № 54 Баранавічаў:**
**шчыліна такая вялікая, што можа пралезці нават рука.**



**Кандыдат у прэзідэнты Андрэй Саннікаў з сям'ёй галасуе на выбарчым участку,** *г. Мінск, 19 снежня 2010 года***.**




**Збіццё і затрыманне кандыдата ў прэзідэнты Андрэя Саннікава і ягонай жонкі Ірыны Халіп.**






**Кандыдат у прэзідэнты**
**Уладзімір Някляеў**
**галасуе на выбарчым участку,**
*г. Мінск, 19 снежня. 2010 года*

**Збіты яшчэ да заканчэння**
**галасавання кандыдат**
**у прэзідэнты Уладзімір Някляеў.**



**Кандыдат у прэзідэнты Віталь Рымашэўскі з траўмай, атрыманай падчас акцыі пратэсту.**





**Кандыдаты ў прэзідэнты Мікалай Статкевіч, Яраслаў Раманчук, Рыгор Кастусёў і Віталь Рымашэўскі на Кастрычніцкай плошчы ў Мінску,** *19 снежня 2010 года.*

**Акцыя пратэсту супраць фальсіфікацыі вынікаў выбараў. Праспект Незалежнасці,** *Мінск, 19 снежня 2010 года*






**АМАП разганяе ўдзельнікаў акцыі пратэсту на плошчы Незалежнасці ў Мінску,** *19 снежня 2010 года.*

**Збіццё і затрыманне ўдзельнікаў акцыі пратэсту на плошчы Незалежнасці.** *Мінск, 19 снежня 2010 года***.**



# Дакумент 1

# «Спіс прадпрыемстваў, што вылучаюць прадстаўнікоў у склад участковых камісій», размешчаны ў адміністрацыі Ленінскага раёна г. Магілёва



СПИСОК
предприятий, выдвигающих представителей
в состав участковых комиссий

| № участка | Место расположения | Предприятие | Кол-во чел. |
|---|---|---|---|
| 1. | Учебный корпус № 2 БРУ | - Белорусско-Российский университет | 15 |
| 2. | СШ № 21 | - СШ № 21 | 15 |
| 3. | Общежитие РПУП «Строммашина» | - РУП «Завод «Строммашина»<br>- Училище олимпийского резерва | 13<br>2 |
| 4. | Политехнический колледж | - Политехнический колледж<br>- РУПП «Могилеввтормет» | 13<br>2 |
| 5. | ОАО «Могилевский металлургический завод» | - ОАО «Могилевский металлургический завод» | 15 |
| 6. | СШ № 25 | - СШ № 25 | 15 |
| 7. | ДК ОАО «Моготекс» | - ОАО «Моготекс» | 15 |
| 8. | Спорткомплекс «Олимпиец» | - ОАО «Моготекс» | 15 |
| 9. | СШ № 35 | - СШ № 35 | 15 |
| 10. | СШ № 35 | - РУП «Могилевэнерго»<br>- Инфекционная больница<br>- ЗАО «СП «Сопотекс» | 7<br>5<br>3 |
| 11. | Учебный корпус профлицея № 1 | - Профлицей № 1 | 15 |
| 12. | Учебный корпус профлицея № 1 | - ОАО «Моготекс» | 15 |
| 13. | ЦКиД железнодорожников | - РУП «Могилевское отделение Бел.ж.д.»<br>- Пассажирский участок<br>- Станция Могилев | 9<br>3<br>3 |
| 14. | Общежитие РУП «Могилевское отделение Бел.ж.д.» | - Локомотивное депо<br>- Дистанция гражданских сооружений | 10<br>5 |
| 15. | СШ № 8 | - Вагонное депо<br>- Дистанция электроснабжения<br>- Дистанция сигнализации и связи<br>- Дистанция водоснабжения<br>- СШ № 8 | 4<br>3<br>3<br>3<br>2 |
| 16. | СШ № 8 | - СШ № 8 | 15 |
| 17. | Учебный центр РУП «Могилевское отделение Бел.ж.д.» | - Учебный центр Бел.ж.д.<br>- Поликлиника Бел.ж.д.<br>- Дистанция пути | 5<br>5<br>5 |
| 18. | СШ № 15 | - СШ № 15 | 15 |
| 19. | Лицей машиностроения | Лицей машиностроения | 15 |
| 20. | Общежитие ЗАО «Могилевский КСИ» (пер.Мечникова, 5) | - ЗАО «Могилевский КСИ» | 15 |
| 21. | Общежитие ЗАО «Могилевский КСИ» (ул.Крупской, 214) | - ГУКДСП «УМ-106»<br>- ЗАО «Могилевский КСИ»<br>- МГУКДПП «Завод ЭМИС» | 5<br>8<br>2 |
| 22. | Общежитие № 1 филиал РУП «МАЗ» «Завод «Могилевтрансмаш» | - Филиал РУП «МАЗ» «Завод «Могилевтрасмаш» | 15 |
| 23. | Общежитие № 2 филиал РУП «МАЗ» «Завод «Могилевтрансмаш» | - Филиал РУП «МАЗ» «Завод «Могилевтрасмаш» | 15 |
| 24. | Дворец гимнастики | - Филиал РУП «МАЗ» «Завод «Могилевтрасмаш» | 15 |
| 25. | СШ № 40 | - СШ № 40 | 15 |
| 26. | СШ № 40 | - СШ № 40<br>- Поликлиника № 10 | 11<br>4 |
| 27. | Дворец гимнастики | - РУП «Завод «Могилевлифтмаш»<br>- Дворец гимнастики | 14<br>1 |
| 28. | Общежитие № 3 филиал РУП «МАЗ» «Завод «Могилевтрансмаш» | - Филиал РУП «МАЗ» «Завод «Могилевтрасмаш» | 15 |
| 29. | Профлицей № 9 | - Профлицей № 9 | 15 |
| 30. | Профлицей № 10 | - Профлицей № 10 | 15 |
| 31. | СШ № 22 | - СШ № 22 | 15 |
| 32. | СШ № 12 | - СШ № 12 | 15 |
| 33. | Гимназия № 2 | - РУП «Завод «Могилевлифтмаш» | 15 |
| 34. | Гимназия № 2 | - Гимназия № 2 | 15 |
| 35. | СШ № 27 | - ЗАО «МШФ «Вяснянка» | 15 |
| 36. | СШ № 27 | - СШ № 27 | 15 |
| 37. | Госпиталь ИОВ | - Госпиталь<br>- Психбольница | 5<br>2 |

| | | | |
|---|---|---|---|
| 38. | Ф-л «Больница» УЗ «Могилевский областной лечебно-диагностический центр» | - Ф-л «Больница» | 5 |
| 39. | В/ч Пашково | - В/ч Пашково | 7 |
| 40. | КУП «Могилевоблдорстрой» | - КУП «Могилевоблдорстрой»<br>- Медицинское училище | 7<br>8 |
| 41. | ЧУО «Белорусский институт правоведения» (Могилевский филиал) | - ОАО «Стройтрест № 12»<br>- ОАО «Могилевсоюзпечать»<br>- БИП | 7<br>4<br>4 |
| 42. | Гимназия № 3 | - Гимназия № 3<br>- МГУ им.А.А.Кулешова | 13<br>2 |
| 43. | Лицей ГУВПО «БРУ» | - Гимназия-колледж<br>- Лицей ГУВПО «БРУ» | 13<br>2 |
| 44. | Музыкальное училище | - Музыкальное училище | 15 |
| 45. | СШ № 9 | - СШ № 9<br>- ЦВР «Алые паруса» | 13<br>2 |
| 46. | СШ № 9 | - РУП «Могилевский завод «Электродвигатель» | 15 |
| 47. | ЦТДМ «Руно» | - РУП «Завод «Электродвигатель»<br>- ЦТДМ «Руно» | 14<br>1 |
| 48. | Библиотека им.Лермонтова | - РУППС «Могилевоблпочта»<br>- Библиотека им.Лермонтова | 12<br>3 |
| 49. | СШ № 31 | - СШ № 31 | 15 |
| 50. | СШ № 31 | - Училище культуры<br>- РУП ЭС «Могилевоблтелеком» | 8<br>7 |
| 51. | СШ № 33 | - ОАО «Техноприбор» | 15 |
| 52. | СШ № 33 | - СШ № 33 | 15 |
| 53. | ДЮСШ №5 | - ОАО «Техноприбор»<br>-ДЮСШ №5 | 13<br>2 |
| 54. | Общежитие № 2 РУПДП «Зенит» | - РУПДП «Зенит» | 15 |
| 55. | Городская больница СМП | - Горбольница | 9 |
| 56. | Школа № 16 | - школа № 16<br>- РУПП «Ольса»<br>- Институт «Могилевгражданпроект | 9<br>4<br>2 |
| 57. | СШ № 1 | - СШ № 1 | 15 |
| 58. | УК «ГЦКиД» | - ГЦКиД<br>- ОАО «Универмаг «Центральный»<br>- Библиотека им.К.Маркса | 2<br>11<br>2 |
| 59. | Центр внешкольной работы | - Центр внешкольной работы<br>- Электротехнический колледж | 10<br>5 |
| 60. | Центр внешкольной работы | - ОАО «Могилевдрев»<br>- УПУП «Метиз» ОО «БелОГ» | 10<br>5 |
| 61. | СШ № 23 | - СШ № 23 | 15 |
| 62. | МГУим.А.А.Кулешова | - МГУ им.А.А.Кулешова | 15 |
| 63. | Библиотечный техникум | - Библиотечный техникум | 15 |
| 64. | Архитектурно-строительный колледж | - Архитектурно-строительный колледж | 15 |
| 65. | СШ № 4 | - СШ № 4 | 15 |
| 66. | СШ № 2 | - СШ № 2<br>- ОАО «Обувь» | 13<br>2 |
| 67. | Дом ветеранов | - Областная детская больница<br>- Областная больница<br>- Дом ветеранов | 10<br>3<br>2 |
| 68. | Областная больница | - Областная больница | 13 |
| 69. | СШ № 11 | - СШ № 11<br>- В/ч 5523 | 14<br>1 |
| 70. | Машиностроительный ПТК | - Машиностроительный ПТК | 15 |
| 71. | Технологический ПТК | - Технологический ПТК | 15 |
| 72. | Экономический ПТК | - Экономический ПТК | 15 |
| 73. | Могилевский электрические сети | - ПЭС | 15 |
| 74. | Могилевоблсельстрой | - МГУ им.А.А.Кулешова<br>- Могилевсельстройпроект | 5<br>10 |
| 75. | Профлицей № 5 | - Профлицей № 5 | 15 |
| 76. | СШ № 26 | - СШ № 26<br>- Завод сантехзаготовок<br>- Завод ТМК | 9<br>4<br>2 |
| 77. | СШ № 26 | - ОАО «Могилевхлебопродукт»<br>- МСУ-1 РУП «Мостострой» | 10<br>5 |
| 78. | ОАО «Холдинг «Могилевводстрой» | - РУП «Могилевский ДСК» | 15 |
| 79. | УПП УПТК «Полесьеагрокомплект | - СШ № 28<br>- УПП УПТК «Полесьеагрокомплект | 14<br>1 |
| 80. | СШ № 19 | - СШ № 19 | 15 |
| 81. | СШ № 19 | - СШ № 19 | 15 |
| 82. | Торговый колледж | - Торговый колледж | 15 |
| 83. | Торговый колледж | - Торговый колледж<br>- КОЭЗ<br>- ГУКДСП «Автокомбинат «Облсельстрой» | 2<br>4<br>8 |

***<u>Дакумент 2</u>***

# Распараджэнне ад 10 снежня 2010 года, дасланае ў Мазырскую філію РУП «Белпошта».

Всем ОН
Распоряжение №
От 10.12.2010 г.

В Ваш адрес во вторник поступят листовки по выборам согласно разнарядки Гомельского Филиала РУП «Белпочта». **За 14-15 января (не позже) разнести листовки по абонентским ящикам.** Всем отнестись очень ответственно, чтобы ни в коем случае не остались в сумках почтальонов или в каком-нибудь другом месте. **Начальникам ОПС взять на контроль и 15.12.2010 по телефону 21188, 21043 отчитаться о проведенной работе.**

Зам.начальника Т.В.Москалева



# Адказ ЦВК на зварот В. Стэфановіча аб парушэнні парадку збору подпісаў

ЦЭНТРАЛЬНАЯ КАМІСІЯ
РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ
ПА ВЫБАРАХ І ПРАВЯДЗЕННЮ
РЭСПУБЛІКАНСКІХ
РЭФЕРЭНДУМАЎ

вул. Савецкая, 11, 220010, г. Мінск
Дом Урада
тэл./факс (017) 227 19 03
E-mail: centrizb@pmrb.gov.by

ЦЕНТРАЛЬНАЯ КОМИССИЯ
РЕСПУБЛИКИ БЕЛАРУСЬ
ПО ВЫБОРАМ И ПРОВЕДЕНИЮ
РЕСПУБЛИКАНСКИХ
РЕФЕРЕНДУМОВ

ул. Советская, 11, 220010, г. Минск
Дом Правительства
тел./факс (017) 227 19 03
E-mail: centrizb@pmrb.gov.by

27.10.2010 № 01-12/С-479

На № ____________ ад ________________

Стефановичу В.К.
ул.Долгобродская, д.5, к.1, кв.19
г.Минск

Уважаемый Валентин Константинович!

Сообщаем, что по Вашему обращению о действиях начальника отдела идеологической и воспитательной работы управления образования администрации Ленинского района г.Минска А.Н.Носковой сотрудником Центральной комиссии проведена проверка. По нашему мнению, упоминаемые в Вашем обращении действия А.Н.Носковой свидетельствуют о превышении ею служебных полномочий. В связи с этим Центральная комиссия обратилась к главе администрации Ленинского района города Минска с просьбой рассмотреть вопрос о привлечении А.Н.Носковой к дисциплинарной ответственности.

Не можем согласиться с Вашим выводом о наличии в действиях А.Н.Носковой нарушения части восьмой статьи 61 Избирательного кодекса Республики Беларусь. В названной норме установлен запрет на участие администрации организации в сборе подписей, равно как и принуждение в процессе сбора подписей и вознаграждение избирателей за внесение подписи. Ни одного из перечисленных нарушений не усматривается в действиях А.Н.Носковой, которая составила график участия работников нескольких средних школ и дошкольных учреждений Ленинского района в пикете по сбору подписей избирателей в поддержку выдвижения кандидатом в Президенты Республики Беларусь А.Г.Лукашенко. Во-первых, А.Н.Носкова не руководит указанными в графике учреждениями образования и в этот период находилась в трудовом отпуске, во-вторых, в графике в числе представителей инициативной группы, проводившими пикет по сбору подписей, указаны фамилии только членов инициативной группы. Кроме этого, в Вашем обращении не приводится фактов принуждения в процессе сбора подписей или вознаграждения избирателей за внесение подписи.

С учетом вышеизложенного у Центральной комиссии нет оснований для принятия мер реагирования.

Председатель комиссии Л.М.Ермошина

Киселева 2271915

З. 329.

**Дакумент 4**

# Рашэнне Мінскай гарадской камісіі па звароту М. Краснова і В. Дзіянава аб парушэнні парадку збору подпісаў

МІНСКАЯ ГАРАДСКАЯ КАМІСІЯ
ПА ВЫБАРАХ ПРЭЗІДЭНТА
РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

220050, г. Мінск, пр. Незалежнасці, 8
к. 108, тэл. 200-93-86

МИНСКАЯ ГОРОДСКАЯ КОМИССИЯ
ПО ВЫБОРАМ ПРЕЗИДЕНТА
РЕСПУБЛИКИ БЕЛАРУСЬ

220050, г. Минск, пр. Независимости, 8
к. 108, тел. 200-93-86

**РЕШЕНИЕ**
Минской городской комиссии по выборам Президента Республики Беларусь

23 октября 2010 г. протокол № 3

**Об обращении Н.А.Краснова и В.Р.Дианова**

В Минскую городскую комиссию по выборам Президента Республики Беларусь из Центральной комиссии Республики Беларусь по выборам и проведению республиканских референдумов 14 октября 2010 года вход. № 5 поступило обращение граждан: Краснова Никиты Александровича и Дианова Вячеслава Рафэковича которые, просят признать все подписи, собранные членами инициативной группы по выдвижению кандидатом в Президенты Республики Беларусь А.Г.Лукашенко Атамановым Г.П. и Хмылем А.А. недостоверными и принять меры к инициативной группе, так как на пикетах 6 октября 2010 года в 16 часов у Дома мебели по ул. В.Хоружей и в 17 часов у ГУМа ни у кого из участников пикета не было удостоверений.

Рассмотрев обращение Краснова Н.А. и Дианова В.Р. с их участием, ознакомившись с представленными в комиссию видеоматериалами и заслушав пояснения Атаманова Г.П. и Хмыля А.А., Минская городская комиссия по выборам Президента Республики Беларусь отмечает следующее.

Атаманов Г.П. (удостоверения № 8339) и Хмыль А.А. (удостоверение № 8240) являются членами инициативной группы по сбору подписей в поддержку выдвижения А.Г.Лукашенко кандидатом в Президенты Республики Беларусь. Они не отрицают, что с ними на пикетах 6 октября 2010 года 16 часов у Дома мебели по ул. В.Хоружей и в 17 часов у ГУМа находились другие граждане, которые по просьбе избирателей заполняли подписные листы. Атаманов Г.П. и Хмыль А.А. находились на пикетах, вместе с тем они не отрицают тот факт, что могли отлучаться на непродолжительное время.

Центральная комиссия Республики Беларусь по выборам и проведению республиканских референдумов в постановлении от 15 сентября 2010 г. № 47 разъяснила применение положений статьи 61 Избирательного кодекса Республики Беларусь, предусматривающих порядок сбора подписей избирателей в поддержку лиц, предлагаемых для выдвижения кандидатами в

Президенты Республики Беларусь в 2010 году. В постановлении, в частности, определено, что сведения об избирателе, предусмотренные в графах 1 – 5 подписного листа, могут заполняться как самим избирателем, так и иными лицами по его просьбе, или членом инициативной группы, собирающим подписи. Избиратель собственноручно ставит в подписном листе дату подписи и расписывается (графы 6 и 7 подписного листа).

Из представленных видеоматериалов невозможно сделать однозначный вывод, когда и в какое время проводилась видеосъемка, а также, что сбор подписей осуществлялся не членами инициативной группы. В отношении пикета у Дома мебели по ул. В.Хоружей видеоматериал представлен не был.

Комиссия учитывает тот факт, что проверка подписных листов в районных комиссиях г. Минска по выборам Президента Республики Беларусь будет проводиться с 30 октября 2010 года, а также право членов инициативной группы по сбору подписей в поддержку того или иного кандидата в Президенты Республики Беларусь, самостоятельно определять, какие из подписных листов и в каком количестве представляются в комиссии для проверки их достоверности.

На основании вышеизложенного, руководствуясь статьей 61 Избирательного кодекса Республики Беларусь и постановлением Центральной комиссии Республики Беларусь по выборам и проведению республиканских референдумов от 15 сентября 2010 г. № 47, Минская городская комиссия по выборам Президента Республики Беларусь **РЕШИЛА:**

1. Ознакомить районные комиссии г. Минска по выборам Президента Республики Беларусь с информацией, изложенной в обращении граждан Краснова Никиты Александровича и Дианова Вячеслава Рафэковича, а также с материалами рассмотрения данного обращения в городской комиссии для использования при проверке достоверности подписей в подписных листах, собранных членами инициативной группы по сбору подписей в поддержку выдвижения А.Г.Лукашенко кандидатом в Президенты Республики Беларусь Атамановым Г.П. и Хмылем А.А.
2. О результатах рассмотрения обращения граждан Краснова Никиты Александровича и Дианова Вячеслава Рафэковича информировать Центральную комиссию Республики Беларусь по выборам и проведению республиканских референдумов.

Председатель комиссии И.В.Карпенко

Секретарь комиссии Т.М.Дубинина

**Дакумент 5**

# Адказ ЦВК на зварот В. Стэфановіча аб парушэнні закона пры правядзенні агітацыі

ЦЭНТРАЛЬНАЯ КАМІСІЯ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ ПА ВЫБАРАХ І ПРАВЯДЗЕННЮ РЭСПУБЛІКАНСКІХ РЭФЕРЭНДУМАЎ

вул. Савецкая, 11, 220010, г. Мінск
Дом Урада
тэл./факс (017) 227-19-03
E-mail: centrizb@pmrb.gov.by

ЦЕНТРАЛЬНАЯ КОМИССИЯ РЕСПУБЛИКИ БЕЛАРУСЬ ПО ВЫБОРАМ И ПРОВЕДЕНИЮ РЕСПУБЛИКАНСКИХ РЕФЕРЕНДУМОВ

ул. Советская, 11, 220010, г. Минск
Дом Правительства
тел./факс (017) 227-19-03
E-mail: centrizb@pmrb.gov.by

01.12.2010 № 01-12/С-690

На № ____________ ад ____________________

Стефановичу В.К.
ул. Долгобродская, д. 5, к. 1, кв.19
220037, г. Минск

Уважаемый Валентин Константинович!

Ваше обращение, в котором сообщается о проведении гражданами Российской Федерации автопробега под лозунгом «Мы за Батьку», рассмотрено в рамках компетенции Центральной комиссии.

Поскольку Ваше обращение поступило в Центральную комиссию после окончания названного мероприятия, принять меры по пресечению агитационной деятельности иностранных граждан не представляется возможным. Вместе с тем Центральная комиссия обратила внимание нижестоящих комиссий на обеспечение соблюдения предписаний Избирательного кодекса, запрещающих участие иностранных граждан и лиц без гражданства в предвыборной агитации.

Считаем необходимым также проинформировать, что в ходе рассмотрения Вашего обращения установлено, что никто из доверенных лиц кандидата в Президенты Республики Беларусь А.Г.Лукашенко не принимал никакого участия в организации упоминаемого Вами автопробега.

Председатель комиссии Л.М. Ермошина

Мкртычян 2226487

З. 3143.

***Дакумент 6***

# Дакумент, які пацвярджае кантроль адміністрацыі разліковага цэнтра ЖРЭТ Першамайскага раёна Віцебска за датэрміновым галасаваннем супрацоўнікаў

Государственное предприятие
«ЖРЭТ Первомайского района»

Информация
по досрочному голосованию
РЦ № 1

РЦ № 1 Государственного предприятия «ЖРЭТ Первомайского района» сообщает, что 15.12.2010 года на 08.00 досрочно проголосовало 14 человек (78 %).

1 человек на больничном (Кравченко О.В.)

Общее количество работников – 18 чел.

Начальник РЦ № 1 Е.Р.Иванова

| № п/п | Ф. И. О. | должность | № участка |
|---|---|---|---|
| 1 | Иванова Елена Риашитовна | начальник | 53 |
| 2 | Кравченко Ольга Владимировна | вед.инженер | |
| 3 | Кутюн Светлана Анатольевна | инженер | 65 |
| 4 | Иванова Светлана Владимировна | юрисконсульт | 12 |
| 5 | Шакола Елена Викторовна | специалист по ком. расчетам | 61 |
| 6 | Сидорова Татьяна Сергеевна | специалист по ком. расчетам | 42 |
| 7 | Химина Валентина Дмитриевна | специалист по ком. расчетам | 60 |
| 8 | Рожко Елена Юрьевна | специалист по ком. расчетам | 1 |
| 9 | Серегина Татьяна Эдуардовна | специалист по ком. расчетам | 44 |
| 10 | Юзефович Галина Сергеевна | специалист по ком. расчетам | 45 |
| 11 | Гавриленко Елена Артуровна | паспортист | 55 |
| 12 | Богданова Ольга Валерьевна | паспортист | 6 |
| 13 | Зайцева Ирина Олеговна | паспортист | 1 |
| 14 | Федорова Наталья Григорьевна | паспортист | 22 |
| 15 | Гурковская Жанна Васильевна | паспортист | 8 |
| 16 | Стрюкова Марина Владимировна | паспортист | 17 |
| 17 | Алпатова Татьяна Георгиевна | паспортист | 60 |
| 18 | Корбан Татьяна Федоровна | уборщ.служ.помещений | 40 |

***Дакумент 7***

# Памятка «Парадак прадастаўлення інфармацыі пра ход галасавання па выбарах Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь» на СП «Мінскі мэблевы цэнтр» у Маладэчне

Памятка

**ПОРЯДОК**
**ПРЕДОСТАВЛЕНИЯ ИНФОРМАЦИИ О ХОДЕ ГОЛОСОВАНИЯ ПО ВЫБОРАМ ПРЕЗИДЕНТА РЕСПУБЛИКИ БЕЛАРУСЬ**

**1. После голосования работник сообщает своему непосредственному руководителю по его телефону о факте голосования:**

- при досрочном голосовании на следующий день после голосования;
- в день выборов - в течение часа после голосования.

**2. Сменный мастер сообщает начальнику цеха, либо участка о количестве проголосовавших:**

- при досрочном голосовании на следующий день после даты голосования;
- в день выборов - в соответствии с рекомендациями: $9^{00}$, $11^{00}$, $13^{00}$, $15^{00}$, $17^{00}$

**3. Начальник цеха, участка, начальник отдела, службы сообщает заместителю генерального директора по идеологической работе - начальнику ОКиР о кличестве проголосовавших:**

- при досрочном голосовании - на 12 часов за предыдущий день;
- в день выборов - в соответствии с рекомендациями в $9^{00}$-$9^{15}$, $11^{00}$-$11^{15}$, $13^{00}$-$13^{15}$. $15^{00}$-$15^{15}$, $17^{00}$-$17^{15}$.

4. Зам. генерального директора по идеологической работе - начальник ОКиР сообщает генеральному директору и райисполкому о количестве проголосовавших в соответствии с рекомендациями.

Н Горячкин

**Дакумент 8**

# Адказ ЦВК на зварот Беларускага Хельсінкскага камітэта адносна разыходжання ў дадзеных пра прагаласаваўшых датэрмінова

ПРИЛОЖЕНИЕ 4

| ЦЭНТРАЛЬНАЯ КАМІСІЯ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ ПА ВЫБАРАХ І ПРАВЯДЗЕННЮ РЭСПУБЛІКАНСКІХ РЭФЕРЭНДУМАЎ | ЦЕНТРАЛЬНАЯ КОМИССИЯ РЕСПУБЛИКИ БЕЛАРУСЬ ПО ВЫБОРАМ И ПРОВЕДЕНИЮ РЕСПУБЛИКАНСКИХ РЕФЕРЕНДУМОВ |
|---|---|
| вул. Савецкая, 11, 220010, г. Мінск<br>Дом Урада<br>тэл./факс (017) 227-19-03<br>E-mail: centrizb@pmrb.gov.by | ул. Советская, 11, 220010, г. Минск<br>Дом Правительства<br>тел./факс (017) 227-19-03<br>E-mail: centrizb@pmrb.gov.by |

[illegible] № [illegible]

На ...

Рэспубліканскае праваабарончае грамадскае аб'яднанне "Беларускі Хельсінкскі Камітэт"

01-14/29 от 20 02 2011

Республиканское правозащитное общественное объединение «Белорусский Хельсинкский Комитет»

Сообщаем, что в Центральной комиссии рассмотрено обращение № 01-14/16 от 14 февраля 2011 г.

Обращаем внимание, что закон не предоставляет общественным объединениям право истребовать копии постановления Центральной комиссии «Об итогах выборов Президента Республики Беларусь 19 декабря 2010 года» и протокола об установлении итогов указанных выборов. Избирательным кодексом Республики Беларусь (часть седьмая статьи 79) определены способ и форма обнародования результатов выборов Президента Республики Беларусь. Центральной комиссией данные предписания выполнены: 24 декабря 2010 г. после подписания протокола о результатах голосования в средства массовой информации было направлено сообщение о результатах выборов. Помимо этого, указанное сообщение было размещено на Интернет-сайте Центральной комиссии. Полагаем уместным заметить, что аккредитованные в Центральной комиссии наблюдатели, в том числе и наблюдатель от БХК, имели возможность присутствовать при подведении итогов выборов и подписании соответствующего протокола.

Информируем, что в протоколе Центральной комиссии об установлении итогов выборов число избирателей, которые приняли участие в досрочном голосовании, определено путем суммирования данных, содержащихся в протоколах областных, Минской городской комиссий. Эти данные в свою очередь являются результатом суммирования соответствующих сведений из протоколов нижестоящих комиссий. Методология сбора сведений о ходе досрочного голосования отличается от официальных статистических данных о количестве граждан, которые приняли участие в досрочном голосовании, поскольку в ее основе лежит протокол о ходе досрочного голосования, составляемый

2

председателем участковой комиссии. Отмечаем, что этот документ является оперативным. Как правило, содержащиеся в нем данные передаются в вышестоящие комиссии по телефону, что не исключает некоторых неточностей в конечных результатах. Указанная статистика позволяет увидеть динамику и тенденции досрочного голосования. При проведении последующих избирательных кампаний Центральная комиссия будет совершенствовать порядок сбора сведений о ходе досрочного голосования.

Председатель комиссии Л.М.Ермошина

